# Л. М. ТАЛСТОЙ



# СМЕРЦЬ ІВАНА ІЛЬІЧА
# КРЭЙЦАРАВА САНАТА
# ГАСПАДАР І ПАРАБАК

# Л. М. ТАЛСТОЙ



# СМЕРЦЬ ІВАНА ІЛЬІЧА



# КРЭЙЦАРАВА САНАТА



# ГАСПАДАР І ПАРАБАК

*Пераклаў з рускай мовы*
*Леў Салавей*

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1977

# ЗМЕСТ



Лев Николаевич Толстой. СМЕРТЬ ИВАНА ИЛЬИЧА. КРЕЙЦЕРОВА СОНАТА. ХОЗЯИН И РАБОТНИК. На белорусском языке.

Рэдактар В. Ц. Галавач. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 68

Здадзена ў набор 28/XII 1976 г. Падп. да друку 18/VII 1977 г. Тыраж 14 000 экз. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 9,35. Ул.-выд. арк. 9,5. Зак. 3873. Цана 1 руб. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Талстой Л.**

Т 53 Смерць Івана Ільіча. Крэйцарава саната. Гаспадар і парабак. Аповесці, апавяданне. Пераклад з рускай мовы. Укладальнік Ткачоў П. І. Мн., «Маст. літ.», 1977.

232 с.

Кнігу склалі шырокавядомыя творы класіка рускай літаратуры — аповесці «Смерць Івана Ільіча», «Крэйцарава саната» і апавяданне «Гаспадар і парабак».

Т $\frac{70302\text{-}156}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 113-77 Р 1

# СМЕРЦЬ ІВАНА ІЛЬЫЧА



## I

У вялікім будынку судовых устанаўленняў у часе перапынку пасяджэння па справе Мельвінскіх члены і пракурор сышліся ў кабінеце Івана Ягоравіча Шэбек, і зайшла гаворка пра славутую красоўскую справу. Федар Васільевіч разгарачыўся, даводзячы непадсуднасць, Іван Ягоравіч стаяў на сваім, Пётр жа Іванавіч, спачатку не ўмешваючыся ў спрэчку, не прымаў у ёй удзелу і праглядаў толькі што пададзеныя «Ведомости».

— Панове,— сказаў ён,— а Іван Ільыч памёр.

— Няўжо?

— Вось, чытайце,— сказаў ён Федару Васільевічу, падаючы яму свежы, яшчэ пахкі нумар.

У чорным абадку было надрукавана: «Праскоўя Федараўна Галавіна з душэўным смуткам паведамляе сваякам і знаёмым аб смерці ўлюбёнага мужа свайго, члена Судовае палаты, Івана Ільіча Галавіна, якая надышла 4-га лютага гэтага 1882 года. Вынас цела ў пятніцу, у 1 гадзіну папоўдні».

Іван Ільіч быў сатаварышам паноў, якія сабраліся ў кабінеце, і ўсе любілі яго. Ён хварэў ужо некалькі тыдняў: казалі, што хвароба яго невылечная. Месца аставалася за ім, але было меркаванне аб тым, што ў выпадку ягонае смерці Аляксееў можа быць прызначаны на яго месца, на месца ж Аляксеева — або Віннікаў, або Штабель. Таму, пачуўшы пра смерць Івана Ільіча, першая думка ў кожнага з паноў была аб тым, які ўплыў можа мець гэтая смерць на перамяшчэнні або павышэнні саміх членаў ці іх знаёмых.

«Цяпер, напэўна, атрымаю месца Штабеля ці Віннікава,— падумаў Федар Васільевіч.— Мне гэта і даўно абяцана, гэтае ж павышэнне складае для мяне восемсот рублёў прыбаўкі, апрача канцылярыі».

«Трэба будзе папрасіць цяпер аб пераводзе швагра з Калугі,— падумаў Пётр Іванавіч.— Жонка будзе дужа рада. Цяпер ужо нельга будзе гаварыць, што я ніколі нічога не зрабіў для яе родных».

— Я так і думаў, што яму ўжо не ачуняць,— уголас вымавіў Пётр Іванавіч.— Шкада.

— Ды што ў яго, уласна, было?

— Дактары не маглі вызначыць. Праўда, вызначалі, але па-рознаму. Калі я бачыў яго ў апошні раз, мне здалося, што ён ачуняе.

— А я дык і не быў у яго ад самых свят. Усё збіраўся.

— Што, у яго было багацце?

— Здаецца, вельмі невялікае ў жонкі. Штосьці мізэрнае.

— Так, трэба будзе паехаць. Страшэнна далёка жылі яны.

— Гэта ад вас далёка. Ад вас усё далёка.

— Вось не можа мне даравацъ, што я жыву за рэчкаю,— усміхаючыся на Шэбека, сказаў Пётр Іванавіч. І завялі гаворку пра далёкія гарадскія адлегласці, і падаліся на пасяджэнне.

Апрача выкліканых гэтай смерцю ў кожным меркаваннях пра перамяшчэнні і магчымыя змены па службе, якія могуць адбыцца пасля гэтае смерці, сам факт смерці блізкага знаёмага выклікаў ва ўсіх, хто дачуўся пра яе, як заўсёды, пачуццё радасці, што памёр ён, а не я.

«Бач як, памёр; а я вось не»,— падумаў ці адчуў кожны. Блізкія ж знаёмыя, так званыя сябры Івана Ільіча, пры гэтым падумалі міжвольна і аб тым, што цяпер ім трэба праявіць дужа сумныя абавязкі прыстойнасці і паехаць на паніхіду і да ўдавы з візітам спачування.

Бліжэй за ўсіх былі Федар Васільевіч і Пётр Іванавіч.

Пётр Іванавіч быў таварышам па вучылішчы правазнаўства і лічыў сябе абавязаным перад Іванам Ільічом.

Пётр Іванавіч за абедам перадаў жонцы вестку аб смерці Івана Ільіча і меркаванні пра магчымы перавод швагра ў іх акругу і, не кладучыся адпачываць, надзеў фрак і паехаў да Івана Ільіча.

Ля пад'езда кватэры Івана Ільіча стаяла карэта і два рамізнікі. Унізе, у пярэднім пакоі ля вешалкі прыстаўлена было да сцяны глазетавае века дамавіны з кутасікамі і начышчаным парашком галуном. Дзве дамы ў чорным здымалі футэркі.

Адна, сястра Івана Ільіча, знаёмая, другая — незнаёмая дама. Таварыш Пятра Іванавіча, Шварц, спускаўся зверху і, з верхняе прыступкі ўгледзеўшы яго, спыніўся і падмаргнуў, нібы кажучы: «Неразумна распарадзіўся Іван Ільіч; не тое што мы з вамі».

Твар Шварца з англійскімі бакенбардамі і ўся хударлявая постаць у фраку мела, як заўсёды, зграбную ўрачыстасць, і гэтая ўрачыстасць, якая заўсёды супярэчыла жартаўліваму характару Шварца, тут мела асаблівую соль. Гэтак падумаў Пётр Іванавіч.

Пётр Іванавіч прапусціў наперад дам і павольна падаўся за імі да ўсходаў. Шварц не стаў спускацца ўніз, а затрымаўся наверсе. Пётр Іванавіч зразумеў чаму: ён, мусіць, хацеў дамовіцца, дзе павінціць сёння. Дамы падняліся па ўсходах да ўдавы, а Шварц, з сур'ёзна сцятымі, моцнымі вуснамі і гуллівым позіркам, рухам броваў паказаў Пятру Іванавічу направа, у пакой мерцвяка.

Пётр Іванавіч, як заўжды гэта бывае, зайшоў разгублены і не ведаў, што яму трэба рабіць. Адно ён ведаў, што хрысціцца ў такіх выпадках ніколі не зашкодзіць. Што датычыць таго, ці трэба пры гэтым і кланяцца, дык ён не зусім быў упэўнены і таму выбраў сярэдняе: як толькі зайшоў у пакой, пачаў хрысціцца і крышку як бы кланяцца. Наколькі яму дазвалялі рухі галавы і рук, ён разам з тым аглядаў пакой. Два маладыя хлопцы, адзін гімназіст, здаецца пляменнікі, хрысцячыся, выходзілі з пакоя. Бабулька стаяла нерухома. І дама з высока ўскінутымі бровамі штосьці ёй гаварыла шэптам. Дзяк у сурдуце, бадзёры, рашучы, чытаў нешта гучна з выразам, які выключаў любую супярэчнасць; буфетны мужык Гарасім лёгкім крокам прайшоў перад Пятром Іванавічам і

штосьці пасыпаў па падлозе. Пётр Іванавіч убачыў гэта і адразу адчуў лёгкі пах трупа, які пачаў ужо гніць. У апошняе сваё наведванне Івана Ільіча Пётр Іванавіч бачыў гэтага мужыка ў кабінеце; ён выконваў абавязкі сядзелкі, і Іван Ільіч асабліва любіў яго. Пётр Іванавіч усё хрысціўся і злёгку кланяўся ў нейкім сярэднім напрамку паміж дамавінаю, дзякам і абразамі на стале ў куце. Потым, калі гэты рух хрышчэння рукою здаўся яму ўжо занадта доўгім, ён прыпыніўся і пачаў разглядаць мерцвяка.

Мярцвяк ляжаў, як заўсёды ляжаць мерцвякі, асабліва цяжка, па-мярцвяцку, патануўшы адубелымі членамі ў подсціле дамавіны, з назаўжды сагнутаю галавою на падушцы, і выстаўляў, як заўсёды выстаўляюць мерцвякі, свой жоўты васковы лоб, запалыя скроні і доўгі нос, які нібыта націскаў на верхнюю губу. Ён вельмі змяніўся, яшчэ больш схуднеў з таго часу, як Пётр Іванавіч апошні раз бачыў яго, але, як ва ўсіх мерцвякоў, твар ягоны папрыгажэў і галоўнае — зрабіўся больш важны, чым быў у жывога. На твары быў выраз таго, што тое, што трэба было зрабіць, зроблена, і зроблена правільна. Апроч таго, у гэтым выразе быў яшчэ папрок ці напамінак жывым. Напамінак гэты здаўся Пятру Іванавічу недарэчным ці ва ўсякім разе такім, які яго не датычыць. Штосьці яму зрабілася не па сабе, і таму Пётр Іванавіч яшчэ раз спехам перахрысціўся і, як яму здалося, вельмі хутка, неадпаведна правілам прыстойнасці, павярнуўся і пайшоў да дзвярэй. Шварц чакаў яго ў прахадным пакоі, расставіўшы шырока ногі і гуляючы абедзвюма рукамі за спіной сваім цыліндрам. Адзін позірк на жартаўлівую, ахайную і элегантную Шварцаву постаць асвяжыў Пятра Іванавіча. Пётр Іванавіч зразу-

меў, што ён, Шварц, стаіць вышэй за гэта і не паддаецца цяжкім уражанням. Адзін ягоны выгляд казаў: інцыдэнт паніхіды Івана Ільіча ніяк не можа быць сур'ёзнаю прычынаю для прызнання парадку пасяджэння парушаным, гэта значыць, нішто не можа перашкодзіць сёння ж вечарам пстрыкнуць, распячатваючы яе, калодаю карт, у той час як лёкай будзе расстаўляць чатыры неабпаленыя свечкі; наогул няма падставы думаць, што інцыдэнт гэты мог перашкодзіць нам правесці прыемна і сённяшні вечар. Ён і сказаў пра гэта шэптам Пятру Іванавічу, які праходзіў міма, прапануючы аб'яднацца на партыю ў Федара Васільевіча. Але, мусіць, Пятру Іванавічу быў не лёс вінціць сёння ўвечары. Праскоўя Федараўна, невысокая, тлустая жанчына, нягледзячы на ўсё старанне зрабіць адваротнае, усё роўна грубела ад плячэй уніз, уся ў чорным, з накрытаю карункамі галавою, і з гэткімі ж дзіўна ўзнятымі бровамі, як і тая дама, што стаяла насупраць дамавіны, выйшла са сваіх пакояў з іншымі дамамі і, правёўшы іх у дзверы мерцвяка, сказала:

— Зараз будзе паніхіда; праходзьце.

Шварц, няпэўна пакланіўшыся, прыпыніўся, відаць, не прымаючы і не адхіляючы гэтае прапановы. Праскоўя Федараўна, пазнаўшы Пятра Іванавіча, уздыхнула, падышла да яго, узяла яго за руку і сказала:

— Я ведаю, што вы былі сапраўдны сябар Івана Ільіча...— і паглядзела на яго, чакаючы ад яго адпаведных гэтым словам дзеянняў.

Пётр Іванавіч ведаў, што калі там трэба было хрысціцца, дык тут трэба было пацісну́ць руку, уздыхнуць і сказаць: «Паверце!» Ён гэтак і зрабіў. І, зрабіўшы гэта, адчуў, што вынік атрымаўся жаданы: што ён узрушаны і яна ўзрушана.

— Хадземце, пакуль там не пачалося; мне трэба пагаварыць з вамі,— сказала ўдава.— Дайце мне руку.

Пётр Іванавіч падаў руку, і яны накіраваліся ва ўнутраныя пакоі, міма Шварца, які маркотна падмаргнуў Пятру Іванавічу. «Вось вам і вінт! Што ж, не крыўдуйце, іншага партнёра возьмем. Хіба што ўпяцярых, пакуль адчэпіцеся»,— сказаў яго дураслівы выгляд.

Пётр Іванавіч уздыхнуў яшчэ глыбей і больш сумна, і Праскоўя Федараўна ўдзячна пацiснула ягоную руку. Яны зайшлі ў яе абабітую ружовым крэтонам гасцінную з пахмурнаю лямпаю, селі ля стала: яна на канапу, а Пётр Іванавіч на нізенькі пружыністы пуф, які прыкметна скасабочыўся пад ягоным сядзеннем. Праскоўя Федараўна хацела папярэдзіць яго, каб ён сеў на другое крэсла, але зразумела, што гэтае папярэджанне не будзе адпавядаць яе становішчу, і перадумала. Сядаючы на гэты пуф, Пётр Іванавіч прыгадаў, як Іван Ільіч упарадкоўваў гэтую гасцінную і раіўся з ім аб гэтым самым ружовым у зялёныя лісточкі крэтоне. Сядаючы на канапу і праходзячы міма стала (наогул уся гасцінная была поўна цацак і мэблі), удава зачапілася чорнымі карункамі чорнае мантыльі за разьбу стала. Пётр Іванавіч прыўстаў, каб адчапіць, і вызвалены пад ім пуф пачаў хвалявацца і падштурхоўваць яго. Удава сама ўзялася адчапляць свае карункі, і Пётр Іванавіч зноў сеў, прыціснуўшы пуф, які бунтаваў пад ім. Але ўдава не ўсё адчапіла, і Пётр Іванавіч зноў устаў, і зноў пуф забунтаваў і нават зарыпеў. Калі ўсё гэта скончылася, яна выняла чыстую батыставую насоўку і пачала плакаць. Пятра ж Іванавіча ахаладзіў эпізод з карункамі і барацьба з пуфам, і ён сядзеў насупіўшыся. Няёмкае гэта становішча

перапыніў Сакалоў, буфетчык Івана Ільіча, з дакладам аб тым, што месца на могілках, тое, якое вызначыла Праскоўя Федараўна, будзе каштаваць дзвесце рублёў. Яна перастала плакаць і, з выглядам ахвяры зірнуўшы на Пятра Іванавіча, сказала па-французску, што ёй вельмі цяжка. Пётр Іванавіч зрабіў маўклівы знак, які азначаў несумненную ўпэўненасць у тым, што гэта не можа быць іначай.

— Курыце, калі ласка,— сказала яна велікадушным і разам з тым сумным голасам і занялася з Сакаловым пытаннем аб кошце месца. Пётр Іванавіч, закурваючы, чуў, што яна вельмі падрабязна распытвала пра розныя цэны на зямлю і вызначыла тую, якую трэба ўзяць. Апрача таго, скончыўшы з месцам, яна распарадзілася і адносна пеўчых. Сакалоў пайшоў.

— Я ўсё сама раблю,— сказала яна Пятру Іванавічу, адсоўваючы ўбок альбомы, якія ляжалі на стале; і, заўважыўшы, што попел пагражаў сталу, не марудзячы падсунула Пятру Іванавічу попельніцу і дадала: — Я лічу прытворствам пераконваць, што я не магу ад гора займацца практычнымі справамі. Мяне, наадварот, калі можа што не суцешыць... а развесяліць, дык гэта клопат аб ім жа.— Яна зноў дастала насоўку, нібы збіраючыся плакаць, і раптам, як бы перасільваючы сябе, падбадзёрылася і пачала гаварыць спакойна:

— Аднак у мяне справа ёсць да вас.

Пётр Іванавіч пакланіўся, не даючы разыходзіцца пружынам пуфа, якія адразу былі заварушыліся пад ім.

— У апошнія дні ён страшэнна пакутаваў.

— Вельмі пакутаваў? — спытаў Пётр Іванавіч.

— Ах, жахліва! Апошнія не хвіліны, а гадзіны ён не перастаючы крычаў. Трое сутак запар ён, не пераводзячы голасу, крычаў. Гэта было невыносна. Я не магу зразумець, як я перажыла гэта; за трыма дзвярыма чуваць было. Ах! як я перажыла!

— І няўжо ён быў у поўнай памяці? — спытаў Пётр Іванавіч.

— Так,— прашаптала яна,— да апошняе хвіліны. Ён развітаўся з намі за чвэртку гадзіны да смерці і яшчэ прасіў вывесці Валодзю.

Думка аб пакутах чалавека, якога ён ведаў гэтак добра, спачатку вясёлым хлопчыкам, школьнікам, потым дарослым партнёрам, нягледзячы на непрыемнае ўсведамленне прытворства свайго і гэтае жанчыны, раптам жахнула Пятра Іванавіча. Ён убачыў зноў гэты лоб, нос, які ціснуў на губу, і яму зрабілася страшна за сябе.

«Трое сутак жахлівых пакут і смерць. Гэтае ж самае зараз, кожную хвіліну можа напаткаць і мяне,— падумаў ён, і яму зрабілася на нейкае імгненне страшна. Але адразу, ён нават сам не ведаў як, яму на дапамогу прыйшла звычайная думка, што гэта здарылася з Іванам Ільічом, а не з ім і што з ім гэта здарыцца не павінна і не можа; што, разважаючы гэтак, ён паддаецца змрочнаму настрою, чаго не трэба рабіць, як гэта відаць было на Шварцавым твары. І, разважыўшы гэтак, Пётр Іванавіч супакоіўся і з цікавасцю стаў распытваць пра падрабязнасці смерці Івана Ільіча, як быццам смерць была такою прыгодаю, якая ўласціва толькі Івану Ільічу, але зусім не ўласціва яму.

Пасля розных размоў пра падрабязнасці сапраўды жахлівых фізічных пакут, якія перажыў Іван Ільіч (пра падрабязнасці гэтыя Пётр Іванавіч даведаўся толькі па тым, як пакуты Івана

Ільіча дзейнічалі на нервы Праскоўі Федараўны), удава, мусіць, знайшла патрэбным перайсці да справы.

— Ах, Пётр Іванавіч, як цяжка, як страшэнна цяжка,— і яна зноў заплакала.

Пётр Іванавіч уздыхаў і чакаў, калі яна высмаркаецца. Калі яна высмаркалася, ён сказаў:

— Паверце...— і зноў яна загаварыла і выказала тое, што было, мабыць, яе галоўнай справай да яго; справа гэта заключалася ў пытаннях аб тым, як бы з выпадку смерці мужа дастаць грошай у казне. Яна зрабіла выгляд, што пытаецца ў Пятра Іванавіча парады адносна пенсіёна; але ён бачыў, што яна ўжо ведае да драбніц і тое, чаго ён не ведаў: усё тое, што можна выцягнуць з казны ў выпадку гэтае смерці; але што ёй хацелася дазнацца, ці нельга як-небудзь выцягнуць яшчэ болей грошай. Пётр Іванавіч пастараўся выдумаць такі сродак, аднак, падумаўшы крыху і дзеля прыстойнасці палаяўшы наш урад за яго скупасць, сказаў, што, здаецца, больш нельга. Тады яна ўздыхнула і, мусіць, пачала прыдумваць сродак, як пазбавіцца свайго наведвальніка. Ён зразумеў гэта, патушыў папяроску, устаў, пацісну́ў руку і пайшоў у пярэдні пакой.

У сталовай з гадзіннікам, якому Іван Ільіч быў гэтак рады, што купіў у брыкабраку, Пётр Іванавіч сустрэў свяшчэнніка і яшчэ некалькіх знаёмых, якія прыехалі на паніхіду, і ўбачыў знаёмую яму прыгожую паненку, дачку Івана Ільіча. Яна была ўся ў чорным. Талія яе, вельмі тонкая, здавалася была яшчэ танчэйшая. Яна мела змрочны, рашучы, амаль гнеўны выгляд. Яна пакланілася Пятру Іванавічу, як быццам ён быў у чымсьці вінаваты. За дачкою стаяў з гэткім жа пакрыўджаным выглядам знаёмы Пятру Іванавічу багаты

малады чалавек, судовы следчы, яе жаніх, як ён чуў. Ён паныла пакланіўся ім і хацеў быў прайсці ў пакой мерцвяка, як раптам з-пад усходаў паказалася постаць гімназісціка-сына, дужа падобнага да Івана Ільіча. Гэта быў маленькі Іван Ільіч, якім Пётр Іванавіч памятаў яго ў Правазнаўстве. Вочы ягоныя былі і заплаканыя і гэткія, якія бываюць у нячыстых хлопчыкаў трынаццаці-чатырнаццаці гадоў. Хлопчык, убачыўшы Пятра Іванавіча, пачаў сурова і сарамліва моршчыцца. Пётр Іванавіч кіўнуў яму галавой і зайшоў у пакой мерцвяка. Пачалася паніхіда — свечкі, стогны, слёзы, усхліпванні. Пётр Іванавіч стаяў пахмурны і пазіраў на ногі перад сабой. Ён ні разу не зірнуў на мерцвяка і да канца не паддаўся настрою і адзін з першых выйшаў. У пярэднім пакоі нікога не было. Гарасім, буфетны мужык, выскачыў з пакоя нябожчыка, перакідаў сваімі дужымі рукамі ўсе футры, каб адшукаць футра Пятра Іванавіча, і падаў яго.

— Што, браток Гарасім? — сказаў Пётр Іванавіч, каб толькі сказаць што-небудзь.— Шкада?

— Божая воля. Усе там будзем,— сказаў Гарасім, выскаляючы свае белыя, суцэльныя мужыцкія зубы, і, як чалавек у часе гарачае працы, жвава адчыніў дзверы, гукнуў фурмана, падсадзіў Пятра Іванавіча і скокнуў назад да ганка, нібы прыкідваючы, што б яму яшчэ зрабіць.

Пятру Іванавічу асабліва прыемна было дыхнуць чыстым паветрам пасля паху ладану, трупа і карболавае кіслаты.

— Куды загадаеце? — спытаў фурман.

— Не позна. Заеду да Федара Васільевіча.

І Пётр Іванавіч паехаў. І сапраўды, застаў іх за заканчэннем першага робера, таму было яму зручна падключыцца пятым.

## II

Былая гісторыя жыцця Івана Ільіча была самая простая і звычайная і самая жахлівая.

Іван Ільіч памёр сарака пяці гадоў, членам Судовае палаты. Ён быў сын чыноўніка, які зрабіў у Пецярбургу па розных міністэрствах і дэпартаментах тую кар'еру, якая даводзіць людзей да таго становішча, пры якім хаця і зразумела, што выконваць якую-небудзь істотную пасаду яны не здатны, яны ўсё ж па сваёй доўгай і былой службе і сваіх чынах не могуць быць выгнаны і таму атрымліваюць выдуманыя фіктыўныя месцы і нефіктыўныя тысячы, ад шасці да дзесяці, з якімі яны і дажываюць да глыбокае старасці.

Гэткім быў тайны саветнік, непатрэбны член розных непатрэбных установ, Ілья Яфімавіч Галавін.

У яго было тры сыны. Іван Ільіч быў другі сын. Старэйшы зрабіў гэткую ж кар'еру, як і бацька, толькі па іншым міністэрстве, і ўжо блізка падыходзіў да таго службовага ўзросту, калі набываецца гэтая інерцыя пэнсіі. Трэці сын быў няўдачнік. Ён у розных месцах усюды нашкодзіў сабе і цяпер служыў па чыгунках: і ягоны бацька, і браты, і асабліва іх жонкі не толькі не любілі сустракацца з ім, але без пільнае патрэбы і не ўспаміналі пра ягонае існаванне. Сястра была за баронам Грэфам, гэткім жа пецярбургскім чыноўнікам, як і ягоны цесць. Іван Ільіч быў le phenix de la famille[1], як казалі. Ён быў не такі халодны і акуратны, як старэйшы, і не такі рызыкоўны, як малодшы. Ён быў сярэдзіна паміж імі — разумны, дзейны, прыемны і прыстойны чалавек. Выхоў-

---

[1] гонар сям'і *(франц.)*.

ваўся ён разам з малодшым братам у Правазнаўстве. Малодшы не скончыў і быў выгнаны з пятага класа, Іван жа Ільіч добра скончыў курс. У Правазнаўстве ён ужо быў тым, чым ён быў потым усё сваё жыццё: чалавекам здольным, вясёла-дабрадушным і таварыскім, хаця заўсёды строга выконваў тое, што лічыў сваім абавязкам; абавязкам жа ён сваім лічыў усё тое, што лічылі абавязкам і найвышэй пастаўленыя людзі. Ён не быў ліслівым ні хлопчыкам, ні потым дарослым чалавекам, але ў яго з самых маладых гадоў было тое, што ён, як муха да святла, цягнуўся да найвышэй пастаўленых у свеце людзей, засвойваў сабе іх прыёмы, іх погляды на жыццё і з імі наладжваў сяброўскія адносіны. Усе захапленні маленства і маладосці прайшлі для яго, не пакінуўшы глыбокага следу; ён аддаваўся і пажадлівасці і пыхлівасці, і — пазней, у вышэйшых класах — ліберальнасці, аднак усё у пэўных межах, якія дакладна падказвала яму ягонае пачуццё.

Былі ў Правазнаўстве дапушчаны ім учынкі, якія раней уяўляліся яму вялікім паскудствам і выклікалі ў ім агіду да самога сябе ў той час, як ён дапускаў іх; але пазней, убачыўшы, што ўчынкі гэтыя дапускаліся людзьмі і высока пастаўленымі і не лічыліся імі благімі, ён не тое што прызнаў іх добрымі, але зусім забыўся на іх і зусім не перажываў, калі іх прыгадваў.

Калі Іван Ільіч пасля дзесятага класа выйшаў з Правазнаўства і атрымаў ад бацькі грошы на абмундзіроўку, ён заказаў сабе адзенне ў Шармера, павесіў на бірулькі медалёк з надпісам: «respice finem» [1], развітаўся з прынцам і выхавальнікам, паабедаў з таварышамі ў Дадона і з новым

[1] прадбач канец *(лац.)*.

модным чамаданам, бялізнаю і адзежаю, брытваю, рэчамі туалету і пледам, заказанымі і купленымі ў самых лепшых крамах, выехаў у правінцыю на месца чыноўніка асобых даручэнняў губернатара, якое падрыхтаваў яму бацька.

У правінцыі Іван Ільіч адразу наладзіў сабе гэткія ж лёгкія і прыемныя ўмовы, якія былі ў яго і ў Правазнаўстве. Ён служыў, рабіў кар'еру і разам з тым добра і прыстойна весяліўся; зрэдку ён ездзіў па даручэнні начальства ў паветы, трымаў сябе годным чынам і з вышэйшымі і з ніжэйшымі і з непадкупнай сумленнасцю, якою не мог не ганарыцца, выконваў ускладзеныя на яго даручэнні, пераважна па справах раскольнікаў.

У службовых справах ён быў, нягледзячы на сваю маладосць і схільнасць да бесклапотнае весялосці, надзвычай стрыманы, афіцыйны і нават строгі; аднак у грамадскіх ён быў часта дураслівы і дасціпны і заўсёды дабрадушны, прыстойны і bon enfant [1], як казаў пра яго ягоны начальнік і начальніца, у якіх ён быў сваім чалавекам.

Была ў правінцыі і сувязь з адною дамаю, якая навязалася франтаватаму правазнаўцу; была і мадыстка; былі і выпіўкі з прыезджымі флігель-ад'ютантамі і паездкі ў дальнюю вуліцу пасля вячэры; было і падслужванне начальніку і нават жонцы начальніка, аднак усё гэта насіла на сабе такі высокі тон прыстойнасці, што ўсё гэта падыходзіла толькі пад рубрыку французскага выслоўя: il fant gue jeunesse se passe [2]. Усё рабілася чыстымі рукамі, у чыстых кашулях, з французскімі словамі і, галоўнае, у самым высокім грамадстве, значыць, са згоды высокіх людзей.

---

[1] добры хлопец *(франц.)*.
[2] маладосць павінна перашалець *(франц.)*.

Гэтак праслужыў Іван Ільіч пяць гадоў, і прыйшла перамена па службе. Паявіліся новыя судовыя ўстановы; патрэбны былі новыя людзі.

І Іван Ільіч стаў гэтым новым чалавекам.

Івану Ільічу прапанавана было месца судовага следчага, і Іван Ільіч прыняў яго, нягледзячы на тое, што месца гэта было ў іншай губерніі, і яму трэба было парываць прывычныя сувязі і наладжваць новыя. Івана Ільіча праводзілі сябры, арганізавалі групу, паднеслі яму сярэбраную папяросніцу, і ён паехаў на новае месца.

Іван Ільіч быў гэткім жа comme il fant'ным, прыстойным судовым следчым як да гэтага і чыноўнікам асобых даручэнняў, ён умеў аддзяляць службовыя абавязкі ад прыватнага жыцця і выклікаў агульную павагу да сябе. Сама служба следчага ўяўляла для Івана Ільіча значна большую цікавасць і прывабнасць за ранейшую. На ранейшай службе прыемна было вольнаю хадою ў шармераўскім віцмундзіры прайсці міма баязлівых просьбітаў, якія чакалі прыёму, і службовых асоб, якія зайздросцілі яму, проста ў кабінет начальніка і сесці з ім за чай з папяросаю; аднак людзей, якія непасрэдна залежалі ад ягонага свавольства, было мала. Такія людзі былі толькі спраўнікі і раскольнікі, калі яго пасылалі з даручэннямі; і ён любіў пачціва, амаль па-таварыску абыходзіцца з такімі людзьмі, якія залежалі ад яго, любіў, каб яны адчулі, што вось ён, усемагутны, па-сяброўску, проста ставіцца да іх. Такіх людзей тады было мала. Цяпер жа, судовым следчым, Іван Ільіч адчуваў, што ўсе, усе без выключэння, самыя важныя, самаздаволеныя людзі — усе ў ягоных руках і што яму варта толькі напісаць вядомыя словы на паперы з загалоўкам, і гэтага важнага, самаздаволенага чалавека прывя-

дуць да яго ў якасці абвінавачанага або сведкі, і той будзе, калі ён не захоча пасадзіць яго, стаяць перад ім і адказваць на ягоныя пытанні. Іван Ільіч ніколі не злоўжываў гэтай сваёй уладай, наадварот, стараўся змякчаць праяўленне яе; аднак уведамленне гэтае ўлады і магчымасць змякчаць яе складалі для яго галоўную цікавасць і прывабнасць яго новай службы. У самой жа службе, менавіта ў яе выніках, Іван Ільіч вельмі хутка засвоіў прыём адхілення ад сябе ўсіх акалічнасцей, якія не тычыліся службы, і надання любой самай складанай справе такой формы, пры якой бы справы толькі знешнім чынам адбіваліся на паперы і пры якой цалкам бы выключалася яго асабістая думка і, галоўнае, захоўвалася б уся патрэбная фармальнасць. Справа гэта была новая. І ён быў адзін з першых, хто выпрацаваў на практыцы прыдатнасць статутаў 1864 года.

Абсталяваўшыся ў новым горадзе на месцы судовага следчага, Іван Ільіч зрабіў новыя знаёмствы, сувязі, па-новаму паставіў сябе і ўзяў крыху іншы тон. Ён паставіў сябе на пэўнай адлегласці ад губернатарскіх улад, выбраў лепшае кола з судзейскіх і багатых дваран, якія жылі ў горадзе, і ўзяў тон лёгкай незадаволенасці ўрадам, памяркоўнай ліберальнасці і цывілізаванае грамадзянскасці. Пры гэтым, нікольки не змяніўшы элегантнасці свайго туалету, Іван Ільіч на новай пасадзе перастаў прагольваць падбародак і даў волю барадзе расці, дзе яна хоча.

Жыццё Івана Ільіча і ў новым горадзе склалася вельмі прыемна: грамадства, якое франдзіравала супроць губернатара, было дружнае і добрае; пэнсія была большая, і немалую радасць ў жыцці дадаў тады віст, у які пачаў гуляць Іван Ільіч; ён меў здольнасць гуляць у карты весела, хутка і

вельмі тонка кеміў і таму амаль заўсёды выйгра-ваў.

Пасля двух гадоў службы ў новым горадзе Іван Ільіч сустрэўся са сваёй будучай жонкай. Праскоўя Федараўна Міхель была самая прывабная, разумная, бліскучая дзяўчына таго гуртка, які часта наведваў Іван Ільіч. У ліку іншых забавак, у вольны ад службы час Іван Ільіч наладзіў жартаўлівыя лёгкія адносіны з Праскоўяй Федараўнай.

Калі Іван Ільіч быў чыноўнікам асобых даручэнняў, ён наогул танцаваў; судовым жа следчым ён ужо танцаваў як выключэнне. Ён танцаваў ужо ў тым сэнсе, што хоць і па новых установах і ў пятым класе, але калі справа будзе тычыцца танцаў, дык ён зможа давесці, што ў гэтым сэнсе ён можа лепш за іншых. Так, зрэдку ён у канцы вечара танцаваў з Праскоўяй Федараўнай і пераважна ў часе гэтых танцаў і перамог Праскоўю Федараўну. Яна закахалася ў яго. Іван Ільіч не меў пэўнага, выразнага намеру жаніцца, але калі дзяўчына закахалася ў яго, ён задаў сабе гэтае пытанне. «Сапраўды, а чаму б не ажаніцца?» — сказаў ён сабе.

Дзяўчына Праскоўя Федараўна была добрага дваранскага роду, прыгожая; было невялічкае багацце. Іван Ільіч мог разлічваць на лепшую партыю, але і гэта партыя была добрая. У Івана Ільіча была ягоная пэнсія, у яе, ён спадзяваўся, будзе столькі ж. Добрая сваяцкасць; яна — мілая, прыгожая і вельмі прыстойная жанчына. Сказаць, што Іван Ільіч ажаніўся таму, што ён пакахаў сваю нявесту і знайшоў у яе спачуванне сваім поглядам на жыццё, было б гэтак жа несправядліва, як і сказаць тое, што ён ажаніўся таму, што людзі ягонае кампаніі ўхвалялі гэту партыю. Іван Ільіч

ажаніўся па абодвух меркаваннях: ён зрабіў прыемнае для сябе, прыдбаўшы гэтакую жонку, і разам з тым рабіў тое, што найвышэй пастаўленыя людзі лічылі за правільны крок.

І Іван Ільіч ажаніўся.

Сам працэс жаніцьбы і першая пара шлюбнага жыцця, з сямейнымі ласкамі, новаю мэбляю, новым посудам, новаю бялізнаю, да жончынай цяжарнасці прайшла вельмі добра, і Іван Ільіч пачынаў ужо думаць, што жаніцьба не толькі не парушыць таго характару жыцця, лёгкага, прыемнага, вясёлага і заўжды прыстойнага, ухваленага грамадствам, які Іван Ільіч лічыў уласцівым жыццю наогул, але зробіць яго яшчэ больш яркім. Аднак з першых жа месяцаў жончынай цяжарнасці паявілася штось новае, гэтакае нечаканае, непрыемнае, цяжкае і непрыстойнае, чаго нельга было чакаць і ад чаго ніяк нельга было адкарaскацца.

Жонка без усякае падставы, як здавалася Івану Ільічу, de gaité de coeur [1], як ён казаў сабе, пачала парушаць прыемнасць і прыстойнасць жыцця: яна без усякае прычыны раўнавала яго, патрабавала ад яго ўвагі да сябе, да ўсяго чаплялася і рабіла яму непрыемныя і грубыя сцэны.

Спачатку Іван Ільіч спадзяваўся вызваліцца ад непрыемнасці гэткага становішча тым самым лёгкім і прыстойным стаўленнем да жыцця, якое выручала яго раней,— ён спрабаваў ігнараваць жончын настрой і па-ранейшаму жыць лёгка і прыемна: запрашаў да сябе сяброў гуляць у карты, спрабаваў сам ездзіць у клуб ці да прыяцеляў. Але жонка аднойчы з гэткай энергіяй пачала грубымі словамі лаяць яго і гэтак упарта працягвала

[1] праз капрыз *(франц.)*.

лаяць яго кожны раз, калі ён не выконваў яе патрабаванняў,— відаць, надумала лаяць яго да тае пары, пакуль ён не скарыцца, гэта значыць, не будзе сядзець дома і не будзе гэтак жа, як і яна, нудзіцца,— што Іван Ільіч жахнуўся. Ён зразумеў, што сямейнае жыццё — ва ўсякім разе з ягонаю жонкаю — не заўсёды садзейнічае жыццёвым радасцям і ўцехам, а, наадварот, часта парушае іх, і што таму неабходна ахаваць сябе ад гэтых парушэнняў. І Іван Ільіч пачаў шукаць сродкі для гэтага. Служба было адно, што імпанавала Праскоўі Федараўне, і Іван Ільіч дзякуючы службе і абавязкам, якія вынікалі з яе, пачаў змагацца з жонкаю, ратуючы свой незалежны свет.

З нараджэннем дзіцяці, спробамі кармлення і рознымі няўдачамі пры гэтым, з хваробамі сапраўднымі і ўяўнымі дзіцяці і маці, у часе якіх ад Івана Ільіча патрабавалася спагада, але ў якіх ён нічога не мог зразумець, патрэба для Івана Ільіча выгарадзіць сабе свет па-за сям'ёю зрабілася яшчэ больш пільнаю.

Па меры таго як жонка рабілася ўсё больш зласлівая і патрабавальная, Іван Ільіч таксама ўсё больш і больш пераносіў цэнтр цяжару свайго жыцця на службу. Ён стаў больш любіць службу і зрабіўся больш чым раней прагны да славы.

Вельмі хутка, не далей як праз год пасля жаніцьбы, Іван Ільіч зразумеў, што сямейнае жыццё, уяўляючы пэўныя зручнасці ў жыцці, па сутнасці, ёсць дужа складаная і цяжкая справа, у адносінах да якое, для таго каб выканаць свой абавязак, гэта значыць, весці прыстойнае, ухваленае грамадствам жыццё, трэба выпрацаваць пэўныя адносіны, як і да службы.

І такія адносіны да сямейнага жыцця выпрацаваў Іван Ільіч. Ён патрабаваў ад сямейнага

жыцця толькі тых выгод хатняга абеду, гаспадыні, пасцелі, якія яно магло даць яму, і, галоўнае, тае прыстойнасці знешніх формаў, якія вызначаліся грамадскаю думкаю. У астатнім жа ён шукаў вясёлае прыемнасці і, калі знаходзіў іх, быў вельмі ўдзячны; калі ж сустракаў адпор і бурклівасць, дык адразу ж уцякаў у свой асобны, выгараджаны ім службовы свет і ў ім знаходзіў уцеху.

Івана Ільіча цанілі як добрага служаку, і праз тры гады зрабілі таварышам пракурора. Новыя абавязкі, значэнне іх, магчымасць прыцягнуць да суда і пасадзіць любога ў астрог, публічнасць прамоў, поспех, які ў гэтай справе меў Іван Ільіч,— ўсё гэта яшчэ больш уцягвала яго ў работу.

Пайшлі дзеці. Жонка рабілася ўсё больш зласліваю, аднак выпрацаваныя Іванам Ільічом адносіны да хатняга жыцця рабілі яго амаль глухім перад яе бурклівасцю.

Пасля сямі гадоў службы ў адным горадзе Івана Ільіча перавялі на месца пракурора ў іншую губерню. Яны пераехалі, грошай было мала, і жонцы не спадабалася тое месца, куды яны пераехалі. Пэнсія была хоць і большая за ранейшую, але жыццё было даражэйшае; апрача таго, памерла двое дзяцей, і таму сямейнае жыццё яшчэ больш абрыдла для Івана Ільіча.

Праскоўя Федараўна ва ўсіх няшчасцях, якія здарыліся на гэтым новым месцы жыхарства, папракала мужа. Большасць тэм для размоў паміж мужам і жонкаю, асабліва выхаванне дзяцей, наводзіла на пытанні, пры якіх прыгадваліся сваркі, і сваркі кожную хвіліну гатовы былі зноў разгарэцца. Аставаліся толькі тыя рэдкія перыяды закаханасці, якія находзілі на Праскоўю Федараўну і Івана Ільіча, але яны хутка міналіся. Гэта былі астраўкі, да якіх яны прыставалі на нейкі

час, а потым зноў рушылі ў мора прытоенае варожасці, якая выяўлялася ў адчужанасці адно да аднаго. Адчужанасць гэтая магла б засмучаць Івана Ільіча, каб ён лічыў, што гэтак не павінна быць, але ён цяпер прызнаваў ужо гэтае становішча не толькі як звычайнае, а і як мэту свае дзейнасці ў сям'і. Мэта ж ягоная была ў тым, каб усё больш і больш вызваляць сябе ад гэтых непрыемнасцей і надаваць ім характар бясшкоднасці і прыстойнасці; і ён дасягаў гэтага тым, што ўсё меней і меней праводзіў часу з сям'ёю, а калі і вымушаны быў гэта рабіць, дык стараўся забяспечваць сваё становішча прысутнасцю пабочных асоб. Галоўнае ж тое, што ў Івана Ільіча была служба. У службовым свеце засяродзіўся для яго ўвесь сэнс жыцця. І гэты сэнс паглынаў яго. Усведамленне сваёй улады, магчымасць загубіць любога чалавека, якога ён захоча загубіць, паважнасць, нават знешняя, калі ён заходзіў у суд і сустракаўся з падначаленымі, поспех свой перад вышэйшымі і падначаленымі і, галоўнае, уменне весці справы, якое ён адчуваў,— усё гэта радавала яго і разам з гутаркамі з таварышамі, абедамі і вістам напаўняла ягонае жыццё. Такім чынам жыццё Івана Ільіча па-ранейшаму ішло гэтак, як ён і лічыў, што яно павінна было ісці: прыемна і прыстойна.

Гэтак пражыў ён яшчэ сем гадоў. Старэйшай дачцэ было ўжо шаснаццаць гадоў, яшчэ адно дзіця памерла, аставаўся хлопчык-гімназіст, прычына неладоў. Іван Ільіч хацеў аддаць яго ў Праваўнаўства, а Праскоўя Федараўна на злосць яму аддала ў гімназію. Дачка вучылася дома і расла добра, хлопчык таксама вучыўся някепска.

## III

Гэтак ішло жыццё Івана Ільіча на працягу семнаццаці гадоў з дня жаніцьбы. Ён ужо быў стары пракурор, які адмовіўся ад некаторых перамяшчэнняў — чакаў больш жаданага месца. І тут раптам выявілася адна непрыемная акалічнасць, якая зусім парушыла яго жыццёвы спакой. Іван Ільіч чакаў месца старшыні ва універсітэцкім горадзе, але Гопе неяк забег наперад і заняў тое месца. Іван Ільіч раззлаваўся, стаў папракаць і пасварыўся з ім і з бліжэйшым начальствам; на яго затоілі крыўду і пры наступным назначэнні яго зноў абышлі.

Гэта было ў 1880 годзе. Гэты год быў самы цяжкі ў жыцці Івана Ільіча. У гэтым годзе выявілася, з аднаго боку, што пэнсіі не хапае на жыццё; з другога — што ўсе на яго забыліся і што тое, што здавалася для яго ў адносінах да яго найвялікшай, самай жорсткай несправядлівасцю, для іншых уяўлялася зусім звычайнай справай. Нават бацька не лічыў сваім абавязкам памагаць яму. Ён адчуў, што ўсе пакінулі яго, бо лічылі ягонае становішча з 3500 пэнсіі самым звычайным і нават шчаслівым. Ён адзін ведаў, што з улікам тае несправядлівасці, якая была яму зроблена, і з вечным жончыным пілаваннем, і з даўгамі, якія ён стаў рабіць, жывучы не па сродках,— ён адзін ведаў, што ягонае становішча далёка не нармальнае.

Улетку гэтага года, каб неяк аблегчыць сродкі, ён узяў адпачынак і паехаў пражыць з жонкаю лета ў вёсцы ў брата Праскоўі Федараўны.

У вёсцы, без службы Іван Ільіч упершыню адчуў не толькі маркоту, але маркоту нясцерпную,

і вырашыў, што гэтак жыць нельга і неабходна прымаць нейкія рашучыя захады.

Правёўшы бяссонную ноч у безупыннай хадзе па тэрасе, Іван Ільіч вырашыў ехаць у Пецярбург клапатаць і, каб пакараць *іх*, тых, якія не ўмелі ацаніць яго, перайсці ў іншае міністэрства.

На другі дзень, нягледзячы на ўсе жончыны і швагравы адгаворы, ён паехаў у Пецярбург.

Ён ехаў па адно: выпрасіць месца ў пяць тысяч пэнсіі. Ён ужо не трымаўся ніякага міністэрства, напрамку або роду дзейнасці. Яму патрэбна было толькі месца, месца з пяццю тысячамі, па адміністрацыі, па банках, па чыгунцы, па ўстановах імператрыцы Марыі, нават таможні, але абавязкова пяць тысяч і абавязкова трэба было выйсці з міністэрства, дзе не ўмелі ацаніць яго.

І вось гэтая паездка Івана Ільіча скончылася дзіўным, нечаканым поспехам. У Курску падсеў у першы клас Ф. С. Ільін, знаёмы, і паведаміў свежую тэлеграму, атрыманую курскім губернатарам, што ў міністэрстве адбудзецца днямі пераварот: на месца Пятра Іванавіча ставяць Івана Сямёнавіча.

Пераварот гэты, апрача свайго значэння для Расіі, меў асаблівае значэнне для Івана Ільіча тым, што ён, высоўваючы новую асобу, Пятра Пятровіча і, магчыма, яго сябра Захара Іванавіча, быў у вышэйшай ступені спрыяльны для Івана Ільіча. Захар Іванавіч быў таварыш і сябар Івана Ільіча.

У Маскве паведамленне пацвердзілася. А па прыездзе ў Пецярбург, Іван Ільіч знайшоў Захара Іванавіча і атрымаў абяцанне надзейнага месца ў сваім ранейшым міністэрстве юстыцыі.

Праз тыдзень ён тэлеграфаваў жонцы:

*«Захар месца Мілера пры першым дакладзе атрымліваю прызначэнне».*

Іван Ільіч дзякуючы гэтай перастаноўцы асоб нечакана атрымаў у сваім ранейшым міністэрстве такое прызначэнне, пры якім ён апынуўся на дзве ступені вышэй за сваіх таварышаў: пяць тысяч пэнсіі і пад'ёмных тры тысячы пяцьсот. Уся злосць на ранейшых ворагаў сваіх і на ўсё міністэрства была забыта, і Іван Ільіч быў вельмі шчаслівы.

Іван Ільіч вярнуўся ў вёску вясёлы, здаволены, якім ён даўно не быў. Праскоўя Федараўна таксама павесялела, і між імі ўсталявалася перамір'е. Іван Ільіч расказваў пра тое, як яго ўсе ўшаноўвалі ў Пецярбургу, як усе тыя, якія былі ягонымі ворагамі, былі пасаромлены і ўвіхаліся цяпер перад ім, як зайздросцяць яго становішчу, расказваў пра тое, як усе яго моцна любілі ў Пецярбургу.

Праскоўя Федараўна слухала і рабіла выгляд, што яна верыць у гэта, і не пярэчыла ні ў чым, а рабіла толькі планы новага жыццёвага ўладкавання ў тым горадзе, куды яны пераязджалі. І Іван Ільіч з радасцю бачыў, што гэтыя планы былі і ягонымі планамі, што яны супадаюць і што сваноў ягонае пазмрачнелае жыццё набывае сапраўдны, уласцівы яму характар вясёлае прыемнасці і прыстойнасці.

Іван Ільіч прыехаў на кароткі час. 10 верасня яму трэба было прымаць пасаду і, апрача таго, патрэбен быў час, каб уладкавацца на новым месцы, перавезці ўсё з правінцыі, прыкупіць, прызаказаць яшчэ шмат чаго; адным словам, уладкавацца так, як гэта вырашана было ў ягонае галаве, і амаль дакладна так, як гэта вырашана было і ў душы Праскоўі Федараўны.

І цяпер, калі ўсё ўладкавалася гэтак удала і

калі яны сыходзіліся з жонкаю ў мэце і, апрача таго, мала жылі разам, яны гэтак дружна сышліся, як не сыходзіліся з першых гадоў жанатага свайго жыцця. Іван Ільіч спачатку думаў адразу забраць сям'ю, але намаганні сястры і зяця, якія раптам сталі асабліва ветлівыя і сваяцкія да Івана Ільіча і ягонае сям'і, зрабілі тое, што Іван Ільіч паехаў адзін.

Іван Ільіч паехаў, і вясёлы настрой, выкліканы ўдачаю і згодаю з жонкаю, увесь час не пакідаў яго. Знайшлася кватэра цудоўная, тое самае, аб чым марылі муж з жонкаю. Шырокія, высокія, у старым стылі прыёмныя пакоі, зручны грандыёзны кабінет, пакоі для жонкі і дачкі, класны пакой для сына — усё нібыта знарок прыдумана для іх. Іван Ільіч сам узяўся за ўладкаванне, выбіраў шпалеры, дадаткова купляў мэблю, больш са старызны, якой ён надаваў асаблівы камільфотны стыль, абіўку, і ўсё расло, расло і набывала той ідэал, пра які ён марыў. Калі ён напалову ўладкаваўся, ягонае ўладкаванне пераўзышло ўсё, пра што ён думаў. Ён разумеў той камільфотны, прыгожы і не пошлы характар, які набудзе ўсё, калі будзе гатова. Засынаючы, ён уяўляў сабе залу, якою яна будзе. Пазіраючы на гасцінную, яшчэ не скончаную, ён ужо бачыў камін, экран, этажэрку і гэтыя крэсліцы раскіданыя, гэтыя блюды і талеркі па сценах і бронзы, калі яны ўсе стануць на свае месцы. Яго радавала думка, як ён здзівіць Пашу і Лізаньку, якія таксама маюць да гэтага густ. Яны зусім не чакаюць гэтага. Асабліва яму ўдалося знайсці і танна купіць старыя рэчы, якія надавалі ўсяму асабліва шляхетны характар. Ён у лістах сваіх знарок паказваў усё горш, чым ёсць, каб здзівіць іх. Усё гэта так займала яго, што нават новая служба ягоная, якую ён любіў,

займала яго менш, чым ён чакаў. У часе пасяджэнняў у яго былі хвіліны няўважлівасці: ён пачынаў думаць пра тое, якія карнізы на гардзіны, простыя ці падагнутыя. Ён так быў заняты гэтым, што сам часта корпаўся, перастаўляў нават мэблю і сам перавешваў гардзіны. Аднойчы ён залез на драбінку, каб паказаць безгустоўнаму абіўшчыку, як ён хоча драпіраваць, праслізнуўся і ўпаў, але, як дужы і спрытны чалавек, утрымаўся, толькі выцяў бок аб ручку рамы. Выцятае месца пабалела, але хутка аціхла. Іван Ільіч адчуваў сябе ўвесь гэты час асабліва вясёлым і здаровым. Ён пісаў: адчуваю, што з мяне зляцела гадоў пятнаццаць. Ён меркаваў скончыць у верасні, а зацягнулася да паловы кастрычніка. Затое атрымалася цудоўна,— не толькі ён казаў, але і яму казалі ўсе, хто бачыў.

Па сутнасці ж, было тое самае, што бывае ва ўсіх не зусім багатых людзей, аднак такіх, якія хочуць быць падобнымі да багатых і таму толькі падобны адзін да аднаго: штофы, чорнае дрэва, кветкі, дываны і бронзы, цёмнае і бліскучае,— усё тое, што ўсе славутага роду людзі прадпрымаюць, каб быць падобнымі да ўсіх людзей славутага роду. І ў яго было гэтак жа падобна, што нават нельга было звярнуць увагі; аднак яму ўсё гэта здавалася чымсьці незвычайным. Калі ён сустрэў сваіх на чыгуначнай станцыі, прывёз іх у сваю гатовую кватэру, і лёкай у белым гальштуку адчыніў дзверы ў пярэдні пакой, упрыгожаны кветкамі, а потым яны зайшлі ў гасцінную, кабінет і ахкалі ад радасці,— ён быў дужа шчаслівы, вадзіў іх усюды, прымаў іх пахвалу і ззяў ад радасці. У гэты ж вечар, калі за чаем Праскоўя Федараўна спытала ў яго між іншым, як ён упаў, ён

засмяяўся і вельмі выразна паказаў, як ён бразнуўся і напалохаў абіўшчыка.

— Нездарма я гімнаст. Хто іншы забіўся б, а я толькі крышку выцяўся вось тут; калі памацаеш — баліць, але праходзіць; проста сіняк.

І яны пачалі жыць у новым памяшканні, у якім, як заўсёды, калі добра абжыліся, не хапала толькі аднаго пакоя, і з новымі сродкамі, да якіх, як заўсёды, толькі крышку — якіх-небудзь пяцьсот рублёў — не хапала, і было вельмі добра. Асабліва было добра першы час, калі яшчэ не ўсё было ўладкавана і трэба было яшчэ ўладкоўваць: то купіць, то заказаць, то пераставіць, то наладзіць. Хоць і былі часам нелады паміж мужам і жонкаю, аднак абое гэтак былі рады і гэтак шмат было розных спраў, што ўсё канчалася без вялікіх сварак. Калі ж усё было ўладкавана, зрабілася нават крышку сумна і нечага стала як бы не хапаць, але тут ужо паявіліся знаёмыя, звычкі, і жыццё завіравала.

Іван Ільіч звычайна раніцу праводзіў у судзе, потым вяртаўся на абед; першы час ён хадзіў у гуморы, хаця іншы раз крышку і пакутаваў менавіта праз памяшканне. (Любая пляма на абрусе, на штофе, абарваны шнурок на гардзіне раздражнялі яго: ён гэтульки паклаў працы на ўладкаванне, што яму балюча было любое разбурэнне.) А наогул жыццё ў Івана Ільіча пайшло так, як, згодна з ягонаю вераю, і павінна было ісці: лёгка, прыемна і прыстойна. Уставаў ён а дзевятай, піў каву, чытаў газету, потым надзяваў віцмундзір і ехаў у суд. Там ужо быў абмяты той хамут, у якім ён працаваў; ён адразу ж трапляў у яго. Просьбіты, даведкі ў канцылярыі, сама канцылярыя, пасяджэнні — публічныя і распарадчыя. З усяго гэтага трэба было ўмець выключаць усё тое сы-

рое, жыццёвае, што заўжды парушае дакладны бег службовых спраў: трэба не дапускаць з людзьмі ніякіх адносін, апроч службовых, і повад да адносін павінен быць толькі службовы і самі адносіны толькі службовыя. Напрыклад, прыходзіць чалавек і хоча пра нешта дазнацца. Іван Ільіч як чалавек неслужбовы і не можа мець ніякіх адносін да такога чалавека; аднак, калі ёсць адносіны гэтага чалавека як да члена, такія, якія могуць быць выказаны на паперы з загалоўкам,— у межах гэтых адносін Іван Ільіч робіць усё, усё рашуча, што можна, і пры гэтым захоўвае форму чалавечых прыязных адносін, гэта значыць пачцівасць. Як толькі канчаюцца адносіны службовыя, канчаецца і ўсё іншае. Гэтым уменнем аддзяляць службовы бок, не блытаючы яго са сваім сапраўдным жыццём, Іван Ільіч валодаў у вышэйшай ступені і доўгай практыкай і талентам адпрацаваў яго да такой ступені, што ён нават, як віртуоз, часам дазваляў сабе, нібы жартам, блытаць чалавечыя і службовыя адносіны. Ён дазваляў гэта сабе таму, што адчуваў у сабе сілу заўсёды, калі яму трэба было, зноў вылучыць адны службовыя адносіны і адкінуць чалавечыя. Справы гэтыя ішлі ў Івана Ільіча не толькі лёгка, прыемна і прыстойна, але нават віртуозна. У часе перапынкаў ён курыў, піў чай, гутарыў крышку пра палітыку, крышку пра агульныя справы, крышку пра карты і больш за ўсё пра назначэнні. І стомлены, але з пачуццём віртуоза, які даскадала правёў сваю партыю, адну з першых скрыпак у аркестры, вяртаўся дадому. Дома дачка з маткаю куды-небудзь ездзілі або ў іх быў хто-небудзь; сын хадзіў у гімназію, рыхтаваў урокі з рэпетытарамі і старанна вывучаў тое, што выкладалі ў гімназіі. Усё было добра. Пасля абеду, калі не

было гасцей, Іван Ільіч іншы раз чытаў кнігу, пра якую шмат гаварылі, а ўвечары садзіўся за працу — чытаў паперы, праглядаў законы, звяраў паказанні і падводзіў пад законы. Яму ад гэтага было ні нудна, ні весела. Нудна было, калі можна было гуляць у вінт; а калі не было вінта — дык гэта было ўсё ж лепей, чым сядзець аднаму або з жонкаю. Радасцю ж у Івана Ільіча былі маленькія абеды, на якія ён запрашаў важных па свецкім становішчы дам і мужчын, і такое баўленне часу з імі, якое было б падобна да звычайнага баўлення часу такіх людзей, гэтак жа як ягоная гасцінная была падобна да ўсіх гасцінных.

Аднаго разу ў іх быў нават вечар, танцавалі. І Івану Ільічу было весела, і ўсё было добра, толькі ўзгарэлася вялікая сварка з жонкаю праз тарты і цукеркі: у Праскоўі Федараўны быў свой план, а Іван Ільіч настояў на тым, каб узяць усё ў дарагога кандытара, і ўзяў шмат тартоў, і сварка ўзгарэлася праз тое, што тарты асталіся, а кандытараў рахунак быў на сорак пяць рублёў. Сварка была вялікая і непрыемная, Праскоўя Федараўна нават кінула яму: «Дурань, кісляй». А ён схапіў сябе за галаву і злосна сказаў штосьці пра развод. Але сам вечар быў вясёлы. Была лепшая кампанія, і Іван Ільіч танцаваў з княгіняю Труфанавай, сястрою той, якая была вядома заснаваннем таварыства «Унеси ты мое горе». Радасці службовыя былі радасцямі самалюбства; радасці грамадскія былі радасцямі пыхлівасці; аднак сапраўднымі радасцямі Івана Ільіча былі радасці гульні ў вінт. Ён прызнаваўся, што пасля ўсяго, пасля ўсіх падзей, невясёлых у ягоным жыцці, радасць, якая, як свечка, гарэла перад усімі іншымі,— гэта сесці з добрымі ігракамі і некрыкунамі-партнёрамі ў вінт, і абавязкова ўчатырох

(упяцёх надта ж балюча выходзіць, хоць і прыкідваешся, што я дужа люблю), і весці разумную, сур'ёзную гульню (калі карты ідуць), потым павячэраць і выпіць шклянку віна. А спаць пасля вінту, асабліва калі ў невялічкім выйгрышы (вялікі — непрыемна), Іван Ільіч клаўся ў асабліва добрым настроі.

Гэтак яны жылі. Таварыскае кола было ў іх самае лепшае, ездзілі і паважныя людзі і маладыя людзі.

У поглядах на кола сваіх знаёмых муж, жонка і дачка былі аднадушныя і, не згаворваючыся, аднолькава пазбаўляліся розных прыяцеляў і сваякоў, мурзаў, якія зляталіся да іх з пяшчотамі ў гасцінную з японскімі блюдамі на сценах. Неўзабаве гэтыя сябры мурзы перасталі злятацца, і ў Галавіных асталася кампанія адна самая лепшая. Маладыя людзі заляцаліся да Лізанькі, і Пятрышчаў, сын Дзмітрыя Іванавіча Пятрышчава і адзіны спадчыннік ягонага багацця, судовы следчы, пачаў заляцацца да Лізы, таму Іван Ільіч ужо гаварыў аб гэтым з Праскоўяй Федараўнай: ці не звесці іх катацца на тройках, ці наладзіць спектакль. Гэтак яны жылі. І ўсё ішло гэтак, без перамен, і ўсё было вельмі добра.

## IV

Усе былі здаровыя. Нельга было назваць нездароўем тое, што Іван Ільіч казаў часам, што ў яго дзіўны смак у роце і штось непрыемна ў левым баку жывата.

Аднак атрымалася, што непрыемнасць гэтая стала расці і пераходзіць яшчэ не ў боль, але ў разуменне пастаяннага цяжару ў баку і ў кепскі настрой. Гэты кепскі настрой усё больш і больш

пагаршаўся і стаў псаваць прыемнасць лёгкага і спакойнага жыцця, якое было ўсталявалася ў сям'і Галавіных. Муж з жонкаю пачалі часцей і часцей сварыцца, і неўзабаве гэтая лёгкасць, гэты спакой зніклі і з цяжкасцю захоўвалася адна прыстойнасць. Зноў пачасціліся сцэны. Зноў асталіся адны астраўкі, ды і тых мала, на якіх бы муж з жонкаю маглі сыходзіцца без выбуху.

І Праскоўя Федараўна цяпер не без падставы казала, што ў яе мужа цяжкі характар. З уласцівою ёй звычкаю пераўвялічваць яна казала, што заўсёды і быў такі жахлівы характар, што трэба мець яе сэрца, каб цярпець гэта дваццаць гадоў. Праўда была ў тым, што сваркі цяпер пачыналіся ад яго. Пачыналіся ягоныя прычапкі заўжды перад самым абедам і часта, менавіта калі ён пачынаў есці, за супам. То ён заўважаў якую-небудзь папсаваную пасуду, то страва была не такая, то сын паклаў локці на стол, то доччына прычоска. І ва ўсім ён абвінавачваў Праскоўю Федараўну. Праскоўя Федараўна спачатку пярэчыла і гаварыла яму непрыемнасці, але ён разы два ў самым пачатку абеду гэтак раз'юшваўся, што яна зразумела, што гэта хваравіты стан, які выклікаецца ў яго прынятай стравай, і супакоіла сябе; ужо не пярэчыла, а толькі прыспешвала абедаць. Пакорлівасць сваю Праскоўя Федараўна паставіла сабе ў вялікую заслугу. Як толькі яна зразумела, што яе муж мае жахлівы характар і што ён зрабіў яе няшчаснай у жыцці, яна пачала шкадаваць сябе. І чым болей яна шкадавала сябе, тым больш ненавідзела мужа. Яна ўжо хацела, каб ён памёр, але не магла гэтага хацець, таму, што тады не было б пэнсіі. І гэта яшчэ болей раздражняла яе супроць яго. Яна лічыла сябе страшэнна няшчаснай менавіта праз тое, што нават ягоная смерць

не магла выратаваць яе, і яна раздражнялася, хавала гэта, і гэта прытоенае яе раздражненне яшчэ больш павялічвала ягонае раздражненне.

Пасля аднае сцэны, у часе якой Іван Ільіч быў асабліва несправядлівы і пасля якой ён сказаў, што ён сапраўды злаславы, аднак гэта праз хваробу, яна адказала яму, што калі ён хворы, дык трэба лячыцца, і патрабавала ад яго, каб ён паехаў да славутага доктара.

Ён паехаў. Усё было, як ён і чакаў; усё было гэтак, як заўсёды робіцца. І чаканне, і важнасць напускная, дактарская, яму знаёмая, тая самая, якую ён ведаў у сябе ў судзе, і пастукванне, і выслухванне, і пытанні, якія ўжо наперад патрабавалі пэўных і, відаць, непатрэбных адказаў, і важны выгляд, які казаў, што вы, маўляў, толькі пападзіцеся да нас, а мы ўжо ўсё зробім,— мы ведаем, як усё зрабіць, усё на адзін манер для любога, якога хочаце, чалавека. Усё было дакладна гэтак жа, як у судзе. Як ён у судзе рабіў выгляд перад падсуднымі, дакладна гэтак жа рабіў перад ім выгляд і славуты доктар.

Доктар казаў: і гэта і гэта сведчыць аб тым, што ў вас у сярэдзіне тое і тое; аднак калі гэта не пацвердзіцца па даследаваннях таго і таго, дык у вас, трэба думаць, тое, тады... і г. д. Для Івана Ільіча мела значэнне толькі адно пытанне: небяспечнае яго становішча ці не? Аднак доктар ігнараваў гэта недарэчнае пытанне. З пункту гледжання доктара, пытанне гэта было пустое і не падлягала абмеркаванню; існавала толькі ўзважванне магчымасцей — блукаючай ныркі, хранічнага катару і хваробы сляпой кішкі. Не стаяла пытанне пра жыццё Івана Ільіча, а была спрэчка паміж блукаючай ныркай і сляпой кішкой. І спрэчку гэту на вачах у Івана Ільіча доктар вырашыў бліс-

кучым чынам у карысць сляпой кішкі, зрабіўшы агаворку аб тым, што даследаванне мачы можа даць новыя доказы і што тады справа будзе перагледжана. Усё гэта было дакладна тое ж самае, што рабіў тысячу разоў сам Іван Ільіч над падсуднымі гэткім бліскучым манерам. Гэтак жа бліскуча зрабіў сваё рэзюме доктар і з урачыстым выглядам, весела нават, зірнуў паўзверх акуляраў на падсуднага. З рэзюме доктара Іван Ільіч зрабіў заключэнне, што справы кепскія, а яму, доктару, ды, бадай, і ўсім усё роўна, а ў яго справы кепскія. І гэтае заключэнне хваравіта ўразіла Івана Ільіча, яно выклікала ў ім пачуццё вялікага жалю да сябе і вялікае злосці да гэтага доктара, які праявіў абыякавасць ў такім важным пытанні.

Але ён нічога не сказаў, устаў, паклаў грошы на стол і, уздыхнуўшы, сказаў:

— Мы, хворыя, відаць, часта робім вам недарэчныя пытанні,— сказаў ён.— Наогул, гэта небяспечная хвароба ці не?..

Доктар строга зірнуў на яго адным вокам праз акуляры, нібыта сказаў: падсудны, калі вы не будзеце трымаць сябе ў межах пытанняў, якія я перад вамі стаўлю, я буду вымушаны зрабіць распараджэнне, каб вас выдалілі з залы пасяджэнняў.

— Я ўжо сказаў вам тое, што лічыў патрэбным і зручным,— сказаў доктар.— Далейшае пакажа даследаванне.— І доктар пакланіўся.

Іван Ільіч павольна выйшаў, маркотна сеў у сані і паехаў дадому. Усю дарогу ён не перастаючы перабіраў усё, што гаварыў доктар, намагаючыся ўсе гэтыя заблытаныя, незразумелыя навуковыя словы перакласці на простую мову і прачытаць у іх адказ на пытанне: кепска — ці дужа кепска мне, ці яшчэ нічога? І яму здавалася, што

сэнс усяго сказанага доктарам быў той, што дужа кепска. Івану Ільічу здалося, што на вуліцах усё журботна. Рамізнікі былі журботныя, дамы журботныя, прахожыя, крамы журботныя. Боль жа гэты, глухі, ныючы боль, які ні на хвіліну не пераставаў, здавалася, у сувязі з незразумелымі прамовамі доктара набываў іншае, больш сур'ёзнае значэнне. Іван Ільіч з новым цяжкім пачуццём цяпер прыслухоўваўся да яго.

Ён прыехаў дадому і стаў расказваць жонцы. Жонка выслухала, але ў сярэдзіне ягонага расказа зайшла дачка ў капялюшыку: яна збіралася з маці ехаць. Яна нехаця прысела паслухаць гэтую нуду, але доўга не вытрымала, і маці не даслухала.

— Ну, я вельмі рада,— сказала жонка,— дык цяпер ты, глядзі ж, прымай акуратна лекі. Дай рэцэпт, я пашлю Герасіма ў аптэку.— І яна пайшла апранацца.

Ён не пераводзіў духу, пакуль яна была ў пакоі, і цяжка ўздыхнуў, калі яна выйшла.

— Ну што ж,— сказаў ён.— Магчыма, і на самай справе нічога яшчэ...

Ён стаў прымаць лекі, выконваць прадпісанні доктара, якія змяніліся з выпадку даследавання мачы. Але тут якраз так здарылася, што ў гэтым даследаванні і ў тым, што павінна было адбыцца потым, атрымалася нейкая блытаніна. Да самога доктара нельга было дабрацца, а выходзіла, што зрабілася не тое, што казаў яму доктар. Ці ён забыўся, ці схлусіў, ці ўтойваў ад яго штосьці.

Аднак Іван Ільіч усё ж дакладна стаў выконваць прадпісанні і ў гэтым знайшоў суцяшэнне на першы час.

Галоўным заняткам Івана Ільіча з часу наведвання доктара стала дакладнае выкананне прад-

пісанняў доктара адносна гігіены і прыёму лекаў і прыслухоўванне да свайго болю, да работы свайго арганізма. Галоўную ўвагу Івана Ільіча сталі цяпер займаць людскія хваробы і людское здароўе. Калі пры ім гаварылі пра хворых, пра нябожчыкаў, пра тых, хто ачуньваў, асабліва пра такую хваробу, якая нагадвала ягоную, ён стараўся схаваць сваё хваляванне, прыслухоўваўся, распытваў і ўсё параўноўваў са сваёй хваробай.

Боль не аціхаў; але Іван Ільіч рабіў над сабою намаганне, каб прымусіць сябе думаць, што яму ўжо лепей. І яму ўдавалася ашукваць сябе, пакуль яго нічога не хвалявала. Але як толькі здаралася непрыемнасць з жонкаю, няўдача на службе, кепскія карты ў вінце, дык ён адразу ж пачынаў адчуваць усю сілу свае хваробы; бывала, ён цярпеў гэтыя няўдачы і чакаў, што вось-вось мінецца благое, адужаецца, прыйдзе поспех, вялікі шлем. Цяпер жа любая няўдача падкошвала яго і ўганяла ў адчай. Ён казаў сабе: вось толькі што я стаў ачуньваць і лекі пачалі ўжо дзейнічаць, і вось гэта праклятае няшчасце ці непрыемнасць... І ён злаваў на няшчасце ці на людзей, якія рабілі яму непрыемнасці і забівалі яго, і адчуваў, як гэтая злосць забівае яго; аднак не мог стрымаць яе. Здавалася б, яму павінна было быць зразумела, што гэтая злосць яго на абставіны і людзей ускладняе ягоную хваробу і што таму трэба яму не звяртаць увагі на непрыемныя выпадковасці; але ён разважаў зусім па-іншаму: ён казаў, што яму патрэбен спакой, сачыў за ўсім, што парушала гэты спакой, і пры самым нязначным парушэнні страшэнна злаваў. Пагаршала ягонае становішча тое, што ён чытаў медыцынскія кнігі і раіўся з дактарамі. Пагоршанне ішло гэтак непрыкметна, што ён мог сябе ашукваць, параўноўваючы

адзін дзень з адным,— розніцы было мала. Аднак калі ён раіўся з дактарамі, тады яму здавалася, што ідзе да горшага і нават вельмі хутка. І нягледзячы на гэта, ён увесь час раіўся з дактарамі.

У гэтым месяцы ён наведаў яшчэ адну славутасць: славутасць сказала амаль тое ж самае, што і першая, праўда, іначай паставіла пытанні. Гутарка з гэтай славутасцю толькі павялічыла сумненні і страх Івана Ільіча. Прыяцель ягонага прыяцеля — доктар вельмі добры — той дык зусім па-іншаму вызначыў хваробу і, нягледзячы на тое, што абяцаў папраўку, сваімі пытаннямі і меркаваннямі яшчэ больш зблытаў Івана Ільіча і павялічыў ягоныя сумненні. Гамеапат — зноў-такі па-свойму вызначыў хваробу і даў лекі, і Іван Ільіч, патаемна ад усіх, прымаў іх з тыдзень. Але потым, не адчуўшы палёгкі і страціўшы давер і да ранейшага лячэння і да гэтага, затужыў яшчэ болей. Неяк знаёмая кабета расказвала, як чалавека выратавалі абразы́. Іван Ільіч злавіў сябе на тым, што ён уважліва прыслухоўваўся і правяраў сапраўднасць факта. Гэты выпадак напалохаў яго. «Няўжо я гэтак здурнеў? — сказаў ён сабе.— Глупства! Усё лухта, не трэба паддавацца падазронасці, трэба выбраць аднаго лекара і строга трымацца ягонага лячэння. Гэтак і буду рабіць. Цяпер ужо ўсё. Не буду думаць і да лета строга буду праводзіць лячэнне. А там будзе відаць. Цяпер канец гэтым хістанням!..» Лёгка было сказаць гэта, ды немагчыма выканаць. Боль у баку па-ранейшаму мучыў і як быццам рабіўся яшчэ больш пакутлівы, смак у роце рабіўся нейкі зусім дзіўны, яму здавалася, што тхнула чымсьці агідным з ягонага рота, апетыту і сілы ўсё больш бракавала. Нельга было сябе ашукваць: штосьці страшнае, новае і гэткае значнае — больш значнага ні-

колі ў жыцці не было з Іванам Ільічом — адбывалася ў ім. І ён адзін ведаў пра гэта, усе ж астатнія не разумелі або не хацелі разумець і думалі, што ўсё на свеце ідзе па-ранейшаму. Гэта якраз болей за ўсё мучыла Івана Ільіча. Хатнія — галоўнае жонка і дачка, якія былі ў самым разгары выездаў,— ён бачыў, нічога не разумелі, крыўдавалі на тое, што ён такі невясёлы і патрабавальны, як быццам бы ён быў вінаваты ў гэтым. Хоць яны і стараліся хаваць гэта, ён бачыў, што ён для іх перашкода, але што жонка выпрацавала ў сабе пэўныя адносіны да яго хваробы і трымалася незалежна ад таго, што́ ён гаварыў і рабіў. Адносіны гэтыя былі такія:

— Вы ведаеце,— казала яна знаёмым,— Іван Ільіч не можа, як усе добрыя людзі, строга выконваць прадпісанае лячэнне. Сёння ён прыме кроплі і есць, што загадана, і ў час ляжа; заўтра раптам, калі я недагледжу, забудзе прыняць, і з'есць асятрыны (а яму забаронена), ды і заседзіцца за вінтом да гадзіны.

— Ну, калі ж? — скажа Іван Ільіч з прыкрасцю.— Адзін раз у Пятра Іванавіча.

— А ўчора з Шэбекам.

— Усё роўна я не мог спаць ад болю...

— Ды там ужо што б ні было, толькі так ты ніколі не ачуняеш і мучыш нас.

Знешнія адносіны Праскоўі Федараўны да хваробы мужа, якія яна выказвала іншым і яму самому, былі такія, што ў хваробе гэтай вінаваты Іван Ільіч і ўся хвароба гэта ёсць новая непрыемнасць, якую ён робіць жонцы. Іван Ільіч адчуваў, што гэта атрымлівалася ў яе міжвольна, але ад гэтага яму лягчэй не было.

У судзе Іван Ільіч заўважаў або думаў, што заўважае, тыя ж дзіўныя да сябе адносіны: то

яму здавалася, што да яго прыглядаюцца, як да чалавека, які збіраецца неўзабаве вызваліць месца; то раптам ягоныя прыяцелі пачыналі па-сяброўску жартаваць з ягонае недаверлівасці, нібы тое, штосьці жудаснае і страшнае, нечуванае, што завялося ў ім і не перастаючы смокча яго і нястрымна цягне кудысьці, ёсць самы прыемны аб'ект жарту. Асабліва Шварц сваёю дураслівасцю, жыццёвасцю і камільфотнасцю, якія нагадвалі Івану Ільічу яго самога за дзесяць гадоў назад, злаваў яго.

Прыходзілі сябры згуляць партыю, рассаджваліся. Здавалі новыя карты, складваліся звонкі да звонкаў, іх сем. Партнёр сказаў: без казыроў,— і падтрымаў дзве звонкі. Што ж яшчэ? Весела, бадзёра павінна б быць — шлем. І раптам Іван Ільіч адчувае гэты непрыемны боль, гэты смак у роце, і яму здаецца штось дзікае ў тым, што ён пры гэтым можа радавацца шлему.

Ён пазірае на Міхаіла Міхайлавіча, партнёра, як ён б'е па стале сангвініцкаю рукою і пачціва і паблажліва ўтрымліваецца ад захопу бітак, а падсоўвае іх Івану Ільічу, каб зрабіць яму прыемнасць збіраць іх, не турбуючы сябе, не працягваючы далёка рукі. «Няўжо ён думае, што я такі кволы, што не магу працягнуць далёка рукі»,— думае Іван Ільіч, забываецца на казыры і казырае лішні раз па сваіх і прайграе шлем без трох; і што самае жахлівае — гэта тое, што ён бачыць, як пакутуе Міхаіл Міхайлавіч, а яму ўсё роўна. І страшна думаць, чаму яму ўсё роўна.

Усе бачаць, што яму цяжка, і кажуць яму: «Мы можам скончыць, калі вы стаміліся. Вы адпачніце». Адпачыць? Не, ён зусім не стаміўся, яны дагульваюць робер. Усе змрочныя і маўклівыя. Іван Ільіч адчувае, што ён напусціў на іх

гэтую змрочнасць і не можа яе развеяць. Яны вячэраюць і раз'язджаюцца, і Іван Ільіч астаецца адзін з усведамленнем таго, што ягонае жыццё атручана для яго і атручвае жыццё іншых і што атрута гэтая не слабне, а ўсё больш і больш працінае ўсю ягоную істоту.

І з гэтым усведамленнем, ды яшчэ з болем фізічным, ды яшчэ з жахам трэба было класціся ў пасцель і часта не спаць ад болю большую частку ночы. А раніцою трэба было зноў уставаць, апранацца, ехаць у суд, гаварыць, пісаць, а калі і не ехаць, дык быць дома з тымі ж дваццаццю чатырма гадзінамі ў сутках, з якіх кожная была пакутаю. І жыць гэтак на краі гібелі трэба было аднаму, без адзінага чалавека, які б зразумеў і пашкадаваў яго.

## V

Гэтак цягнулася месяц і два. Перад новым годам прыехаў у іх горад ягоны швагер і спыніўся ў іх. Іван Ільіч быў у судзе. Праскоўя Федараўна ездзіла па пакупкі. У сваім кабінеце ён застаў швагра, дужага сангвініка, які раскладваў чамадан. Ён узняў галаву на крокі Івана Ільіча і паглядзеў на яго нейкую хвіліну моўчкі. Гэты позірк усё адкрыў Івану Ільічу. Швагер раскрыў рот, каб ахнуць, але стрымаўся. Гэты рух пацвердзіў усё.

— Што, змяніўся?

— Так... ёсць змена.

І колькі Іван Ільіч ні наводзіў потым швагра на размову пра яго знешні выгляд, швагер адмоўчваўся. Прыехала Праскоўя Федараўна, швагер пайшоў да яе. Іван Ільіч замкнуў на ключ дзверы

і стаў глядзець на сябе ў люстра — проста, потым збоку. Узяў свой партрэт з жонкаю і параўнаў партрэт з тым, які ён бачыў у люстры. Змена была вялізная. Потым ён агаліў рукі да локця, паглядзеў, апусціў рукавы, сеў на атаманку і зрабіўся чорны як ноч.

«Не трэба, не трэба»,— сказаў ён сабе, падхапіўся, падышоў да стала, разгарнуў справу, пачаў чытаць яе, але не мог. Ён адамкнуў дзверы, пайшоў у залу. Дзверы ў гасцінную былі прычынены. Ён падышоў да іх на дыбачках і прыслухаўся.

— Не, ты пераўвялічваеш,— казала Праскоўя Федараўна.

— Як гэта пераўвялічваю? Табе не відаць — ён мёртвы чалавек, зазірні ў ягоныя вочы. Няма святла. Што з ім?

— Ніхто не ведае. Нікалаеў (гэта быў іншы доктар) сказаў штосьць, але я не ведаю. Лешчаціцкі (гэта быў славуты доктар) сказаў зусім іншае...

Іван Ільіч адышоў, пайшоў да сябе, лёг і задумаўся: «Нырка, блукаючая нырка». Ён прыгадаў ўсё тое, што яму гаварылі дактары, як яна адарвалася і як блукае. І ён намаганнем фантазіі стараўся злавіць гэтую нырку і спыніць, умацаваць яе; гэтак мала трэба, здавалася яму. «Не, паеду яшчэ да Пятра Іванавіча». (Гэта быў той прыяцель, у якога быў прыяцелем доктар.) Ён пазваніў, загадаў запрэгчы каня і сабраўся ехаць.

— Куды ты, Jean? — спытала жонка з вельмі журботным і непрывычна лагодным выразам.

Гэта непрывычнае лагоднае раззлавала яго. Ён змрочна паглядзеў на яе.

— Мне трэба да Пятра Іванавіча.

Ён паехаў да прыяцеля, у якога быў прыяцель доктар. І з ім да доктара. Ён застаў яго і доўга гутарыў з ім.

Разглядаючы анатамічна і фізіялагічна падрабязнасці аб тым, што, на думку доктара, адбывалася ў ім, ён усё зразумеў.

Была адна штучка, маленькая штучка ў сляпой кішкі. Усё гэта магло паправіцца. Узмацніць энергію аднаго органа, аслабіць дзейнасць другога, пачнецца рассмоктванне, і ўсё паправіцца. Ён крыху спазніўся к абеду. Паабедаў, весела пагаварыў, але доўга не мог пайсці да сябе займацца. Нарэшце ён пайшоў у кабінет і адразу сеў за працу. Ён чытаў справы, працаваў, аднак усведамленне таго, што ў яго ёсць адкладзеная важная задушэўная справа, якою ён зоймецца пасля ўсяго, не пакідала яго. Калі ён скончыў са справамі, ён прыгадаў, што гэтая задушэўная справа былі думкі пра сляпую кішку. Але ён не аддаўся ім, ён пайшоў у гасціную піць чай. Былі госці, гутарылі і ігралі на фартэпіяна, спявалі; быў судовы следчы, жаданы жаніх дачкі. Іван Ільіч правёў вечар, на думку Праскоўі Федараўны, нават весялей за іншых, але ён ні на хвіліну не забываў, што ў яго ёсць адкладзеныя важныя думкі пра сляпую кішку. У адзінаццаць гадзін ён развітаўся і пайшоў да сябе. Ён спаў адзін з часу свае хваробы: у маленькім пакойчыку ля кабінета. Ён пайшоў, распрануўся і ўзяў раман Заля, але не чытаў яго, а думаў. І ў ягонай фантазіі адбывалася жаданае выпраўленне сляпой кішкі. Рассмоктвалася, выкідвалася, аднаўлялася правільная дзейнасць. «Усё гэта так,— сказаў ён сабе.— Толькі трэба памагаць прыродзе». Ён успомніў пра лекі, прыўстаў, прыняў іх, лёг на спіну, прыслухоўваючыся да таго, як жыватворна дзейнічаюць лекі і як яны сунімаюць боль. «Толькі ў час прымаць і пазбягаць шкодных уплываў; я ўжо зараз адчуваю крышку лепш, значна лепш».

Ён стаў мацаць бок,— навобмацак не баліць. «Так, я не адчуваю, сапраўды, ужо значна лепш». Ён патушыў свечку і лёг на бок... Сляпая кішка папраўляецца, рассмоктваецца. Раптам ён адчуў знаёмы стары, глухі, ныючы боль, упарты, ціхі, сур'ёзны. У роце тое ж знаёмае паскудства. Засмактала пад сэрцам, затуманілася ў галаве. «Бог ты мой, бог ты мой! — вымавіў ён.— Зноў, зноў, і ніколі не перастане». І раптам яму ўсё ўявілася зусім з іншага боку. «Сляпая кішка! Нырка,— сказаў ён сабе.— Не ў сляпой кішцы, не ў нырцы справа, а ў жыцці і... у смерці. Так, жыццё было і вось адыходзіць, адыходзіць, і я не магу ўтрымаць яго. Так. Навошта ашукваць сябе? Хіба не зразумела ўсім, апроч мяне, што я паміраю, і пытанне толькі ў ліку тыдняў, дзён — зараз, магчыма. Было святло, а цяпер морак. Быў я тут, а цяпер туды! Куды?» На яго павеяла холадам, дыханне спынілася. Ён чуў толькі ўдары сэрца.

«Мяне не будзе, дык што тады будзе? Нічога не будзе. Дык дзе я тады буду, калі мяне не будзе? Няўжо смерць? Не, не хачу». Ён падхапіўся, хацеў быў запаліць свечку, памацаў дрыготкімі рукамі, упусціў свечку з падсвечнікам на падлогу і зноў упаў назад, на падушку. «Навошта? Усё роўна,— казаў ён сабе, расплюшчанымі вачмі пазіраючы ў цемру.— Смерць. Так, смерць. І яны ніхто не ведаюць і не хочуць ведаць, і не жадаюць. Яны іграюць. (Ён чуў далёкі, з-за дзвярэй, голас ірытурнелі.) Ім усё роўна, а яны таксама памруць. Дурні. Мне раней, а ім потым; і ім тое ж будзе. А яны радуюцца. Мярзотнікі!» Злосць душыла яго. І яму зрабілася страшэнна цяжка. Не можа ж быць, каб усе заўсёды былі асуджаны на гэты жах. Ён устаў.

«Штосьці не так; трэба супакоіцца, трэба аб-

думаць усё спачатку». І вось ён пачаў абдумваць. «Так, пачатак хваробы. Стукнуўся бокам, і ўсё гэткі ж я быў, і сёння і заўтра; крышку ныла, потым болей, потым дактары, потым маркота, нуда, зноў дактары; а я ўсё ішоў бліжэй, бліжэй да прадоння. Сілы меней. Бліжэй, бліжэй. І вось я знясілеў, у маіх вачах святла няма. І смерць, а я думаю пра кішку. Думаю пра тое, каб паправіць кішку, а гэта смерць. Няўжо смерць?» Зноў яго апанаваў жах, ён задыхаўся, нахіліўся, стаў шукаць запалкі, націснуў локцем на тумбачку. Яна замінала яму і рабіла балюча, ён узлаваўся на яе, націснуў са злосці мацней і перакуліў тумбачку. Задыхаючыся, ён упаў на спіну і з хвіліны на хвіліну чакаў смерці.

Госці ад'язджалі ў гэты час. Праскоўя Федараўна праводзіла іх. Яна пачула падзенне і зайшла.

— Ты чаго?

— Нічога. Упусціў выпадкова.

Яна выйшла, прынесла свечку. Ён ляжаў, цяжка і часта дыхаючы, нібы чалавек, які прабег вярсту, і нерухомымі вачыма пазіраў на яе.

— Ты чаго, Jean?

— Нічо...га. У...пу...сціў. «Навошта гаварыць. Яна не зразумее»,— думаў ён.

Яна і сапраўды не зразумела. Яна падняла, запаліла яму свечку і адразу пайшла: ёй трэба было праводзіць госцю.

Калі яна вярнулася, ён гэтак жа ляжаў дагары, пазіраючы ў столь.

— Што з табою, горш?

— Так.

Яна паківала галавою, пасядзела.

— Ведаеш, Jean, я думаю, ці не запрасіць да цябе Лешчаціцкага.

Гэта значыць славутага доктара запрасіць і не пашкадаваць грошай. Ён з'едліва ўсміхнуўся і сказаў: «Не». Яна пасядзела, падышла і пацалавала яго ў лоб.

Ён ненавідзеў яе ўсімі сіламі душы ў той час, як яна цалавала яго, і ледзьве стрымліваўся, каб не адштурхнуць яе.

— Бывай. Бог дасць, заснеш.

— Так.

## VI

Іван Ільіч бачыў, што ён памірае, і ўвесь час быў у роспачы.

У глыбіні душы Іван Ільіч ведаў, што ён памірае, аднак ён не толькі не прывык да гэтага, але проста не разумеў, ніяк не мог зразумець гэтага.

Той прыклад сілагізма, які ён ведаў з логікі Кізеветэра: Кай — чалавек, людзі смяротны, таму Кай смяротны, здаваўся яму ўсё жыццё правільным толькі ў адносінах да Кая, але ніяк не да яго. То быў Кай — чалавек, наогул чалавек, і гэта было зусім справядліва; аднак ён быў не Кай і не наогул чалавек, а ён заўжды быў зусім, зусім асаблівай істотаю, не падобнаю да іншых; ён быў Ваня з мама́, з тата́, з Міцем і Валодзем, з цацкамі, фурманам, з нянькаю, потым з Каценькаю, з усімі радасцямі, нягодамі, захапленнямі маленства, юнацтва, маладосці. Хіба для Кая быў той пах скуранога ў палоскі мячыка, які гэтак любіў Ваня! Хіба Кай цалаваў гэтак матчыну руку і хіба для Кая гэтак шамацеў шоўк складак матчынай сукенкі? Хіба ён бунтаваў за піражкі ў Правазнаўстве? Хіба Кай гэтак быў закаханы? Хіба Кай мог гэтак весці пасяджэнне?

Кай і сапраўды смяротны, і яму трэба памі-

раць, але мне, Ваню, Івану Ільічу, з усімі маімі пачуццямі, думкамі,— мне гэта другая справа. І не можа быць, каб мне трэба было паміраць. Гэта было б вельмі жахліва.

Так думалася яму.

«Каб і мне паміраць, як Каю, дык я ведаў бы пра гэта, так бы і казаў мне ўнутраны голас, але нічога падобнага не было ў мяне; і я і ўсе мае сябры — мы разумелі, што гэта зусім не так, як з Каем. А цяпер вось што! — казаў ён сабе.— Не можа быць. Не можа быць, а ёсць. Як жа гэта? Як зразумець гэта?»

І ён не мог зразумець і стараўся адагнаць гэтую думку, як памылковую, няправільную, хваравітую, і выціснуць яе іншымі, правільнымі, цвярозымі думкамі. Аднак думка гэтая, не толькі думка, але як быццам рэчаіснасць, прыходзіла зноў і спынялася перад ім.

І ён заклікаў па чарзе на месца гэтай думкі іншыя думкі, спадзеючыся адчуць у іх апору. Ён рабіў спробу вярнуцца да ранейшых хадоў думкі, якія засланялі для яго некалі думку пра смерць. Але — дзіўная рэч — усё тое, што некалі засланяла, хавала, знішчала ўсведамленне смерці, цяпер ужо не магло аказваць гэтага ўздзеяння. Апошні час Іван Ільіч усё часцей і часцей рабіў спробы аднавіць ранейшыя хады думкі, якая засланяла смерць. То ён казаў сабе: «Займуся службаю, гэта ж ёю я жыў». І ён ішоў у суд, адганяючы ад сябе ўсе сумненні; заводзіў размовы з таварышамі і садзіўся, па старой звычцы няўважліва, задуменным позіркам акідваў натоўп і, абедзвюма схуднелымі рукамі абапіраючыся на дубовае крэсла, гэтак жа, як заўсёды, нахіляючыся да таварыша, падсоўваючы справу, перашэптваючыся, і потым, раптам ускінуўшы вочы і выпростваючыся,

гаварыў вядомыя словы і пачынаў справу. Але раптоўна боль у баку, не звяртаючы аніякае ўвагі на перыяд развіцця справы, пачынаў *сваю* страшную справу. Іван Ільіч прыслухоўваўся, гнаў прэч думку пра боль, але ён працягваў сваё, *ён* прыходзіў і станавіўся проста перад ім і пазіраў на яго, і ён слупянеў, агеньчык тухнуў у вачах, і ён пачынаў зноў пытацца ў сябе: «Няўжо толькі *ён* праўда?» І таварышы і падначаленыя са здзіўленнем і смуткам бачылі, што ён, гэтакі бліскучы, тонкі суддзя, блытаў, рабіў памылкі. Ён падбадзёрваўся, стараўся ачомацца і так-сяк даводзіў да канца пасяджэнне і вяртаўся дадому з сумным усведамленнем, што не можа па-ранейшаму судовая яго справа схаваць ад яго тое, што ён хацеў схаваць; што судоваю справаю ён не можа пазбавіцца ад *яго*. І што было горш за ўсё — гэта тое, што *ён* прыцягваў ягоную ўвагу да сябе не для таго, каб ён рабіў што-небудзь, а толькі для таго, каб ён глядзеў на яго, проста яму ў вочы, глядзеў на яго і, нічога не робячы, невымоўна пакутаваў.

І, ратуючыся ад гэтага стану, Іван Ільіч шукаў суцяшэння, іншых шырмаў, і іншыя шырмы паяўляліся і на кароткі час як быццам ратавалі яго, але адразу ж зноў не столькі разбураліся, колькі прасвечвалі, як быццам *ён* прабіваўся праз усё, і нішто не магло яго засланіць.

Бывала, у гэты апошні час ён зойдзе ў гасцінуую, прыбраную ім,— у тую гасцінуую, дзе ён паваліўся, для якой ён,— як яму з'едліва смешна было думаць,— для ўладкавання якой ён ахвяраваў жыццё, таму што ён ведаў, што хвароба ягоная пачалася з гэтага ўдару,— ён заходзіў і бачыў, што на лакіраваным стале быў рубец, прарэзаны чымсьці. Ён шукаў прычыну і знаходзіў

яе ў бронзавай аздобе альбома, адагнутай збоку. Ён браў альбом, дарагі, ім сабраны з любоўю, і крыўдаваў на неахайнасць дачкі і яе сяброў,— то разадрана, то карткі пераверну́ты. Ён прыводзіў гэта старанна да ладу, адгінаў назад аздобу.

Потым яму прыходзіла думка ўвесь гэты établissement[1] з альбомамі перасунуць у другі кут, да вазонаў. Ён клікаў лёкая: або дачка або жонка прыходзілі на дапамогу; яны не згаджаліся, пярэчылі, ён спрачаўся, сердаваў; але ўсё было добра, таму што ён не памятаў пра *яго*, *яго* не было відаць.

Але вось жонка сказала, калі ён сам перасоўваў: «Дазволь, людзі зробяць, ты зноў наробіш сабе шкоды», і раптам *ён* мільгануў праз шырмы, ён угледзеў *яго*. *Ён* мільгануў, ён яшчэ спадзяецца, што *ён* схаваецца, аднак міжвольна ён прыслухаўся да боку,— там сядзіць усё тое ж, усё гэтак жа ные, і ён ужо не можа забыць, і *ён* выразна паглядае на яго з-за вазонаў. Навошта ўсё гэта?

«І сапраўды, тут, на гэтай гардзіне, я, як пры штурме, загубіў жыццё. Няўжо? Як жахліва і як недарэчна! Гэтага не можа быць! Не можа быць, але ёсць».

Ён ішоў у кабінет, клаўся і зноў аставаўся адзін з *ім*. З вока на вока з *ім*, а рабіць з *ім* няма чаго. Толькі пазіраць на *яго* і халадзець.

## VII

Як гэта сталася на трэцім месяцы хваробы Івана Ільіча, цяжка было сказаць, таму што рабілася крок за крокам, непрыкметна, але зрабілася тое, што і жонка, і дачка, і ягоны сын, і служан-

---

[1] збудаванне *(франц.)*.

ка, і знаёмыя, і дактары, і, галоўнае, ён сам — ведалі, што ўся цікавасць у ім для іншых толькі ў тым, ці хутка ён, нарэшце, вызваліць месца, вызваліць жывых ад цяжару свае прысутнасці ды і сам вызваліцца ад сваіх пакут.

Ён спаў усё меней і меней: яму давалі опіум і пачалі ўводзіць марфін. Але гэта не прыносіла яму палёгкі. Тупая нуда, якую ён адчуваў у напаўсонным стане, спачатку толькі аблягчала яго як штось новае, аднак потым яна зрабілася гэткая ж ці нават яшчэ больш пакутлівая, чым ранейшы боль.

Яму гатавалі розныя незвычайныя стравы па прадпісанні ўрачоў; але стравы гэтыя здаваліся яму ўсё больш нясмачныя і агідныя.

Для ягоных экскрэментаў таксама былі зроблены спецыяльныя прыстасаванні, і кожны раз гэта былі пакуты. Пакуты ад нечыстотаў, непрыстойнасці і смуроду, ад усведамлення таго, што ў гэтым павінен удзельнічаць яшчэ нехта.

Аднак гэтая самая непрыемная справа прыносіла і суцяшэнне Івану Ільічу. Прыходзіў заўсёды выносіць за ім буфетны мужык Герасім.

Герасім быў чысты, свежы малады мужык, які прыкметна пасыцеў на гарадскіх харчах. Заўсёды вясёлы, ясны. Спярша выгляд гэтага, заўсёды чыстага, па-руску апранутага чалавека, які займаўся гэтакай прыкрай справай, бянтэжыў Івана Ільіча.

Аднойчы, падняўшыся з судна і не маючы сілы нацягнуць панталоны, ён паваліўся на мяккае крэсла і з жахам пазіраў на свае голыя, з рэзка акрэсленымі мускуламі, знясіленыя ляжкі.

Зайшоў у шырокіх ботах, распаўсюджваючы вакол сябе прыемны пах дзёгцю ад ботаў і свежасці зімовага паветра, лёгкай дужай хадой Герасім,

у зрэбным чыстым фартусе і чыстай паркалёвай кашулі, з закасанымі на голых, дужых, маладых руках рукавамі, і, не пазіраючы на Івана Ільіча,— відаць, стрымліваючы, каб не пакрыўдзіць хворага, радасць жыцця, якая ззяла на ягоным твары,— падышоў да судна.

— Гарасім,— ціха вымавіў Іван Ільіч.

Гарасім уздрыгнуў, мусіць, спалохаўся, ці не даў ён дзе маху, і шпаркім рухам павярнуў да хворага свой свежы, лагодны, просты, малады твар, які толькі-толькі пачынаў абрастаць барадою.

— Чаго вашае ласцы?

— Табе, як я мяркую, непрыемна гэта. Ты прабач мне. Я не магу.

— Што вы, што вы! — І Гарасім бліснуў вачмі і выскаліў свае маладыя белыя зубы.— Чаго ж мне не папрацаваць? Ваша справа хворая.

І ён спрытнымі, дужымі рукамі зрабіў сваю прывычную справу і ціха выйшаў. А праз пяць хвілін, гэткай жа ціхай хадой, вярнуўся.

Іван Ільіч усё гэтак жа сядзеў у крэсле.

— Гарасім,— сказаў ён, калі той паставіў чыстае, абмытае судна,— падыдзі, калі ласка, сюды, памажы мне.— Гарасім падышоў.— Падымі мяне. Мне цяжка аднаму, а Дзімітрыя я паслаў.

Гарасім падышоў; дужымі рукамі, гэтак жа, як ён лёгка хадзіў, абняў, зручна, мякка падняў і патрымаў, другой рукой падцягнуў панталоны і хацеў пасадзіць. Але Іван Ільіч папрасіў яго падвесці яго да канапы. Гарасім без намагання, амаль на руках, падвёў яго да канапы і пасадзіў.

— Дзякую. Як ты спрытна, добра... усё робіш.

Гарасім зноў усміхнуўся і хацеў быў пайсці. Але Івану Ільічу гэтак добра было з ім, што не хацелася адпускаць.

— Вось што: падсунь да мяне, калі ласка, крэсла гэта. Не, вось гэта, пад ногі. Мне лягчэй, калі ў мяне ногі вышэй.

Гарасім прынёс крэсла, паставіў, не грукнуўшы, на падлогу і падняў ногі Івана Ільіча на крэсла; Івану Ільічу здалося, што яму зрабілася лягчэй у той час, як Гарасім высока падымаў ягоныя ногі.

— Мне лепей, калі ногі ў мяне вышэй,— сказаў Іван Ільіч.— Падкладзі мне вунь тую падушку.

Гарасім зрабіў гэта. Зноў падняў ногі і падклаў. Зноў Івану Ільічу зрабілася лепей, пакуль Гарасім трымаў ягоныя ногі. І як толькі ён апусціў іх, яму здалося горш.

— Гарасім,— сказаў ён яму,— ты цяпер заняты?

— Ніколечкі, ані,— сказаў Гарасім, які ўжо навучыўся ў гарадскіх людзей размаўляць з панамі.

— Што табе яшчэ рабіць трэба?

— Ды мне што рабіць? Усё ўжо зрабіў, толькі дроў накалоць на заўтра.

— Тады патрымай мае ногі вышэй, можаш?

— Чаго ж, можна.— Гарасім падняў ногі вышэй, і Івану Ільічу здалося, што ў гэтым становішчы ён зусім не адчувае болю.

— А як жа дровы?

— Не турбуйцеся, ваша ласка. Мы паспеем.

Іван Ільіч загадаў Гарасіму сесці і трымаць ногі і пагаварыў з ім. І — дзіўная справа — яму здавалася, што яму лепей, пакуль Гарасім трымаў ягоныя ногі.

З тае пары Іван Ільіч стаў часам клікаць Гарасіма і прымушаў яго трымаць ягоныя ногі на плячах і любіў гутарыць з ім. Гарасім рабіў гэта

лёгка, ахвотна, проста і са шчырасцю, якая кранала Івана Ільіча. Здароўе, сіла, бадзёрасць жыцця ва ўсіх іншых людзей абражала Івана Ільіча; толькі сіла і бадзёрасць жыцця Герасіма не засмучала, а супакойвала Івана Ільіча.

Самая вялікая пакута для Івана Ільіча была хлусня,— тая, усімі чамусьці прызнаная хлусня, што ён толькі хворы, а не паміраe, і што яму трэба толькі трымаць сябе спакойна і лячыцца, і тады атрымаецца штосьці вельмі добрае. Але ён ведаў, што, што б ні рабілі, нічога не будзе, апроч яшчэ большае пакуты і смерці. І яго мучыла гэта хлусня, мучыла тое, што не хацелі прызнацца ў тым, што́ ўсе ведалі і ён ведаў, а хацелі хлусіць перад ім з выпадку жахлівага яго становішча і хацелі і прымушалі яго самога прымаць удзел у гэтае хлусні. Хлусня, хлусня гэтая, якую ўчынялі над ім напярэдадні ягонае смерці, хлусня, якая павінна звесці гэты страшны ўрачысты акт ягонае смерці да ўзроўню ўсіх іх візітаў, гардзін, асятрыны к абеду... была страшэнна пакутлівая для Івана Ільіча. І — дзіўна — ён шмат разоў, калі яны выраблялі з ім свае штукі, быў на валаску ад таго, каб закрычаць ім: перастаньце маніць, і вы ведаеце і я ведаю, што я паміраю, дык хоць перастаньце маніць. Аднак ён ніколі не меў духу зрабіць гэта. Страшны, жахлівы акт ягонага паміранння, ён гэта бачыў, усімі, хто яго акружаў, быў зведзены да ступені выпадковае непрыемнасці, часткова непрыстойнасці (накшталт таго, як абыходзяцца з чалавекам, які, пераступіўшы парог гасцінай, прыносіць з сабою паганы пах), тою самаю «прыстойнасцю», якой ён служыў усё сваё жыццё; ён бачыў, што ніхто не пашкадуе яго, таму што ніхто не хоча нават разумець ягонага становішча. Адзін толькі Герасім разумеў гэта

становішча і шкадаваў яго. І таму Івану Ільічу добра было толькі з Гарасімам. Яму добра было, калі Гарасім, часам цэлыя ночы навылёт, трымаў ягоныя ногі і не хацеў ісці спаць і гаварыў: «Вы не турбуйцеся, Іван Ільіч, яшчэ высплюся»; або калі ён раптам, пераходзячы на «ты», дадаваў: «Каб ты не хворы, а то чаго ж не паслужыць?» Адзін Гарасім не хлусіў, па ўсім відаць было, што ён адзін разумеў, што да чаго, і не лічыў патрэбным хаваць гэта, і проста шкадаваў змарнелага, кволага пана. Ён нават аднойчы проста сказаў, калі Іван Ільіч адсылаў яго:

— Усе паміраць будзем. Чаго ж не папрацаваць? — сказаў ён, выказваючы гэтым тое, што яму не цяжка папрацаваць менавіта таму, што робіць ён усё для чалавека, які памірае, і спадзяецца, што ў свой час і яму хто-небудзь акажа гэткую ж паслугу.

Апроч гэтае хлусні, ці ў выніку яе, самае пакутлівае для Івана Ільіча было тое, што ніхто не шкадаваў яго гэтак, як яму хацелася, каб яго шкадавалі: Івану Ільічу іншым разам, пасля доўгіх пакут, больш за ўсё хацелася — як ні сорамна было б прызнацца ў гэтым,— хацелася таго, каб яго, як дзіця хворае, нехта б пашкадаваў. Яму хацелася, каб яго прыгалубілі, пацалавалі, паплакалі б над ім, як галубяць і суцяшаюць дзяцей. Ён ведаў, што ён важны член, што ў яго сівее барада і што таму гэта немагчыма; аднак яму гэтага хацелася. І ў адносінах з Гарасімам было штосьці блізкае да гэтага, і таму адносіны з Гарасімам суцяшалі яго. Івану Ільічу хацелася плакаць, хацелася, каб яго галубілі і плакалі над ім, і вось прыходзіць таварыш, член Шэбек, і, замест таго каб плакаць і галубіцца, Іван Ільіч робіць сур'ёзны, строгі, глыбакадумны твар і па інерцыі

кажа сваю думку аб значэнні касацыйнага рашэння і ўпарта стаіць на ім. Гэтая хлусня вакол яго і ў ім самім больш за ўсё атручвала апошнія дні жыцця Івана Ільіча.

## VIII

Была раніца. Таму толькі была раніца, што Гарасім пайшоў і прыйшоў Пётр-лёкай, патушыў свечкі, адсунуў адну гардзіну і пачаў ціха прыбіраць. Ці то раніца, ці то вечар быў, пятніца, ці то нядзеля — было ўсё роўна, усё было адно і тое ж: ныючы, пакутлівы боль, які ні на імгненне не аціхаў; усведамленне безнадзейнасці жыцця, якое адыходзіла, але ўсё яшчэ не адышло; блізкая і ўсё тая ж страшная ненавісная смерць, якая адна толькі і была рэчаіснасцю, і ўсё тая ж хлусня. Якія ўжо тут дні, тыдні і гадзіны дня?

— Ці не загадаеце чаю?

«Яму патрэбен парадак, каб раніцаю паны пілі чай»,— падумаў ён і сказаў толькі:

— Не.

— Ці не жадаеце перайсці на канапу?

«Яму трэба навесці парадак у святліцы, і я замінаю, я — нечысціня, беспарадак»,— падумаў ён і сказаў толькі:

— Не, пакінь мяне.

Лёкай памуляўся яшчэ. Іван Ільіч працягнуў руку. Пётр падышоў паслужліва.

— Што загадаеце?

— Гадзіннік.

Пётр узяў гадзіннік, які ляжаў пад рукой, і падаў.

— Палова на дзевятую. Там не ўсталі?

— Ніяк не. Васіль Іванавіч (гэта быў сын)

пайшлі ў гімназію, а Праскоўя Федараўна загадалі разбудзіць іх, калі вы спытаеце. Загадаеце?

— Не, не трэба. «Ці не пакаштаваць чаю?» — падумаў ён.— Так, чаю... прынясі.

Пётр пайшоў да выхада. Івану Ільічу зрабілася страшна аставацца аднаму. «Як бы затрымаць яго? Так, лекі».— Пётр, падай мне лекі.— «Чаго ж, магчыма, яшчэ памогуць і лекі». Ён узяў лыжку, выпіў. «Не, не памогуць. Усё гэта глупства, ашуканства,— вырашыў ён, як толькі адчуў знаёмы прыкры і безнадзейны смак.— Не, больш ужо не магу верыць. Але боль, боль навошта, хоць бы на хвіліну аціх». І ён застагнаў. Пётр вярнуўся.— Не, ідзі. Прынясі чаю.

Пётр пайшоў. Іван Ільіч, астаўшыся адзін, застагнаў не столькі ад болю, які жахлівы ён ні быў, колькі ад нуды. «Усё тое ж і тое ж, усе гэтыя бясконцыя дні і ночы. Хоць бы хутчэй. Што хутчэй? Смерць, морак. Не, не. Усё лепш за смерць!»

Калі Пётр зайшоў з чаем на падносе, Іван Ільіч доўга разгублена пазіраў на яго і не разумеў, хто ён і што ён. Пётр адчуў сябе ніякавата ад гэтага позірку. І калі Пётр сумеўся, Іван Ільіч ачуўся.

— Так,— сказаў ён,— чай... добра, пастаў. Толькі памажы мне памыцца і кашулю чыстую.

І Іван Ільіч пачаў умывацца. Ён з перапынкамі на адпачынак памыў рукі, твар, пачысціў зубы, стаў прычэсвацца і паглядзеў у люстэрка. Яму страшна зрабілася; асабліва страшна было тое, як валасы пляската прыціскаліся да бледнага лба.

Калі мянялі яму кашулю, ён ведаў, што яму будзе яшчэ больш страшна, калі ён зірне на сваё цела, і таму не глядзеў на сябе. Але вось усё скончылася. Ён надзеў халат, укрыўся пледам і сеў на крэсла піць чай. Нейкую хвілю ён адчуваў

сябе памаладзелым, але толькі ён стаў піць чай, зноў той жа смак, той жа боль. Ён праз сілу дапіў і лёг, выпрастаўшы ногі. Ён лёг і адпусціў Пятра.

Усё тое ж. То кропля надзеі выблісне, то завіруе мора адчаю, і ўсё боль, усё боль, усё нуда і ўсё адно і тое ж. Аднаму страшэнна нудна, хочацца паклікаць каго-небудзь, аднак ён наперад ведае, што з іншымі яшчэ горш. «Хоць бы зноў марфін — і на ўсё забыцца. Я скажу яму, доктару, каб ён прыдумаў што-небудзь яшчэ. Гэта немагчыма, немагчыма гэтак».

Гадзіна, дзве мінае так. Але вось званок у пярэднім пакоі. Мабыць, доктар. Сапраўды, гэта доктар, свежы, бадзёры, гладкі, вясёлы, з тым выразам — што вось вы там нечага спалохаліся, а мы зараз усё наладзім. Доктар ведае, што гэты выраз тут не да месца, але ён ужо раз і назаўсёды надзеў яго і не можа зняць, як чалавек, які з раніцы надзеў фрак і паехаў з візітамі.

Доктар бадзёра, з надзеяю пацірае рукі.

— Я адубеў. Мароз вялікі. Дайце сагрэцца,— кажа ён з такім выглядам, як быццам трэба толькі крышку пачакаць, пакуль ён сагрэецца, а калі сагрэецца, дык ужо ўсё паправіць.

— Ну што, як?

Іван Ільіч адчувае, што доктару хочацца сказаць: «Як справы?», але што і ён адчувае, што гэтак нельга казаць, і кажа: «Як вы правялі ноч?»

Іван Ільіч пазірае на доктара цікаўнымі вачмі: «Няўжо ніколі не будзе табе сорамна хлусіць?» Але доктар не хоча разумець гэтага нямога пытання.

І Іван Ільіч кажа:

— Усё гэтак жа блага. Боль не аціхае, не здаецца. Хоць бы што-небудзь!

— Так, вы, хворыя, заўсёды гэтак. Ну, цяпер, здаецца, я сагрэўся, нават самая акуратная Праскоўя Федараўна нічога не змагла б запярэчыць супраць мае тэмпературы. Ну, добры дзень.— І доктар пацiскае руку.

І, адкінуўшы ўсю ранейшую жартаўлівасць, доктар пачынае з сур'ёзным выглядам даследаваць хворага, пульс, тэмпературу, і пачынаюцца пастукванні, выслухоўванні.

Іван Ільіч ведае цвёрда і несумненна, што ўсё гэта глупства і пустое ашуканства, але калі доктар стаў на калені і пачаў прыціскаць вуха то вышэй, то ніжэй і рабіць над ім з самым важным выглядам розныя гімнастычныя эвалюцыі, Іван Ільіч паддаецца на гэта, як ён паддаваўся, бывала, на прамовы адвакатаў, у той час як ён ужо добра ведаў, што яны ўсё хлусяць і чаму хлусяць.

Доктар, стоячы на каленях на канапе, яшчэ штосьці выстукваў, калі зашамацела ў дзвярах шаўковая сукенка Праскоўі Федараўны і пачуўся яе папрок Пятру, што ёй не далажылі аб прыездзе доктара. Яна заходзіць, цалуе мужа і адразу ж пачынае даводзіць, што яна даўно ўжо ўстала і толькі па непаразуменні яе не было тут, калі прыехаў доктар.

Іван Ільіч пазірае на яе, разглядае яе ўсю і ў папрок ставіць ёй і белізну, і пухласць, і чысціню яе рук, шыі, глянец яе валасоў і бляск яе поўных жыцця вачэй. Ён усёй душой ненавідзіць яе. І дотык яе прымушае яго пакутаваць ад прыліву нянавісці да яе.

Яе адносіны да яго і ягонае хваробы ўсё тыя ж. Як доктар да хворых выпрацаваў свае адносіны, якіх ён ужо не мог пазбавіцца, гэтак і яна выпрацавала да яго свае адносіны — тое, што ён не робіць нечага таго, што трэба, і сам вінаваты,

і яна душэўна дакарае яго ў гэтым,— ужо і не магла пазбавіцца гэтых адносін да яго.

— Ды вось жа ён не слухаецца! Не п'е лекаў у час. А галоўнае — прымае такую паставу, якая, мусіць, шкодзіць яму — ногі дагары.

Яна расказала, як ён прымушае Герасіма трымаць сабе ногі.

Доктар усміхнуўся пагардліва-ласкава: «Нічога, маўляў, не зробіш, гэтыя хворыя выдумляюць часамі такое глупства; але можна даравацьʼ».

Калі агляд скончыўся, доктар паглядзеў на гадзіннік, і тады Праскоўя Федараўна аб'явіла Івану Ільічу, што ўжо як ён сабе хоча, а яна сёння запрасіла славутага доктара, і яны разам з Міхаілам Данілавічам (гэтак звалі звычайнага доктара) паглядзяць яго і абмяркуюць.

— Ты ўжо не супраціўляйся, калі ласка. Гэта я для цябе раблю,— сказала яна іранічна, даючы адчуць, што яна ўсё робіць для яго і толькі гэтым не дае яму права адмовіць ёй. Ён маўчаў і моршчыўся. Ён адчуваў, што хлусня, якая аточвала яго, гэтак блыталася, што ўжо цяжка было разабраць што-небудзь.

Яна ўсё над ім рабіла толькі для сябе і казала яму, што яна робіць для сябе тое, што яна якраз рабіла для сябе як гэтую неверагодную рэч, што ён павінен быў разумець гэта наадварот.

Сапраўды, а палове дванаццатай прыехаў славуты доктар. Зноў пайшлі выслухоўванні і сур'ёзныя размовы пры ім і ў суседнім пакоі пра нырку, пра сляпую кішку і пытанні і адказы з гэтакім важным выглядам, што зноў замест рэальнага пытання пра жыццё і смерць, якое цяпер ужо адно стаяла перад ім, узнікла пытанне пра нырку і сляпую кішку, якія штосьці рабілі не так, як трэба было, і на якія праз гэта вось-вось накі-

нуцца Міхаіл Данілавіч і славутасць і прымусяць іх выправіцца.

Славуты доктар развітаўся з сур'ёзным, але не з безнадзейным выглядам. І на нясмелае запытанне, якое з узнятымі на яго бліскучым страхам і надзеяй вачмі паставіў Іван Ільіч, ці ёсць магчымасць выздараўлення, адказваў, што ручацца нельга, але магчымасць ёсць. Позірк надзеі, з якім Іван Ільіч праводзіў доктара, быў такі жаласны, што, перахапіўшы яго, Праскоўя Федараўна нават заплакала, пакідаючы кабінет, каб перадаць ганарар славутаму доктару.

Добры настрой, які быў выкліканы абнадзейваннем доктара, працягваўся нядоўга. Зноў той самы пакой, тыя ж карціны, гардзіны, шпалеры, пляшачкі і тое ж сваё хваравітае пакутнае цела. І Іван Ільіч пачаў стагнаць; яму зрабілі ўпырскванне, і ён забыўся.

Калі ён ачуўся, на зямлю ападаў змрок; яму прынеслі абедаць. Ён паеў праз сілу булёну; і зноў тое ж, і зноў блізкая ноч.

Пасля абеду, а сёмай гадзіне, у пакой зайшла Праскоўя Федараўна, апранутая як на вечар, з тоўстымі, падцягнутымі грудзьмі і са слядамі парфумы на твары. Яна яшчэ раніцаю казала яму пра паездку іх у тэатр. Прыехала Сара Бернар, і ў іх была ложа, якую ён настояў, каб яны ўзялі. Цяпер ён забыў пра гэта, і яе ўбор абразіў яго. Але ён не паказаў свае абразы, калі прыгадаў, што ён сам настойваў, каб яны купілі ложу і ехалі, таму што гэта для дзяцей выхаваўчая эстэтычная асалода.

Праскоўя Федараўна зайшла здаволеная сабою, але як быццам вінаватая. Яна прысела, спытала пра здароўе, як ён бачыў, дзеля таго толькі, каб спытаць, але не дзеля таго, каб даведацца, бо

і даведвацца не было пра што, і пачала гаварыць пра тое, што ёй трэба было: што яна ніколі не паехала б, але ложа ўзята, і едуць Элен і дачка і Пятрышчаў (судовы следчы, жаніх дачкі), і што нельга пусціць іх адных. А што ёй было б куды больш прыемна пасядзець з ім. Толькі ён без яе хоць бы выконваў усе прадпісанні доктара.

— Ага, і Федар Пятровіч (жаніх) хацеў зайсці. Можна? І Ліза.

— Няхай зойдуць.

Зайшла дачка, разадзетая, з аголеным маладым целам, тым целам, якое гэтак прымушала пакутаваць яго. А яна яго выстаўляла. Дужая, здаровая, мусіць, закаханая і злосная на хваробу, пакуты і смерць, якія перашкаджалі яе шчасцю.

Зайшоў і Федар Пятровіч у фраку, завіты á la Capoul, [redacted] доўгай жылістай шыяй, абкладзенай шчыльна белым каўнерыкам, з вялізнымі белымі грудзьмі і абцягнутымі тоўстымі ляжкамі ў вузкіх чорных штанах, з адной нацягнутай белай пальчаткай на руцэ і з клакам.

За ім упоўз непрыкметна і гімназістык у новенькім мундзірчыку, нябога, у пальчатках і з жахлівай сінечай пад вачыма, значэнне якой ведаў Іван Ільіч.

Сына ён заўсёды шкадаваў. І страшны быў яго спалоханы і спачувальны позірк. Апрача Герасіма, Івану Ільічу здавалася, што адзін Васіль разумеў і шкадаваў.

Усе селі, зноў спыталі пра здароўе. Запанавала маўчанне. Ліза спытала ў маці пра бінокль. Усчалася спрэчка паміж маткаю і дачкою, хто куды яго падзеў. Атрымалася непрыгожа.

Федар Пятровіч спытаў у Івана Ільіча, ці бачыў ён Сару Бернар. Іван Ільіч не зразумеў спачатку, пра што ў яго пыталіся, а потым сказаў:

— Не; а вы ўжо бачылі?

— Так, у «Adrienne Lecouvreur».

Праскоўя Федараўна сказала, што яна асабліва прыгожая тым і тым. Дачка запярэчыла. Пачалася гаворка аб прыгажосці і рэальнасці яе ігры,— тая самая гаворка, якая заўжды бывае адна і тая ж.

У сярэдзіне размовы Федар Пятровіч зірнуў на Івана Ільіча і змоўк. Іншыя зірнулі і змоўклі. Іван Ільіч глядзеў бліскучымі вачмі перад сабою і, відаць, гневаўся на іх. Трэба было паправіць бы гэта, аднак паправіць ніяк нельга было. Трэба было як-небудзь парушыць гэтае маўчанне. Ніхто не адважваўся, і ўсім рабілася страшна, што раптам парушыцца неяк прыстойная хлусня, і ўсім стане зразумела тое, што ёсць. Ліза першая адважылася. Яна парушыла маўчанне. Яна хацела схаваць тое, што ўсе адчувалі, але прагаварылася.

— Аднак, *калі ехаць*, дык пара,— сказала яна, зірнуўшы на свой гадзіннік, бацькаў падарунак, і ледзь прыкметна, аб нечым значным, ім адным вядомым, усміхнулася маладому чалавеку і ўстала, зашамацеўшы сукенкаю.

Усе ўсталі, развіталіся і паехалі.

Калі яны выйшлі, Івану Ільічу здалося, што яму лягчэй: хлусні не было,— яна пайшла з імі, аднак боль астаўся. Усё той жа боль, усё той жа страх рабілі тое, што нішто не цяжэй, нішто не лягчэй. Усё горш.

Зноў пабегла хвіліна за хвілінаю, гадзіна за гадзінаю, усё тое ж, і ўсё няма канца, і ўсё больш страшны непазбежны канец.

— Так, пашліце Гарасіма,— адказаў ён на запытанне Пятра.

## IX

Позна ўночы вярнулася жонка. Яна зайшла на дыбачках, але ён пачуў яе: расплюшчыў вочы і тут жа заплюшчыў зноў. Яна хацела адправіць Гарасіма і сама сядзець з ім. Ён расплюшчыў вочы і сказаў:

— Не. Ідзі.

— Ты вельмі пакутуеш?

— Усё адно.

— Прымі опіум.

Ён згадзіўся і выпіў. Яна пайшла.

Гадзін да трох ён знаходзіўся ў пакутлівым забыцці. Яму здавалася, што яго з болем засоўваюць кудысьці ў вузкі чорны мех і глыбокі, і ўсё далей прасоўваюць, і не могуць прасунуць. І гэта жахлівая для яго справа робіцца з пакутаю. І ён і баіцца, і хоча праваліцца туды, і супраціўляецца, і дапамагае. І вось раптам ён сарваўся і ўпаў, і ачуўся. Усё той жа Гарасім сядзіць у нагах на пасцелі, дрэмле спакойна, цярпліва. А ён ляжыць, паклаўшы яму на плечы худыя ногі ў панчохах; свечка тая ж з абажурам, і той жа несціханы боль.

— Ідзі, Гарасім,— прашаптаў ён.

— Нічога, пасяджу.

— Не, ідзі.

Ён зняў ногі, лёг бокам на руку, і яму стала шкада сябе. Ён пачакаў толькі таго, каб Гарасім выйшаў у суседні пакой, і не стаў болей стрымлівацца і заплакаў, як дзіця. Ён плакаў праз сваю бездапаможнасць, праз сваю жахлівую адзіноту, праз людскую жорсткасць, праз жорсткасць бога, праз адсутнасць бога.

«Навошта ты ўсё гэта зрабіў? Навошта прывёў мяне сюды? За што, за што гэтак мучыш мяне?..»

Ён і не чакаў адказу і плакаў аб тым, што няма і не можа быць адказу. Боль зноў узмацніўся, але ён не варушыўся, не клікаў. Ён казаў сабе: «Ну яшчэ, ну бі! Але за што? Што я табе зрабіў, за што?»

Потым ён аціх, перастаў не толькі плакаць, перастаў дыхаць і ўвесь насцярожыўся: як быццам ён прыслухоўваўся не да голасу, які гаварыў гукамі, а да голасу душы, да ходу думак, які ўзнімаўся ў ім.

— Чаго табе трэба? — было першае яснае паняцце, якое магло быць выказана словамі і якое ён пачуў.— Чаго табе трэба? Чаго табе трэба? — паўтарыў ён сабе.— Чаго? — Не пакутаваць. Жыць,— адказаў ён.

І зноў ён увесь аддаўся ўвазе гэткай напружанай, што нават боль не займаў яго.

— Жыць? Як жыць? — спытаў голас душы.

— Так, жыць, як я жыў раней: хораша, прыемна.

— Як ты жыў раней, хораша і прыемна? — спытаў голас. І ён стаў перабіраць у памяці лепшыя хвіліны свайго прыемнага жыцця. Але — дзіўная справа — усе гэтыя лепшыя хвіліны прыемнага жыцця здаваліся цяпер зусім не тым, чым здаваліся яны тады. Усе — апроч першых успамінаў маленства. Там, у маленстве, было штось сапраўды прыемнае, з чым можна было б жыць, каб яно вярнулася. Аднак таго чалавека, які адчуваў гэтае прыемнае, ужо не было: гэта быў як бы ўспамін пра некага іншага.

Як толькі пачыналася тое, вынікам чаго быў цяперашні ён, Іван Ільіч, дык усе былыя радасці цяпер на ягоных вачах знікалі і ператвараліся ў штосьці нікчэмнае і часта агіднае.

І чым далей ад маленства, чым бліжэй да су-

часнага, тым больш нікчэмныя і сумніцельныя былі радасці. Пачыналася гэта з Правазнаўства. Там было яшчэ тое-сёе сапраўды добрае: там была весялосць, там была дружба, там былі надзеі. Але ў вышэйшых класах ужо радзей выпадалі гэтыя добрыя хвіліны. Потым, у часе першае службы ў губернатара, зноў паявіліся добрыя хвіліны: гэта былі ўспаміны аб каханні да жанчыны. Потым усё гэта змяшалася, і яшчэ меней стала добрага. Далей яшчэ меней добрага, і што далей, то меней.

Жаніцьба... гэтак нечакана і расчараванне, і пах з жончынага рота, і пажадлівасць, прытворства! І гэтая мёртвая служба, і гэтыя клопаты пра грошы, і так год, і два, і дзесяць, і дваццаць — і ўсё тое ж. І што далей, то ўсё больш мёртвае. З дакладнаю раўнамернасцю я ішоў з гары, а ўяўляў, што іду на гару. Гэтак і было. У грамадскай думцы я ішоў на гару, і роўна нагэтулькі з-пад мяне сплывала жыццё... І вось гатова, памірай!

Дык што ж гэта? Навошта? Не можа быць. Не можа быць, каб такое бессэнсоўнае, брыдкае было жыццё? А калі і сапраўды яно такое брыдкае і бессэнсоўнае было, дык навошта тады паміраць і паміраць у пакутах? Штосьці не так.

«Магчыма, я жыў не так як трэба?» — прыходзіла яму раптам у галаву. «Але як гэта не так, калі я рабіў усё як след?» — казаў ён сабе і адразу ж гнаў ад сябе гэтае адзінае вырашэнне ўсяе загадкі жыцця і смерці як нешта зусім немагчымае.

«Чаго ж ты хочаш цяпер? Жыць? Як жыць? Жыць, як ты жывеш у судзе, калі судовы прыстаў абвяшчае: «Суд ідзе!..» Суд ідзе, ідзе суд,— паўтарыў ён сабе.— Вось ён суд! Але ж я не вінаваты! — выгукнуў ён са злосцю.— За што?» І ён перастаў плакаць і, павярнуўшыся тварам да сця-

ны, стаў думаць усё пра адно і тое ж: навошта, за што ўвесь гэты жах?

Аднак колькі ён ні думаў, ён не знайшоў адказу. І калі ў галаву прыходзіла, як яна прыходзіла яму часта, думка аб тым, што ўсё гэта адбываецца таму, што ён жыў не так, ён адразу прыгадваў усю правільнасць свайго жыцця і гнаў прэч гэтую дзіўную думку.

## X

Прайшло яшчэ два тыдні. Іван Ільіч ужо не падымаўся з канапы. Ён не хацеў ляжаць у пасцелі і ляжаў на канапе. І, лежачы амаль увесь час тварам да сцяны, ён адзінока пакутаваў усё тыя ж нявырашаныя пакуты і адзінока думаў усё тую ж нявырашаную думу. Што гэта? Няўжо праўда, што смерць? І ўнутраны голас адказваў: так, праўда. Навошта гэтыя мукі? І голас адказваў: а проста так. Далей і апрача гэтага нічога не было.

З самага пачатку хваробы, з таго часу, як Іван Ільіч упершыню паехаў да доктара, ягонае жыццё падзялілася на два процілеглыя настроі, якія змянялі адзін аднаго: то была роспач і чаканне незразумелае і жахлівае смерці, то была надзея і поўнае цікавасці назіранне за дзейнасцю свайго цела. То перад вачыма была адна нырка ці кішка, якая на час ухілілася ад выканання сваіх абавязкаў, то была адна незразумелая жахлівая смерць, ад якой не было ніякага паратунку.

Гэтыя два настроі з самага пачатку хваробы змянялі адзін аднаго; але чым далей ішла хвароба, тым больш сумніцельнымі і фантастычнымі рабіліся меркаванні аб нырцы і тым больш рэальным усведамленне блізкае смерці.

Варта яму было ўспомніць аб тым, чым ён быў тры месяцы таму назад, і тое, што ён цяпер; успомніць, як раўнамерна ішоў ён з гары,— каб разбурылася ўсякая магчымасць надзеі.

У апошні час тае адзіноты, у якой ён знаходзіўся, лежачы тварам да спінкі канапы, тае адзіноты сярод шматлюднага горада і сваіх шматлікіх знаёмых і сям'і,— адзіноты, больш глухой за якую не магло быць нідзе: ні на марскім дне, ні ў зямлі,— у апошні час гэтае страшнае адзіноты Іван Ільіч жыў толькі ўспамінамі аб мінулым. Адзін за адным яму ўяўляліся малюнкі яго мінулага. Пачыналася заўсёды з бліжэйшага па часе і зводзілася да самага далёкага, да маленства, і на ім спынялася. Ці прыгадваў Іван Ільіч гатаваны чарнасліў, які яму прапаноўвалі цяпер есці, ён прыгадваў сыры зморшчаны французскі чарнасліў у маленстве, яго незвычайны смак і густую сліну, калі справа даходзіла да костачкі, і побач з гэтым успамінам смаку ўзнікаў цэлы шэраг успамінаў таго часу: нянька, брат, цацкі. «Не трэба пра гэта... дужа балюча»,— казаў сабе Іван Ільіч і зноў вяртаўся да сучаснасці. Гузік на спінцы канапы і маршчыны саф'яну. «Саф'ян дарагі, нетрывалы; сварка была праз яго. Але саф'ян іншы быў, і іншая сварка, калі мы падралі бацькаў партфель і нас пакаралі, а матуля прынесла піражкі». І думка зноў спынялася на маленстве, і зноў Івану Ільічу было балюча, і ён стараўся думаць пра іншае.

І зноў жа тут, разам з гэтым ходам успамінаў, у ягонае душы ішоў іншы ход успамінаў — пра тое, як пагаршалася, расла яго хвароба. Тое ж, што далей назад, то болей было жыцця. Болей было і дабра ў жыцці, болей было і самога жыцця. І адно і другое зліваліся разам. «Як пакуты ўсё

ідуць горш і горш, гэтак і ўсё жыццё ішло ўсё горш і горш»,— думаў ён. Адна светлая кропка там, ззаду, на пачатку жыцця, а потым усё чорнае і чорнае і ўсё хутчэй і хутчэй. «Адваротна прапарцыянальна квадратам адлегласцей смерці»,— падумаў Іван Ільіч. І гэты вобраз каменя, які ляціць уніз усё з большаю хуткасцю, запаў у ягоную душу. Жыццё з яго ўсё большымі пакутамі ляціць шпарчэй і шпарчэй да канца, да жахлівых пакут. «Я лячу...» Ён уздрыгваў, варушыўся, хацеў супраціўляцца; аднак ужо ён ведаў, што супраціўляцца нельга, і зноў стомленымі ад глядзення вачмі, але вачмі, якія не маглі не глядзець на тое, што было перад ім, пазіраў на спінку канапы і чакаў,— чакаў гэтага страшнага падзення, штуршка і разбурэння. «Супраціўляцца нельга,— казаў ён сабе.— Але хоць бы зразумець, навошта гэта? І гэтага нельга. Растлумачыць можна было б, каб сказалі, што я жыў не так, як трэба. Але гэта ўжо немагчыма прызнаць»,— казаў ён сам сабе, прыгадваючы ўсю законнасць, правільнасць і прыстойнасць свайго жыцця. «Гэтага дапусціць ужо немагчыма,— казаў ён сабе, усміхаючыся губамі, як быццам нехта мог бачыць гэтую яго ўсмешку і быць ашуканым ёю.— Няма тлумачэння! Пакуты, смерць... Навошта?»

## XI

Гэтак прайшло два тыдні. За гэтыя тыдні адбылася жаданая для Івана Ільіча і ягонае жонкі падзея: «Пятрышчаў зрабіў фармальную прапанову. Гэта здарылася ўвечары. На другі дзень Праскоўя Федараўна зайшла да мужа, прыкідваючы, як аб'явіць яму аб прапанове Федара Пятровіча, але ў гэтую самую ноч Івану Ільічу зрабі-

лася горш. Праскоўя Федараўна застала яго на той жа канапе, але ў новай паставе. Ён ляжаў дагары, стагнаў і пазіраў перад сабою нерухомымі вачмі.

Яна стала гаварыць пра лекі. Ён перавёў свой позірк на яе. Яна не дагаварыла таго, пра што пачала: гэткая злосць, менавіта да яе, выяўлялася ў гэтым позірку.

— Хрыстом прашу, дай мне памерці спакойна,— сказаў ён.

Яна хацела была пайсці, але ў гэты час зайшла дачка і падышла, каб павітацца. Ён гэтак жа паглядзеў на дачку, як і на жонку, і на яе запытанні пра здароўе, суха сказаў, што ён хутка вызваліць іх усіх ад сябе. Абедзве змоўклі, пасядзелі і выйшлі.

— Хіба ж мы вінаваты? — сказала Ліза маці.— Нібы мы гэта зрабілі! Мне шкада таты, але навошта нас мучыць?

Як звычайна, прыехаў доктар. Іван Ільіч адказваў яму: «так, не», не спускаючы з яго злоснага позірку, і ў канцы сказаў:

— Вы ведаеце, што нічым памагчы не можаце, таму пакіньце.

— Аблягчыць пакуты можам,— сказаў доктар.

— І гэтага не можаце; пакіньце.

Доктар выйшаў у гасціную і паведаміў Праскоўі Федараўне, што дужа кепска, і што адзіны сродак — опіум, каб аблягчыць пакуты, якія павінны быць жахлівыя.

Доктар гаварыў, што ягоныя фізічныя пакуты страшэнныя, і гэта была праўда; аднак больш цяжкія ягоныя пакуты былі душэўныя, і ў гэтым была яго галоўная пакута.

Душэўныя пакуты яго былі ў тым, што ў гэту

ноч, пазіраючы на сонны, дабрадушны скуласты Гарасімаў твар, яму раптам прыйшло ў галаву: а што, калі і на самай справе ўсё маё жыццё, свядомае жыццё, было «не тое».

Яму прыйшло ў галаву, што тое, што яму ўяўлялася раней поўнай немагчымасцю, тое, што ён пражыў сваё жыццё не так, як павінен быў, што гэта магла быць праўда. Яму прыйшло ў галаву, што тыя яго ледзь прыкметныя спробы барацьбы супроць таго, што найвышэй пастаўленымі людзьмі лічылася прыстойным, спробы ледзь прыкметныя, якія ён адразу ж гнаў ад сябе,— што менавіта яны і маглі быць сапраўдныя, а ўсё астатняе магло быць не тое. І яго служба, і яго жыццёвае ўладкаванне, і яго сям'я, і гэтыя інтарэсы грамадства і службы — усё гэта магло быць не тое. Ён паспрабаваў абараніць перад сабою ўсё гэта. І раптам адчуў усю слабасць таго, што ён абараняе. І абараняць не было чаго.

«А калі гэта так,— сказаў ён сабе,— і я пакідаю жыццё з усведамленнем таго, што загубіў усё, што мне дадзена было, і паправіць нельга, што ж тады?» Ён лёг дагары і стаў зусім па-новаму перабіраць усё сваё жыццё. Калі ён убачыў раніцаю лёкая, потым жонку, потым дачку, потым доктара,— кожны іх рух, кожнае іх слова пацвярджала для яго жахлівую ісціну, якая адкрылася яму ўначы... Ён у іх бачыў сябе, усё тое, чым ён жыў, і выразна бачыў, што ўсё гэта было не тое, усё гэта было жахлівае вялізнае ашуканства, якое засланяла і жыццё і смерць. Усведамленне гэтага павялічвала, падзесяцярала яго фізічныя пакуты. Ён стагнаў і кідаўся і абцягваў на сабе адзежу. Яму здавалася, што яна душыла і ціснула яго. І за гэта ён ненавідзеў іх.

Яму далі вялікую дозу опіуму, ён забыўся; але

ў абед пачалося зноў тое ж. Ён гнаў усіх ад сябе і кідаўся з месца на месца.

Жонка прыйшла да яго і сказала:

— Jean, галубок, зрабі гэта для мяне (для мяне?). Гэта не можа зашкодзіць, але часта памагае. Што ж, гэта нічога. І здаровыя часта...

Ён расплюшчыў шырока вочы.

— Што? Прычасціцца? Навошта? Не трэба! А зрэшты...

Яна заплакала.

— Так, мой друг? Я папрашу нашага, ён такі мілы.

— Цудоўна, вельмі добра,— сказаў ён.

Калі прыйшоў свяшчэннік і спавядаў яго, ён памякчэў, адчуў як быццам палёгку ад сваіх сумненняў і ў выніку гэтага ад пакут, і на яго найшла хвіліна надзеі. Ён зноў стаў думаць пра сляпую кішку і магчымасці выпраўлення яе. Ён прычасціўся са слязьмі на вачах.

Калі яго палажылі пасля прычасця, яму зрабілася на хвіліну лёгка, і зноў паявілася надзея на жыццё. Ён стаў думаць пра аперацыю, якую прапанавалі яму. «Жыць, жыць хачу»,— казаў ён сабе. Жонка прыйшла павіншаваць; яна сказала звычайныя словы і дадала:

— Табе лепей, хіба не так?

Не пазіраючы на яе, ён адказаў: так.

Яе адзежа, яе стан, выраз яе твару, гук яе голасу — усё казала яму адно: «Не тое. Усё тое, чым ты жыў і жывеш,— ёсць хлусня, падман, які хавае ад цябе жыццё і смерць». І як толькі ён падумаў гэтак, узнялася ягоная нянавісць і разам з нянавісцю страшэнныя фізічныя пакуты і з пакутамі ўсведамленне непазбежнае, блізкае пагібелі. Штосьці зрабілася новае, пачало вінціць, і страляць, і сціскаць дыханне.

Выраз твару ягонага, калі ён сказаў «так», быў жахлівы. Як толькі сказаў гэтае «так», ён, пазіраючы ёй проста ў твар, незвычайна для сваёй кволасці хутка павярнуўся ніцма і закрычаў:

— Ідзіце, ідзіце, пакіньце мяне!

## XII

З гэтае хвіліны пачаўся той крык, які не сціхаў тры дні і які быў такі жахлівы, што нельга было за дзвюма дзвярыма без жаху чуць яго. У тую хвіліну, як ён адказаў жонцы, ён зразумеў, што ён загінуў, што звароту няма, што настаў канец, зусім канец, а сумненне гэтак і не вырашана, гэтак і застанецца сумненнем.

— У! Уу! У! — крычаў ён на розныя інтанацыі. Ён пачаў крычаць: «Не хачу!» — і гэтак працягваў крычаць на літару «у».

Усе тры дні, на працягу якіх для яго не існавала часу, ён валтузіўся ў тым чорным мяху, у які засоўвала яго нябачная, непераадольная сіла. Ён кідаўся, як кідаецца ў руках ка́та асуджаны на смерць, які ведае, што паратунку ўжо няма; і з кожнаю хвіляю ён адчуваў, што, нягледзячы на ўсе намаганні барацьбы, ён бліжэй і бліжэй сунецца да таго, што страшэнна жахала яго. Ён адчуваў, што пакута ягоная і ў тым, што ён лезе ў гэтую чорную дзірку, і яшчэ больш у тым, што ён не можа пралезці ў яе. Пралезці ж яму перашкаджае прызнанне таго, што жыццё ягонае было добрае. Менавіта гэтае апраўданне свайго жыцця трымала і не пускала яго наперад і больш за ўсё мучыла яго.

Раптам нейкая сіла штурхнула яго ў грудзі, у бок, яшчэ мацней перахапіла ягонае дыханне, ён праваліўся ў дзірку, і там, у канцы дзіркі, не-

шта засвяцілася. З ім зрабілася тое, што здаралася з ім у чыгуначным вагоне, калі думаеш, што едзеш наперад, а едзеш назад, і раптам даведваешся пра сапраўдны напрамак.

«Так, усё было не тое,— сказаў ён сабе,— але гэта нічога. Можна, можна зрабіць «тое». Што «тое»?» — спытаў ён у сябе і раптам аціх.

Гэта было ў канцы трэцяга дня, за гадзіну да ягонае смерці. У гэты самы час гімназістык ціхенька пракраўся да бацькі і падышоў да ягонае пасцелі. Іван Ільіч усё крычаў і кідаў рукамі. Рука ягоная трапіла на галаву гімназістыка. Гімназістык схапіў яе, прытуліў да губ і заплакаў.

У гэты самы час Іван Ільіч праваліўся, убачыў святло, і яму адкрылася, што жыццё ягонае было не тое, што трэба, але што гэта можна яшчэ паправіць. Ён спытаў у сябе: а якое ж тады «тое», і аціх, прыслухоўваючыся. Тут ён адчуў, што руку ягоную цалуе нехта. Ён расплюшчыў вочы і зірнуў на сына. Яму зрабілася шкада яго. Жонка падышла да яго. Ён зірнуў на яе. Яна з адкрытым ротам і слязінкамі на носе і шчацэ, у роспачы пазірала на яго. Яму шкада стала яе.

«Так, я мучаю іх,— падумаў ён.— Ім шкада, але ім лепей будзе, калі я памру». Ён хацеў сказаць гэта, але не меў сілы вымавіць. «Зрэшты, навошта гаварыць, трэба зрабіць»,— падумаў ён. Ён паказаў жонцы вачмі на сына і сказаў:

— Выведзі... шкада... і цябе...— Ён хацеў сказаць яшчэ «прабач», але сказаў «прапусці», і, не маючы ўжо сілы паправіцца, махнуў рукою, ведаў, што зразумее той, каму трэба.

І раптам ён зразумеў, што тое, што мучыла яго і не выходзіла, што раптам усё выходзіць адразу, і з двух бакоў, з дзесяці бакоў, з усіх бакоў. Шкада іх, трэба зрабіць, каб ім не было балюча. Па-

збавіць іх і самому пазбавіцца ад гэтых пакут. «Як хораша і як проста,— падумаў ён.— А боль? — спытаў ён у сябе.— Яго куды? Ну, дзе ты, боль?»

Ён стаў прыслухоўвацца.

«Так, вось ён. Ну што ж, няхай боль».

«А смерць? Дзе яна?»

Ён шукаў свайго ранейшага прывычнага страху смерці і не знаходзіў яго. Дзе яна? Якая смерць? Страху ніякага не было, таму што і смерці не было.

Замест смерці было святло.

— Дык вось што! — раптам уголас вымавіў ён.— Якая радасць!

Для яго ўсё гэта адбылося ў адно імгненне, і значэнне гэтага імгнення ўжо не мянялася. Для прысутных жа агонія яго працягвалася яшчэ гадзіны дзве. У ягоных грудзях клекатала штосьці; знясіленае цела ягонае ўздрыгвала. Потым радзей і радзей стала клекатанне і храпенне.

— Канец! — сказаў хтосьці над ім.

Ён пачуў гэтыя словы і паўтарыў іх у сваёй душы. «Скончылася смерць,— сказаў ён сабе.— Яе няма болей».

Ён уцягнуў у сябе паветра, спыніўся на палове ўздыху, выпрастаўся і памёр.

# КРЭЙЦАРАВА САНАТА



«А я кажу вам, што кожны, хто пазірае на жанчыну з пажадлівасцю, ужо пралюбадзейнічаў з ёю ў сэрцы сваім».

*(Матфея V, 28).*

«Кажуць яму вучні ягоныя: калі такі абавязак чалавека да жонкі, дык лепей не жаніцца.

Ён жа сказаў ім: не ўсе ўмяшчаюць слова гэтае: але каму дадзена.

Бо ёсць скапцы, якія з матчынага лона нарадзіліся гэтак, і ёсць скапцы, якія зрабілі сябе самі скапцамі для царства нябеснага. Хто можа ўмясціць, няхай умесціць».

*(Матфея XIX, 10, 11, 12).*

## I

Гэта было напрадвесні. Мы ехалі другія суткі. У вагон заходзілі і выходзілі падарожнікі на кароткія адлегласці, але трое ехалі, гэтак жа як і я, ад самага месца адыходу цягніка: непрыгожая і немаладая кабета, курэц, са змардаваным тварам, у напаўмужчынскім паліто і шапачцы; яе знаёмы, гаваркі чалавек гадоў пад сорак, з акуратнымі новымі рэчамі; і яшчэ невялікага росту пан з парывістымі рухамі, яшчэ не стары, але з рана пасівелымі кучаравымі валасамі і з незвычайна бліскучымі вачмі, якія шпарка перабягалі з рэчы

на рэч; гэты трымаўся асобна. Ён быў апрануты ў старое ад дарагога краўца паліто з баранковым каўняром і высокую баранковую шапку. Пад паліто, калі ён расшпільваўся, відаць была паддзёўка і руская вышываная кашуля. Асаблівасць гэтага пана была яшчэ ў тым, што ён зрэдку абзываўся дзіўнымі гукамі, якія былі падобны да адкашлівання ці да пачатага і абарванага смеху.

Пан гэты за ўвесь час падарожжа старанна пазбягаў размоў і знаёмства з пасажырамі. На звароты да яго суседзей ён адказваў коратка і рэзка і ці чытаў, ці, пазіраючы ў акно, курыў, ці, выцягнуўшы са свайго старога меха харчы, піў чай, або закусваў.

Мне здавалася, што ён адчуваў цяжар свайго адзіноцтва, і я колькі разоў хацеў загаварыць з ім, але кожны раз, як толькі вочы нашы сустракаліся, што здаралася часта, бо мы сядзелі наўскасы адзін насупраць аднаго, ён адварочваўся і браўся за кнігу ці глядзеў у акно.

У часе прыпынку, адвячоркам на другі дзень, на вялікай станцыі нервовы пан гэты схадзіў па гарачую ваду і згатаваў сабе чай. Пан жа з акуратнымі новымі рэчамі, адвакат, як я пазней даведаўся, са сваёю суседкаю, кабетаю ў напаўмужчынскім паліто, пайшоў піць чай на станцыю.

За час адсутнасці пана з кабетаю ў вагон зайшло некалькі новых асоб і ў тым ліку высокі голены маршчыністы стары, відаць, купец, у ількавай футры і суконнай шапцы з вялізным брылём. Купец сеў насупраць месца кабеты з адвакатам і адразу ж распачаў гаворку з маладым чалавекам, па выглядзе купецкім прыказчыкам, які зайшоў у вагон таксама на гэтай станцыі.

Я сядзеў наўскасы і, паколькі цягнік стаяў, мог у тыя хвіліны, калі ніхто не праходзіў, чуць

урыўкамі іх размову. Купец аб'явіў спачатку аб тым, што ён едзе ў свой маёнтак, які знаходзіцца непадалёку ад наступнай станцыі; потым, як заўсёды, завялі гаворку спачатку пра цэны, пра гандаль, гаварылі, як заўсёды, пра тое, як Масква цяпер гандлюе, потым загаварылі пра Ніжагародскі кірмаш. Прыказчык стаў расказваць пра папойкі нейкага вядомага абодвум багацея-купца на кірмашы, аднак стары не даў яму дагаварыць і стаў сам расказваць пра былыя папойкі ў Кунавіне, у якіх ён сам удзельнічаў. Ён, відаць, ганарыўся сваім удзелам у іх і з непрыхаванаю радасцю расказваў, як яны разам з гэтым самым знаёмым выкінулі аднойчы п'яныя ў Кунавіне такую штуку, што пра яе трэба было расказаць шэптам і што прыказчык зарагатаў на ўвесь вагон, а стары таксама засмяяўся, ашчэрыўшы два жоўтыя зубы.

Не спадзеючыся пачуць нічога цікавага, я ўстаў, каб пахадзіць па платформе да адыходу цягніка. У дзвярах мне сустрэліся адвакат з кабетаю, якія на хаду пра нешта весела гаварылі.

— Не паспееце,— сказаў мне гаваркі адвакат,— зараз другі званок.

І сапраўды, не паспеў я дайсці да канца вагонаў, як пачуўся званок. Калі я вярнуўся, паміж кабетаю і адвакатам усё яшчэ ішла ажыўленая гутарка. Стары купец моўчкі сядзеў насупраць іх, строга пазіраючы перад сабою і зрэдку няўхвальна жаваў зубамі.

— Потым яна адкрыта аб'явіла свайму мужу,— усміхаючыся, гаварыў адвакат у той час, як я праходзіў паўз яго,— што яна не можа ды і не хоча жыць з ім, таму што...

І ён стаў расказваць далей пра нешта, чаго я ўжо не змог разабраць. Услед за мной прайшлі

яшчэ пасажыры, прайшоў кандуктар, забег арцелышчык, і даволі доўга стаяў гоман, праз які не чуваць было гаворкі. Калі ўсё аціхла, і я зноў пачуў адваката, размова, відаць, ад прыватнага выпадку перайшла ўжо на агульныя меркаванні.

Адвакат гаварыў пра тое, як пытанне аб разводзе займала цяпер грамадскую думку ў Еўропе і як у нас усё часцей і часцей здараліся гэткія ж выпадкі. Як толькі адвакат заўважыў, што чуваць адзін ягоны голас, ён спыніў сваю прамову і звярнуўся да старога.

— Даўней гэтага не было, хіба не так? — сказаў ён, прыемна ўсміхаючыся.

Стары хацеў быў штосьці адказаць, але ў гэты час цягнік крануўся, і стары, скінуўшы шапку, пачаў хрысціцца і чытаць шэптам малітву. Адвакат адвёў убок вочы і стаў пачціва чакаць. Скончыўшы сваю малітву і тройчы перахрысціўшыся, стары роўна і глыбока надзеў сваю шапку, паправіўся на месцы і пачаў гаварыць.

— Было, васпан, і раней, толькі меней,— сказаў ён.— Па цяперашнім часе нельга гэтаму не быць. Дужа адукаваныя парабіліся.

Цягнік, набіраючы ўсё большую хуткасць, грукатаў на стыках, і мне цяжка было ўчуць, а цікава было, і я перасеў бліжэй. Сусед мой, нервовы пан з бліскучымі вачмі, мусіць, таксама зацікавіўся і, не ўстаючы з месца, прыслухоўваўся.

— Чым жа кепска мець адукацыю? — ледзь прыкметна ўсміхаючыся, сказала кабета.— Няўжо лепей гэтак жаніцца, як даўней, калі жаніх і нявеста і не бачылі нават адно аднаго? — гаварыла яна далей, па звычцы многіх кабет адказваючы не на словы свайго субяседніка, а на тыя словы, якія яна думала, што ён скажа.— Не ведалі, ці кахаюць, а ішлі за каго выпадзе і ўсё

жыццё пакутавалі; дык па-вашаму гэтак лепей?— казала яна, мусіць, звяртаючы сваю прамову да мяне і да адваката, але менш за ўсё да старога, з якім размаўляла.

— Дужа адукаваныя парабіліся,— паўтарыў купец, пагардліва пазіраючы на кабету і пакідаючы яе пытанне без адказу.

— Хацелася б ведаць, як вы тлумачыце сувязь паміж адукацыяй і нязгодаю ў шлюбным жыцці,— ледзь прыкметна ўсміхаючыся, сказаў адвакат.

Купец штосьці хацеў быў сказаць, аднак кабета перапыніла яго.

— Не, гэты час прайшоў ужо,— сказала яна. Але адвакат спыніў яе:

— Не, дазвольце ім выказаць сваю думку.

— Дурнота ад адукацыі,— рашуча сказаў стары.

— Жэняць такіх, якія не кахаюць адно аднаго, а потым здзіўляюцца, што жывуць у нязгодзе,— спяшалася гаварыць кабета, пазіраючы на адваката і на мяне і нават на прыказчыка, які ўстаў са свайго месца і, адкінуўшыся на спінку, усміхаючыся, прыслухоўваўся да размовы.— Гэта ж толькі жывёлін можна спарваць, як гаспадар захоча, а людзі маюць свае схільнасці, сімпатыі,— гаварыла яна, мусіць, жадаючы ўкалоць купца.

— Дарэмна так гаворыце, васпані,— сказаў стары,— жывёла зусім іншае, а чалавек жыве па законе.

— Як жа тады жыць з чалавекам, калі кахання няма? — усё спяшалася кабета выказаць свае меркаванні, якія, відаць, здаваліся ёй вельмі новымі.

— Раней пра гэта не думалі,— унушальным тонам сказаў стары,— цяпер толькі завялося гэ-

та. Як толькі што, яна адразу і кажа: «Я ад цябе пайду». У мужыкоў нават гэткая мода завялася. «На, кажа, вось твае кашулі і порткі, а я пайду з Ванькам, ён больш кучаравы за цябе». Вось тут і кажы. А ў жанчыны перш за ўсё страх павінен быць.

Прыказчык паглядзеў і на адваката, і на кабету, і на мяне, стрымліваючы ўсмешку, ён, відаць, гатовы быў і абсмяяць і ўхваліць прамову купца, мяркуючы па тым, як яна будзе ўспрынята.

— Які ж гэта страх? — сказала кабета.

— А такі: ды баіцца свайго му-у-ужа! Вось які страх.

— Ну, гэты час, бацюхна, прайшоў,— з незахаванаю зласлівасцю сказала кабета.

— Не, васпані, гэты час прайсці не мoжа. Як была яна, Ева, жанчына, з мужнінай рабрыны створана, дык і астанецца да скончэння веку,— сказаў стары, гэтак строга і пераможна трасянуўшы галавою, што прыказчык адразу ж вырашыў, што перамога на баку купца, і гучна засмяяўся.

— Гэта вы, мужчыны, так разважаеце,— казала кабета, не здаючыся і пазіраючы на нас,— самі сабе далі свабоду, а жанчыну хочаце ў цераме трымаць. Самі нябось сабе ўсё дазваляеце.

— Дазволу ніхто не дае, а толькі што ад мужчыны ў доме нічога не прыбудзе, а жанчына-жонка — лядаштая пасудзіна,— працягваў пераконваць купец.

Паважнасць купецкіх інтанацый, відаць, перамагала слухачоў, і кабета нават адчувала сябе прыгнечанай, хаця ўсё яшчэ не здавалася.

— Так, але, я думаю, вы згодзіцеся, што жанчына — чалавек, і мае пачуцці, як і мужчына. Ну што ёй рабіць, калі яна не кахае мужа?

— Не кахае! — грозна паўтарыў купец, варухнуўшы бровамі і губамі.— Нічога, пакахае!

Гэты нечаканы аргумент асабліва спадабаўся прыказчыку, і ён абазваўся ўхвальным гукам.

— Ды не, не пакахае,— загаварыла кабета,— а калі няма кахання, дык і не змусіш.

— Ну, а калі жонка здрадзіць мужу, тады як? — спытаў адвакат.

— Гэта недапушчальна,— сказаў стары,— за гэтым сачыць трэба.

— А як здарыцца, тады як? Бывае ж.

— У каго бывае, а ў нас не бывае,— сказаў стары.

Усе памаўчалі. Прыказчык паварушыўся, яшчэ падсунуўся і, мабыць, не жадаючы адстаць ад іншых, усміхаючыся, пачаў:

— Так, так, вось у нашага малойца таксама скандал атрымаўся. Таксама разабрацца дужа цяжка. Таксама трапілася гэткая ж жанчына распутная. І пайшла маляваць. А хлапчына паважны, талковы. Спачатку з канторшчыкам. Угаворваў ён таксама дабром. Не сунялася. Рознае паскудства рабіла. Грошы ягоныя пачала красці. І лупцаваў ён яе. Нічога не памагала. З нехрысцем, з яўрэем, прабачце, завяла шашні. Што ж яму рабіць? Кінуў яе зусім. Гэтак і жыве халасты, а яна сланяецца.

— Таму ён дурань,— сказаў стары.— Каб ён з самага пачатку не даў ёй ходу, а пытлю добрага даў, жыла б нябось. Волі трэба не даваць адразу. Не вер каню ў полі, а жонцы дома.

У гэты час прыйшоў кандуктар пытаць білеты да бліжэйшае станцыі. Стары аддаў свой білет.

— Так, так, загадзя ўкарочваць трэба жаночы пол, а то ўсё загіне.

— Аднак жа вы самі зараз расказвалі, як жа-

натыя людзі на кірмашы ў Кунавіне весяляцца? — сказаў я, не вытрымаўшы.

— Гэта іншая справа,— сказаў купец і змоўк.

Калі пачуўся званок, купец устаў, выцягнуў з-пад лаўкі мех, захінуўся і, прыўзняўшы шапку, выйшаў на тормаз.

## II

Толькі стары пайшоў, адразу ўсчалася гамана ў некалькі галасоў.

— Старога запавету татуля,— сказаў прыказчык.

— Вось вам Дамастрой жывы,— сказала кабета.— Якое дзікае разуменне жанчыны і шлюбу!

— Так, так, далёкія мы ад еўрапейскага погляду на шлюб,— сказаў адвакат.

— Галоўнае ж тое, чаго не разумеюць такія людзі,— сказала кабета,— гэта тое, што шлюб без кахання не ёсць шлюб, што толькі каханне асвячае шлюб і што шлюб сапраўдны толькі той, які асвячае каханне.

Прыказчык слухаў і ўсміхаўся, хацеў, відаць, запомніць для ўжывання як мага болей з разумных размоў.

У сярэдзіне прамовы кабеты ў мяне ззаду пачуўся гук як бы перапыненага смеху ці рыдання, і, азірнуўшыся, мы ўбачылі майго суседа, сівога адзінокага пана з бліскучымі вачмі, які ў часе размовы, цікавай для яго, непрыкметна падышоў да нас. Ён стаяў, паклаўшы рукі на спінку сядзення, і, мусіць, дужа хваляваўся: твар ягоны быў чырвоны, і на шчацэ ўздрыгваў мускул.

— Якое ж гэта каханне... каханне... каханне... асвячае шлюб? — сказаў ён, запінаючыся.

Убачыўшы, як хвалюецца субяседнік, кабета пастаралася адказаць яму як мага мякчэй і больш зразумела.

— Сапраўднае каханне... Гэтае каханне ёсць паміж мужчынам і жанчынаю, магчымы і шлюб,— сказала кабета.

— Так, так, але што разумець пад сапраўдным каханнем? — сарамліва ўсміхаючыся, сказаў пан з бліскучымі вачмі.

— Кожны ведае, што такое каханне,— сказала кабета, відаць, жадаючы спыніць з ім размову.

— А я не ведаю,— сказаў пан.— Трэба вызначыць, што вы маеце на ўвазе...

— Як? вельмі проста,— сказала кабета, аднак задумалася.— Каханне ёсць выключная перавага аднаго або аднае перад усімі астатнімі,— сказала яна.

— Перавага на які час? На месяц? На два дні, на паўгадзіны? — спытаў сівы пан і засмяяўся.

— Дазвольце, вы, мабыць, не пра тое гаворыце.

— Не, я пра тое самае.

— Яны кажуць,— заступіўся адвакат, паказваючы на кабету,— што шлюб павінен вынікаць, па-першае, з сімпатыі, кахання, калі хочаце, і калі яно ёсць у наяўнасці, дык толькі ў гэтым выпадку шлюб уяўляе, як кажуць, штосьці святое. Потым, што кожны шлюб, у аснове якога не ляжаць натуральныя сімпатыі — каханне, калі хочаце,— не нясе ў сабе нічога маральна-абавязковага. Ці гэтак я разумею? — звярнуўся ён да кабеты.

Кабета рухам галавы пагадзілася з растлумачэннем свае думкі.

— Затым...— адвакат хацеў быў яшчэ нешта сказаць, але нервовы пан з вачмі, якія цяпер ужо

гарэлі агнём, відаць, не змог стрымаць сябе і, перапыніўшы адваката, пачаў:

— Не, я пра тое ж самае, пра перавагу аднаго або аднае перад усімі іншымі, але я толькі хачу ведаць: перавагу на які час?

— На які час? На доўгі, на ўсё жыццё іншы раз,— сказала кабета, паціскаючы плячыма.

— Але гэта толькі ў раманах, а ў жыцці ніколі. У жыцці бывае гэтая перавага аднаго перад адным на гады, што вельмі рэдка, часцей на месяцы, а то і на тыдні, на дні, на гадзіны,— казаў ён, відаць, мяркуючы, што ён здзіўляе ўсіх сваімі вывадамі, і здаволены гэтым.

— Ах, што вы! Не, не. Не, дазвольце,— у адзін голас загаварылі мы ўсе трое. Нават прыказчык абазваўся нейкім няўхвальным гукам.

— Так, так, я ведаю,— гучней за ўсіх крычаў сівы пан,— вы гаворыце пра тое, што можа быць у жыцці, а я кажу пра тое, што ёсць. Кожны мужчына адчувае тое, што вы называеце каханнем, да ўсіх прыгожых жанчын.

— Ах, гэта жахліва, што вы гаворыце; існуе ж паміж людзьмі пачуццё, якое называецца каханнем і якое даецца не на месяцы і гады, а на ўсё жыццё?

— Не, няма. Калі нават дапусціць, што мужчына і аддаў бы перавагу пэўнай жанчыне на ўсё жыццё, дык тады б жанчына аддала перавагу іншаму, і гэтак заўсёды было і ёсць на свеце,— сказаў ён, узяў папяросніцу і стаў закурваць.

— Аднак можа быць і ўзаемнасць,— сказаў адвакат.

— Не, не можа быць,— запярэчыў ён,— гэтак жа як не можа быць, што на возе з гарохам дзве гарошыны ляглі б побач. Ды апрача таго, тут не неверагоднасць адна, тут, мусіць, пе́расыць. Ка-

хаць усё жыццё адну ці аднаго — гэта ўсё роўна, што сказаць, што адна свечка будзе гарэць усё жыццё,— гаварыў ён, прагна зацягваючыся.

— Але вы ўсё гаворыце пра плоцевае каханне. Хіба вы не дапускаеце кахання, якое было б адзінствам ідэалаў, духоўнай роднасцю? — сказала кабета.

— Духоўная роднасць! Адзінства ідэалаў! — паўтарыў ён, абазваўшыся сваім гукам.— Але ў такім разе не трэба спаць разам (прабачце за грубасць). А то ў выніку адзінства ідэалаў людзі кладуцца спаць разам,— сказаў ён і нервова засмяяўся.

— Аднак дазвольце,— сказаў адвакат,— факт пярэчыць таму, што вы гаворыце. Мы бачым, што сямейныя пары існуюць, што ўсё чалавецтва ці большасць яго жыве шлюбным жыццём і шмат хто сумленна пражывае доўгае сумеснае жыццё.

Сівы пан зноў засмяяўся.

— То вы гаворыце, што шлюб грунтуецца на каханні, калі ж я выказваю сумненне ў існаванні кахання, апрача пажадлівага, вы мне даводзіце існаванне кахання тым, што існуюць шлюбы. Ды шлюб у наш час адно ашуканства!

— Не, не, дазвольце,— сказаў адвакат,— я кажу толькі, што існавалі і існуюць шлюбы.

— Існуюць. Але чаму яны існуюць? Яны існавалі і існуюць у тых людзей, якія ў шлюбе бачаць штось таямнічае, таінства, якое абавязвае перад богам. У тых яны існуюць, а ў нас іх няма. У нас людзі жэняцца і не бачаць у шлюбе нічога, апрача савакуплення, і атрымліваецца ці ашуканства, ці гвалт. Калі ашуканства, дык гэта лягчэй церпіцца. Муж з жонкаю толькі ўводзяць у зман людзей, нібыта яны ў аднашлюбнасці, а жывуць у мнагажэнстве і ў мнагамужжы. Гэта брыдка, але

яшчэ нічога; але калі, як гэта часцей за ўсё бывае, муж і жонка ўзялі на сябе знешняе абавязацельства жыць разам усё жыццё, а ўжо праз месяц ненавідзяць адно аднаго, хочуць разысціся і ўсё ж жывуць, тады гэта ўжо тое страшнае пекла, у якім співаюцца, страляюцца, забіваюць і атручваюць сябе і адно аднаго,— гаварыў ён усё шпарчэй, не даючы нікому ўставіць слова і ўсё больш распаляючыся. Усе маўчалі. Было няёмка.

— Так, несумненна, бываюць крытычныя эпізоды ў шлюбным жыцці,— сказаў адвакат, жадаючы спыніць непрыстойна гарачую размову.

— Вы, як бачу я, пазналі мяне? — ціха і як быццам спакойна сказаў сівы пан.

— Не, я не маю гонару.

— Гонар невялікі. Я Познышаў, той, з якім здарыўся той самы крытычны эпізод, на які вы намякаеце, той эпізод, што ён жонку забіў,— сказаў ён, таропка аглядаючы кожнага з нас.

Ніхто не ведаў, што сказаць, і ўсе маўчалі.

— Ну, усё роўна,— сказаў ён, абзываючыся сваім гукам.— Зрэшты, прабачце! А!.. не буду турбаваць вас.

— Ды што там, даруйце...— сам не ведаючы, што «даруйце», сказаў адвакат.

Але Познышаў, не слухаючы яго, хуценька павярнуўся і пайшоў на сваё месца. Пан з кабетаю шапталіся. Я сядзеў побач з Познышавым і маўчаў, бо не ведаў, што сказаць. Чытаць было цёмна, і таму я заплюшчыў вочы і прыкінуўся, што хачу заснуць. Гэтак мы і праехалі моўчкі да наступнае станцыі.

На станцыі гэты пан з кабетаю перайшлі ў суседні вагон, аб чым яны яшчэ раней дамовіліся з кандуктарам. Прыказчык уладкаваўся на лавач-

цы і заснуў. Познышаў усё курыў і піў загатаваны яшчэ на той станцыі чай.

Калі я расплюшчыў вочы і зірнуў на яго, ён раптам з рашучым і злосным выглядам звярнуўся да мяне:

— Вам, можа, непрыемна сядзець са мною, бо вы ведаеце, хто я? Тады я пайду.

— Не, не, даруйце.

— Ну, тады можа хочаце? Толькі моцны.— Ён наліў мне чаю.

— Яны гавораць... І ўсё хлусяць...— сказаў ён.

— Вы гэта пра што? — спытаў я.

— Ды ўсё пра тое ж: пра каханне іхняе і пра тое, што гэта такое. Вы не хочаце спаць?

— Зусім не хачу.

— Калі хочаце, я вам раскажу, як мяне гэтае каханне прывяло да таго, што са мною было.

— Так, калі вам не цяжка.

— Не, мне цяжка маўчаць. Піце ж чай. Ці задужа моцны?

Чай сапраўды быў як піва, але я выпіў шклянку. У гэты час паказаўся кандуктар. Ён правёў яго моўчкі злоснымі вачыма і пачаў толькі тады, калі той пайшоў.

## III

— Ну, дык я раскажу вам... Але вы сапраўды хочаце?

Я паўтарыў, што вельмі хачу. Ён памаўчаў, пацёр рукамі твар і пачаў:

— Калі расказваць, то трэба расказаць усё ад пачатку: трэба расказаць, як і чаго я ажаніўся і які я быў да жаніцьбы.

Жыў я да жаніцьбы, як жывуць усе, гэта значыць, у нашым асяроддзі. Я памешчык і кандыдат універсітэта і быў маршалкам. Жыў да жа-

ніцьбы, як усе жывуць, гэта значыць, распусна, і, як усе людзі нашага асяроддзя, жывучы распусна, быў упэўнены, што я жыву як трэба. Пра сябе я думаў, што я мілёнак, што я зусім маральны чалавек. Я не быў спакуснік, не меў ненатуральных густаў, не рабіў з гэтага галоўнай мэты жыцця, як гэта рабілі многія мае равеснікі, а аддаваўся распусце паважна, прыстойна, для здароўя. Я пазбягаў тых жанчын, якія нараджэннем дзіцяці або прыхільнасцю маглі б звязаць мяне. Зрэшты, магчыма і дзеці былі і прыхільнасць была, але я рабіў, як быццам іх не было. І вось гэта я лічыў не толькі маральным, але я ганарыўся гэтым.

Ён спыніўся, азваўся сваім гукам, як ён рабіў заўсёды, калі да яго прыходзіла, відаць, новая думка.

— А ў гэтым якраз галоўная поскудзь,— выгукнуў ён.— Распуста ж не ў чымсьці фізічным, бо ніякая агіднасць фізічная не распуста; а распуста, сапраўдная распуста менавіта ў вызваленні сябе ад маральных адносін да жанчыны, з якою ўваходзіш у фізічную сувязь. А гэта вызваленне я і ставіў сабе ў заслугу. Памятаю, як я пакутаваў аднойчы, калі не паспеў заплаціць жанчыне, якая, відаць, пакахаўшы мяне, аддалася мне. Я супакоіўся толькі тады, калі паслаў ёй грошы і гэтым паказаў, што я маральна нічым не лічу сябе звязаным з ёю. Вы неківайце галавою, як быццам вы згодны са мною,— раптам крыкнуў ён на мяне.— Я ведаю гэтую штуку. Вы ўсе, і вы, вы, у лепшым выпадку, калі вы не рэдкае выключэнне, вы тых жа поглядаў, якіх і я быў. Але ўсё роўна, вы даруйце мне,— гаварыў ён далей,— справа ж у тым, што гэта жахліва, жахліва, жахліва!

— Што жахліва? — спытаў я.

— Тая бездань памылак, у якое мы жывем адносна жанчын і адносін да іх. Так, так, не магу спакойна гаварыць пра гэта, і не таму, што са мною здарыўся гэты эпізод, як ён казаў, а таму, што з тае пары, як здарыўся са мною гэты эпізод, у мяне адкрыліся вочы, і я ўбачыў усё зусім у іншым святле. Усё навыварат, усё навыварат!..

Ён закурыў папяроску і, узлакаціўшыся на свае калені, пачаў гаварыць.

У мораку мне не відаць было ягонага твару, толькі чуваць быў праз вагонны бразгат яго паважны і прыемны голас.

## IV

— Так, так, толькі перамучыўшыся, як я перамучыўся, толькі дзякуючы гэтаму я зразумеў, дзе корань усяго, зразумеў, што павінна быць, і таму ўбачыў увесь жах таго, што ёсць.

Дык паглядзіце, калі ласка, як і калі пачалося тое, што прывяло мяне да майго эпізоду. Пачалося гэта тады, калі мне было шаснаццаць гадоў. Здарылася гэта, калі я быў яшчэ ў гімназіі, а брат мой старэйшы быў студэнтам першага курса. Я не спазнаў яшчэ жанчын, але я, як і ўсе няшчасныя дзеці нашага асяроддзя, ужо не быў наіўны хлопчык: ужо другі год я быў разбэшчаны хлапчукамі; ужо жанчына не якая-небудзь, а жанчына, як штосьці салодкае, жанчына, любая жанчына, яе голае цела ўжо мучыла мяне. Адасабленні мае былі нячыстыя. Я пакутаваў, як пакутуюць 0,99 нашых хлопчыкаў. Я жахаўся, я мучыўся, я маліўся і падаў. Я ўжо быў разбэшчаны ў душы і ў сапраўднасці, аднак апошні крок яшчэ не быў зроблены мною. Я гінуў адзін, але яшчэ не накла-

даў рук на іншую чалавечую істоту. І вось таварыш брата, студэнт, весялун, як кажуць, добры хлапчына, а больш дакладна, самы вялікі мярзотнік, які навучыў нас і піць і ў карты гуляць, угаварыў пасля папойкі ехаць туды. Мы паехалі. Брат таксама яшчэ быў цнатлівы і паў у тую ж ноч. І я, пятнаццацігадовы хлапчук, апаганіў сябе самога і садзейнічаў таму, што апаганіў і жанчыну, зусім не разумеючы таго, што я рабіў. Я ні ад кога ад старэйшых не чуў, каб тое, што я рабіў, было брыдка. Ды і цяпер ніхто не пачуе. Праўда, аб гэтым ёсць у запаведзі, але ж запаведзі патрэбны для таго толькі, каб адказваць на экзамене бацюшку, ды і то не дужа патрэбны, зусім не так, як запаведзь аб ужыванні ut ва ўмоўных сказах.

Гэтак жа і ад старэйшых людзей, думкі якіх я паважаў, я ні ад кога не чуў, каб гэта было брыдка. Наадварот, я чуў ад людзей, якіх я паважаў, што гэта было добра. Я чуў, што мае сумненні і пакуты суцішацца пасля гэтага, я чуў пра гэта і чытаў, чуў ад старэйшых, што для здароўя гэта будзе добра; ад сяброў жа чуў, што ў гэтым ёсць нават пэўная заслуга, маладзецтва. Так што наогул, апрача добрага, у гэтым нічога не было. Небяспека хвароб? Але і яна прадугледжана. Папячыцельны ўрад клапоціцца аб гэтым. Ён сочыць за правільнай дзейнасцю публічных дамоў і забяспечвае распусту для гімназістаў. І дактары за плату сочаць за гэтым. Гэтак і трэба. Яны сцвярджаюць, што распуста бывае карысная для здароўя, яны ж і ўводзяць правільную, акуратную распусту. Я ведаю матак, якія клапоцяцца ў гэтым сэнсе пра здароўе сыноў. І навука пасылае іх у публічныя дамы.

— Чаму навука? — сказаў я.

— А хто ж тады дактары? Жрацы навукі.

Хто разбэшчвае юнакоў, сцвярджаючы, што гэта трэба для здароўя? Яны. А пасля з жахліваю важнасцю лечаць сіфіліс.

— А чаму б і не лячыць сіфілісу?

— А таму, што каб 0,01 тых намаганняў, якія скіраваны на лячэнне сіфілісу, былі скіраваны на выкараненне распусты, сіфілісу даўно не было б і ў паміне. А то намаганні скіраваны не на выкараненне распусты, а на заахвочванне яе, на забеспячэнне бяспекі распусты. Аднак не ў тым справа. Справа ў тым, што са мною ды і ■ 0,9, калі не болей, не толькі нашага саслоўя, а ўсіх, нават сялян, здарылася тая жахлівая справа, што я паў не таму, што я падпаў пад натуральную спакусу красы пэўнай жанчыны. Не, ніякая жанчына не спакусіла мяне, а я паў таму, што навакольнае асяроддзе бачыла ў тым, што з'яўлялася падзеннем, адны — самы законны і карысны для здароўя акт, другія — самую натуральную і не толькі даравальную, але нават бязвінную забаўку для маладога чалавека. Я і не разумеў, што тут мае месца падзенне, я проста пачаў аддавацца тым часткова радасцям, часткова патрэбам, якія характэрны, як мяне пераканалі, вядомаму ўзросту, пачаў аддавацца гэтай распусце, як я пачаў піць, курыць. І ўсё ж у гэтым першым падзенні было штосьць незвычайнае і зварушлівае. Памятаю, мне адразу ж там, у пакоі, зрабілася смутна, смутна, ажно плакаць хацелася, плакаць аб пагібелі свае цнатлівасці, аб назаўжды загубленых адносінах да жанчыны. Так, простыя, натуральныя адносіны да жанчыны былі загублены навекі. Чыстых адносін да жанчыны з тае пары ў мяне ўжо не было і не магло быць. Я зрабіўся тым, каго называюць распуснікам. А быць распуснікам — гэта фізічны стан, які нагадвае стан марфі-

ніста, п'яніцы, курца. Як марфініст, п'яніца, курэц ужо не нармальны чалавек, гэтак і чалавек, які спазнаў некалькіх жанчын для свае ўцехі, ужо не нармальны, а сапсаваны назаўсёды чалавек — распуснік. Як п'яніцу і марфініста можна адразу ж пазнаць па твары, па жэстах, дакладна гэтак жа і распусніка. Распуснік можа стрымліваць сябе, змагацца; аднак простых, шчырых, чыстых адносін да жанчыны, брацкага, у яго ўжо ніколі не будзе. Па тым, як ён зірне, агледзіць маладую жанчыну, адразу можна пазнаць распусніка. І я зрабіўся распуснікам іastaўся ім, а гэта і загубіла мяне.

## V

— Так, так. Потым пайшло далей, далей, былі рознага роду адхіленні. Бог ты мой! як успомню я ўсе свае агіднасці ў гэтых адносінах, жах бярэ! Пра сябе, з якога сябры смяяліся за маю так званую цнатлівасць, я гэтак успамінаю. А як пачуеш пра залатую моладзь, пра афіцэраў, пра парыжан! І ўсе гэтыя паны і я, калі мы, бывала, трыццацігадовыя распуснікі, якія мелі на душы сотні самых разнастайных жахлівых злачынстваў адносна жанчын, калі мы, трыццацігадовыя распуснікі, заходзім чыста-начыста вымытыя, паголеныя, надушаныя, у чыстай бялізне, у фраку або ў мундзіры ў гасцінную ці на баль — эмблема чысціні — краса!

Вы толькі падумайце, што павінна было б быць і што ёсць. Павінна было б быць тое, што, калі ў кампанію да мае сястры, дачкі падыдзе такі пан, я, ведаючы ягонае жыццё, павінен падысці да яго, адвесці ўбок і ціха сказаць: «Галубок, я ведаю, як ты жывеш, як бавіш ночы і з кім.

Табе тут не месца. Тут чыстыя, добрыя дзяўчаты. Ідзі адсюль!» Гэтак павінна было б быць; а ёсць тое, што, калі такі пан прыходзіць і танцуе, абдымаючы яе, з маёю сястрою, дачкою, мы радуемся, калі ён багаты і з сувязямі. А можа, ён удастоіць пасля Рыгальбош і маю дачку. Калі нават і асталіся сляды, нездароўе,— нічога. Цяпер добра лечаць. Як жа, я ведаю, некалькі з вышэйшага свету дзяўчат аддадзены бацькамі з радасцю за сіфілітыкаў. О! о поскудзь! Але пройдзе час, калі ўся гэтая поскудзь і хлусня будзе выкрыта!

І ён колькі разоў азваўся сваім дзіўным гукам і стаў піць чай. Чай быў страшэнна моцны, не было вады, каб яго разбавіць. Я адчуваў, што мяне хвалявалі асабліва выпітыя мною дзве шклянкі. Відаць, і на яго дзейнічаў чай, таму што ён рабіўся ўсё больш і больш узбуджаны. Голас ягоны рабіўся ўсё больш і больш пявучы і выразны. Ён бесперастанна мяняў паставу, то здымаў шапку, то надзяваў яе, і твар ягоны дзіўна мяняўся ў тым прыцемку, у якім мы сядзелі.

— Ну, вось гэтак я і жыў да трыццаці гадоў, ні на хвіліну не пакідаючы намеру ажаніцца і наладзіць сабе самае ўзвышанае, чыстае сямейнае жыццё, і з гэтаю мэтаю прыглядаўся да адпаведнай для такое мэты дзяўчыны,— расказваў ён далей.— Я калупаўся ў гнаі разбэшчанасці і разам з тым паглядаў на дзяўчат, якія б па сваёй чысціні былі варты мяне. Многіх я забракоўваў менавіта таму, што яны былі недастаткова чыстыя для мяне; нарэшце я знайшоў такую, якую палічыў вартай сябе. Гэта была адна з дзвюх дачок некалі вельмі багатага, але збяднелага пензенскага памешчыка.

Неяк увечары, пасля таго як мы пакаталіся на лодцы і ўночы, пры месячным святле, вярталіся

дадому і я сядзеў побач з ёю і любаваўся яе стройнай постаццю, абцягнутай джэрсі, і яе кудзеркамі, я раптам вырашыў, што гэта яна. Мне здалося ў гэты вечар, што яна разумее ўсё, усё, што я адчуваю і думаю, а што адчуваю я і думаю пра самыя ўзнёслыя рэчы. Па сутнасці ж было толькі тое, што джэрсі ішло ёй асабліва да твару, гэтак жа і кудзеркі, і што пасля праведзенага разам з ёю дня захацелася яшчэ большае блізкасці.

Дзіўная рэч, якая поўная бывае ілюзія таго, што прыгажосць ёсць дабро. Прыгожая жанчына кажа глупства, ты слухаеш і не бачыш глупства, а заўважаеш разумнае. Яна гаворыць, робіць гадасці, а ты бачыш штосьці мілае. Калі ж яна не гаворыць ні глупства, ні гадасцей, а прыгожая, дык адразу пераконваешся, што яна выключна разумная і маральная.

Я вярнуўся шчаслівы дадому і вырашыў, што яна сама маральная дасканаласць і што менавіта таму яна варта быць маёю жонкай, і на наступны дзень зрабіў прапанову.

І што гэта за блытаніна! З тысячы мужчын, якія жэняцца, не толькі ў нашым асяроддзі, але, на жаль, і ў народзе, наўрад ці ёсць адзін, які б не быў жанаты ўжо разоў дзесяць, а то і сто або тысячу, як Дон-Жуан, раней шлюбу. (Ёсць цяпер, праўда, я чую і бачу, маладыя людзі чыстыя, якія адчуваюць і разумеюць, што гэта не дробязь, а вялікая справа. Памажы ім бог! Але ў мой час не было ніводнага такога на дзесяць тысяч.) І ўсе ведаюць пра гэта і прыкідваюцца, што не ведаюць. Ва ўсіх раманах да дробязей апісаны пачуцці герояў, сажалкі, кусты, ля якіх яны ходзяць; аднак, апісваючы іх вялікае каханне да якой-небудзь дзяўчыны, нічога не пішацца пра тое, што было з ім, з цікавым героем, раней: ні слова пра

ягоныя наведванні дамоў, пра пакаёвак, кухарак, чужых жонак. Калі ж і здараюцца такія непрыстойныя раманы, дык іх не даюць у рукі, галоўнае, тым, каму больш за ўсіх трэба пра гэта ведаць,— дзяўчатам. Спачатку прыкідваюцца перад дзяўчатамі, што тае распусты, якая запаўняе палову жыцця нашых гарадоў і вёсак нават, што гэтае распусты зусім няма. Потым так прывучаюцца да гэтага прытворства, што нарэшце, як англічане, самі пачынаюць шчыра верыць, што мы ўсе маральныя людзі і жывем у маральным свеце. Дзяўчаты ж, тыя, нябогі, вераць у гэта зусім сур'ёзна. Гэтак жа верыла і мая няшчасная жонка. Памятаю, як ужо будучы жаніхом, я паказаў ёй свой дзённік, з якога яна магла даведацца хоць крыху пра маё мінулае, галоўнае — пра апошнюю сувязь, якая была ў мяне, і пра якую яна магла даведацца ад іншых і пра якую я таму і адчуваў патрэбу расказаць ёй. Памятаю яе жах, роспач і разгубленасць, калі яна дазналася і зразумела. Я бачыў, што яна хацела кінуць мяне тады. І чаго яна не кінула!

Ён азваўся сваім гукам, памаўчаў і адпіў яшчэ глыток чаю.

## VI

— Не, зрэшты гэтак лепш, гэтак лепш! — выгукнуў ён.— Так мне і трэба! Але не ў тым справа. Я хацеў сказаць, што ашуканы тут толькі адны няшчасныя дзяўчаты. Маткі ж ведаюць пра гэта, асабліва маткі, выхаваныя сваімі мужамі, ведаюць пра гэта добра. І прыкідваючыся, што вераць у мужчынскую сумленнасць, яны на справе дзейнічаюць зусім іначай. Яны ведаюць, на якую вуду лавіць мужчын для сябе і для сваіх дачок.

Толькі мы, мужчыны, не ведаем і не ведаем таму, што не хочам ведаць, жанчыны ж ведаюць вельмі добра, што самае ўзнёслае, паэтычнае, як мы яго называем, каханне залежыць не ад маральных вартасцей, а ад фізічнае блізкасці, а таксама прычоскі, колеру, фасону сукенкі. Скажыце вопытнай какетцы, якая паставіла сабе за мэту паланіць чалавека, чым яна хутчэй хоча рызыкаваць: тым, каб быць у прысутнасці таго, каго яна завароджвае, выкрытай у хлусні, жорсткасці, нават распусце, або тым, каб паказацца пры ім у кепска пашытай і непрыгожай сукенцы,— любая заўжды аддасць перавагу першаму. Яна ведае, што наш брат усё хлусіць пра высокія пачуцці — яму патрэбна толькі цела, і таму ён даруе ўсе гадасці, а непрыгожай, безгустоўнай сукенкі не даруе. Какетка ведае гэта ўсвядомлена, а любая наіўная дзяўчына ведае гэта неўсвядомлена, як жывёла.

Адсюль гэтыя джэрсі мярзотныя, гэтыя нашлёпкі на зады, гэтыя голыя плечы, рукі, амаль грудзі. Жанчыны, асабліва тыя, якія прайшлі мужчынскую школу, вельмі добра ведаюць, што размовы пра высокія рэчы — толькі размовы, а што мужчыне патрэбна цела і ўсё тое, што выстаўляе яго ў самым прывабным святле; усё гэта і робіцца. Бо калі адкінуць толькі тую прывычку да гэтае агіднасці, якая зрабілася для нас другою натураю, і зірнуць на жыццё нашых вышэйшых класаў як яно ёсць, з усёю яго бессаромнасцю, дык гэта адзін суцэльны публічны дом. Вы не згодны? Дазвольце, я давяду,— сказаў ён, перапыняючы мяне.— Вы кажаце, што жанчыны ў нашым грамадстве жывуць іншымі інтарэсамі, чым жанчыны ў публічных дамах, а я кажу, што не, і давяду. Калі людзі маюць розныя мэты жыцця, калі яны

розныя па ўнутраным змесце жыцця, то гэтая розніца абавязкова адаб'ецца і на знешнасці, і знешнасць будзе розная. Аднак зірніце на тых, на няшчасных пагарджаных, і на самых вышэйшых свецкіх паняў: тыя ж уборы, тыя ж фасоны, тая ж парфума, тыя ж голыя рукі, плечы, грудзі, тое ж абцягванне выстаўленага заду, тая ж пагоня за каменьчыкамі, дарагімі бліскучымі цацкамі, тымі ж пацехамі танцамі і музыкай, спевамі. Як тыя спакушаюць любымі сродкамі, так і гэтыя. Ніякае розніцы. Строга вызначаючы, трэба толькі сказаць, што прастытуткі на кароткі час — звычайна пагарджаныя, прастытуткі на працяглы час — паважаныя.

## VII

— Дык вось, мяне гэтыя джэрсі, кудзеркі і нашлёпкі і злавілі. Злавіць жа мяне лёгка было, таму што я выхаваны быў у тых умовах, пры якіх, як агуркі на папары, растуць закаханыя маладыя людзі. Бо наша празмерна багатая вострая ежа пры сучаснай фізічнай бяздзейнасці ёсць не што іншае, як сістэматычнае распальванне юру. Здзіўляйцеся не здзіўляйцеся, а гэта так. Я сам гэтага да апошняга часу нічога не бачыў. А цяпер убачыў. Праз гэта я і пакутую, бо ніхто гэтага не ведае, а гавораць такое глупства, як вунь тая пані.

Так, непадалёку ад мяне сёлета вясною працавалі мужыкі на чыгуначным насыпе. Звычайная ежа малога з сялян — хлеб, квас, цыбуля; ён жвавы, бадзёры, здаровы, робіць лёгкую палявую работу. Ён паступае на чыгунку, і харч у яго — каша і адзін фунт мяса. Але затое ён і скідае гэтае мяса на шаснаццацігадзіннае працы з тачкаю ў трыццаць пудоў. І яму якраз гэтак. Ну а мы, якія

з'ядаем па два фунты мяса, дзічыны, выпіваем па-рознага моцнага пітва,— куды гэта ідзе? На пажадлівыя эксцэсы. І калі ідзе туды, выратавальны клапан адкрыты, усё добра, але прыкрыйце клапан, як я прыкрываў яго часова, і адразу ж паяўляецца юрлівасць, якая, праходзячы праз прызму нашага штучнага жыцця, выяўляецца ў закаханасці самае чыстае вады, іншы раз нават у платанічнае. І я закахаўся, як і ўсе іншыя. І ўсё было ў наяўнасці: і захапленні, і замілаванні, і паэзія. Па сутнасці ж гэтае маё каханне было творам, з аднаго боку, дзейнасці маці і краўчых, з другога — лішку страў, якія я паглынаў пры бяздзейным жыцці. Каб не было, з аднаго боку, катанняў на лодках, не было краўчых з таліямі і г. д., а была б мая жонка апранута ў нязграбную капоту і сядзела б яна дома, а я быў бы, з другога боку, у нармальных умовах чалавека, які паглынаў бы столькі страў, колькі трэба для працы, і быў бы ў мяне выратавальны клапан адкрыты,— а то ён выпадкова прыкрыўся неяк на гэты час,— я не закахаўся б, і нічога гэтага не было б.

## VIII

— Ну, а тут гэтак падышло: і мой стан, і адзежа добрая, і катанне на лодках удалося. Дваццаць разоў не ўдавалася, а тут ўдалося. Нібы тая пастка. Я не смяюся. Цяпер жа шлюбы і нагадваюць пасткі. Бо натуральна што? Дзеўка выспела, трэба яе аддаваць. Здаецца, як проста, калі дзеўка не пачвара і ёсць мужчыны, якія хочуць ажаніцца. Гэтак і рабілася некалі. Увайшла ў гады дзяўчына, бацькі наладжвалі вяселле. Гэтак

рабілася, робіцца ва ўсім чалавецтве: у кітайцаў, індзейцаў, магаметан, у нас у народзе; гэтак робіцца ў родзе чалавечым ва ўсякім разе ў 0,99 ягонае часткі. Толькі 0,01 або меней нас, распуснікаў, вырашылі, што гэта нядобра, і прыдумалі новае. Але што новае? А новае тое, што дзяўчаты сядзяць, а мужчыны, як на рынак, ходзяць і выбіраюць. А дзяўчаты чакаюць і думаюць, але не могуць сказаць: «Бацюхна, мяне! не, мяне. Не яе, а мяне: у мяне, зірні, якія плечы і іншае». А мы, мужчыны, пахаджаем, азіраемся на бакі і вельмі здаволены. «Ведаю, маўляў, я не пападуся». Пахаджаюць, азіраюцца на бакі, вельмі здаволены, што для іх усё гэтак уладкавана. Зірк, не ўсцярогся,— плясь, тут і ёсць!

— Як жа тады быць? — сказаў я.— Няўжо жанчыне рабіць прапанову?

— Ды ўжо і не ведаю як, толькі калі роўнасць, дык роўнасць. Калі знайшлі, што сватаўство ўнізіцельна, то ўжо гэта ў тысячу разоў болей. Там права і шанцы роўныя, а тут жанчына ці нявольніца на рынку, ці прынада ў пастку. Скажыце якой-небудзь матулі або самой дзяўчыне праўду, што яна толькі тым і занята, каб лавіць жаніха. Божа, якая крыўда! А яны ж усе толькі гэта і робяць, і болей ім няма чаго рабіць. І што асабліва страшна — гэта бачыць занятых гэтым іншы раз зусім маладзенькіх бедных дзяўчат. І зноў, каб гэта адкрыта рабілася, а то ўсё ашуканства. «Ах, паходжанне відаў, як гэта цікава! Ах, Ліза вельмі цікавіцца жывапісам! А вы будзеце на выстаўцы? Як павучальна! А на тройках, а спектакль, а сімфонія? Ах, як цудоўна! Мая Ліза ў захапленні ад музыкі. А вы чаму не падзяляеце гэтых думак? А на лодках!..» А думка адна: «Вазьмі, вазьмі мяне, маю Лізу! Не,

мяне! Ну, хоць паспрабуй!..» О брыдота! хлусня! — скончыў ён, дапіў апошні чай і ўзяўся прыбіраць посуд.

## IX

— Ды вы ведаеце,— пачаў ён, хаваючы ў мех чай і цукар,— тое панаванне жанчын, праз якое пакутуе свет, усё адбываецца праз гэта.

— Якое панаванне жанчын? — сказаў я.— Правы, прывілеі на баку мужчын.

— Так, так, гэта, гэта самае,— перапыніў ён мяне.— Гэта самае, тое, што я хачу сказаць вам, якраз гэта і тлумачыць тую незвычайную з'яву, што, з аднаго боку, зусім справядліва тое, што жанчына даведзена да самае нізкае ступені ўніжэння, з другога боку — што яна пануе. Дакладна гэтак жа як яўрэі, як яны сваёй грашовай уладай адплачваюць за свой прыгнёт, гэтак і жанчыны. «А, вы хочаце, каб мы былі толькі гандлярамі. Добра, мы, гандляры, завалодаем вамі»,— кажуць яўрэі. «А вы хочаце, каб мы былі толькі пажадлівай рэччу, добра, мы, як пажадлівая рэч, і заняволім вас»,— кажуць жанчыны. Не ў тым адсутнасць правоў жанчыны, што яна не можа вацiраваць ці быць суддзёю — каб займацца гэтымі справамі, не трэба ніякіх правоў,— а ў тым, каб у палавых адносінах быць нароўні з мужчынам, мець права карыстацца мужчынам і ўстрымлівацца ад яго па сваім жаданні, па сваім жаданні выбіраць мужчыну, а не толькі быць выбранай. Вы кажаце, што гэта агідна. Добра. Тады каб і мужчына не меў гэтых правоў. Цяпер жанчына пазбаўлена таго права, якое мае мужчына. І вось, каб кампенсаваць гэтае права, яна дзейнічае на мужчынскую пажадлівасць і праз пажадлівасць ска-

рае яго гэтак, што ён толькі фармальна выбірае, а ў сапраўднасці выбірае яна. А аднойчы, авалодаўшы гэтым сродкам, яна ўжо злоўжывае ім і набывае страшэнную ўладу над людзьмі.

— Ды дзе ж яна гэтая, незвычайная ўлада? — спытаў я.

— Дзе ўлада? Ды ўсюды, ва ўсім. Прайдзіце ў кожным вялікім горадзе па крамах. Мільёны тут, не ацаніць пакладзенай туды людское працы, а паглядзіце, у 0,9 гэтых крам ці ёсць хоць штонебудзь для мужчынскага ўжытку? Уся раскоша жыцця патрабуецца і падтрымліваецца жанчынамі. Улічыце ўсе фабрыкі. Вялізная доля іх выраблае бескарысныя аздобы, экіпажы, мэблю, цацкі для жанчын. Мільёны людзей, пакаленні нявольнікаў гінуць у гэтай катаржнай працы на фабрыках толькі дзеля жаночае прыхамаці. Жанчыны, нібы царыцы, у палоне рабства і цяжкае працы трымаюць 0,9 роду чалавечага. А ўсё таму, што іх прынізілі, пазбавілі іх роўных правоў з мужчынамі. І вось яны помсцяць справамі за нашу пажадлівасць, лоўляю нас у свае сеткі. Так, усё гэта таму. Жанчыны зрабілі з сябе такую зброю ўздзеяння на пажадлівасць, што мужчына не можа спакойна абыходзіцца з жанчынаю. Як толькі мужчына падышоў да жанчыны, дык і падпаў пад яе дурман і ашалеў. І раней мне заўсёды было няёмка, жудасна, калі я бачыў разадзетую жанчыну ў бальнай сукенцы, а цяпер мне проста страшна, я цяпер бачу штось небяспечнае для людзей і процізаконнае, і хочацца гукнуць паліцэйскага, клікаць ахову супраць небяспекі, патрабаваць, каб выдалілі, ліквідавалі небяспечную рэч.

Так, вы смеяцёся! — закрычаў ён на мяне а гэта зусім не жарт. Я ўпэўнены, што прыйдзе час, і, магчыма, вельмі хутка, калі людзі зразу-

меюць гэта і будуць здзіўляцца, як магло існаваць грамадства, дзе дапускаліся ўчынкі, што парушалі грамадскі спакой: аздабленні жаночага цела, якія дазваляліся ў нашым грамадстве, і якія выклікалі пажадлівасць у мужчын. Гэта ж тое самае, што расставіць на дарожках у часе гуляння розныя пасткі,— горш! Чаму азартная гульня забаронена, а жанчыны ў прастытутачных уборах, якія выклікаюць пажадлівасць, не забаронены? Яны ў тысячу разоў больш небяспечныя!

## X

— Ну вось, гэтак і мяне злавілі. Я быў, як кажуць, закаханы. Я не толькі ўяўляў яе верхам дасканаласці, я і сябе за гэты час майго жаніхоўства ўяўляў таксама верхам дасканаласці. Бо няма таго нягодніка, які б пашукаў і не знайшоў нягоднікаў у пэўных адносінах горш за сябе, і які таму не змог бы знайсці прычыны ганарыцца і быць здаволеным сабою. Гэтак і я: я жаніўся не праз грошы — карыслівасць тут не мела месца,— не так, як большасць маіх знаёмых жанілася праз грошы або сувязі,— я быў багаты, яна бедная. Гэта адно. Другое, чым я ганарыўся, было тое, што іншыя жаніліся з намерам наперад працягваць жыць у гэткім жа мнагажэнстве, у якім яны жылі да шлюбу; я ж меў цвёрды намер трымацца пасля вяселля аднашлюбнасці, і не было мяжы майму гонару перад сабою за гэта. Так, нягоднік я быў страшэнны і ўяўляў сабе, што я анёл.

Час, калі я быў жаніхом, хутка скончыўся. Без сораму цяпер не магу ўспомніць гэты час жаніхоўства! Якое паскудства! Мелася ж на ўвазе каханне духоўнае, а не плоцевае. Ну, калі каха-

не духоўнае, духоўная сувязь, дык у словах, размовах, гутарках і павінна была б выявіцца тая духоўная сувязь. Але нічога з гэтага не атрымалася. Гаварыць было, калі мы аставаліся адны, надзвычай цяжка. Якая ж гэта была сізіфава праца. Толькі прыдумаеш, што сказаць, скажаш, зноў трэба маўчаць, выдумляць. Гаварыць не было пра што. Усё, што можна было сказаць пра жыццё, якое чакала нас наперадзе, пра ўладкаванне, пра планы, было сказана, а далей што? Каб мы былі жывёлiны, дык ведалі б, што гаварыць нам не трэба; а тут, наадварот, гаварыць трэба і няма пра што, таму што займае не тое, што дазваляецца размовамі. А тут яшчэ гэты агідны звычай цукерак, дзікага абжорства салодкім і ўсе гэтыя паскудныя прыгатаванні да вяселля: размовы пра кватэру, спальню, пасцелі, капоты, халаты, бялізну, туалеты. Вы зразумейце, што калі жэняцца паводле Дамастроя, як казаў гэты стары, дык пярыны, пасаг, пасцель — усё гэта толькі дробязі, звязаныя з таінствам. Аднак у нас, дзе з дзесяці тых, якія ўступаюць у шлюб, наўрад ці ёсць адзін, які не толькі не верыць у таінства, але не верыць нават у тое, што тое, што ён робіць, ёсць пэўнае абавязацельства, дзе са ста мужчын наўрад ці ёсць адзін ужо нежанаты раней і з пяцідзесяці адзін, які загадзя не рыхтаваўся б здрадзіць сваёй жонцы, дзе большасць глядзіць на паездку ў царкву толькі як на зручны выпадак, каб авалодаць пэўнай жанчынай,— падумайце, якое жудаснае значэнне набываюць пры гэтым усе гэтыя падрабязнасці. Вось і атрымліваецца, што ўся справа толькі ў гэтым. Атрымліваецца штосьці накшталт продажу. Распусніку прадаюць наіўную дзяўчыну і абстаўляюць гэты продаж пэўнымі фармальнасцямі.

## XI

— Гэтак усе жэняцца, гэтак і я ажаніўся, і пачаўся хвалёны мядовы месяц. Ужо адна назва якая подлая! — злосна прашыпеў ён.— Аднойчы я хадзіў у Парыжы па ўсіх відовішчах і зайшоў глядзець па шыльдзе жанчыну з барадою і вадзяногa сабаку. Выявілася, што гэта было не што іншае, як мужчына дэкальтэ ў жаночае сукенцы, і сабака, які быў засунуты ў маржовую скуру, і які плаваў у ванне з вадою. Усё было вельмі мала цікава; аднак калі я выходзіў, дык мяне пачціва праводзіў паказвальнік і, звяртаючыся да публікі ля ўвахода, паказваючы на мяне, казаў: «Вось спытайце ў пана, ці варта глядзець? Заходзьце, заходзьце, па франку з чалавека!» Мне сорамна было сказаць, што глядзець не варта, і той, хто паказваў, мусіць, разлічваў на гэта. Гэтак, відаць, бывае і з тымі, хто паспытаў усю агіднасць мядовага месяца і не расчароўвае іншых. Я таксама не расчароўваў нікога, але цяпер не бачу, чаму не гаварыць праўды. Нават лічу, што неабходна гаварыць пра гэта праўду. Няёмка, сорамна, гідка, шкада і, галоўнае, сумна, да немагчымасці сумна! Гэта штосьць накшталт таго, што я адчуваў, калі пачынаў курыць, калі мяне ванітавала і цякла сліна, а я глытаў яе і рабіў выгляд, што мне прыемна. Асалода ад курэння, як і ад гэтага, калі і будзе, дык будзе потым: трэба, каб муж і жонка выхавалі ў сабе гэтую загану, для таго, каб атрымаць ад яе асалоду.

— Як загану? — сказаў я.— Вы ж гаворыце пра самую натуральную чалавечую рысу.

— Натуральную? — сказаў ён.— Натуральную? Не, я скажу вам наадварот, што я прыйшоў да пераканання, што гэта не... натуральна. Так,

зусім не... натуральна. Спытайце ў дзяцей, спытайце ў нераспуснай дзяўчыны. Мая сястра вельмі маладая пайшла замуж за чалавека ў два разы старэйшага за яе і распусніка. Я памятаю, як мы былі здзіўлены ў ноч вяселля, калі яна, бледная і ў слязах, уцякла ад яго і, калоцячыся ўсім целам, гаварыла, што яна ні ў якім разе, ні ў якім разе не можа нават сказаць пра тое, што ён хацеў ад яе.

Вы кажаце: натуральна! Натуральна ёсць. І гэта радасна, лёгка, прыемна і не сорамна з самага пачатку; а тут і агідна, і сорамна, і балюча. Не, гэта ненатуральна! І дзяўчына чыстая, я пераканаўся, заўжды ненавідзіць гэта.

— Як жа,— сказаў я,— як жа тады працягваўся б род чалавечы?

— Толькі б не загінуў род чалавечы! — сказаў са злоснай іроніяй, нібы чакаючы гэтага знаёмага яму і несумленнага пярэчання.— Прапаведуй утрыманне ад дзетараджэння ў імя таго, каб болей было асалоды,— гэта дазволена; а заікніся толькі пра тое, каб утрымлівацца ад дзетараджэння ў імя маралі,— бацюхны, які лямант: род чалавечы пад пагрозаю, бо дзесятак-другі не хочуць і далей быць свіннямі. Прабачце. Мне непрыемна гэтае святло, можна прыкрыць? — сказаў ён, паказваючы на ліхтар.

Я сказаў, што мне ўсё роўна, і тады ён хуценька, як і ўсё, што рабіў, стаў на сядзенне і запмаргнуў шарсцянаю фіранкаю ліхтар.

— І ўсё ж,— сказаў я,— каб усе прызналі гэта для сябе законам, род чалавечы спыніўся б.

Ён не адразу адказаў.

— Вы кажаце, род чалавечы як будзе працягвацца? — сказаў ён і сеў насупраць мяне, шырака расставіў ногі і нізка ўзлакаціўся на іх.— На-

вошта яму працягвацца, роду чалавечаму? — сказаў ён.

— Як гэта навошта? — інакш нас не было б.

— А навошта нам быць?

— Як гэта навошта? Каб жыць.

— А жыць навошта? Калі няма мэты ніякае, калі жыццё для жыцця нам дадзена, няма чаго жыць. І калі гэтак, дык Шапенгаўэры і Гартманы ды і ўсе будысты маюць рацыю. Ну, а калі ёсць мэта ў жыцці, то зразумела, што жыццё павінна спыніцца, калі мэта будзе дасягнута. Гэтак яно і атрымліваецца,— гаварыў ён з прыкметным хваляваннем, відаць, надзвычай высока цэнячы сваю думку.— Гэтак яно і атрымліваецца. Вы заўважце: калі мэта чалавецтва — шчасце, дабро, каханне, як хочаце; калі мэта чалавецтва ёсць тое, аб чым сказана ў прароцтвах, што ўсе людзі аб'яднаюцца разам каханнем, што перакуюць коп'і на сярпы і гэтак далей, дык што тады перашкаджае дасягненню гэтае мэты? Перашкаджаюць страсці. З усіх страсцей самая моцная, і ліхая, і ўпартая — палавое, плоцевае каханне, і таму калі знікнуць страсці і апошняя, самая моцная з іх, плоцевае каханне, дык прароцтва збудзецца, людзі аб'яднаюцца разам, мэта чалавецтва будзе дасягнута, і яму нечага будзе жыць. Пакуль жа чалавецтва жыве, перад ім стаіць ідэал і, вядома, ідэал не трусоў або свіней, каб распладзіцца як мага болей, і не малпаў або парыжан, каб як мага больш вытанчана карыстацца ўцехамі палавое страсці, а ідэал дабра, які дасягаецца ўстрыманнем і маральнаю чысцінёю. Да яго заўжды імкнуліся і імкнуцца людзі. І паглядзіце, што атрымліваецца.

Выходзіць, што плоцевае каханне — гэта выратавальны клапан. Не дасягла цяперашняе пака-

ленне чалавецтва мэты і не дасягла яно толькі таму, што ў яго ёсць страсці, і самая моцная з іх — палавая. А ёсць палавая страсць, ёсць новае пакаленне, значыць ёсць магчымасць дасягнення мэты ў наступным пакаленні. Не дасягла і тое, зноў наступнае, і гэтак да таго часу, пакуль не будзе дасягнута мэта, не споўніцца прароцтва, не аб'ядналюцца людзі разам. А інакш што б атрымалася? Калі дапусціць, што бог стварыў людзей для дасягнення пэўнае мэты, і стварыў бы іх або смяротнымі, без палавое страсці, або вечнымі. Каб яны былі смяротныя, але без палавое страсці, што б атрымалася? Тое, што яны пажылі б і, не дасягнуўшы мэты, памерлі б; а каб дасягнуць мэты, богу трэба было б ствараць новых людзей. А каб яны былі вечныя, то дапусцім (хаця гэта і цяжэй тым жа людзям, а не новым пакаленням выпраўляць памылкі і набліжацца да дасканаласці), дапусцім, яны дасягнулі б праз шмат тысяч гадоў мэты, але навошта тады яны? Куды іх падзець? Менавіта гэтак, як ёсць, лепш за ўсё... Але магчыма вам не да спадобы гэтая форма выказвання, і вы эвалюцыяніст? То і тады атрымліваецца тое ж самае. Вышэйшая парода жывёлін — людская, для таго каб утрымацца ў барацьбе з іншымі жывёлінамі, павінна самкнуцца разам, як пчаліны рой, а не бясконца пладзіцца; павінна гэтак жа, як пчолы, выхоўваць бясполых, гэта значыць, павінна зноў імкнуцца да ўстрымання, а ніяк не да распальвання юру, да чаго якраз і скіраваны ўвесь лад нашага жыцця.— Ён памаўчаў.— Род чалавечы спыніцца? Ды няўжо хто-небудзь, як бы ён ні глядзеў на свет, можа сумнявацца ў гэтым? Гэта несумненна, як смерць. Паводле ўсіх царкоўных вучэнняў настане канец свету, і паводле навуковых вучэнняў непазбежна

тое ж самае. Дык што ж тут дзіўнага, калі паводле вучэння духоўнага атрымліваецца тое ж самае?

Ён доўга маўчаў пасля гэтага, выпіў яшчэ чаю, дакурыў папяроску, потым выняў з мяшка новыя і паклаў іх ў сваю старую запэцканую папяросніцу.

— Я разумею вашу думку,— сказаў я,— штосьці падобнае сцвярджаюць шэкеры.

— Так, так, і яны маюць рацыю,— сказаў ён.— Палавая страсць, як бы яна ні была абстаўлена, ёсць ліха, страшэннае ліха, з якім трэба змагацца, а не заахвочваць, як у нас. Словы евангелля аб тым, што той, хто пазірае з пажадлівасцю на жанчыну, ужо пралюбадзейнічаў з ёю, датычацца не толькі чужых жонак, а менавіта — і галоўнае — сваёй жонкі.

## XII

— У нашым жа свеце якраз наадварот: калі чалавек яшчэ думаў аб устрыманні, як быў халасты, то, ажаніўшыся, кожны лічыць, што цяпер устрыманне ўжо не патрэбна. Гэтыя ад'езды пасля вяселля, адасабленні, у якія з дазволу бацькоў адпраўляюцца маладыя,— гэта ж не што іншае, як дазвол на распусту. Але маральны закон сам за сябе адплочвае, калі парушаеш яго. Колькі я ні стараўся зрабіць сабе мядовы месяц, нічога не атрымлівалася. Увесь час было гідка, сорамна і маркотна. Аднак вельмі хутка зрабілася яшчэ пакутліва цяжка. Пачалося гэта вельмі хутка. Здаецца, на трэці ці на чацвёрты дзень я застаў жонку сумнаю, стаў распытваць, стаў абдымаць яе, што, як мне здавалася, было ўсё, аб чым яна магла марыць, а яна адхіліла маю руку і заплакала. Чаго?

Яна не ўмела сказаць. Але ёй было сумна, цяжка. Мусіць, яе змучаныя нервы падказалі ёй ісціну аб паскудстве нашых зносін; але яна не ўмела сказаць. Я стаў дапытвацца, яна нешта сказала, што ёй нудна без маці. Мне здалося, што гэта няпраўда. Я стаў угаворваць яе, нічога не сказаўшы пра маці. Я не зразумеў, што ёй проста было цяжка, а маці была толькі адгаворка. Але яна адразу пакрыўдзілася за тое, што я нічога не сказаў пра маці, як быццам не паверыў ёй. Яна сказала мне, што бачыць, што я не кахаю яе. Я папракнуў яе ў капрызе, і раптам твар яе зусім змяніўся, замест смутку выявілася раздражненне, і яна самымі з'едлівымі словамі пачала папракаць мяне ў эгаізме і бессардэчнасці. Я паглядзеў на яе. Увесь твар яе выяўляў гранічную халоднасць і варожасць, амаль нянавісць да мяне. Памятаю, як я жахнуўся, убачыўшы што. «Як? што? — думаў я.— Каханне — саюз душ, і замест гэтага вось што! Але не можа быць, гэта не яна!» Я быў паспрабаваў супакоіць яе, аднак наткнуўся на такую непераадольную сцяну халоднае, з'едлівае варожасці, што не паспеў я і азірнуцца, як злосць захапіла і мяне, і мы нагаварылі адно аднаму шмат непрыемнасцей. Уражанне ад гэтай першай сваркі было жахлівае. Я называў гэта сваркаю, але гэта была не сварка, а гэта было толькі выяўленне тае прорвы, якая ў сапраўднасці была між намі. Улюбёнасць скончылася задавальненнем пажадлівасці, і асталіся мы адно супраць аднаго ў нашых сапраўдных узаемаадносінах, гэта значыць, двое зусім чужых адно перад адным эгаістаў, якія хочуць прыхапіць сабе як мага болей уцехі ад другога. Я называў сваркаю тое, што адбылося між намі; але гэта была не сварка, гэта былі ўжо нашы сапраўдныя адносіны адно да аднаго, якія вы-

явіліся пасля таго, як была задаволена пажадлівасць. Я не разумеў, што гэтыя халодныя і варожыя адносіны былі нашымі звычайнымі адносінамі, не разумеў гэтага таму, што гэтыя варожыя адносіны спачатку вельмі хутка былі закрыты ад нас уноў народжанай перагоннай пажадлівасцю, гэта значыць, улюбёнасцю.

І я падумаў, што мы пасварыліся і памірыліся і што больш гэтага ўжо не будзе. Аднак у гэты ж першы мядовы месяц вельмі хутка настаў зноў перыяд перасыці, зноў мы перасталі адчуваць патрэбу адно ў адным, і зноў пасварыліся. Другая сварка ўразіла мяне яшчэ болей за першую. Выходзіць, першая не была выпадковасцю, а гэта так і павінна быць і так будзе, думаў я. Другая сварка тым больш уразіла мяне, бо яна ўзнікла па прычыне самай дробязнай. Штосьці, помніцца, праз грошы, якіх я ніколі не шкадаваў і ўжо ніяк не мог шкадаваць для жонкі. Памятаю толькі, што яна гэтак павярнула справу, што нейкая мая заўвага была ўспрынята, як маё жаданне панаваць над ёю праз грошы, на якіх я сцвярджаў быццам бы сваё выключнае права, штосьці немагчымае, недарэчнае, подлае, не ўласцівае ні мне, ні ёй. Я ўзлаваўся, стаў папракаць яе ў недалікатнасці, яна мяне,— і пайшло зноў. І ў словах і ў выразе яе твару і вачэй я ўгледзеў зноў тую ж жорсткую, халодную варожасць, якая раней гэтак здзівіла мяне. З братам, з прыяцелямі, з бацькам, я памятаю, я сварыўся, але ніколі між намі не было тае асаблівае, з'едлівае злосці, якая была тут. Але прайшло колькі часу, і зноў гэтая ўзаемная нянавісць схавалася пад улюбёнасцю, гэта значыць, пажадлівасцю, і я яшчэ суцяшаў сябе думкаю, што гэтыя дзве сваркі былі памылкі, якія можна выправіць. Але вось усчалася трэцяя, чацвёртая

сварка, і я зразумеў, што гэта не выпадковасць, а што гэтак павінна быць і гэтак будзе, і я жахнуўся пры думцы, што ж мяне чакае наперадзе. Пры гэтым мучыла мяне яшчэ тая жудасная думка, што адзін я толькі гэтак кепска, непадобна на тое, што я чакаў, жыву з жонкаю, тады як у іншых сямействах гэтага не бывае. Я не ведаў яшчэ тады, што гэта агульны лёс, але што ўсе гэтак жа, як я, думаюць, быццам гэта іх асабістае няшчасце, хаваюць гэтае асабістае, ганебнае сваё няшчасце не толькі ад іншых, але і ад саміх сябе, самі сабе не прызнаюцца ў гэтым.

Пачалося з першых дзён і цягнулася ўвесь час, яно ўсё ўзмацнялася і рабілася больш лютым. У глыбіні душы я з першых жа тыдняў зразумеў, што я *папаўся*, што атрымалася не тое, чаго я чакаў, што жаніцьба не толькі не шчасце, але нешта вельмі цяжкае, аднак я, як і ўсе, не хацеў прызнацца сабе (я не прызнаўся б сабе і цяпер, каб не канец) і хаваў не толькі ад іншых, але ад сябе. Цяпер я дзіўлюся, як я не бачыў свайго сапраўднага становішча. Яго можна было б бачыць ужо таму, што сваркі пачыналіся праз такія прычыны, што немагчыма было потым, калі яны канчаліся, прыгадаць праз што. Розум не паспяваў падрабіць пад пастаянна існуючую варожасць адно да аднаго дастатковых прычын. Аднак яшчэ больш дзіўнаю была недастатковасць прычын да прымірэння. Часам былі словы, тлумачэнні, нават слёзы, але часам.. ох! агідна і цяпер успомніць — пасля самых бязлітасных слоў адно аднаму раптам моўчкі позіркі, усмешкі, пацалункі, абдымкі... Тфу, агіднасць! Як я тады мог не бачыць усяе гэтае брыдоты...

## XIII

Зайшлі два пасажыры і сталі ўсаджвацца на дальняй лавачцы. Ён маўчаў, пакуль яны ўсаджваліся, але як толькі яны сціхлі, ён зноў пачаў гаварыць, мусіць, ні на хвіліну не губляючы ніткі сваё думкі.

— Што самае кепскае,— пачаў ён,— тэорыя лічыць, што каханне ёсць штось ідэальнае, узвышанае, на практыцы ж каханне ёсць штось паскуднае, свінячае, пра што і гаварыць і ўспамінаць агідна і сорамна. Нездарма ж прырода зрабіла тое, што гэта паскудна і сорамна. А калі паскудна і сорамна, дык гэтак і трэба разумець. А тут, наадварот, людзі робяць выгляд, што паскуднае і сараматнае гэта цудоўнае і ўзвышанае. Якія былі першыя прыкметы майго кахання? А тыя, што я аддаваўся жывёльным празмернасцям, і не толькі не саромеўся іх, але чамусьці нават ганарыўся магчымасцямі гэтых фізічных празмернасцей, зусім не думаючы пры гэтым не толькі пра яе духоўнае жыццё, але нават і пра яе фізічнае жыццё. Я дзівіўся, адкуль бралася наша азлабленне адзін да аднаго, справа ж была зусім зразумелая: азлабленне гэтае было не што іншае, як пратэст чалавечае прыроды супроць жывёліны, якая прыгнятала яе.

Я дзівіўся нашай нянавісці адно да аднаго. А гэта ж і не магло быць іначай. Гэтая нянавісць была не што іншае, як узаемная нянавісць хаўруснікаў злачынства — і за падбухторванне і за ўдзел у злачынстве. Як жа не злачынства, калі яна, няшчасная, зацяжарыла ў першы ж месяц, а наша свінячая сувязь працягвалася? Вы думаеце, што я адступаю ад расказу? Ніколечкі! Гэта я ўсё расказваю вам, як я забіў жонку. На судзе ў мяне пы-

таюцца, чым, як я забіў жонку. Дурні! думаюць, што я забіў яе тады, нажом, пятага кастрычніка. Я не тады забіў яе, а значна раней. Дакладна гэтак жа, як яны цяпер забіваюць, усе, усе...

— Дык чым жа! — спытаў я.

— Вось гэта больш за ўсё і дзіўна, што ніхто не хоча ведаць таго, што так зразумела і відавочна, таго, што павінны ведаць і прапаведаваць дактары, але пра што яны маўчаць. Справа ж вельмі простая. Мужчына і жанчына створаны гэтак жа, як і жывёліна, так, што пасля плоцевага кахання пачынаецца цяжарнасць, потым кармленне, такі стан, пры якім для жанчыны, гэтак жа як і для яе дзіцяці, плоцевае каханне шкоднае. Жанчын і мужчын роўная колькасць. Што з гэтага вынікае? Здаецца, зразумела. І не трэба вялікае мудрасці, каб зрабіць з гэтага той вывад, які робіць жывёла, гэта значыць устрыманне. Аднак не. Навука дайшла да таго, што адшукала нейкія лейкацыты, якія бегаюць у крыві, і рознае непатрэбнае глупства, а гэтага не магла зразумець. Ва ўсякім разе не чуваць, каб яна гаварыла пра гэта.

І вось для жанчыны толькі два выйсці: адно — зрабіць з сябе пачвару, знішчыць або знішчаць у сабе па меры неабходнасці здольнасць быць жанчынаю, гэта значыць, быць маткаю, для таго каб мужчына мог спакойна і заўсёды мець асалоду; або другое выйсце, нават не выйсце, а звычайнае, грубае, простае парушэнне законаў прыроды, якое дапускаецца ва ўсіх так званых сумленных сем'ях. А менавіта тое, што жанчына, насуперак сваёй прыродзе, павінна быць адначасова і цяжарнай, і мамкаю, і каханкай, павінна быць тым, да чаго не апускаецца ні адна жывёліна. І сілы не хапае. І таму ў нашым побыце істэрыкі, нервы, а ў народзе — клікушы. Вы заўважце, у дзяўчат,

у чыстых, няма клікунства, толькі ў баб, і ў баб, якія жывуць з мужамі. Гэтак у нас. Дакладна гэтак жа і ў Еўропе. Усе бальніцы поўны істэрычных жанчын, якія парушаюць закон прыроды. Аднак і клікушы і пацыенткі Шарко — гэта зусім знявечаныя, а напаўкалек жанчын повен свет. Толькі падумаць, якія вялікія змены адбываюцца ў жанчыне, калі яна панесла плод або калі корміць немаўля. Расце тое, што працягвае, замяняе нас. І гэтая святая справа парушаецца — чым жа? — страшна падумаць! І гавораць пра свабоду, правы жанчын. Гэта ўсё роўна, што людаеды выкормлівалі б людзей палонных на ежу і разам з тым пераконвалі б, што яны клапоцяцца аб іх правах і свабодзе.

Усё гэта было новае і ўразіла мяне.

— То як жа? Калі так, то,— сказаў я,— выходзіць, што кахаць жонку можна раз у два гады, а мужчына..

— Мужчыну неабходна,— падхапіў ён.— Зноў мілыя жрацы навукі пераканалі ўсіх. Я б ім, гэтым вешчунам, загадаў выконваць абавязкі тых жанчын, якія, на іх думку, неабходны мужчынам, што б яны тады сказалі? Пераканайце чалавека, што яму неабходна гарэлка, тытунь, опіум, і ўсё гэта будзе неабходна. Выходзіць, што бог не разумеў таго, што трэба, і таму, не папытаўшы ў вешчуноў, кепска ўсё зрабіў. Маеце ласку бачыць, справа не сыходзіцца. Мужчыну трэба і неабходна, гэтак вырашылі яны, задаволіць свой юр, а тут замяшалася дзетараджэнне і кармленне дзяцей, якое перашкаджала задавальненню гэтае патрэбы. Што ж рабіць? Звярнуцца да вешчуноў, яны ўладзяць. Яны і прыдумалі. Ох, калі гэта будуць развенчаны гэтыя вешчуны са сваім ашуканствам? Пара! Дайшло ўжо вось дакуль, вар'яце-

юць і страляюцца, і ўсё праз гэта. Ды і як іначай? Жывёліна як быццам ведае, што патомства працягвае яе род, і трымаецца пэўнага закону ў гэтых адносінах. Толькі чалавек гэтага ведаць не ведае і не хоча. І заклапочаны толькі тым, каб мець як мага больш уцехі. І гэта хто ж? Цар прыроды, чалавек. Вось вы заўважце, жывёла сыходзіцца толькі тады, калі можа даць патомства, а паганы цар прыроды — заўсёды, толькі б было прыемна. Мала таго, узводзіць гэты малпін занятак у перл стварэння, у каханне. І ў імя гэтага кахання, гэта значыць, паскудства, губіць — што? — палову роду чалавечага. З усіх жанчын, якія павінны былі б быць памочнікамі ў руху чалавецтва да ісціны і дабра, ён у імя свае ўцехі робіць не памочніц, але ворагаў. Паглядзіце, што стрымлівае паўсюль рух чалавецтва наперад? Жанчыны. А чаго яны такія? А толькі праз гэта. Так, так,— паўтарыў ён колькі разоў і стаў варушыцца, даставаць папяросы і курыць, мусіць, хацеў крышку супакоіцца.

## XIV

— Вось гэтакай свіннёй я і жыў,— гаварыў ён далей ранейшым тонам.— Але горш за ўсё было тое, што, жывучы гэтым паскудным жыццём, я думаў, што, пакольні я не спакушаюся іншымі жанчынамі, таму я і жыву сумленным сямейным жыццём, таму я і маральны чалавек і што я ні ў чым не вінаваты, а калі ў нас і бываюць сваркі, дык вінавата яна, яе характар.

Вінавата ж была, вядома, не яна. Яна была гэткая ж, як і ўсе, як большасць. Выхавана яна была, як таго патрабуе становішча жанчыны ў нашым грамадстве, і таму як і выхоўваюцца ўсе без

выключэння жанчыны забяспечаных класаў, і як яны не могуць не выхоўвацца. Гавораць пра нейкую новую жаночую адукацыю. Усё пустыя словы: адукацыя жанчыны дакладна гэткая ж, якая павінна быць пры існуючым не прытворным, а сапраўдным усеагульным поглядзе на жанчыну.

І адукацыя жанчыны будзе заўсёды адпавядаць погляду на яе мужчыны. Усе мы ведаем, як мужчына глядзіць на жанчыну: «Wein, Weiber und Gesang» [1], і гэтак у вершах паэты гавораць. Вазьміце ўсю паэзію, увесь жывапіс, скульптуру, пачынаючы з любоўных вершаў і голых Венер і Фрын, вы бачыце, што жанчына ёсць прылада асалоды; яна гэткая на Трубе, і на Грачоўцы, і на прыдворным балі. І заўважце хітрасць д'ябла: ну, асалода, уцеха, так так бы і ведаць, што асалода, што жанчына салодкі кавалак. Не, спачатку рыцары сцвярджалі, што яны багатвараць жанчыну (багатвараць, а ўсё ж пазіраюць на яе як на прыладу асалоды). Цяпер жа пераконваюць, што паважаюць жанчыну. Адны ўступаюць ёй месца, падымаюць ёй хусткі; другія прызнаюць яе правы на заняцце ўсіх пасад, на ўдзел у праўленні і г. д. Гэта ўсе робяць, а погляд на яе ўсё той жа. Яна прылада асалоды. Цела яе ёсць сродак асалоды. І яна ведае пра гэта. Усё роўна як рабства. Рабства ж не што іншае, як карыстанне адных прымусоваю працаю многіх. І таму, каб рабства не было, трэба, каб людзі не хацелі карыстацца прымусовую працаю іншых, лічылі б гэта за грэх або сорам. А між тым возьмуць адменяць знешнюю форму рабства, зробяць так, што нельга болей афармляць купчых на рабоў, і ўяўляюць і сябе пераконваюць, што рабства ўжо няма, і не бачаць

---

[1] Віно, жанчыны і песні *(ням.)*.

і не хочуць бачыць таго, што рабства па-ранейшаму існуе, таму што людзі дакладна гэтак жа любяць і лічаць справаю прыстойнаю і справядлівую карыстацца працаю іншых. А паколькі яны лічаць гэта справаю прыстойнаю, дык заўсёды знойдуцца людзі, якія і больш дужыя і больш хітрыя за іншых і змогуць гэта зрабіць. Тое ж і з эмансіпацыяй жанчыны. Рабства ж жанчыны толькі ў тым, што людзі хочуць і лічаць за справу прыстойную карыстацца ёю як прыладай асалоды. Ну, і вось вызваляюць жанчыну, надзяляюць яе рознымі правамі, роўнымі з мужчынскімі, але па-ранейшаму пазіраюць на яе як на прыладу асалоды, гэтак выхоўваюць яе і ў маленстве і грамадскаю думкаю. І вось яна ўсё гэткая ж прыніжаная, разбэшчаная раба, і мужчына ўсё гэткі ж разбэшчаны рабаўласнік.

Вызваляюць жанчыну на курсах і ў палатах, а пазіраюць на яе як на прыладу асалоды. Навучыце яе, як яна навучана ў нас, пазіраць гэтак на самую сябе, і яна заўсёды астанецца ніжэйшаю істотаю. Ці яна будзе з дапамогаю паганцаў-дактароў папярэджваць зараджэнне плода, гэта значыць будзе закончаная прастытутка, якая апусцілася не на ступень жывёліны, але на ступень рэчы, або яна будзе тым, кім яна ёсць у большасці выпадкаў,— хвораю душэўна, істэрычнаю, няшчаснаю, якія яны і ёсць, без магчымасці духоўнага развіцця.

Гімназіі і курсы не могуць змяніць гэтага. Змяніць гэта можа толькі перамена поглядаў мужчын на жанчын і жанчын саміх на сябе. Зменіцца гэта толькі тады, калі жанчына будзе лічыць вышэйшым становішча становішча нявінніцы, а не так, як цяпер, вышэйшае становішча чалавека — сорамам, ганьбаю. Пакуль жа гэтага

няма, ідэал кожнае дзяўчыны, якою б ні была яе адукацыя, будзе ўсё ж той, каб прывабіць да сябе як мага больш мужчын, як мага больш самцоў, з тым каб мець магчымасць выбару.

А тое, што адна крыху болей ведае матэматыкі, а другая ўмее іграць на арфе,— гэта нічога не зменіць. Жанчына шчаслівая і дабіваецца ўсяго, чаго толькі можа жадаць, калі яна зачаруе мужчыну. І таму галоўная задача жанчыны — умець зачараваць яго. Гэтак яно было і будзе. Гэтак яно ў дзявочым жыцці ў нашым свеце, гэтак працягваецца і ў замужнім. У дзявочым жыцці гэта трэба для выбару, у замужнім — для панавання над мужам.

Аднак, што спыняе ці хоць прыглушае на час гэта, гэта — дзеці, ды і то тады, калі жанчына не пачвара, гэта значыць, сама корміць. Аднак тут зноў дактары.

З маёю жонкаю, якая сама хацела карміць і карміла наступных пяцярых дзяцей, здарылася з першым жа дзіцем нездароўе. Дактары гэтыя, якія цынічна распраналі і абмацвалі яе ўсюды, за што я павінен быў ім дзякаваць і плаціць ім грошы,— дактары гэтыя мілыя вырашылі, што яна не павінна карміць, і яна на нейкі час пазбаўлена была таго адзінага сродку, які мог вызваліць яе ад какетства. Карміла мамка, гэта значыць, што мы выкарысталі беднасць, галечу і цемнату жанчыны, перацягнулі яе ад яе дзіцяці да свайго і за гэта апранулі яе ў какошнік з галунамі. Але не ў гэтым справа. Справа ў тым, што ў гэты самы час яе свабоды ад цяжарнасці і кармлення ў ёй з незвычайнаю сілаю выявілася раней прыглушанае гэтае жаночае какецтва. І ў мяне, адпаведна гэтаму, з гэткаю ж незвычайнаю сілаю выявіліся пакуты рэўнасці, якія безупынна мучылі мяне на

працягу ўсяго майго жанатага жыцця, як яны і не могуць не мучыць усіх тых мужчын, якія жывуць з жонкамі, як я жыў, гэта значыць, распусна.

## XV

— Я на працягу ўсяго майго жанатага жыцця ніколі не пераставаў адчуваць пакут рэўнасці. Але былі перыяды, калі я асабліва востра мучыўся праз гэта. І адзін з такіх перыядаў быў той, калі пасля першага дзіцяці дактары забаранілі ёй карміць. Я асабліва раўнаваў у гэты час, па-першае, таму, што жонка адчувала той уласцівы маці неспакой, які павінен выклікаць беспрычыннае парушэнне правільнага ходу жыцця; па-другое, таму, што, убачыўшы, як яна лёгка адкінула маральны абавязак маці, я справядліва, хоць і падсвядома, вырашыў, што ёй гэтак жа лёгка будзе адкінуць і сямейны, тым болей, што яна была зусім здаровая і, нягледзячы на забарону мілых дактароў, карміла наступных дзяцей сама і выкарміла цудоўна.

— Аднак вы не любіце дактароў,— сказаў я, адчуўшы асабліва злосны тон голасу кожны раз, як ён упамінаў толькі пра іх.

— Тут не справа любві і не любві. Яны загубілі маё жыццё, як яны загубілі і губяць жыццё тысяч, соцень тысяч людзей, а я не магу не звязваць выніку з прычынай. Я разумею, што ім хочацца, гэтак жа як і адвакатам і іншым, нажываць грошы, а я ахвотна б аддаў ім палову свайго даходу, і кожны, каб разумеў тое, што яны робяць, ахвотна б аддаў ім палову свайго дастатку, толькі каб яны не ўмешваліся ў ваша сямейнае жыццё, ніколі б блізка не падыходзілі да вас. Я не збіраў звестак, але я ведаю дзесяткі выпад-

каў — іх процьма,— калі яны забілі то дзіця ў чэраве маці, сцвярджаючы, што маці не можа разрадзіцца, а маці потым раджае цудоўна, то матак пад выглядам нейкіх аперацый. Ніхто ж не лічыць гэтых забойстваў, як не лічылі забойстваў інквізіцыі, таму што меркавалі, што гэта на карысць чалавецтва. Немагчыма пералічыць злачынстваў, якія яны ўчыняюць. Аднак усе гэтыя злачынствы нішто ў параўнанні з тым маральным разлажэннем матэрыялізму, якое яны нясуць у свет, асабліва праз жанчын. Ужо не кажу пра тое, што калі толькі прыслухоўвацца да іх указанняў, дык дзякуючы заразе паўсюль, ва ўсім, людзям трэба не ісці да згуртавання, а да раз'яднання: усім трэба, паводле іх вучэння, сядзець асобна і не выпускаць з рота спрынцоўкі з карболавай кіслатой (дарэчы, адкрылі, што і яна не падыходзіць). Але і гэта нішто. Атрута галоўная — у разбэшчванні людзей, асабліва жанчын.

Цяпер ужо нельга сказаць: «Ты жывеш кепска, жыві лепш»,— нельга гэтага сказаць ні сабе, ні другому. А калі кепска жывеш, дык прычына ў ненармальнай рабоце нерваў ці да т. п. І трэба пайсці да іх, а яны выпішуць на трыццаць пяць капеек у аптэцы лекаў, і вы прымайце. Вы адчуеце сябе яшчэ горш, тады яшчэ лекаў і яшчэ доктара. Цудоўная штука!

Але не ў гэтым справа. Я толькі казаў пра тое, што яна вельмі добра сама карміла дзяцей і што гэтае кармленне дзяцей ратавала мяне ад пакут рэўнасці. Каб не гэта, усё здарылася б раней. Дзеці ратавалі мяне і яе. За восем гадоў у яе нарадзілася пяць чалавек дзяцей. І ўсіх яна карміла сама.

— Дзе ж яны зараз, вашы дзеці? — спытаў я.

— Дзеці? — спалохана перапыніў ён.

— Прабачце мне, можа, вам цяжка ўспамінаць?

— Не, нічога. Дзяцей маіх узяла мая швагерка і яе брат. Яны не далі іх мне. Я ім аддаў маёмасць, а яны мне іх не далі. Бо я як вар'ят. Я зараз еду ад іх. Я бачыў іх, але мне іх не дадуць. А то я выхаваю іх гэтак, што яны не будуць такія, як іх бацькі. А трэба, каб былі гэткія ж. Але што зробіш! Вядома, мне іх не дадуць і не паверацць. Ды я і не ведаю, ці змог бы я выхаваць іх. Мне здаецца, што не. Я — руіна, калека. Адно ў мяне ёсць. Я ведаю. Так, гэта праўда, што я ведаю тое, пра што ўсе даведаюцца яшчэ не хутка.

Так, дзеці жывыя і растуць гэткімі ж дзікунамі, як і ўсе вакол. Я бачыў іх, тры разы бачыў. Нічога я не магу для іх зрабіць. Нічога. Еду цяпер к сабе на поўдзень. У мяне там дамок і садзік.

Так, не хутка яшчэ людзі даведаюцца пра тое, што я ведаю. Ці шмат жалеза і якія металы на сонцы і на зорках — пра гэта хутка даведацца можна; а вось пра тое, што выкрывае наша свінства,— даведацца цяжка, страшэнна цяжка...

Вы хоць слухаеце, я і за гэта ўдзячны.

## XVI

— Вось вы нагадалі пра дзяцей. Зноў нейкая страшэнная хлусня ідзе пра дзяцей. Дзеці — благаславенне божае, дзеці — радасць. Гэта ж усё мана. Усё гэта было калісьці, а цяпер нічога гэтага няма. Дзеці — пакута, і больш нічога. Большасць матак гэта і адчувае, а часам незнарок і гаворыць пра гэта. Спытайце ў большасці матак з нашага асяроддзя багатых людзей, яны вам скажуць, што ад страху, што дзеці іх могуць хварэць і паміраць, яны не хочуць мець дзяцей, не хочуць

карміць, калі ўжо нарадзілі, каб не прывязацца і не пакутаваць. Радасці, якія прыносіць ім дзіця сваёю чароўнасцю, сваімі ручкамі, ножкамі, цельцам усім, уцехі, якія прыносіць дзіця,— меншыя за пакуты, якія яны церпяць — не кажучы ўжо ад хваробы ці страты дзіцяці, але ад аднаго страху за верагоднасць хвароб і смерці. Узважыўшы выгоды і нявыгады, выходзіць, што нявыгадна і таму непажадана мець дзяцей. Яны пра гэта адкрыта, смела гавораць, уяўляючы, што гэтыя пачуцці нараджаюцца ў іх ад любві да дзяцей, пачуцці добрага і пахвальнага, якімі яны ганарацца. Яны не прыкмячаюць таго, што гэтымі развапсаннямі яны начыста адмаўляюць любоў, а сцвярджаюць толькі свой эгаізм. Для іх меней радасці ад чароўнасці дзіцяці, чым пакут ад страху за яго, і таму не патрэбна тое дзіця, якога яны будуць любіць. Яны ахвяруюць не сабою дзеля мілае істоты, а мілаю істотаю, якая мае быць, дзеля сябе.

Вядома, гэта не любоў, а эгаізм. Аднак і асудзіць іх, матак з багатых сем'яў, за гэты эгаізм — не падымаецца рука, калі ўспомніш, колькі яны папакутуюць праз здароўе дзяцей дзякуючы зноў тым жа дактарам у нашым панскім жыцці. Як успомню толькі, нават цяпер, жыццё і жончына становішча ў першы час, калі было трое, чацвёра дзяцей і яна ўся была занята імі,— жах бярэ. Жыцця ў нас не было зусім. Гэта была нейкая вечная небяспека, паратунак ад яе, потым зноў небяспека, зноў шалёныя намаганні і зноў паратунак — заўсёды гэткае становішча, як на асуджаным караблі. Падчас мне здавалася, што гэта назнарок рабілася, што яна прыкідвалася, быццам непакоілася за дзяцей, каб перамагчы мяне. Гэта так заманліва, проста вырашала ў яе карысць усе

пытанні. Мне здавалася часам, што ўсё, што яна ў гэтых выпадках рабіла і казала,— яна рабіла і казала назнарок. Аднак не, яна сама заўсёды страшэнна мучылася і каялася з дзецьмі, з іх здароўем і хваробамі. Гэта была пакута для яе і для мяне таксама. І нельга ёй было не мучыцца. Бо прыхільнасць да дзяцей, жывёльная патрэба карміць, песціць, абараняць іх — была, як яна і ёсць у большасці жанчын, але не было таго, што ёсць у жывёлін — адсутнасці фантазіі і розуму. Курыца не баіцца таго, што можа здарыцца з яе куранём, не ведае ўсіх тых хвароб, якія могуць напаткаць яго, не ведае ўсіх тых сродкаў, на якія людзі спадзяюцца і думаюць, што яны могуць ратаваць ад хвароб і смерці. І дзеці для яе, для курыцы, не пакута. Яна робіць для сваіх куранят тое, што ёй уласціва і радасна рабіць; дзеці для яе радасць. І калі кураня пачынае хварэць, яе клопаты вельмі дакладныя: яна саграе, корміць яго. І робячы гэта, ведае, што яна робіць усё, што трэба. Здохне кураня, яна не пытаецца ў сябе, чаго яно памерла, куды яно пайшло, паквокча, потым перастане і працягвае жыць па-ранейшаму. А вось для нашых няшчасных жанчын і для мае жонкі было не тое. Ужо не кажучы пра хваробы — як лячыць, пра тое, як выхоўваць, гадаваць, яна з усіх бакоў чула і чытала бясконца разнастайныя і непастаянныя парады. Карміць гэтак, тым; не, не гэтак, не тым, а вось так; апранаць, паіць, купаць, класці спаць, гуляць, паветра,— на ўсё гэта мы, яна пераважна, кожны тыдзень чула новыя парады. Быццам бы з учарашняга дня пачалі нараджацца дзеці. А не так накармілі, не так выкупалі, не ў час, і захварэла дзіця, і выходзіць, што вінавата яна, зрабіла не тое, што трэба рабіць.

Гэта пакуль здароўе. І то пакута. А ўжо як захварэў, тады бяда. Сапраўднае пекла. Маецца на ўвазе, што хваробу можна лячыць і што ёсць такая навука і такія людзі — дактары, і яны ведаюць. Не ўсе, а самыя лепшыя ведаюць. І вось дзіця хворае, і трэба натрапіць на гэтага самага лепшага, таго, які ратуе, і тады дзіця выратавана; а не захапіў гэтага доктара або жывеш не ў тым месцы, дзе жыве гэты доктар,— і дзіця загінула. І гэта не яе выключная вера, а гэта вера ўсіх жанчын яе кола, і з усіх бакоў яна чуе толькі гэта: у Екацярыны Сямёнаўны памерла двое, таму што не паклікалі своечасова Івана Захаравіча, а ў Мар'і Іванаўны Іван Захаравіч выратаваў старэйшую дзяўчынку; а вось у Пятровых у час, па парадзе доктара, раз'ехаліся па гасцініцах — і асталіся жывыя, а не раз'ехаліся — і памерлі дзеці. А ў той было кволае дзіця, пераехалі, па парадзе доктара, на поўдзень — і выратавалі дзіця. Як жа тут не пакутаваць і не хвалявацца ўсё жыццё, калі жыццё дзяцей, да якіх яна жывёльна прывязана, залежыць ад таго, што яна своечасова дазнаецца пра тое, што скажа Іван Захаравіч. А што скажа Іван Захаравіч, ніхто не ведае, менш за ўсё ён сам, таму што ён дужа добра ведае, што ён нічога не ведае і нічым памагчы не можа, а сам толькі віляе як папала, каб толькі не перасталі верыць, што ён нешта ведае. Бо каб яна была зусім жывёліна, яна гэтак бы не пакутавала; каб жа яна была зусім чалавек, дык у яе была б вера ў бога, і яна гаварыла б і думала, як гавораць набожныя бабы: «Бог даў, бог і ўзяў, ад бога не ўцячэш». Яна думала б, што жыццё і смерць як усіх людзей, гэтак і яе дзяцей, па-за ўладаю людзей, а ва ўладзе толькі бога, і тады б яна не пакутавала праз тое, што ў яе ўладзе

было папярэдзіць хваробы і смерць дзяцей, а яна гэтага не зрабіла. Яе ж становішча было такое: паявіліся самыя кволыя, схільныя да безлічы хвароб, слабыя істоты. Да істот гэтых яна адчувае палкую жывёльную любасць. Апрача таго, істоты гэтыя даручаны ёй, а разам з тым сродкі захавання гэтых істот схаваны ад нас і адкрыты зусім чужым людзям, паслугі і парады якіх можна набываць толькі за вялікія грошы, і то не заўсёды.

Усё жыццё з дзецьмі і было для жонкі, а таму і для мяне, не радасцю, а пакутаю. Як жа не пакутаваць? Яна заўсёды і пакутавала. Бывала, толькі супакоімся ад якой-небудзь сцэны рэўнасці або проста сваркі і думаем пажыць, пачытаць і падумаць; толькі возьмешся за якую-небудзь справу, раптам атрымліваеш паведамленне, што Васю ванітуе, або Маша схадзіла з крывёю, або ў Андрушкі высыпка, ну і вядома, жыцця ўжо няма. Куды скакаць, па якіх дактароў, куды адзяліць? І пачынаюцца клістыры, тэмпературы, мікстуры і дактары. Не паспее гэта скончыцца, як пачынаецца нешта іншае. Правільнага, цвёрдага сямейнага жыцця не было. А было, як я вам казаў, безупыннае выратаванне ад уяўных і сапраўдных небяспек. Але ж гэта цяпер у большасці сямей. У маёй жа сям'і было асабліва рэзка. Жонка была дзеталюбнаю і легкавернаю.

Таму прысутнасць дзяцей не толькі не паляпшала нашага жыцця, але атручвала яго. Апрача таго, дзеці — гэта была для нас новая прычына разладу. З тае пары як былі дзеці і чым больш яны раслі, тым часцей менавіта самі дзеці былі і сродкам і прычынаю разладу. Не толькі прычынаю разладу, але дзеці былі зброяй барацьбы; мы нібыта біліся адно з адным дзецьмі. У кожнага

з нас было сваё любімае дзіця — зброя ў бойцы. Я біўся часцей Васем, старэйшым, а яна Лізаю. Апрача таго, калі дзеці падраслі і вызначыліся іх характары, зрабілася тое, што яны сталі саюзнікамі, якіх мы прыцягнулі кожны на свой бок. Яны страшэнна пакутавалі праз гэта, небаракі, але нам, у нашай няспыннай вайне, не да таго было, каб думаць пра іх. Дзяўчынка трымала мой бок, хлопчык жа старэйшы, падобны да яе, яе ўлюбёнец, часта быў ненавісны мне.

## XVII

— Вось гэтак і жылі. Адносіны рабіліся ўсё больш і больш варожыя. І, нарэшце, дайшлі да таго, што ўжо не рознагалоссе параджала варожасць, а варожасць параджала рознагалоссе: што б яна ні сказала, я ўжо наперад быў не згодны, і дакладна гэтак жа і яна.

На чацвёрты год з абодвух бакоў вырашана было неяк само па сабе, што зразумець адно аднаго, пагадзіцца адно з адным мы не зможам. Мы перасталі ўжо шукаць спробы дамовіцца да канца. У адносінах самых простых рэчаў, асабліва ў адносінах дзяцей, мы непахісна заставаліся кожны пры сваёй думцы. Як я цяпер прыгадваю, думкі, якія я адстойваў, былі для мяне не такія ўжо і дарагія, каб я не мог адступіцца ад іх; але яна трымалася процілеглае думкі, і адступіцца — азначала прызнаць, што яе праўда. А гэтага я не мог. Яна таксама. Яна, мабыць, цвёрда лічыла, што заўсёды мела рацыю перада мной, а ўжо я ў сваіх вачах быў заўжды святы перад ёю. Удваіх мы былі амаль асуджаны на маўчанне ці такія размовы, якія, я ўпэўнены, жывёла можа весці між сабою: «Колькі часу? Пара спаць. Які сёння

абед? Куды ехаць? Што напісана ў газеце? Паслаць па доктара. Горла баліць у Машы». Варта было на валасок адступіць ад гэтага страшэнна звужанага кола размоў, каб выбухнула злосць. Пачыналіся сутычкі, ляцелі словы нянавісці за каву, абрус, брычку, за ход у вінце,— усё справы, якія ні для таго, ні для другога не маглі мець ніякага значэння. У мяне ва ўсякім разе нянавісць да яе часта віравала страшэнная! Я глядзеў іншы раз, як яна налівала чай, махала нагою або падносіла лыжку да рота, хлюпала, уцягвала ў сябе вадкасць, і ненавідзеў яе менавіта за гэта, як за самы агідны ўчынак. Я не заўважаў тады, што перыяды злосці нараджаліся ў мяне вельмі дакладна і раўнамерна, адпаведна перыядам таго, што мы называлі каханнем. Перыяд кахання — перыяд злосці; энергічны перыяд кахання — доўгі перыяд злосці; больш слабая праява кахання — кароткі перыяд злосці. Тады мы не разумелі, што гэтае каханне і злосць было тое ж жывёльнае пачуццё; толькі з розных канцоў. Жыць гэтак было б жудасна, каб мы разумелі сваё становішча; але мы не разумелі і не бачылі яго. У гэтым і паратунак і кара чалавека, што, калі ён жыве няправільна, ён можа сябе затуманьваць, каб не бачыць гаротнага свайго становішча. Гэтак рабілі і мы. Яна старалася забыцца ў напружаных, заўжды неадкладных клопатах па гаспадарцы, клопатах пра абстаноўку, уборы свае і дзяцей, вучобу, здароўе дзяцей. У мяне ж было сваё п'янства — п'янства службы, палявання, карт. Мы абое заўсёды былі занятыя. Мы абое адчувалі, што чым болей мы заняты, тым больш злосныя можам быць адно да аднаго. «Табе добра грымаснічаць,— думаў я пра яе,— ты вось мяне прамучыла сцэнамі ўсю ноч, а ў мяне пасяджэнне».— «Табе добра,—

не толькі думала, а і казала яна,— а я ўсю ноч не спала з дзіцем».

Гэтак мы і жылі, у бясконцым тумане не бачачы таго становішча, у якім мы знаходзіліся. І каб не здарылася таго, што здарылася, і я гэтак бы пражыў яшчэ да старасці, я так бы і думаў, паміраючы, што я пражыў добрае жыццё, не надта добрае, але і не кепскае, гэткае, як усе; я не разумеў бы тае бездані няшчасця і тае агіднае хлусні, у якой я валтузіўся.

А мы былі два калоднікі, якія ненавідзелі адно аднаго і былі звязаны адным ланцугом, якія атручвалі адно аднаму жыццё і стараліся не заўважаць гэтага. Я яшчэ не ведаў тады, што 0,99 сямей жывуць у гэткім жа пекле, як і я жыў, і што гэта не можа быць іначай. Тады я яшчэ не ведаў гэтага ні пра іншых, ні пра сябе.

Дзіўна, якія супадзенні і ў правільным і нават у няправільным жыцці! Якраз калі ў бацькоў жыццё становіцца невыноснае, неабходнымі становяцца і гарадскія ўмовы для выхавання дзяцей. І вось паяўляецца патрэба ў пераездзе ў горад.

Ён змоўк і разы са два азваўся сваімі дзіўнымі гукамі, якія цяпер ужо зусім падобны былі да стрыманага рыдання. Мы падыходзілі да станцыі.

— Каторая гадзіна? — спытаў ён.

Я зірнуў, было дзве гадзіны.

— Вы не стаміліся? — спытаў ён.

— Не, але вы стаміліся.

— Мяне душыць. Дазвольце, я прайдуся, вып'ю вады.

І ён, хістаючыся, пайшоў цераз вагон. Я сядзеў адзін, прыгадваючы ўсё, што ён сказаў мне, і гэтак задумаўся, што і не заўважыў, калі ён вярнуўся праз другія дзверы.

# XVIII

— Так, я ўсё захапляюся,— пачаў ён.— Шмат я перадумаў, на шмат што я гляджу па-іншаму, і пра ўсё гэта хочацца сказаць. Ну, і пачалі жыць у горадзе. У горадзе няшчасным людзям жыць лепей. У горадзе чалавек можа пражыць сто гадоў і не ўгледзець таго, што ён даўно памёр і згніў. Разбірацца з самім сабою няма калі, усё занята. Справы, грамадскія адносіны, здароўе, мастацтва, здароўе дзяцей, іх выхаванне. Бо трэба прымаць тых і гэтых, ехаць да тых і гэтых; то трэба паглядзець гэтую, паслухаць гэтага ці гэтую. У горадзе ў кожны дадзены момант ёсць адна, а то адразу дзве, тры славутасці, якіх ніяк нельга прапусціць. То трэба лячыць сябе, таго ці гэтага, то настаўнікі, рэпетытары, гувернанткі, а жыццё пустышка. Ну, гэтак мы і жылі і меней адчувалі болю ад сужыцця. Апрача таго, першы час быў цудоўны занятак — уладкаванне ў новым горадзе, на новай кватэры, і яшчэ занятак — пераезды з горада ў вёску і з вёскі ў горад.

Пражылі адну зіму, а на другую зіму здарылася яшчэ адна акалічнасць, нікому не прыкметная і на першы погляд зусім нікчэмная, але такая, якая і з'явілася прычынаю ўсяго таго, што адбылося. Яна была хворая, і нягоднікі не дазволілі ёй раджаць і навучылі сродку. Для мяне гэта было агідна. Я змагаўся супраць гэтага, але яна з легкадумнаю ўпартасцю настояла на сваім, і я скарыўся; апошняе апраўданне свінскага жыцця — дзеці — было адабрана, і жыццё стала яшчэ больш брыдкае.

Мужыку, работніку, дзеці патрэбны, хаця і цяжка яму пракарміць, але яны яму патрэбны, і таму яго сямейныя адносіны маюць апраўданне.

А вось нам, людзям, якія маюць дзяцей, яшчэ дзеці не патрэбны, яны — лішні клопат, выдаткі, спадчыннікі, яны ў цяжар. І апраўдання свінскага жыцця для нас ужо няма ніякага. Або мы штучна пазбаўляемся дзяцей, або глядзім на дзяцей як на няшчасце, вынік неасцярожнасці, што яшчэ горш. Апраўдання няма. Але мы так маральна палі, што мы нават не бачым патрэбы ў апраўданні. Большасць цяперашняга адукаванага свету аддаецца гэтай распусце без усякага дакору сумлення.

Няма чаго дакараць, таму што сумлення ў нашым побыце няма аніякага, апроч, калі можна так назваць, сумлення грамадскае думкі і крымінальнага закону. А тут і тое і другое не парушаецца: саромецца перад грамадствам няма чаго, *усе* гэта робяць: і Мар'я Паўлаўна і Іван Захаравіч. Навошта пладзіць жабракоў ці пазбаўляць сябе магчымасці грамадскага жыцця? Саромецца крымінальнага закону ці баяцца яго таксама няма чаго. Гэта пачварныя дзеўкі і салдаткі кідаюць дзяцей у сажалкі і студні; тых, вядома, трэба саджаць у астрог, а ў нас усё робіцца своечасова і чыста.

Гэтак пражылі мы яшчэ два гады. Сродак паскуднікаў, мусіць, пачынаў дзейнічаць; яна фізічна пагрубела і папрыгажэла, як апошняя краса лета. Яна адчувала гэта і займалася сабою. У яе паявілася нейкае абураючае хараство, якое хвалявала людзей. Яна была ва ўсёй сіле трыццацігадовай раскормленай і раздражненай жанчыны, якая не раджала. Выгляд яе выклікаў непакой. Калі яна праходзіла ля мужчын, яна прыцягвала да сябе іх позіркі. Яна была як застаялы, раскормлены конь, з якога знялі аброць. Аброці не было ніякае, як няма ніякае ў 0,99 нашых жанчын. І я адчуваў гэта, і мне было страшна.

## XIX

Ён раптам прыўстаў і перасеў бліжэй да акна.

— Прабачце мне,— сказаў ён і, скіраваўшы вочы ў акно, моўчкі прасядзеў гэтак хвіліны тры. Потым ён цяжка ўздыхнуў і зноў сеў насупраць мяне. Твар ягоны зрабіўся зусім іншы, вочы жаласныя, і нейкая дзіўная амаль усмешка моршчыла ягоныя губы.— Я стаміўся крышку, але я раскажу. Часу яшчэ шмат, яшчэ не світае. Так, так,— пачаў ён зноў, закурыўшы папяросу.— Яна пагрубела з тае пары, як перастала раджаць, і хвароба гэтая — пакута вечная праз дзяцей — пачала праходзіць; не тое што праходзіць, але яна нібыта прачнулася ад п'янства, апамяталася і ўбачыла, што ёсць цэлы свет божы з яго радасцямі, на якія яна забылася, але ў якім яна жыць не ўмела, свет божы, якога яна зусім не разумела. «Як бы не ўпусціць! Пройдзе час, не вернеш!» Гэтак мне ўяўляецца, што яна думала ці хутчэй адчувала, ды і нельга ёй было думаць і адчуваць інакш: яе выхавалі ў тым, што ёсць на свеце толькі адно вартае ўвагі — каханне. Яна выйшла замуж, атрымала тое-сёе ад гэтага кахання, аднак не толькі далёка не тое, што абяцалася, што чакалася, але і шмат расчараванняў, пакут і тут жа нечаканую муку — дзяцей! Мука гэтая знясілела яе. І вось, дзякуючы паслужлівым дактарам, яна даведалася, што можна абысціся і без дзяцей. Яна узрадавалася, зведала гэта і ажыла зноў для аднаго таго, што яна ведала,— для кахання. Але каханне з апаскуджаным і рэўнасцю і рознай злосцю мужам было ўжо не тое. Ёй пачало ўяўляцца нейкае іншае, чысценькае, новенькае каханне, ва ўсякім разе я гэтак думаў пра яе. І вось яна стала аглядацца, як быццам нечага чакала. Я гэта ба-

чыў і не мог не хвалявацца. Скрозь і ўсюды пачало здарацца тое, што яна, як і заўсёды, размаўляючы са мною пры дапамозе іншых, гэта значыць, гаворачы з іншымі, але звяртаючы гаворку да мяне, выказвала смела, зусім не думаючы аб тым, што яна гадзіну таму назад казала процілеглае, выказвала напаўсур'ёзна, што мацярынскі клопат — гэта ашуканства, што не варта аддаваць сваё жыццё дзецям, калі ёсць маладосць і можна цешыцца жыццём. Яна займалася дзецьмі менш, не з гэтакай самаахвярнасцю, як раней, але болей і болей займалася сабою, сваёю знешнасцю, хаця яна і хавала гэта, і сваімі ўцехамі і нават удасканаленнем сябе. Яна зноў з захапленнем узялася за фартэпіяна, якое раней было зусім закінута. З гэтага ўсё і пачалося.

Ён зноў павярнуўся да акна стомленымі вачмі, але тут жа зноў, відаць, зрабіўшы над сабою намаганне, працягваў:

— Так, так, паявіўся гэты чалавек.— Ён сумеўся і разы са два азваўся сваімі гукамі.

Я бачыў, што яму было цяжка называць гэтага чалавека, успамінаць, гаварыць пра яго. Але ён зрабіў намаганне і, нібыта пераадолеўшы перашкоду, якая замінала яму, рашуча загаварыў далей:

— Кепскі ён быў чалавечак, на мае вочы, на маю ацэнку. І не таму, якое ён значэнне атрымаў у маім жыцці, а таму, што ён сапраўды быў гэтакі. Зрэшты тое, што ён быў благі, служыла толькі доказам таго, якая шалёная была яна. Не ён, дык іншы, гэта павінна было здарыцца.— Ён зноў змоўк.— Так, гэта быў музыкант, скрыпач; не прафесійны музыкант, а напаўпрафесійны, напаўграмадскі чалавек.

Ягоны бацька — памешчык, сусед майго

бацькі. Ён — бацька — збяднеў, і дзеці — тры было хлопчыкі — усе ўладкаваліся; аднаго толькі, меншага гэтага, адправілі да сваёй хроснай маці ў Парыж. Там яго аддалі ў кансерваторыю, таму што быў талент да музыкі, і ён выйшаў адтуль скрыпачом і іграў на канцэртах. Чалавек ён быў...— Мусіць, хацеў сказаць штось благое пра яго, але ўстрымаўся і хуценька дадаў: — Ну, ужо там я не ведаю, як ён жыў, ведаю толькі, што ў гэты год ён прыехаў у Расію і прыйшоў да мяне.

Міндалевыя вільготныя вочы, чырвоныя, з ухмылкаю, губы, нафіксатураныя вусікі, прычоска апошняя, модная, твар пошла-прыгожанькі, тое, што жанчыны называюць нішто сабе, кволага складу, хоць і не пачварнага, з празмерна тоўстым задам, як у жанчыны, як у готэнтотаў, кажуць. Яны, кажуць, таксама музыкальныя. Гэткі, наколькі магчыма, лезе ў фамільярнасць, але чулы і заўсёды гатовы спыніцца пры самым нязначным адпоры, з захаваннем знешняе годнасці і з тым асаблівым парыжскім адценнем чаравікаў з гузікамі і яркіх колераў гальштука і іншага, што засвойваюць сабе іншаземцы ў Парыжы і што па свае асаблівасці, навізне, заўжды дзейнічае на жанчын. У манерах ненатуральная, знешняя весялосць. Манера, ведаеце, пра ўсё гаварыць намёкамі і ўрыўкамі, як быццам вы ўсё гэта ведаеце, памятаеце і можаце самі дапоўніць.

Менавіта ён са сваёю музыкаю і быў прычынаю ўсяму. А на судзе ж справа была так пададзена, што ўсё, маўляў, здарылася праз рэўнасць. Зусім не, хаця не то, што зусім не, а тое, ды не тое. На судзе гэтак і вырашана было, што я ашуканы муж і што я забіў, абараняючы свой зняважаны гонар (так гэта па-іхняму называецца). І ад гэтага мяне апраўдалі. Я на судзе стараўся дай-

сці да сэнсу справы, аднак яны разумелі так, быццам бы я хачу рэабілітаваць гонар жонкі.

Адносіны яе з гэтым музыкантам, якія б яны ні былі, для мяне гэта не мае сэнсу, ды і для яе таксама. Мае ж сэнс тое, што я вам расказаў, гэта значыць, маё свінства. Усё адбылося таму, што між намі была тая страшэнная бездань, пра якую я вам казаў, тое страшэннае напружанне ўзаемнай нянавісці адно да аднаго, пры якой першай жа зачэпкі было дастаткова, каб выклікаць крызіс. Сваркі між намі рабіліся ў апошні час чымсьці страшным і былі асабліва дзіўныя, бо чаргаваліся [redacted] таксама напружанай жывёльнай палкасцю.

Каб не ён паявіўся, паявіўся б іншы. Каб не прычына рэўнасці, дык іншая. Я настойваю на тым, што ўсе мужы, якія гэтак жывуць, як я жыў, запавінны або распуснічаць, або разысціся, або забіць самі сябе ці сваіх жонак, як я зрабіў. Калі [redacted] кім гэтага не здарылася, дык гэта надзвычай рэдкае выключэнне. Я, перш чым скончыць, як я скончыў, быў колькі разоў на грані самагубства, а яна таксама атручвалася.

## XX

— Так, гэта ўсё было, і незадоўга перад тым. Жылі мы як быццам у пераміры, і няма ніякіх прычын парушаць яго; раптам пачынаецца гаворка аб тым, што такі і такі сабака на выстаўцы атрымаў медаль, кажу я. Яна кажа: «Не медаль, а пахвальны водгук». Пачынаецца спрэчка. Пачынаецца пераскокванне з аднаго на другое, папіканні: «Ну, ды гэта даўно вядома, заўсёды гэтак: ты сказаў...» — «Не, я не казаў».— «Значыць, я хлушу!..» Адчуваеш, што вось-вось пачнецца тая страшэнная сварка, пры якой хочацца

сябе ці яе забіць. Ведаеш, што зараз пачнецца, і баішся гэтага, як агню, і таму хацеў бы стрымацца, аднак злосць апаноўвае ўсю тваю істоту. Яна ў тым жа, яшчэ горшым становішчы, назнарок перакручвае кожнае тваё слова, надаючы яму няправільнае значэнне; кожнае ж яе слова насычана атрутаю; дзе толькі яна ведае, што мне асабліва балюча, туды якраз яна і джгае. Далей, болей. Я крычу: «Маўчы!» — ці што-небудзь накшталт гэтага. Яна выбягае з пакоя, ляціць у дзіцячую. Я намагаюся ўтрымаць яе, каб дагаварыць і давесці, хапаю яе за руку. Яна прыкідваецца, што зрабіў ёй балюча, і крычыць: «Дзеці, ваш бацька б'е мяне!» Я крычу: «Не хлусі!» — «Гэта ўжо не ўпершыню!» — крычыць яна ці што-небудзь падобнае. Дзеці кідаюцца да яе. Яна супакойвае іх. Я кажу: «Не прыкідвайся!» Яна кажа: «Для цябе ўсё прытворства; ты заб'еш чалавека і будзеш гаварыць, што ён прыкідваецца. Цяпер я зразумела цябе. Ты гэтага і хочаш!» — «О, хоць бы ты здохла!» — крычу я. Памятаю, як мяне жахнулі гэтыя страшныя словы. Я ніяк не чакаў, каб я мог сказаць гэткія страшныя, грубыя словы, і здзіўляюся таму, што яны маглі вылецець з мяне. Я крычу гэтыя страшныя словы і бягу ў кабінет, саджуся і куру. Чую, што яна выходзіць у пярэдні пакой і збіраецца ехаць. Я пытаюся куды. Яна не адказвае. «Ну, і чорт з ёю»,— кажу я сабе, вяртаюся ў кабінет, зноў кладуся і куру. Тысячы розных планаў аб тым, як адпомсціць ёй і пазбавіцца ад яе і як паправіць усё гэта і зрабіць так, як быццам бы нічога і не было, прыходзіць мне ў галаву. Я пра ўсё гэта думаю і куру, куру, куру. Думаю збегчы ад яе, схавацца, паехаць у Амерыку. Даходжу да таго, што пачынаю марыць аб тым, як я пазбаўлюся ад яе і як гэта будзе цудоў-

на, як сыдуся з іншаю, цудоўнаю жанчынаю, зусім новаю. Пазбаўлюся тым, што яна памрэ, або тым, што развядуся, і думаю, як гэта зрабіць. Бачу, што я блытаюся, што я не пра тое думаю, пра што трэба, і таму, каб не бачыць, што я не пра тое думаю, пра што трэба, таму і куру.

А жыццё дома ідзе. Прыходзіць гувернантка, пытаецца: «Дзе madame? калі вернецца?» Лёкай пытаецца, ці падаваць чай. Прыходжу ў сталовую; дзеці, асабліва старэйшая Ліза, якая ўжо разумее, запытальна і незычліва пазіраюць на мяне. П'ем моўчкі чай. Яе ўсё няма. Праходзіць увесь вечар, яе няма, і два пачуцці віруюць у душы: злосць на яе за тое, што яна мучыць мяне і ўсіх дзяцей сваёй адсутнасцю, якая скончыцца ж тым, што яна прыйдзе, і страх таго, што яна не прыйдзе і нешта зробіць з сабою. Я паехаў бы па яе. Але дзе яе шукаць? У сястры? Аднак гэта неразумна прыехаць і пытацца. Ды і бог з ёю; калі яна хоча мучыць, няхай сама мучыцца. Яна, мусіць, гэтага і чакае. І наступным разам будзе яшчэ горш. А што, калі яна не ў сястры, а што-небудзь робіць ці ўжо зрабіла з сабою?.. Адзінаццаць, дванаццаць, гадзіна. Не іду ў спальню, неразумна аднаму там ляжаць і чакаць, і тут не кладуся. Хачу чым-небудзь заняцца, напісаць лісты, чытаць; нічога не магу. Сяджу адзін у кабінеце, пакутую, злуюся і прыслухоўваюся. Тры, чатыры гадзіны — яе ўсё няма. Пад раніцу засынаю. Прачынаюся — яе няма.

Усё ў доме ідзе па-старому, але ўсе ў разгубленасці і ўсе запытальна і з дакорам пазіраюць на мяне, мяркуючы, што ўсё гэта праз мяне. А ў маёй душы ўсё тая ж барацьба — злосці за тое, што яна мяне мучыць, і неспакою за яе.

Ля адзінаццаці прыязджае яе сястра паслом

ад яе. І пачынаецца звычайнае: «Яна ў жахлівым становішчы. Ну што ж гэта!» — «Ды нічога не здарылася». Я кажу пра цяжкі яе характар і кажу, што я нічога не зрабіў.

— Але гэта не можа так аставацца,— кажа сястра.

— Гэта яе справа, а не мая,— кажу я.— Я першага кроку не зраблю. Разысціся, дык разысціся.

Швагерка ад'язджае ні з чым. Я смела сказаў, гаворачы з ёю, што не зраблю першага кроку, але як толькі яна паехала і я выйшаў і ўбачыў дзяцей, вартых жалю, напалоханых, дык ужо гатовы быў зрабіць першы крок. І рады быў бы яго зрабіць, ды не ведаю як. Зноў хаджу, куру, выпіваю за сняданкам гарэлкі і віна і дабіваюся таго, чаго падсвядома жадаю: не бачу глупства, подласці свайго становішча.

Каля трох прыязджае яна. Сустракаючы мяне, яна нічога не гаворыць. Я лічу, што яна скарылася, пачынаю гаварыць аб тым, што я быў раззлаваны яе дакорамі. Яна з тым жа строгім і страшэнна змучаным тварам кажа, што яна прыехала не для таго, каб выслухоўваць тлумачэнні, а каб забраць дзяцей, што жыць разам мы не можам. Я пачынаю гаварыць, што вінаваты не я, што яна раззлавала мяне. Яна строга, урачыста пазірае на мяне і потым кажа:

— Не гавары болей, ты будзеш каяцца.

Я кажу, што выносіць не магу камедый. Тады яна крычыць нешта, але я не разбіраю, і бяжыць у свой пакой. І за ёй звініць ключ: яна зачынілася. Я штурхаю дзверы, адказу няма, і я са злосцю адыходжу. Праз паўгадзіны Ліза прыбягае ў слязах.

— Што? што-небудзь зрабілася?

— Матулі не чуваць.

Ідзем. Я торгаю з усяе сілы дзверы. Засаўка слаба засунута, і абедзве палавінкі расчыняюцца. Я падыходжу да ложка. Яна ў спадніцах і высокіх чаравіках ляжыць няёмка на ложку непрытомная. На століку пустая пляшачка з опіумам. Прыводзім да прытомнасці. Яшчэ слёзы і, нарэшце, прымірэнне. І не прымірэнне: у душы ў кожнага тая ж старая злосць адно супраць аднаго з дабаўкаю яшчэ злосці за той боль, які нанесены гэтаю сваркаю і які кожны залічвае на кошт другога. Але трэба ж як-небудзь скончыць усё гэта, і жыццё ідзе па-старому. Так, гэткія сваркі і нават горшыя здараліся ўвесь час, то раз на тыдзень, то раз на месяц, то кожны дзень. І ўсё адно і тое ж. Аднойчы я ўжо ўзяў замежны пашпарт — сварка працягвалася два дні,— але потым зноў напаўтлумачэнне, напаўпрымірэнне — і я астаўся.

## XXI

— Дык вось у такіх мы былі адносінах, калі паявіўся гэты чалавек. Прыехаў у Маскву гэты чалавек — прозвішча ягонае Трухачэўскі — і прыйшоў да мяне. Гэта было раніцаю. Я прыняў яго. Былі мы калісьці на «ты». Ён паспрабаваў палавінчатымі фразамі між «ты» і «вы» ўтрымацца на «ты», але я адкрыта задаў тон на «вы», і ён адразу ж падначаліўся. Ён мне дужа не спадабаўся з першага позірку. Але, дзіўная справа, нейкая дзіўная, фатальная сіла цягнула мяне да таго, каб не адштурхнуць яго, не аддаліць, а, наадварот, наблізіць. І сапраўды, што магло быць прасцей за тое, каб пагаварыць з ім холадна, развітацца, не знаёмячы з жонкаю. Аднак жа не,

я, як назнарок, загаварыў пра ягоную ігру, сказаў, што мне гаварылі, быццам бы ён кінуў скрыпку. Ён сказаў, што, наадварот, ён іграе цяпер больш, чым раней. Ён стаў прыгадваць аб тым, што я іграў раней. Я сказаў, што не іграю болей, але што жонка мая добра іграе.

Дзіўная справа! Мае адносіны да яго ў першы дзень, у першую гадзіну майго спаткання з ім былі такія, якія яны маглі быць толькі пасля таго, што здарылася. Штосьці было нацягнутае ў маіх адносінах з ім: я лавіў кожнае слова, выраз, сказаны ім ці мною, і прыпісваў ім важнае значэнне.

Я пазнаёміў яго з жонкаю. Адразу ж зайшла гаворка пра музыку, і ён прапанаваў свае паслугі іграць з ёю. Жонка, як і заўсёды ў гэты апошні час была вельмі элегантная і прывабная, неспакойна прыгожая. Ён, мусіць, спадабаўся ёй з першага позірку. Апрача таго, яна ўзрадавалася таму, што будзе мець прыемнасць іграць на скрыпцы, што яна вельмі любіла, бо наймала для гэтага скрыпача з тэатра, і на яе твары адбілася гэтая радасць. Але, убачыўшы мяне, яна адразу зразумела мой настрой і змянілася з твару, і пачалася гэтая гульня ўзаемнага падману. Я прыемна ўсміхаўся, робячы выгляд, што мне дужа прыемна. Ён, пазіраючы на жонку так, як пазіраюць усе распуснікі на прыгожых жанчын, рабіў выгляд, што яго цікавіць толькі тэма гаворкі, менавіта тое, што ўжо зусім не цікавіла яго. Яна старалася быць абыякавай, але знаёмы ёй мой фальшыва-вясёлы выраз раўніўца і яго пажадлівы позірк, відаць, узбуджалі яе. Я бачыў, што з першага ж спаткання ў яе неяк незвычайна заблішчалі вочы і, мусіць, у выніку мае рэўнасці, між ім і ёю адразу ж прабег нібы электрычны ток, які выклікаў адны і тыя ж выразы, позіркі і ўсмешкі. Яна

чырванела — і ён чырванеў, яна ўсміхалася — ён усміхаўся. Пагаварылі аб музыцы, аб Парыжы, аб розных дробязях. Ён устаў, каб развітацца і, усміхаючыся, з капелюшом на ляжцы, якая дробна падрыгвала, стаяў, пазіраючы то на яе, то на мяне, нібы чакаў, што мы зробім. Памятаю я гэту хвіліну менавіта таму, што ў гэту хвіліну я мог не запрасіць яго, і тады нічога б не было. Але я зірнуў на яго, на яе. «І не думай, каб я раўнаваў цябе»,— у думках сказаў я ёй,— «ці каб я баяўся цябе»,— у думках сказаў я яму і запрасіў яго прывозіць як-небудзь вечарам скрыпку, каб іграць з жонкаю. Яна са здзіўленнем зірнула на мяне, зачырванелася і, нібы спалохаўшыся, стала адмаўляцца, гаварыла, што яна не надта добра іграе. Гэтая адмова яе яшчэ больш раззлавала мяне, і я яшчэ болей настойваў. Памятаю тое дзіўнае адчуванне, з якім я пазіраў на ягоную патыліцу, белую шыю, якая аддзялялася ад чорных, расчасаных на абодва бакі валасоў, калі ён подскакам, нібыта птушка, выходзіў ад нас. Я не мог не прызнацца сабе, што прысутнасць гэтага чалавека мучыла мяне. «Ад мяне залежыць,— думаў я,— зрабіць гэтак, каб ніколі не бачыць яго. Але зрабіць гэтак, азначала б, што я баюся яго. Не, я не баюся яго! Гэта было б надта непрыгожа, казаў я сабе. І тут жа, у пярэднім пакоі, ведаючы, што жонка чуе мяне, я настояў на тым, каб ён сёння ж увечары прыехаў са скрыпкаю. Ён паабяцаў мне і паехаў.

Увечары ён прыехаў са скрыпкаю, і яны ігралі. Аднак ігра доўга не ладзілася, не было тых нот, якія ім патрэбны былі, а тыя, што былі, жонка не магла іграць без падрыхтоўкі. Я дужа любіў музыку і спачуваў іх ігры, папраўляў яму пюпітр, гартаў старонкі. І тое-сёе яны сыгралі,

нейкія песні без слоў і санату Моцарта. Ён іграў цудоўна, у яго было ў вышэйшае ступені тое, што называецца тонам. Апрача таго, тонкі шляхетны густ, зусім не ўласцівы ягонаму характару.

Ён іграў, вядома, значна лепш за жонку і памагаў ёй і разам з тым пачціва хваліў яе ігру. Ён паводзіў сябе вельмі прыстойна. Здавалася, што жонка была захоплена адной толькі музыкай, трымалася яна вельмі проста і натуральна. А вось я, хоць і прыкідваўся, што зацікаўлены музыкаю, увесь вечар не пераставаў пакутаваць ад рэўнасці.

З першае ж хвіліны як ён сустрэўся вачмі з жонкаю, я бачыў, што звер, які сядзеў у іх абаіх, апрача ўсіх умоўнасцей становішча і асяроддзя, спытаў: «Можна?» — і адказаў: «О так, вядома». Я бачыў, што ён ніяк не чакаў сустрэць у маёй жонцы, у маскоўскай даме, такую прывабную жанчыну, і быў дужа рады гэтаму. Таму што сумненняў у тым, што яна згодна, у яго не было ніякіх. Усё пытанне было ў тым, каб толькі не перашкодзіў агідны муж. Каб я быў чысты, я не разумеў бы гэтага, але я, як і большасць, думаў гэтак жа пра жанчын, пакуль не быў жанаты, і таму чытаў у ягонае душы як па пісаным. Пакутаваў я асабліва праз тое, што я бачыў несумненна, што да мяне ў яе не было іншага пачуцця, апрача пастаяннага раздражнення, якое толькі зрэдку перабівалася прывычнай пажадлівасцю, а што гэты чалавек, і па сваёй знешняй элегантнасці і навізне і, галоўнае, па несумненна вялікім таленце да музыкі, па збліжэнні, якое ўзнікала пры сумеснае ігры, па ўплыве, які аказвала музыка на ўражлівыя натуры, асабліва скрыпка, што гэты чалавек павінен быў не тое што спадзявацца, а несумненна без усякага вагання павінен быў перамагчы,

змяць, скруціць яе, звіць з яе вяроўку, зрабіць з яе ўсё, што захоча. Я гэтага не мог не бачыць, і я пакутаваў жахліва. Аднак, нягледзячы на гэта ці, магчыма, у выніку гэтага, нейкая сіла супраць мае волі прымушала мяне быць асабліва не толькі пачцівым, а і ласкавым з ім. Ці то для жонкі, ці то для яго я гэта рабіў, каб паказаць, што я не баюся яго, ці то для сябе, каб ашукаць самога сябе,— не ведаю, толькі я не мог з першых жа зносін маіх з ім быць шчырым. Я павінен быў, для таго каб не паддацца жаданню адразу ж забіць яго, лашчыць яго. Я паіў яго за вячэраю дарагім вінам, захапляўся ягонаю ігрою, з асаблівай ласкавай усмешкай гаварыў з ім і запрасіў яго ў наступную нядзелю абедаць і яшчэ іграць з жонкаю. Я сказаў, што запрашу таго-сяго з маіх знаёмых, аматараў музыкі, паслухаць яго. Ды гэтак і скончылася.

І Познышаў ад моцнага хвалявання павярнуўся і азваўся сваім незвычайным гукам.

— Дзіўная справа, як дзейнічала на мяне прысутнасць гэтага чалавека,— пачаў ён зноў, мусіць, робячы намаганне, каб выглядаць спакойным.— Вяртаюся з выстаўкі дадому на другі ці трэці дзень пасля гэтага, заходжу ў пярэдні пакой і раптам адчуваю, штосьці цяжкае, нібыта камень, навальваецца мне на сэрца, і не магу сказаць сабе, што́ гэта. Гэтае нешта было тое, што, праходзячы праз пярэдні пакой, я заўважыў нешта такое, што нагадвала яго. Толькі ў кабінеце я ўцяміў, што́ гэта было, і вярнуўся ў пярэдні пакой, каб праверыць сябе. Так, я не памыліўся: гэта быў ягоны шынель. Ведаеце, модны шынель. (Усё, што яго тычылася, хоць я і не разумеў сутнасці сваіх учынкаў, я прыкмячаў з незвычайнай уважлівасцю.) Пытаюся,— гэтак і ёсць, ён тут. Праходжу не

праз гасцінную, а праз класны пакой, у залу. Ліза, дачка, сядзіць за кніжкаю, і нянька з маленькай ля стала круціць нейкай накрыўкай. Дзверы ў залу прычынены, і чую адтуль раўнамернае arpeggio і голас яго і яе. Прыслухоўваюся, але не магу разабраць. Мусіць, гукі на фартэпіяна знарок для таго, каб заглушыць іх словы, магчыма, пацалункі. Бог ты мой! што тут сталася са мной! Як успомню толькі пра таго звера, які жыў тады ў маёй душы, жах бярэ. Сэрца раптам сціснулася, спынілася, а потым загрукала, як малатком. Галоўнае пачуццё, як і заўжды, ва ўсякай злосці, было — жаль да сябе. «Пры дзецях, пры няньцы!» — думаў я. Відаць, я быў страшны, таму што і Ліза глядзела на мяне дзіўнымі вачыма. «Што ж мне рабіць? — спытаў я ў сябе.— Зайсці? Я не магу, я бог ведае што зраблю». Аднак не магу і пайсці. Нянька пазірае на мяне гэтак, нібыта яна разумее маё становішча. «Але нельга не зайсці»,— сказаў я сабе і хутка адчыніў дзверы. Ён сядзеў за фартэпіяна, рабіў гэтыя arpeggio сваімі выгнутымі дагары вялікімі белымі пальцамі. Яна стаяла ў кутку раяля над разгорнутымі нотамі. Яна першая ўбачыла ці пачула і паглядзела на мяне. Ці то яна спалохалася і прыкінулася, што не спалохалася, ці то сапраўды не спалохалася, але яна не ўздрыгнула, не зварухнулася, а толькі пачырванела, і то пазней.

— Як я рада, што ты прыйшоў; мы не вырашылі, што іграць у нядзелю,— сказала яна такім тонам, якім не гаварыла б са мной, каб мы былі адны. Гэта і тое, што яна сказала «мы» пра сябе і яго, абурыла мяне. Я моўчкі павітаўся з ім.

Ён паціснуў мне руку і адразу ж з усмешкаю, якая мне здалася кпліваю, пачаў тлумачыць мне, што ён прынёс ноты для рэпетыцыі к нядзелі і

што вось між імі нязгода, што іграць: больш цяжкае і класічнае, менавіта Бетховенскую санату са скрыпкаю, або маленькія рэчы? Усё было гэтак натуральна і проста, што нельга было ні да чаго прычапіцца, а разам з тым я быў упэўнены, што ўсё гэта была няпраўда, што яны змовіліся аб тым, каб ашукаць мяне.

Адна з самых цяжкіх пакут для раўніўцаў (а раўніўцы ўсе ў нашым грамадскім жыцці) — гэта вядомыя свецкія ўмовы, пры якіх дапускаецца самая вялікая і небяспечная блізкасць між мужчынам і жанчынаю. Трэба зрабіцца пасмешышчам на людзях, калі перашкаджаць блізкасці на балях, блізкасці дактароў са сваёй пацыенткай, блізкасці на занятках мастацтвам, жывапісам, а галоўнае — музыкаю. Людзі займаюцца ўдваіх самым высакародным мастацтвам, музыкаю; для гэтага патрэбна поўная блізкасць, і блізкасць гэтая не мае нічога заганнага, і толькі неразумны, раўнівы муж можа бачыць тут штосьці непажаданае. А між тым усе ведаюць, што менавіта ў выніку гэтых самых заняткаў, асабліва музыкаю, і адбываецца большая доля пралюбадзейства ў нашым грамадстве. Я, відаць, збянтэжыў іх тою збянтэжанасцю, якая выявілася і ў мяне: я доўга нічога не мог сказаць. Я быў нібы перавернутая пляшка, з якой вада не ідзе таму, што яна празмерна поўная. Я хацеў злаяць, выгнаць яго, але я адчуваў, што я павінен быў зноў быць ветлівы і ласкавы з ім. Я гэтак і зрабіў. Я зрабіў выгляд, што ўхваляю ўсё, і зноў з тым дзіўным пачуццём, якое вымушала мяне абыходзіцца з ім з тым большаю ласкаю, чым больш пакутліваю для мяне была ягоная прысутнасць; я сказаў яму, што спадзяюся на ягоны густ і ёй раю тое ж. Ён яшчэ пабыў столькі, колькі трэба

было, каб згладзіць непрыемнае ўражанне, калі я раптам са спалоханым тварам зайшоў у пакой і змоўк,— і паехаў, прыкінуўшыся, што цяпер вырашалі, што іграць заўтра. Аднак я быў упэўнены, што ў параўнанні з тым, што займала іх, пытанне пра тое, што іграць, было для іх зусім абыякавае.

Я з падкрэсленаю пачцівасцю праводзіў яго да пярэдняга пакоя (як не праводзіць чалавека, які прыехаў з тым, каб парушыць спакой і загубіць шчасце цэлае сям'і!). Я пацiснуў з падкрэсленаю ласкаю яго белую, мяккую руку.

## XXII

— Увесь гэты дзень я не гаварыў з ёю, не мог. Прысутнасць яе выклiкáла ў мяне такую нянавiсць да яе, што я баяўся за сябе. За абедам яна пры дзецях спытала ў мяне, калі я еду. Мне трэба было на наступным тыдні ехаць на з'езд у павет. Я сказаў калі. Яна спытала, ці не трэба мне чаго на дарогу. Я нічога не адказаў, моўчкі пасядзеў за сталом і гэтак жа моўчкі пайшоў у кабінет. Апошнім часам яна ніколі не прыходзіла да мяне ў пакой, асабліва ў гэты час. Ляжу ў кабінеце і злуюся. Раптам знаёмая хада. І ў галаву мне прыходзіць страшная, агідная думка аб тым, што яна, як жонка Урыі, хоча схаваць ужо дапушчаны грэх свой і што яна ў такі незвычайны час ідзе да мяне. «Няўжо яна ідзе да мяне?» — думаў я, прыслухоўваючыся да яе блізкіх крокаў. Калі да мяне, значыць мая праўда. І ў душы ўзнімаецца невыказная агіда да яе. Бліжэй, бліжэй крокі. Няўжо не пройдзе міма, у залу? Не, дзверы рыпнулі, і ў дзвярах яе высокая, прыгожая постаць, а на твары і ў вачах — нерашучасць і як бы боязь,

якую яна хоча схаваць, але якую я бачу і значэнне якой я ведаю. Я ледзь не задыхнуўся, гэтак доўга я стрымліваў дыханне, і, працягваючы глядзець на яе, схапіўся за папяросніцу і стаў закурваць.

— Ну што гэта, да цябе зойдзеш пасядзець, а ты закурваеш,— і яна села блізка да мяне на канапу, тулячыся да мяне.

Я адхіліўся, каб не кранацца яе.

— Я бачу, ты нездаволены тым, што я хачу іграць у нядзелю,— сказала яна.

— Я нікольki не нездаволены,— сказаў я.

— Хіба я не бачу?

— Ну, вітаю цябе, што ты бачыш. Толькі я нічога не бачу, апрача таго, што ты паводзіш сябе як какотка.

— Калі ты хочаш лаяцца, як рамізнік, дык я пайду.

— Ідзі, толькі ведай, што калі табе не дарагі гонар сям'і, дык мне ты не дарагая (ліха з табою), але гонар сям'і.

— Ды што, што?

— Ідзі адсюль, богам прашу, ідзі!

Прыкідвалася яна, што не разумее, ці сапраўды не разумела, але толькі яна пакрыўдзілася і ўзлавалася. Яна ўстала, аднак не пайшла, а спынілася пасярод пакоя.

— Ты зрабіўся зусім немажлівы,— пачала яна.— Гэта такі характар, з якім анёл не ўжывецца,— і, як заўсёды, стараючыся ўкалоць мяне як мага больш балюча, яна нагадала мне мой учынак з сястрою (гэта быў выпадак з сястрою, калі я выйшаў з сябе і нагаварыў сястры сваёй грубасці; яна ведала, што гэта мучыць мяне, і ў гэтае месца ўкалола мяне).— Пасля гэтага ты мяне ўжо нічым не здзівіш,— сказала яна.

«Так, абразіць, унізіць, абняславіць і мяне ж пакінуць вінаватым»,— сказаў я сабе, і раптам мяне ахапіла такая страшэнная злосць на яе, якое я ніколі яшчэ не зазнаваў.

Мне ўпершыню захацелася фізічна выявіць гэтую злосць. Я падхапіўся і рушыў да яе; але ў той момант, як я падхапіўся, я памятаю, што я ўразумеў сваю злосць і спытаў у сябе, ці добра саддацца гэтаму пачуццю, і адразу ж адказаў сабе, што гэта добра, што гэта напалохае яе, і адразу ж, замест таго, каб праціўіцца гэтае злосці, я яшчэ стаў распаляць яе ў сабе і радавацца таму, што яна ўсё больш і больш распаляецца.

— Ідзі, ці я цябе заб'ю! — закрычаў я, падышоў да яе і схапіў яе за руку. Я свядома ўзмацняў інтанацыі злосці свайго голасу, калі казаў гэта. І, мусіць, я быў страшны, таму што яна так спалохалася, што нават не мела сілы пайсці, а толькі гаварыла:

— Вася, што, што з табой?

— Ідзі адсюль! — зароў я яшчэ гучней.— Толькі ты можаш давесці мяне да шаленства. Я не адказваю за сябе!

Я даў ход свайму шаленству і ўпіваўся ім, і мне хацелася яшчэ што-небудзь зрабіць незвычайнае, каб выявіць найвышэйшую ступень майго шаленства. Мне страшэнна хацелася біць, забіць яе, але я ведаў, што гэтага нельга, і таму, каб усё ж такі даць ход свайму шаленству, схапіў са стала прэс-пап'е і яшчэ раз крыкнуў: «Ідзі адсюль!» — і кінуў яго вобземлю міма яе. Я вельмі добра цэліў міма. Тады яна пайшла з пакоя, але затрымалася ў дзвярах. І тут жа, пакуль яшчэ яна бачыла (я зрабіў гэта для таго, каб яна бачыла), я пачаў хапаць са стала рэчы, падсвечнікі, чарніліцу, кідаць вобземлю іх і крычаць:

— Ідзі! прэч адсюль! Я не адказваю за сябе!

Яна пайшла — і я адразу ж перастаў.

Праз гадзіну да мяне прыйшла нянька і сказала, што ў жонкі істэрыка. Я прыйшоў; яна рыдала, смяялася, нічога не магла гаварыць і ўздрыгвала ўсім целам. Яна не прыкідвалася, а сапраўды была хворая.

Пад раніцу яна супакоілася, і мы памірыліся пад уплывам таго пачуцця, якое мы называлі каханнем.

Раніцаю, калі пасля прымірэння я прызнаўся ёй, што раўнаваў яе да Трухачэўскага, яна зусім не збянтэжылася і самым шчырым чынам засмяялася. Гэткаю дзіўнаю нават ёй здалося, як яна казала, магчымасць захаплення гэтым чалавекам.

— Хіба да такога чалавека магчыма ў прыстойнае жанчыны што-небудзь, апрача радасці, якую яна атрымлівае ад музыкі? Калі хочаш, я гатова ніколі больш не бачыць яго. Нават у нядзелю, хаця і запрошаны ўсе. Напішы яму, што я нездаровая, і ўсяму канец. Адно брыдка, што хто-небудзь можа падумаць, галоўнае ён сам, што ён небяспечны. А я вельмі гордая, каб дазволіць думаць гэтак.

І яна не хлусіла, яна верыла ў тое, што гаварыла; яна спадзявалася словамі гэтымі выклікаць у сабе агіду да яго і абараніць ёю сябе ад яго, але ёй не ўдалося гэта. Усё было накіравана супраць яе, асабліва гэта праклятая музыка. Так усё і скончылася, і ў нядзелю сабраліся госці, і яны зноў ігралі.

## XXIII

— Я думаю, лішне казаць, што я быў вельмі ганарысты: калі не быць ганарыстым у звычайным нашым жыцці, дык няма чым жыць. Ну, і ў

нядзелю я ахвотна ўзяўся за наладжванне абеду і вечара з музыкаю. Я сам накупляў усяго для абеду і запрасіў гасцей.

К шасці гадзінам сабраліся госці, і ён з'явіўся ў фраку з брыльянтавымі запінкамі дрэннага густу. Ён паводзіў сябе бесцырымонна, на ўсё адказваў спехам з усмешачкаю згоды і разумення, ведаеце, з тым асаблівым выразам, што ўсё, што вы зробіце або скажаце, ёсць тое самае, чаго ён чакаў. Усё, што было ў ім непрыстойнага, усё гэта я прыкмячаў цяпер з асабліваю радасцю, таму што гэта ўсё павінна было супакоіць мяне і паказваць, што ён стаяў для маёй жонкі на такой нізкай ступені, да якой, як яна і казала, яна не магла апусціцца. Я цяпер ужо не дазваляў сабе раўнаваць. Па-першае, я перапакутаваў ужо гэтай мукаю, і мне трэба было адпачыць; па-другое, я хацеў верыць жончыным словам і верыў ім. Аднак, нягледзячы на тое, што я не раўнаваў, я ўсё-такі быў ненатуральны з ім і з ёю і ў часе абеду і першую палову вечара, пакуль не пачалася музыка. Я ўсё яшчэ сачыў за рухамі і позіркамі іх абодвух.

Абед быў як абед, нудны, няшчыры. Даволі рана пачалася музыка. Ах, як я памятаю ўсе падрабязнасці гэтага вечара; памятаю, як ён прынёс скрыпку, адчыніў вечка, зняў вышытую яму дамай покрыўку, дастаў і стаў ладзіць. Памятаю, як жонка села з няшчыра-абыякавым выглядам, пад якім я бачыў, што яна хавала вялікую нерашучасць — нерашучасць пераважна перад сваім уменнем,— з няшчырым выглядам села за раяль, і пачаліся звычайныя lа на фартэпіяна, пічыката скрыпкі, устаноўка нот. Памятаю таксама, як яны зірнулі адно на аднаго, паглядзелі на гасцей і потым сказалі нешта адно аднаму, і пачалося. Яна

ўзяла першы акорд. У яго зрабіўся сур'ёзны, строгі, сімпатычны твар, і, прыслухоўваючыся да сваіх гукаў, ён асцярожнымі пальцамі таргануў па струнах і адказаў раялю. І пачалося...

Ён спыніўся і некалькі разоў запар азваўся сваімі гукамі. Хацеў пачаць гаварыць, але засоп носам і зноў спыніўся.

— Яны ігралі Крэйцараву санату Бетховена. Ці ведаеце вы першае прэста? Ведаеце?! — выгукнуў ён.— У!.. Страшэнная рэч гэтая саната. Менавіта гэтая частка. І наогул страшная рэч музыка. Што гэта такое? Я не разумею. Што такое музыка? Што яна робіць? І навошта яна робіць тое, што яна робіць? Кажуць, музыка ўзвышае душу,— лухта, няпраўда! Яна дзейнічае, страшэнна дзейнічае, я кажу пра сябе, але зусім не ўзвышае душы. Яна ні ўзвышае, ні прыніжае душы, а толькі развярэджвае. Як вам сказаць? Музыка прымушае мяне забываць пра сябе, пра маё сапраўднае становішча, яна пераносіць мяне ў нейкае іншае, не сваё становішча: мне пад уплывам музыкі здаецца, што я адчуваю тое, чаго я, уласна, не адчуваю, што я разумею тое, чаго не разумею, што магу тое, чаго не магу. Я тлумачу гэта тым, што музыка дзейнічае, як пазяханне, як смех: мне спаць не хочацца, але я пазяхаю, пазіраючы на таго, хто пазяхае, смяяцца няма з чаго, але я смяюся, чуючы таго, хто смяецца.

Яна, музыка, адразу, непасрэдна пераносіць мяне ў той душэўны стан, у якім знаходзіўся той, хто пісаў музыку. Я зліваюся з ім душою і разам з ім пераношуся з аднаго стану ў другі, але навошта я гэта раблю, я не ведаю. Бо той, хто пісаў хоць бы Крэйцараву санату,— Бетховен, ён жа ведаў, чаго ён знаходзіўся ў такім стане,— гэты стан прывёў яго да пэўных учынкаў, і таму для яго

гэты стан меў сэнс, а для мяне ніякага. І таму музыка толькі развярэджвае, не канчае. Ну, марш ваяўнічы сыграюць, салдаты пройдуць пад марш, і музыка дайшла; сыгралі танцавальную музыку, я патанцаваў, музыка дайшла; ну, праспявалі месу, я прычасціўся, таксама музыка дайшла, а то толькі злосць, а таго, што трэба рабіць у гэтае злосці,— няма. І таму музыка гэтак страшна, гэтак жахліва часам дзейнічае. У Кітаі музыка дзяржаўная справа. І гэта так і павінна быць. Хіба можна дапусціць, каб кожны, хто захоча, гіпнатызаваў бы адзін аднаго ці многіх і пасля б рабіў з імі што захацеў. І галоўнае, каб гэтым гіпнатызёрам быў першы ж амаральны чалавек.

А то страшны сродак у руках каго папала. Напрыклад, хоць бы гэту Крэйцараву санату, першае прэста. Хіба можна іграць у гасцінай сярод дэкальтаваных дам гэтае прэста? Сыграць і потым паапляскаць, а потым есці марожанае і гаварыць пра апошнюю плётку. Гэтыя рэчы можна іграць толькі пры пэўных, важных, значных абставінах, і тады, калі трэба ажыццявіць пэўныя, адпаведныя гэтай музыцы важныя справы. Сыграць і зрабіць тое, на што настроіла гэтая музыка. А тое не адпаведнае ні месцу, ні часу ўзбуджэнне энергіі, пачуцця, якое ніяк не выяўляецца, не можа не дзейнічаць згубна. На мяне ва ўсякім разе рэч гэтая падзейнічала жахліва; мне як быццам адкрыліся зусім новыя, здавалася мне, пачуцці, новыя магчымасці, пра якія я не ведаў да гэтае пары. Ды вось як, зусім не так, як я раней думаў і жыў, а вось як, нібы гаварылася мне ў душы. Што гэта было тое новае, пра што я даznaўся, я не мог даць сабе адказу, але ўсведамленне гэтага новага стану было вельмі радаснае.

Усё тыя ж людзі, у тым ліку і жонка і ён, уяўляліся зусім у іншым святле.

Пасля гэтага прэста яны даігралі цудоўнае, але звычайнае, не новае andante з пошлымі варыяцыямі і зусім слабы фінал. Потым яшчэ ігралі па просьбе гасцей то элегію Эрнста, то яшчэ розныя рэчы. Усё гэта было добра, але ўсё гэта не зрабіла на мяне і 0,01 таго ўражання, якое зрабіла першае. Усё гэта адбывалася ўжо на фоне таго ўражання, якое пакінула першае. Мне было лёгка, весела ўвесь вечар. Жонку ж я ніколі не бачыў такой, якой яна была ў той вечар. Гэтыя бліскучыя вочы, гэтая строгасць, значнасць выразу, пакуль яна іграла і гэтая растаянасць, якаясьці кволая, убогая і шчаслівая ўсмешка пасля таго, як яны скончылі. Я ўсё гэта бачыў, але не прыпісваў гэтаму ніякага іншага значэння, апрача таго, што яна адчувала тое ж, што і я, што і ёй, як і мне, адкрыліся, нібы прыгадаліся новыя нявыпрабаваныя пачуцці. Вечар скончыўся добра, і ўсе раз'ехаліся.

Трухачэўскі, які ведаў, што я павінен быў праз два дні ехаць на з'езд, пры развітанні сказаў, што ён спадзяецца ў свой другі прыезд паўтарыць радасць сённяшняга вечара. З гэтага я мог зрабіць заключэнне, што ён не лічыў магчымым бываць у мяне без мяне, і гэта было мне прыемна. Выходзіла, што паколькі я не вярнуся да ягонага ад'езду, то мы з ім больш не ўбачымся.

Я ўпершыню са шчыраю радасцю паціснуў яму руку і падзякаваў яму за прыемны вечар. Ён таксама зусім развітаўся з жонкаю. І іх развітанне здалося мне самым натуральным і прыстойным. Усё было цудоўна. Мы абое з жонкаю былі вельмі здаволены вечарам.

## XXIV

— Праз два дні я паехаў у павет, у самым добрым, спакойным настроі развітаўшыся з жонкаю. У павеце заўжды была процьма спраў і зусім незвычайнае жыццё, свой маленькі свет. Два дні я па дзесяць гадзін праводзіў у канцылярыі. На другі дзень мне ў канцылярыю прынеслі ліст ад жонкі. Я адразу ж прачытаў яго. Яна пісала пра дзяцей, пра дзядзьку, пра няньку, пра пакупкі і між іншым, як пра рэч самую звычайную, пра тое, што Трухачэўскі заходзіў, прынёс абяцаныя ноты і абяцаў іграць яшчэ, але што яна адмовілася. Я не памятаў, каб ён абяцаў прынесці ноты: мне здавалася, што ён тады развітаўся зусім, і таму гэта непрыемна ўразіла мяне. Але спраў было столькі, што некалі было падумаць, і я толькі ўвечары, вярнуўшыся на кватэру, перачытаў ліст. Апрача таго, што Трухачэўскі без мяне быў яшчэ раз, увесь тон ліста здаўся мне нацягнутым. Шалёны звер рэўнасці зарыкаў у сваёй будцы і хацеў выскачыць, але я баяўся гэтага звера і зачыніў яго хутчэй. «Якое агіднае пачуццё гэта рэўнасць! — сказаў я сабе.— Што можа быць больш натуральнае за тое, што яна піша?»

І я лёг у пасцель і стаў думаць пра справы, якія мяне чакалі заўтра. Мне заўжды доўга не спалося ў часе гэтых з'ездаў, на новым месцы, але тут я заснуў вельмі хутка. І як гэта бывае, ведаеце, раптам штуршок электрычны і прачынаешся. Гэтак я прачнуўся, і прачнуўся з думкаю пра яе, пра маё плоцевае каханне да яе, і пра Трухачэўскага, і пра тое, што між ёю і ім усё скончана. Жудасць і злосць сціснулі маё сэрца. Але я стаў прыводзіць сябе да розуму. «Што за глупства,— казаў я сабе,— няма ніякіх падстаў, нічога няма

і не было. І як я магу гэтак прыніжаць яе і сябе, дапускаючы такія жахі. Штосьці накшталт наёмнага скрыпача, якога ведаюць як нікчэмнага чалавечка, і раптам жанчына шаноўная, паважаная маці сямейства, *мая* жонка! Што за глупства!» — уяўлялася мне з аднаго боку. «Як жа гэтаму не быць?» — уяўлялася мне з другога. Як жа магло не быць таго самага простага і зразумелага, у імя чаго я ажаніўся з ёю, таго самага, у імя чаго я з ёю жыў, чаго аднаго ў ёй трэба было і мне і чаго таму трэба было і іншым і гэтаму музыканту. Ён чалавек нежанаты, здаровы (памятаю, як ён хрумстаў храстком у катлетцы і прагна абхватваў чырвонымі губамі шклянку з віном), сыты, гладкі і не толькі без правілаў, але, відаць, з правіламі аб тым, як карыстацца тымі ўцехамі, якія даюцца яму. І між імі сувязь музыкі, самага вытанчанага юру пачуццяў. Што можа стрымаць яго? Нішто. Наадварот, усё прыцягвае яго. Яна? Ды хто яна? Яна таямніца, як была, так і асталася. Ведаю яе толькі як жывёліну. А жывёліну нішто не можа, не павінна стрымаць.

Толькі цяпер я прыгадаў іх твары ў той вечар, калі яны пасля Крэйцаравай санаты сыгралі нейкую страсную рэч, не памятаю каго, нейкую да пахабства пажадлівую п'есу. «Як я мог паехаць? — казаў я сабе, прыгадваючы іх твары.— Хіба не зразумела было, што між імі ўсё адбылося ў гэты вечар? І хіба не відаць было, што ўжо ў гэты вечар між імі не толькі не было ніякае перашкоды, але што яны абое, галоўнае яна, перажывалі некаторы сорам пасля таго, што адбылося з імі?» Памятаю, як яна квола, жаласна і шчасліва ўсміхалася, выціраючы пот з расчырванелага твару, калі я падышоў да фартэпіяна. Яны ўжо тады пазбягалі глядзець адно на аднаго, і толькі

за вячэраю, калі ён наліваў ёй вады, яны пагля-дзелі адно на аднаго і ледзь прыкметна ўсміхну-ліся. Я з жахам прыгадаў цяпер гэты перахопле-ны мною іх позірк з ледзь улоўнай усмешкай. «Так, усё скончана»,— казаў мне адзін голас, і адразу ж другі голас казаў зусім іншае. «Гэта штосьці найшло на цябе, гэтага не можа быць»,— казаў гэты другі голас. Мне стала жудасна ля-жаць у цемры, я запаліў запалку, і мне неяк страшна зрабілася ў гэтым маленькім пакойчыку з жоўтымі шпалерамі. Я закурыў папяроску і, як заўсёды бывае, калі круцішся ў адным і тым жа коле невырашальных супярэчнасцей,— курыш, і я курыў адну папяроску за адной, для таго каб затуманіць сябе і не бачыць супярэчнасцей.

Я не заснуў праз усю ноч, і а пятай гадзіне, вырашыўшы, што не магу аставацца болей у гэ-тым напружанні і зараз жа паеду, я ўстаў, раз-будзіў вартаўніка, які мне слугаваў, і паслаў яго па коней. У пасяджэнне я паслаў запіску аб тым, што я па экстранае справе выкліканы ў Маскву; таму прашу, каб мяне замяніў член. А восьмай гадзіне я сеў у тарантас і паехаў.

## XXV

Зайшоў кандуктар, убачыўшы, што свечка наша дагарэла, патушыў яе, не ўстаўляючы но-вай. На вуліцы пачынала днець. Познышаў маў-чаў, цяжка ўздыхаючы ўвесь час, пакуль у ва-гоне быў кандуктар. Ён працягваў свой расказ, толькі калі выйшаў кандуктар і ў напаўцёмным вагоне пачулася рыпенне шыбаў і раўнамерны, пад стук колаў, храп прыказчыка. У ранішнім цьмяным святле мне зусім не відаць яго было.

Чуцён быў толькі ягоны пакутлівы голас, які рабіўся ўсё больш і больш усхваляваны.

— Ехаць трэба было трыццаць пяць вёрст на конях і восем гадзін па чыгунцы. На конях ехаць было цудоўна. Была марозная асенняя пара з яркім сонцам. Ведаеце, гэта пара, калі гакі адбіваюцца на маслянай дарозе. Дарогі гладкія, святло зыркае і паветра бадзёрае. У тарантасе ехаць было добра. Калі развіднела і я паехаў, мне стала лягчэй. Пазіраючы на коней, на палеткі, на сустрэчных, забываў, куды я еду. Падчас мне здавалася, што я проста еду і што нічога таго, што выклікала мяне, нічога гэтага не было. І мне асабліва радасна было гэтак забывацца. Калі ж я ўспамінаў, куды я еду, я казаў сабе: «Тады відаць будзе, не думай». У дарозе звыш таго здарылася падзея, якая затрымала мяне і яшчэ болей заняла мае думкі: тарантас зламаўся, і трэба было рамантаваць яго. Паломка гэта мела вялікае значэнне тым, што яна зрабіла тое, што я прыехаў у Маскву не ў пяць гадзін, як я разлічваў, а ў дванаццаць гадзін і дадому — а першай гадзіне, бо я не паспеў на кур'ерскі, а павінен быў ужо ехаць пасажырскім. Паездка па калёсы, рамонт, расплата, чай у заезным доме, размовы з дворнікам — усё гэта яшчэ болей заняло мяне. Прыцемкам усё было гатова, і я зноў паехаў, і ўночы яшчэ лепш было ехаць, чым удзень. Быў маладзік, невялічкі мароз, яшчэ цудоўная дарога, коні, вясёлы фурман, і я ехаў і цешыўся, амаль зусім не думаючы пра тое, што мяне чакае, ці менавіта таму цешыўся, што ведаў, што́ мяне чакае, і развітваўся з радасцямі жыцця. Аднак гэты спакойны стан мой, магчымасць заглушаць свае пачуцці скончыўся паездкаю на конях. Як толькі я зайшоў у вагон, пачалося зусім іншае. Гэты васьмігадзінны пера-

езд у вагоне быў для мяне чымсьці жудасным, чаго я не забуду праз усё жыццё. Можа таму, што ўжо ў вагоне я выразна ўявіў сябе дома, ці таму, што чыгунка гэтак узбуджальна дзейнічае на людзей, але толькі з тае хвіліны як я сеў у вагон, я ўжо не мог валодаць сваёй фантазіяй, і яна, не перастаючы, з незвычайнай выразнасцю пачала маляваць мне адну за адной карціны, якія распальвалі маю рэўнасць і былі страшэнна цынічныя, і ўсё пра тое ж, пра тое, што адбывалася там, без мяне, як яна здраджвала мне. Я згараў ад гневу, злосці і нейкага асаблівага пачуцця захаплення сваім уніжэннем, сузіраючы гэтыя карціны, і не мог адарвацца ад іх; не мог не глядзець на іх, не мог сцерці іх, не мог не выклікаць іх. Мала таго, чым болей я сузіраў гэтыя ўяўныя карціны, тым болей я верыў у іх рэальнасць. Выразнасць, з якою ўяўляліся мне гэтыя карціны, нібы служыла доказам таму, што тое, што я ўяўляў, была рэчаіснасць. Нейкі д'ябал, быццам супраць мае волі, прыдумваў і падказваў мне самыя жудасныя меркаванні. Даўнейшая размова з братам Трухачэўскага прыгадалася мне, і я з нейкім захапленнем кроіў сабе сэрца гэтаю размоваю, адносячы яе да Трухачэўскага і маёй жонкі.

Гэта было вельмі даўно, але я прыгадаў гэта. Брат Трухачэўскага, я памятаю, аднойчы на пытанне аб тым, ці наведвае ён публічныя дамы, сказаў, што прыстойны чалавек не будзе хадзіць туды, дзе можна захварэць, ды і брыдка, агідна, калі заўжды можна знайсці прыстойную жанчыну. І вось ён, ягоны брат, знайшоў маю жонку. «Праўда, яна ўжо не першае маладосці, зуба аднаго няма збоку і заўважаецца некаторая пухласць,— думаў я за яго,— але што зробіш, трэба карыстацца тым, што ёсць».— «Так, ён робіць

ласку ёй, што бярэ яе сваёю каханкаю,— казаў я сабе.— Прытым яна бяспечная».— «Не, гэта немагчыма! Што я думаю! — з жахам казаў я сабе.— Нічога, нічога гэтага няма. І няма нават ніякіх падстаў гэтак думаць. Хіба яна не казала мне, што яе ўніжае нават думка аб тым, што я магу раўнаваць да яго? Так, але яна хлусіць, усё хлусіць!» — крычаў я — і пачыналася зноў... Пасажыраў у нашым вагоне было толькі двое — бабка з мужам, абое вельмі негаваркія, і тыя выйшлі на адной са станцый, і я астаўся адзін. Я быў як звер у клетцы: то я падхопліваўся, падыходзіў да вокан, то, хістаючыся, пачынаў хадзіць, стараючыся падагнаць вагон; але вагон з усімі лаўкамі і шыбамі ўсё гэтак жа ўздрыгваў, вось як наш...

І Познышаў падхапіўся і зрабіў колькі крокаў і зноў сеў.

— Ох, баюся я, баюся я чыгуначных вагонаў, жах апаноўвае мяне. Так, жахліва! — працягваў ён.— Я казаў сабе: «Буду думаць пра іншае. Напрыклад, пра гаспадара заезнага двара, у якога я піў чай». Ну вось, перад вачмі ўзнікае дворнік з доўгаю барадою і яго ўнук — хлопчык адных год з маім Васем. Мой Вася! Ён убачыць, як музыкант цалуе ягоную маці. Што зробіцца ў ягонай беднай душы? Ды ёй што! Яна кахае... І зноў узнімалася тое ж. Не, не... Ну, буду думаць пра агляд бальніцы. Так, як учора хворы скардзіўся на доктара. А доктар з вусамі, як у Трухачэўскага. І як ён нахабна... Яны абое ашуквалі мяне, калі гаварыў, што ён ад'язджае. І зноў пачыналася. Усё, пра што я думаў, мела сувязь з ім. Я пакутаваў страшэнна. Самая цяжкая пакута была ў няведанні, у сумненнях, у раздваенні, у няведанні таго, што — кахаць ці ненавідзець трэба яе. Па-

куты былі такія жахлівыя, што, я памятаю, мне прыйшла думка, якая вельмі спадабалася мне, выйсці на чыгунку, легчы на рэйкі пад вагон і скончыць. Тады ва ўсякім разе не будзеш болей вагацца, сумнявацца. Адно, што перашкаджала гэтак зрабіць, быў жаль да сябе, які адразу ж, непасрэдна за сабою, выклікаў нянавісць да яе. Да яго ж было нейкае дзіўнае пачуццё і нянавісці і разумення свайго ўніжэння і ягонае перамогі, а вось да яе страшэнная нянавісць. «Нельга пакончыць з сабою і пакінуць яе; трэба, каб яна папакутавала хоць троху, каб хоць зразумела, што я пакутаваў»,— казаў я сабе. Я выходзіў на ўсіх станцыях, каб развеяцца. На адной станцыі я ў буфеце ўбачыў, што п'юць, і адразу ж сам выпіў гарэлкі. Побач са мной стаяў яўрэй і таксама піў. Ён разгаварыўся, і я, каб толькі не аставацца аднаму ў сваім вагоне, пайшоў з ім у яго брудны, закураны і засмечаны сланечнікам вагон трэцяга класа. Там я сеў з ім побач, і ён шмат лапатаў і расказваў анекдоты. Я слухаў яго, але не разумеў таго, што ён гаворыць, бо думаў пра сваё. Ён заўважыў гэта і стаў патрабаваць да сябе ўвагі; тады я ўстаў і пайшоў зноў у свой вагон. «Трэба абдумаць,— казаў я сабе,— ці праўда тое, што я думаю, і ці ёсць падстава мне пакутаваць». Я сеў, жадаючы спакойна абдумаць, але адразу ж замест спакойнага абдумвання пачалося зноў тое ж: замест разважанняў — карціны і ўяўленні. «Колькі разоў я гэтак мучыўся»,— казаў я сабе (я прыгадваў ранейшыя падобныя прыпадкі рэўнасці),— і потым усё канчалася нічым. Гэтак і цяпер, магчыма, нават пэўна, я знайду яе ў спакойным сне; яна прачнецца, узрадуецца мне, і па словах, па вачах я адчую, што нічога не было і што ўсё гэта лухта. О, як добра б гэтак!» — «Але

не, гэта надта часта было, і цяпер гэтага ўжо не будзе»,— казаў мне нейкі голас, і зноў пачыналася. Так, вось дзе была кара! Не ў сіфілітычную бальніцу я адвёў бы маладога чалавека, каб адбіць у яго ахвоту да жанчын, а ў душу да сябе, паглядзець на тых д'яблаў, якія раздзіралі яе! Жахліва было тое, што я прызнаваў за сабою несумненнае, поўнае права на яе цела, як быццам гэта было маё цела, і разам з тым адчуваў, што валодаць я гэтым целам не магу, што яно не маё і што яна можа распараджацца ім як хоча, а хоча распараджацца ім не так, як я хачу. І я нічога не магу зрабіць ні яму, ні ёй. Ён, як Ванька-ключнічак перад віселіцай, праспявае песеньку аб тым, як у мядовыя вусны было пацалавана і іншае. І верх ягоны. А з ёю яшчэ меней я магу што зрабіць. Калі яна не зрабіла, але хоча, а я ведаю, што хоча, дык яшчэ горш: ужо лепей бы зрабіла, каб я ведаў, каб не было няяснасці. Я не мог бы сказаць таго, што хацеў. Я хацеў, каб яна не хацела таго, што яна павінна хацець. Гэта было поўнае вар'яцтва!

## XXVI

— На перадапошняй станцыі, калі кандуктар прыйшоў забіраць білеты, я сабраў свае рэчы, выйшаў на тормаз; усведамленне таго, што блізка, вось яно рашэнне, яшчэ больш расхвалявала мяне. Мне зрабілася холадна, і я стаў дрыжаць скіўіцамі так, што зуб на зуб не трапляў. Я машынальна з натоўпам выйшаў з вакзала, узяў рамізніка, сеў і паехаў. Я ехаў, пазіраючы на рэдкіх прахожых, на дворнікаў, на цені, якія адкідвалі ліхтары і мая брычка то спераду, то ззаду, і ні пра што не думаў. Калі праехалі з паў-

вярсты, мне зрабілася холадна нагам, і я ўспомніў, што зняў у вагоне шарсцяныя панчохі і паклаў у торбу. Дзе торба? ці тут? Тут. А дзе карзіна? Я ўспомніў, што забыўся зусім на багаж, але калі ўспомніў і дастаў распіску, вырашыў, што не варта вяртацца па гэта, і паехаў далей.

Як я ні стараюся ўспомніць цяпер, я ніяк не магу ўспомніць таго майго стану: што я думаў? чаго хацеў? нічога не ведаю. Памятаю толькі, што ў мяне было такое прадчуванне, быццам рыхтуецца штосьці страшнае і вельмі важнае ў маім жыцці. Ці таму адбылося тое важнае, што я гэтак думаў, ці таму, што прадчуваў,— не ведаю. Магчыма і тое, што пасля таго, што здарылася, усе папярэднія хвіліны ў маіх успамінах набылі змрочнае адценне. Я пад'ехаў да ганка. Была першая гадзіна. Некалькі рамізнікаў стаяла ля ганка і чакала седакоў па асветленых вокнах (асветленыя вокны былі ў нашай кватэры, у зале і гасцінай). Не разумеючы, чаго гэтак позна гарыць святло ў нашых вокнах, я з тымі ж думкамі аб чымсьці страшным падняўся па ўсходах і пазваніў. Лёкай, добры, старанны і вельмі тупы Ягор, адчыніў. Першае, што кінулася ў вочы, у пярэднім пакоі вісеў на вешалцы побач з іншаю вопраткаю ягоны шынель. Я павінен быў бы здзівіцца, але не здзівіўся, нібыта я чакаў гэтага. «Гэтак і ёсць»,— сказаў я сабе. Калі я спытаў у Ягора, хто ёсць, і ён назваў мне Трухачэўскага, я спытаў, ці ёсць яшчэ хто-небудзь. Ён сказаў:

— Нікога.

Памятаю, з якой інтанацыяй ён мне адказаў, быццам хацеў парадаваць мяне і рассеяць сумненні, што ёсць яшчэ нехта. «Нікога. Так, так»,— нібы казаў я сабе.

— А дзеці?

— Дзякуй богу, здаровыя. Даўно спяць.

Я не мог прадыхнуць і не мог стрымаць сківіц, якія ўвесь час калаціліся. «Так, значыць, я памыляўся: раней я думаў — няшчасце, а выяўлялася ўсё добра, па-старому. Цяпер жа вось не па-старому, а вось яно ўсё тое, што я ўяўляў сабе і думаў, што толькі ўяўляю, а вось яно ўсё ў сапраўднасці. Вось яно ўсё...»

Я ледзь быў не зарыдаў, але адразу ж д'ябал падказаў: «Ты плач, сентыментальнічай, а яны спакойна разыдуцца, доказаў не будзе, і ты век будзеш сумнявацца і мучыцца». І адразу сентыментальнасць гэтая знікла, і нарадзілася дзіўнае пачуццё — вы не паверыце — пачуццё радасці, што скончыцца мая пакута, што цяпер я магу пакараць яе, магу пазбавіцца ад яе, што я магу даць волю маёй злосці. І я даў волю маёй злосці — я зрабіўся зверам, злосным і хітрым зверам.

— Не трэба, не трэба,— сказаў я Ягору, які хацеў ісці ў гасціную,— а ты вось што: ты ідзі, хутчэй вазьмі рамізніка і едзь; вось квітанцыя, атрымай рэчы. Ідзі.

Ён пайшоў па калідоры, каб узяць сваё паліто. Баючыся, што ён спудзіць іх, я правёў яго да ягонае каморкі і пачакаў, пакуль ён апранаўся. У гасцінай, за суседнім пакоем, чуваць была гамонка і гукі нажоў і талерак. Яны елі і не чулі званка. «Толькі б не выйшлі цяпер»,— думаў я. Ягор апрануў сваё паліто з астраханскім баранком і выйшаў. Я выпусціў яго і зачыніў за ім дзверы, і мне зрабілася жудасна, калі я адчуў, што астаўся адзін і што мне трэба зараз дзейнічаць. Як — я яшчэ не ведаў. Я ведаў толькі, што цяпер усё скончана, што сумненняў у яе бязвіннасці не можа быць і што я зараз пакараю яе і скончу мае адносіны з ёю.

Раней яшчэ былі ў мяне ваганні, я казаў сабе: «А можа, гэта няпраўда, можа, я памыляюся»,— цяпер ужо гэтага не было. Усё было вырашана беспаваротна. Таемна ад мяне, адна з ім, уначы! Гэта ўжо поўнае забыццё ўсяго. Або яшчэ горш: наўмысна гэтакая смеласць, дзёрскасць у злачынстве, каб дзёрзкасць гэтая служыла адзнакаю нявіннасці. Усё зразумела. Сумнення няма. Я баяўся толькі аднаго, каб яны не разбегліся, не прыдумалі якой новай хлусні і не пазбавілі мяне тым і відавочнасці доказу і магчымасці пакараць. І з тым, каб хутчэй застаць іх, я на пальчыках падаўся ў залу, дзе яны сядзелі, не праз гасціную, а праз калідор і дзіцячы пакой.

У першым жа дзіцячым пакоі хлопчыкі спалі. У другім дзіцячым пакоі нянька заварушылася, пахацела прачнуцца, і я ўявіў сабе тое, што яна падумае, дазнаўшыся пра ўсё, і гэтакі жаль да сябе ахапіў мяне пры гэтай думцы, што я не мог стрымаць слёз і, каб не разбудзіць дзяцей, выбег на пальчыках у калідор і да сябе ў кабінет, паваліўся на сваю канапу і зарыдаў.

«Я — сумленны чалавек, я — сын сваіх бацькоў, я — усё жыццё марыў аб шчасці сямейнага жыцця, я — мужчына, які ніколі не здраджваў ёй... І вось! пяць чалавек дзяцей, і яна абдымае музыканта, таму што ў яго чырвоныя губы! Не, гэта не чалавек! Гэта сука, гэта паскудная сука! Побач з пакоем дзяцей, у любві да якіх яна прыкідвалася ўсё сваё жыццё. А пісаць мне тое, што яна пісала! І гэтак нахабна кінуцца на шыю! Ды што я ведаю? можа, увесь час гэта так было. Можа, яна даўно з лёкаямі і прыжыла ўсіх дзяцей, якія лічацца маімі. І заўтра б я прыехаў, і яна ў сваёй прычосцы, са сваім гэтым станам і лянотнымі грацыёзнымі рухамі (я ўбачыў увесь яе пры-

вабны ненавісны твар) сустрэла б мяне, і звер гэты рэўнасці навекі сядзеў бы ў маім сэрцы і рваў бы яго на кавалкі. Што нянька падумае, Ягор. І бедная Лізачка! Яна ўжо разумела нешта. І гэтае нахабства! і гэтая хлусня! і гэтая жывёльная пажадлівасць, якую я гэтак ведаю»,— казаў я сабе.

Я хацеў устаць, але не мог. Сэрца гэтак білася, што я не мог устояць на нагах. Так, я памру ад удару. Яна заб'е мяне. Ёй гэтак і трэба. Што ж, ёй забіць? Ды не, гэта было б для яе вельмі выгадна, і гэтае радасці я ёй не прынясу. Так, я сяджу, а яны там ядуць і смяюцца і... Так, нягледзячы на тое, што яна была ўжо не першае свежасці, ён не пагрэбаваў ёю: усё ж яна была прыгожая, галоўнае ж ва ўсякім разе было бяспечна для яго каштоўнага здароўя. «І чаго я не задушыў яе тады»,— сказаў я сабе, прыгадаўшы тую хвіліну, калі я тыдзень таму назад гнаў яе з кабінета і потым трушчыў рэчы. Мне выразна прыгадаўся той стан, у якім я знаходзіўся тады; не толькі прыгадаўся, але я адчуў тую ж патрэбу трушчыць, разбураць, якую я адчуваў тады. Памятаю, як мне хацелася дзейнічаць, і ўсе іншыя меркаванні, апрача тых, якія патрэбны былі для дзеяння, выскачылі ў мяне з галавы. Я ўвайшоў у той стан звера ці чалавека пад уплывам фізічнага ўзбуджэння ў перыяд небяспекі, калі чалавек дзейнічае дакладна, не спяшаючыся, але і не трацячы ні хвіліны, і ўсё толькі з адною пэўнаю мэтаю.

## XXVII

— Першае, што я зрабіў, я зняў боты і, астаўшыся ў панчохах, падышоў да сцяны над канапаю, дзе ў мяне віселі стрэльбы і кінжалы, і ўзяў крывы дамаскі кінжал, якім ні разу не карыстаў-

ся і страшэнна востры. Я выцягнуў яго з ножан. Ножны, я памятаю, заваліліся за канапу, і памятаю, што я сказаў сабе: «Трэба пазней будзе знайсці іх, а то прападуць». Потым я зняў паліто, якое ўвесь час было на мне, і, мякка ступаючы ў адных панчохах, пайшоў туды.

І падкраўшыся ціха, я раптам адчыніў дзверы. Памятаю выраз іх твараў. Я памятаю гэты выраз, таму што выраз гэты прынёс мне пакутлівую радасць. Гэта быў выраз жаху. А гэта мне і трэба было. Я ніколі не забуду выразу роспачнае жудасці, які паявіўся ў першае імгненне на абодвух іх тварах, калі яны ўгледзелі мяне. Ён сядзеў, здаецца, за сталом, але, убачыўшы ці пачуўшы мяне, усхапіўся на ногі і стаў спіною да шафы. На ягоным твары быў адзін несумненны выраз жаху. На яе твары быў той жа выраз жаху, але з ім разам было і іншае. Каб яно было адно, магчыма, не здарылася б таго, што здарылася; але ў выразе яе твару было, ва ўсякім разе здалося мне ў першае імгненне, было яшчэ засмучэнне, нездаволенасць тым, што парушылі яе захапленне каханнем і яе шчасце з ім. Ёй як быццам нічога не трэба было апрача таго, каб ёй не перашкаджалі быць шчасліваю цяпер. Той і другі выраз толькі імгненне трымаўся на іх тварах. Выраз жудасці на ягоным твары адразу ж змяніўся выразам запытання: можна хлусіць ці не? Калі можна, то трэба пачынаць. Калі не, дык пачнецца яшчэ нешта іншае. Але што? Ён запытальна зірнуў на яе. На яе твары выраз прыкрасці і засмучэння змяніўся, як мне здалося, калі яна зірнула на яго, клопатамі аб ім.

На імгненне я затрымаўся ў парозе, трымаючы кінжал за спіною. У гэтае ж імгненне ён усміхнуўся і да смешнага спакойным тонам пачаў:

— А мы вось музыцыравалі...

— Вось не чакала,— у той жа час пачала і яна ў тон яму.

Аднак ні той, ні другі не дагаварыў: тое ж самае шаленства, якое я адчуваў тыдзень таму назад, авалодала мною. Зноў я адчуў гэтую патрэбу ў руйнаванні, гвалце і захапленні шаленствам і аддаўся яму.

Абое не дагаварылі... Пачалося тое другое, чаго ён баяўся, што разбурала адразу ўсё, што яны гаварылі. Я кінуўся да яе, усё яшчэ хаваючы кінжал, каб ён не перашкодзіў мне ўдарыць яе ў бок пад грудзьмі. Я выбраў гэтае месца з самага пачатку. У тую хвіліну, як я кінуўся да яе, ён убачыў, і, чаго я ніяк не чакаў ад яго, ён схапіў мяне за руку і крыкнуў:

— Апамятайцеся, што вы! Людзі!

Я вырваў руку і моўчкі кінуўся да яго. Яго-ныя вочы сустрэліся з маімі, ён раптам пабялеў як палатно, да губ, вочы бліснулі неяк незвычайна, і, чаго я таксама ніяк не чакаў, ён шмыгнуў пад фартэпіяна, у дзверы. Я кінуўся быў за ім, але на левай руцэ маёй павіс цяжар. Гэта была яна. Я рвануўся. Яна яшчэ цяжэй павісла і не выпускала. Нечаканая гэта перашкода, цяжар, і яе агідны для мяне дотык яшчэ болей распалілі мяне. Я адчуваў, што выгляд у мяне, як у вар'ята, страшны, і радаваўся гэтаму. Я размахнуўся з усяе сілы левая рукою і локцем выцяў яе ў самы твар. Яна закрычала і выпусціла маю руку. Я хацеў бегчы за ім, але ўспомніў, што было б смешна бегчы ў панчохах за палюбоўнікам сваёй жонкі, а я не хацеў выглядаць смешна, я хацеў быць страшным. Нягледзячы на страшэнную раз'юшанасць, якая мяне апанавала, я памятаў увесь час, якое ўражанне я пакідаю на іншых, і нават гэтае

ўражанне часткова кіравала мною. Я павярнуўся да яе. Яна паваліласся на кушэтку і, схапіўшы рукою за выцятыя мною вочы, пазірала на мяне. На яе твары быў страх і нянавісць да мяне, да ворага, як у пацука, калі падымаюць пастку, у якую ён трапіў. Я ва ўсякім разе нічога не бачыў у ёй, апрача гэтага страху і нянавісці да мяне. Гэта быў той самы страх і нянавісць да мяне, якія павінна было выклікаць каханне да іншага. Але яшчэ я, можа б, стрымаў сябе і не зрабіў бы таго, што я зрабіў, каб яна маўчала. Але яна раптам пачала гаварыць і хапаць мяне рукой за руку з кінжалам.

— Апамятайся! Што ты? Што з табою? Нічога няма, нічога, нічога... Клянуся!

Я яшчэ і памарудзіў бы, але гэтыя апошнія словы яе, па якіх я зрабіў вывад зусім адваротны, гэта значыць, што ўсё было, выклікалі адказ. І адказ павінен быў быць адпаведны таму настрою, у якім я знаходзіўся, які ўсё crescendo [1] і павінен быў далей гэтак жа павышацца. У шаленства ёсць таксама свае законы.

— Не хлусі, нягодніца! — загаласіў я і левую рукою схапіў яе за руку, але яна вырвалася. Тады я ўсё ж, не выпускаючы кінжала, схапіў яе левую рукою за горла, паваліў дагары і стаў душыць. Якая цвёрдая шыя была... Яна ўхапілася абедзвюма рукамі за мае рукі, аддзіраючы іх ад горла, а я, нібы гэтага і чакаў, з усяе сілы ўдарыў яе кінжалам у левы бок, ніжэй рабрын.

Калі людзі гавораць, што яны ў прыпадку шаленства не памятаюць таго, што яны робяць,— гэта лухта, няпраўда. Я ўсё памятаў і ні на хвіліну не пераставаў памятаць. Чым мацней я пад-

---

[1] нарастаў *(італ.)*.

даваў сам сабе пары шаленства, тым ярчэй разгаралася ў мяне святло свядомасці, пры якім я не мог не бачыць усяго таго, што я рабіў. Кожнае імгненне я ведаў, што я раблю. Не магу сказаць, што я ведаў наперад, што я буду рабіць, але ў тое імгненне, калі я рабіў, нават, здаецца, крышку наперад, я ведаў, што я раблю, як быццам для таго, каб можна было раскаяцца, каб я мог сабе сказаць, што я мог спыніцца. Я ведаў, што я цаляю ніжэй рабрын і што кінжал уп'ецца. У тую хвіліну, як я рабіў гэта, я ведаў, што я раблю штось страшэннае, тое, чаго я ніколі не рабіў і што будзе мець жахлівыя вынікі. Аднак думка гэтая мільганула як маланка, і за думкаю адразу ж быў нанесены ўдар. Учынак гэты ўсведамляўся з незвычайнай яскравасцю. Я чуў і памятаю імгненнае супраціўленне гарсэта і яшчэ нечага, памятаю, як паглыбляўся нож у мяккае. Яна схапіла рукамі кінжал, парэзала іх, але не ўтрымала. Я доўга потым, у астрозе, пасля таго як адбыўся ў мяне душэўны пераварот, думаў аб гэтым, прыгадваў, што мог, і ўзважваў. Памятаю на імгненне, толькі на імгненне перад гэтым учынкам, страшнае ўсведамленне таго, што я забіваю і забіў жанчыну, безабаронную жанчыну, маю жонку. Гэты жах я памятаю і таму прыходжу да вываду і нават прыгадваю цьмяна, што, уваткнуўшы кінжал, я адразу ж выцягнуў яго, жадаючы паправіць зробленае і спыніць. Нейкі момант я стаяў нерухома і чакаў, што будзе, ці можна паправіць. Яна ўсхапілася на ногі, закрычала:

— Нянька! ён забіў мяне!

Нянька прыбегла на шум, спынілася ў парозе. Я ўсё стаяў, чакаў і не верыў. Але тут з-пад гарсэта лінула кроў. Тут толькі я зразумеў, што папра-

віць нельга, і адразу ж вырашыў, што і не трэба, што я гэтага самага і хачу і гэтае самае і павінен быў зрабіць. Я пачакаў, пакуль яна павалілася і нянька з крыкам: «Бацюхны!» — падбегла да яе, і тады толькі кінуў кінжал прэч і пайшоў з пакоя.

«Не трэба хвалявацца, трэба ведаць, што я раблю»,— сказаў я сабе, не пазіраючы на яе і няньку. Нянька крычала, клікала дзяўчыну. Я прайшоў па калідоры, паслаў дзяўчыну і вярнуўся ў свой пакой. «Што цяпер трэба рабіць?» — спытаў я ў сябе і адразу зразумеў што. Падышоў да сцяны, зняў з яе рэвальвер, агледзеў яго — ён быў зараджаны — і паклаў на стол. Потым дастаў з-пад канапы ножны і сеў на канапу.

Доўга я сядзеў гэтак. Я нічога не думаў, нічога не ўспамінаў. Я чуў, што там нешта корпаліся. Чуў, як прыехаў нехта, потым яшчэ нехта. Потым чуў і бачыў, як Ягор прынёс маю прывезеную карзіну ў кабінет. Нібыта некаму гэта трэба!

— Ці чуў ты, што здарылася? — сказаў я.— Скажы дворніку, каб паведамілі ў паліцыю.

Ён нічога не сказаў і пайшоў. Я ўстаў, зашчапіў дзверы, выняў папяроскі і запалкі, закурыў. Я не дакурыў папяроскі, як мяне адолеў і паваліў сон... Я спаў, мусіць, гадзіны дзве. Памятаю, я бачыў у сне, што мы дружныя з ёю, пасварыліся, але мірымся, і што крышку нешта замінае, але мы дружныя. Мяне разбудзіў стук у дзверы. «Гэта паліцыя,— падумаў я, прачынаючыся.— Здаецца, я забіў. А можа, гэта яна, і нічога не было». У дзверы яшчэ пастукалі. Я нічога не адказваў і ўсё думаў: было гэта ці не было? Так, было. Я ўспомніў удар кінжалам, супраціўленне гарсэта, і мароз прабег па спіне. «Так, было. Так, цяпер трэба і сябе»,— сказаў я сабе. Але я гаварыў гэта і ведаў, што не заб'ю сябе. Аднак я ўстаў і

зноў узяў у рукі рэвальвер. Але дзіўная справа: памятаю, як раней шмат разоў я быў блізка да самагубства, як у той дзень нават, на чыгунцы, мне гэта лёгка здавалася, лёгка менавіта таму, што я думаў, як я гэтым здзіўлю яе. Цяпер жа я ніяк не мог не толькі забіць сябе, а і падумаць пра гэта. «Навошта гэта рабіць?» — пытаўся я ў сябе, і адказу не было. У дзверы пастукалі яшчэ. «Так, раней трэба даведацца, хто гэта стукаецца. Паспею яшчэ». Я паклаў рэвальвер і накрыў яго газетаю. Я падышоў да дзвярэй і адсунуў зашчапку. Гэта была жончына сястра, добрая, дурная ўдава.

— Вася! што гэта? — сказала яна, і заўсёды гатовыя ў яе слёзы паліліся.

— Чаго трэба? — груба спытаў я. Я бачыў, што зусім не трэба было быць з ёю грубым, але я не мог прыдумаць ніякага іншага тону.

— Вася! яна памірае! Іван Фёдаравіч сказаў.— Іван Федаравіч гэта быў доктар, яе доктар, дарадчык.

— Хіба ён тут? — спытаў я, і ўся злосць на яе ўзнялася зноў.— Ну і што з таго?

— Вася, падыдзі да яе. Ах, як гэта жахліва,— сказала яна.

«Падыдзі да яе?» — спытаў я ў сябе. І адразу ж адказаў, што трэба пайсці да яе, што, мабыць, заўсёды гэтак робіцца, што калі муж, як я, забіў жонку, дык абавязкова трэба ісці да яе. «Калі гэтак робіцца, дык трэба ісці,— сказаў я сабе.— Калі трэба будзе, заўсёды паспею»,— падумаў я аб сваім намеры застрэліцца і пайшоў за ёю. «Цяпер будуць фразы, грымасы, але я не паддамся ім,— сказаў я сабе.

— Чакай,— сказаў я сястры,— куды ж я без ботаў, дай я надзену хоць туфлі.

## XXVIII

— І дзіўная рэч! Зноў, калі я выйшаў з пакоя і пайшоў па прывычных пакоях, зноў мне здалося, што нічога не было, але пах гэтай дакторскай брыдоты — ёдаформу, карболкі — здзівіў мяне. Не, усё было. Ідучы па калідоры міма дзіцячага пакоя, я ўбачыў Лізачку. Яна пазірала на мяне спалоханымі вачыма. Мне здалося нават, што тут былі ўсе пяцёра дзяцей, і ўсе глядзелі на мяне. Я падышоў да дзвярэй, і пакаёўка знутры адчыніла мне і выйшла. Першае, што кінулася мне ў вочы, была яе светла-шэрая сукенка на крэсле, уся чорная ад крыві. На нашай двухспальнай пасцелі, на маёй нават пасцелі — да яе быў лягчэйшы падыход — ляжала яна з прыўзнятымі каленьмі. Яна ляжала вельмі паката на адных падушках, у расшпіленай кофце. На месца раны было штось накладзена. У пакоі стаяў цяжкі пах ёдаформу. Перш і больш за ўсё здзівіў мяне яе распухлы і сіні па ацёках твар, частка носа і пад вокам. Гэта быў вынік майго ўдару локцем, калі яна хацела ўтрымліваць мяне. Красы не было аніякае, а штосьці брыдкае здалося мне ў ёй. Я затрымаўся ў парозе.

— Падыдзі, падыдзі да яе,— казала мне сястра.

«Так, мабыць яна хоча пакаяцца»,— падумаў я. «Дараваць? Так, яна памірае і можна дараваць ёй»,— думаў я, стараючыся быць велікадушным. Я падышоў ушчыльную. Яна праз сілу ўзняла на мяне вочы, з якіх адно было падбітае, і з цяжкасцю, запінкамі вымавіла:

— Дабіўся свайго, забіў...— І на твары ў яе, праз фізічныя пакуты і нават блізкую смерць, адбілася тая ж старая, знаёмая мне халодная жы-

вёльная нянавісць.— Дзяцей... я ўсё ж табе... не аддам... Яна (яе сястра) возьме...

Пра тое ж, што было галоўнае для мяне, пра сваю віну, здраду, яна нібы лічыла, што і ўпамінаць не варта.

— Так, палюбуйся на тое, што ты зрабіў,— сказала яна, пазіраючы ў дзверы, і ўсхліпнула. У дзвярах стаяла сястра з дзецьмі.— Так, вось што ты зрабіў.

Я зірнуў на дзяцей, на яе пабіты, з падцёкамі твар і ўпершыню забыў пра сябе, пра свае правы, пра свой гонар, упершыню ўбачыў у ёй чалавека. І гэткім нікчэмным мне здалося ўсё тое, што абражала мяне,— уся мая рэўнасць, і гэтакім значным тое, што я зрабіў, што я хацеў прыпасці тварам да яе рукі і сказаць: «Даруй!» — але не адважыўся.

Яна маўчала, заплюшчыўшы вочы, мусіць, не маючы сілы гаварыць далей. Потым знявечаны твар яе задрыжаў і зморшчыўся. Яна слаба адштурхнула мяне.

— Навошта ўсё гэта было? Навошта?

— Даруй мне,— сказаў я.

— Даруй? Усё гэта глупства!.. Толькі б не памерці!..— крыкнула яна, прыўзнялася, і ліхаманкавыя бліскучыя вочы яе скіраваліся на мяне.— Так, ты дабіўся свайго!.. Ненавіджу!.. Ай! Ах! — мусіць, трызнячы, спалохаўшыся нечага, закрычала яна.— Ну, забівай, забівай, я не баюся... Толькі ўсіх, усіх і яго. Пайшоў, пайшоў!

Трызненне не спынялася. Яна не пазнавала нікога. У той жа дзень, апоўдні, яна памерла. Мяне перад гэтым, у восем гадзін, адвялі ў часць і адтуль у астрог. І там, праседзеўшы адзінаццаць месяцаў, чакаючы суда, я абдумаў сябе і сваё мінулае і зразумеў яго. Пачаў разумець я на трэці дзень. На трэці дзень мяне вадзілі туды...

Ён штосьці хацеў сказаць, але не маючы сілы стрымаць рыданне, сціх. Потым сабраўся з духам і расказваў далей.

— Я пачаў разумець толькі тады, калі ўбачыў яе ў труне...— Ён усхліпнуў, але адразу ж таропка працягваў: — Толькі тады, калі я ўбачыў яе мёртвы твар, я зразумеў усё, што я зрабіў. Я зразумеў, што я, я забіў яе, што ад мяне зрабілася тое, што яна была жывая, рухомая, цёплая, а цяпер стала нерухомая, васковая, халодная і што паправіць гэтага нікому, нідзе, нічым нельга. Той, хто не перажыў гэтага, той не можа зразумець... У! у! у!..— крыкнуў ён колькі разоў і сціхнуў.

Мы доўга сядзелі моўчкі. Ён усхліпваў і ціха калаціўся перада мной.

— Ну, даруйце...

Ён адвярнуўся ад мяне і прылёг на лаўцы, укрыўшыся пледам. На той станцыі, дзе мне трэба было выходзіць,— гэта было ў восем гадзін раніцы,— я падышоў да яго, каб развітацца. Ці ён спаў, ці прыкідваўся, але ён не варушыўся. Я крануў яго рукою. Ён адкрыўся, і відаць было, што ён не спаў.

— Бывайце,— сказаў я, падаючы яму руку.

Ён падаў мне руку і ледзь прыкметна ўсміхнуўся, але гэтак жаласна, што мне захацелася плакаць.

— Так, даруйце,— паўтарыў ён тое ж слова, якім скончыў і ўвесь расказ.

# ГАСПАДАР І ПАРАБАК



## I

Гэта было ў сямідзесятыя гады, на другі дзень пасля зімняга Міколы. У парафіі было свята, і вясковаму дворніку, купцу другой гільдыі Васілю Андрэевічу Брахунову, нельга было адлучыцца: трэба было быць у царкве,— ён быў царкоўны староста,— і дома трэба было прыняць і пачаставаць радню і знаёмых. Але вось апошнія госці паехалі, і Васіль Андрэевіч стаў адразу ж збірацца да суседняга памешчыка купляць у яго ўжо даўно прыгледжаную дзялянку. Васіль Андрэевіч спяшаўся ехаць, каб гарадскія купцы не адбілі ў яго гэтай выгаднай пакупкі. Малады памешчык прасіў за дзялянку дзесяць тысяч толькі таму, што Васіль Андрэевіч даваў за яе сем. Сем жа тысяч складалі

толькі адну траціну сапраўднага кошту дзялянкі. Васіль Андрэевіч, магчыма, вытаргаваў бы і яшчэ, паколькі лес знаходзіўся ў ягонае акрузе, і між ім і вясковымі павятовымі купцамі ўжо даўно быў наладжаны парадак, па якім адзін не павышаў цаны ў акрузе другога, аднак Васіль Андрэевіч даэнаўся, што губернскія лясныя купцы хацелі ехаць таргаваць Гарачкаўскую дзялянку, і ён рашыў адразу ж ехаць і скончыць справу з памешчыкам. І таму, як толькі адышло свята, ён дастаў з куфра свае семсот рублёў, дадаў да іх дзве тысячы трыста царкоўных, якія знаходзіліся ў яго, каб склалася тры тысячы рублёў, і, старанна пералічыўшы іх і паклаўшы ў бумажнік, сабраўся ехаць.

Парабак Мікіта, адзіны ў гэты дзень цвярозы з парабкаў Васіля Андрэевіча, пабег запрагаць. Мікіта не быў п'яны ў гэты дзень таму, што ён быў п'яніца, і цяпер, з запускаў, у часе якіх ён прапіў з сябе паддзёўку і скураныя боты, ён даў зарок піць і не піў другі месяц; не піў і цяпер, нягледзячы на спакусу ў першыя два дні свята, калі ўсюды пілі віно.

Мікіта быў пяцідзесяцігадовы мужык з бліжэйшае вёскі, негаспадар, як пра яго казалі; большую частку свайго жыцця ён пражыў не дома, а па людзях. Усюды яго цанілі за ягоную працавітасць, спрыт і сілу ў рабоце, галоўнае — за добры, прыемны характар; аднак нідзе ён не ўжываўся, таму што два разы на год, а то і часцей, запіваў і тады, апрача таго што прапіваў усё з сябе, рабіўся яшчэ шалёны і прыдзірлівы. Васіль Андрэевіч таксама колькі разоў праганяў яго, але потым зноў браў, цэнячы ягоную сумленнасць, любоў да жывёлы і, галоўнае, таннасць. Васіль Андрэевіч плаціў Мікіту не восемдзесят рублёў, колькі каштаваў такі

парабак, а рублёў сорак, якія выдаваў яму без разліку, па дробязі, ды і то часцей не грашыма, а па дарагой цане таварам з крамы.

Мікітава жонка, Марфа, некалі прыгожая бойкая баба, гаспадарыла дома з падлеткам малым і дзвюма дзеўкамі і не звала Мікіту жыць дамоў, па-першае, таму, што ўжо гадоў дваццаць жыла з бондарам, мужыком з чужое вёскі, які стаяў у іх у хаце; а па-другое, таму, што, хоць яна і папіхала мужам, як хацела, калі ён быў цвярозы; дяна баялася яго, як агню, калі ён напіваўся. Аднойчы, напіўшыся дома, Мікіта, відаць, каб адпомсціць жонцы за ўсю сваю цвярозую пакору, узламаў яе куфар, дастаў самыя каштоўныя яе ўборы і, адшукаўшы сякеру, на абрубку пасек на дробныя кавалкі ўсе яе сарафаны і сукенкі. Запрацаваныя Мікітам грошы ўсе аддаваліся ягонае жонцы, і Мікіта не пярэчыў гэтаму. Гэтак і цяпер, за два дні да свята Марфа прыязджала да Васіля Андрэевіча і забрала ў яго белай мукі, чаю, цукру і васьмуху віна, усяго рублі на тры, ды яшчэ ўзяла пяць рублёў грашыма і дзякавала за гэта, як за незвычайную ласку, тады як па самай таннай цане за Васілём Андрэевічам было рублёў дваццаць.

— Мы хіба з табою ўгавор які рабілі? — казаў Васіль Андрэевіч Мікіту.— Трэба — бяры, зажывеш. У мяне не як у людзей: пачакай, ды разлікі, ды штрафы. Мы сумленна. Ты мне служыш, і я цябе не пакідаю.

І, кажучы гэта, Васіль Андрэевіч быў шчыра ўпэўнены, што ён апякуецца над Мікітам: гэтак пераканальна ён умеў гаварыць і гэтак жа ўсе людзі, якія залежалі ад ягоных грошай, пачынаючы з Мікіты, падтрымлівалі яго ў думцы, што ён не ашуквае, а апякуецца над імі.

— Ды я разумею, Васіль Андрэевіч; здаецца, служу, стараюся, як бацьку роднаму. Я вельмі добра разумею,— адказваў Мікіта, вельмі добра разумеючы, што Васіль Андрэевіч ашуквае яго, але разам з тым адчуваў, што нечага і спрабаваць удакладняць з ім свае разлікі, а трэба жыць, пакуль няма іншага месца, і браць, што даюць.

Цяпер, атрымаўшы загад гаспадара запрагаць, Мікіта, як заўжды, весела і ахвотна, бадзёрым і лёгкім крокам сваіх гусіных ног падаўся да гумна, зняў там з цвіка цяжкую раменную з кутасікамі аброць і, пазвоньваючы баранчыкамі цугляў, пайшоў да зачыненага хлева, у якім асобна стаяў той конь, якога загадаў Васіль Андрэевіч запрагаць.

— Што, засумаваў, засумаваў, дурненькі? — казаў Мікіта, адказваючы на прывітальнае ржанне, якім сустрэў яго сярэдняга росту, прыгожы, крышку віслазады, цёмна-гняды, з падпалінамі, жарэбчык, які стаяў адзін ў хлеўчуку.— Ну, ну! паспееш, дай спачатку напаю,— гаварыў ён з нёем гэтак жа, як гавораць з разумнымі істотамі, і, абмахнуўшы крысом шырокую з жалабком пасярэдзіне, раз'едзеную і засыпаную пылам спіну, ён надзеў на прыгожую маладую галаву жарэбчыка аброць, паправіў ягоныя вушы і грыўку і, скінуўшы вуздэчку, павёў паіць.

Асцярожна выбраўшыся з высока загноенага хлева, Гняды заіграў і ўзбрыкнуў, прыкідваючыся, што хоча задняю нагою выцяць Мікіту, які труском бег з ім да студні.

— Гуляй, гуляй, шэльма! — кідаў яму Мікіта, які ведаў тую асцярожнасць, з якою Гняды ўскідваў заднюю нагу, толькі каб дакрануцца да яго зацухмоленага кажушка, але не выцяць, і вельмі любіў гэтую яго звычку.

Напіўшыся сцюдзёнае вады, конь уздыхнуў, варушачы мокрымі моцнымі губамі, з якіх капалі з вусоў у карыта празрыстыя кроплі, і прыціхнуў, нібыта задумаўся; потым раптам гучна пырхнуў.

— Не хочаш, не трэба, гэтак і ведаць будзем; ужо болей не прасі,— сказаў Мікіта, зусім сур'ёзна і грунтоўна тлумачачы свае паводзіны Гнядому; і зноў пабег да гумна, паторгваючы за повад вясёлага маладога каня, які ўзбрыкваў і патрэскваў на ўвесь двор.

З парабкаў нікога не было; быў толькі адзін чужы, кухарчын муж, які прыйшоў на свята.

— Ідзі папытайся, душа добрая,— сказаў яму Мікіта,— якія сані запрагаць: развалкі ці маленькія?

Кухарчын муж пайшоў у жалезам крыты на высокім падмурку дом і хутка вярнуўся з весткаю, што загадана ўпрагаць маленькія. Мікіта ў гэты час ужо надзеў хамут, падвязаў падсядзёлак, абабіты цвічкамі, і, у адной руцэ несучы лёгкую пафарбаваную дугу, а другою ведучы каня, падыходзіў да дваіх саней, якія стаялі ля хлева.

— Маленькія дык маленькія,— сказаў ён і завёў у аглоблі разумнага коніка, які ўвесь час прыкідваўся, што хоча ўкусіць яго, і з дапамогаю кухарчынага мужа пачаў запрагаць.

Калі ўсё было амаль гатова і аставалася толькі залейчыць, Мікіта паслаў кухарчынага мужа ў хлеў па салому і ў гумно па зрэб'е.

— Вось і добра. Но, но, не тапырся! — казаў Мікіта, прымінаючы ў санях прынесеную кухарчыным мужам свежаабмалочаную аўсяную салому.— А цяпер вось давай радно пасцелем, а зверху зрэб'е. Вось так, вось так і добра будзе сядзець,— казаў ён, робячы тое, што гаварыў,— падтыкаючы зрэб'е з усіх бакоў вакол сядзення.

— Дзякуй табе, душа добрая,— сказаў Мікіта кухарчынаму мужу,— удвух усё ж хутчэй.— І, разабраўшы раменныя з кольцам на злучаным канцы лейцы, Мікіта сеў на козлы і крануў добрага каня, які прасіў ходу, па мерзлым гнаі двара да варот.

— Дзядзька Мікіта, дзядзечка, га, дзядзечка! — закрычаў ззаду яго тоненькім галаском сямігадовы хлопчык, які выбег з сенцаў на вуліцу ў чорным паўкажушку, новых белых валёнках і цёплай шапцы.— Мяне пасадзі,— прасіў ён, на хаду зашпільваючы свой паўкажушок.

— Ну, ну, бяжы, галубок,— сказаў Мікіта і, прытрымаўшы каня, пасадзіў радаснага, бледнага, худзенькага хлопчыка і выехаў на вуліцу.

Была трэцяя гадзіна. Было марозна — градусаў дзесяць, пахмурна і ветрана. Палова неба была закрыта нізкай цёмнай хмарай. На панадворку было ціха. На вуліцы ж вецер дзьмуў прыкметна мацней: з даху суседняга хлева мяло снег, і на рагу, ля лазні, круціла. Толькі быў Мікіта выехаў за вароты і завярнуў каня да ганка, як і Васіль Андрэевіч, з папяроскаю ў роце, у пацягнутым аўчынным кажусе, туга і нізка падпяразаны папругаю, выйшаў з сенцаў на ўтаптаны снегам, высокі ганак, які парыпваў пад яго, абшытымі скураю, валёнкамі і спыніўся. Зацягнуўшыся рэшткам папяроскі, ён кінуў яе пад ногі і наступіў на яе і, выпускаючы праз вусы дым і касавурачыся на каня, стаў засоўваць з абодвух бакоў свайго румянага, голенага, апрача вусоў, твару канцы каўняра кажуха футрам усярэдзіну, гэтак каб футра не пацела ад дыхання.

— Глядзі ты, пракурат які, паспеў ужо! — сказаў ён, убачыўшы сына ў санях. Васіль Андрэевіч быў узбуджаны выпітым з гасцямі віном і таму

яшчэ болей, чым звычайна, здаволены ўсім тым, што яму належала, і ўсім тым, што ён рабіў. Выгляд свайго сына, якога ён у думках заўсёды называў нашчадкам, прыносіў яму цяпер вялікую радасць; ён, жмурачыся і ашчэрыўшы доўгія зубы, пазіраў на яго.

Захутаная па галаве і плячах шарсцянаю хусткаю, так што толькі вочы яе былі відаць, цяжарная, бледная і худая жонка Васіля Андрэевіча, праводзячы яго, стаяла за ім у сенцах.

— Сапраўды, Мікіту б узяў,— казала яна, нясмела выступаючы з-за дзвярэй.

Васіль Андрэевіч нічога не адказаў і на яе словы, якія былі яму, відаць, непрыемныя, сярдзіта насупіўся і плюнуў.

— З грашыма паедзеш,— гаварыла далей тым жа жаласным голасам жонка. Ды і надвор'е не ўзнялося б, сапраўды, далібог.

— Што ж я, хіба дарогі не ведаю, што мне абавязкова праваднік патрэбен? — сказаў Васіль Андрэевіч з тым ненатуральным напружаннем губ, з якім ён звычайна размаўляў з прадаўцамі і пакупнікамі, з асаблівай выразнасцю вымаўляючы кожны склад.

— Ну, сапраўды, узяў бы. Богам цябе прашу! — паўтарыла жонка, перакручваючы хустку на другі бок.

— Што ты прыстала як смала... Ну куды я вазьму?

— Што ж, Васіль Андрэевіч, я гатовы,— весела сказаў Мікіта.— Толькі коням корму б без мяне далі,— дадаў ён, звяртаючыся да гаспадыні.

— Я пагляджу, Мікітка, Сямёну загадаю,— сказала гаспадыня.

— Дык што, ехаць, ці што, Васіль Андрэевіч? — сказаў Мікіта.

— Ды ўжо, мусіць, трэба ўважыць старую. Толькі калі ехаць, дык ідзі апрані дыпламат які цяплейшы,— сказаў Васіль Андрэевіч, зноў усміхаючыся і падморгваючы вокам на прадзёрты пад пахамі і на спіне і ў падоле махрамі разадраны, зацухомлены і злямчаны Мікітаў паўкажушок, які нямала пабачыў за свае гады.

— Эй, душа добрая, падыдзі патрымай каня! — крыкнуў Мікіта у двор кухарчынаму мужу.

— Я сам, я сам! — запішчаў хлопчык, вымаючы змерзлыя чырвоныя ручкі з кішэняў і хапаючыся імі за халодныя раменныя лейцы.

— Толькі не дужа ахарошвай дыпламат свой, хуценька! — крыкнуў Васіль Андрэевіч, ашчэрваючыся на Мікіту.

— Адным махам, бацюхна Васіль Андрэевіч,— сказаў Мікіта і, мільгаючы наскамі ўсярэдзіну сваімі старымі, падшытымі лямцавымі падноскамі валёнкамі, пабег у двор і ў рабочую хату.

— Ану, Арыначка, халат давай мой з печкі — з гаспадаром ехаць! — крыкнуў Мікіта, убягаючы ў хату і здымаючы дзягу з цвіка.

Парабчанка, якая выспалася пасля абеду і цяпер ставіла самавар для мужа, весела сустрэла Мікіту і, захопленая ягонаю спешкаю, гэтак жа як ён, хуценька замітусілася і зняла з печы старэнькі, зношаны суконны кафтан і пачала таропка абтрасаць і размякчаць яго.

— Вось ужо вольна будзе табе гуляць з гаспадаром,— сказаў Мікіта кухарцы, які заўжды з дабрадушнае пачцівасці што-небудзь гаварыў чалавеку, калі аставаўся з ім з вока на вока.

Ён абвёў вакол сябе вузенькую скамечаную дзягу, уцягнуў і без таго худое чэрава і зацягнуўся колькі было сілы.

— Вось так,— сказаў ён пасля гэтага, звярта-

ючыся ўжо не да кухаркі, а да дзягі, засоўваючы яе канцы за пояс,— гэтак не выскачыш,— і, прыўзняўшы і апусціўшы плечы, каб было вальней рукам, ён апрануў зверху халат, таксама напружыў спіну, каб не замінала рукам, падбіў пад пахамі і дастаў з палічкі рукавіцы.— Ну вось і добра.

— Ты б, Сцяпанавіч, ногі пераабуў,— сказала кухарка,— а то боты дзіравыя.

Мікіта спыніўся, быццам успомніў.

— Трэба было б... Але добра будзе і так, недалёка!

І ён пабег на вуліцу.

— Не холадна табе будзе, Мікітка? — сказала гаспадыня, калі ён падышоў да саней.

— Чаго там холадна, вельмі нават цёпла,— адказваў Мікіта, папраўляючы салому на санях, каб укрыць ёю ногі, і засоўваючы непатрэбную для добрага каня пугу пад салому.

Васіль Андрэевіч ужо сядзеў у санях, запаўняючы сваёю апранутаю ў два футра спіною амаль увесь гнуты задок саней, і адразу, узяўшы лейцы, крануў каня. Мікіта на хаду прымасціўся наперадзе з левага боку і высунуў адну нагу.

## II

Добры жарэбчык з лёгкім рыпам палазоў зрушыў сані і бойкаю хадою пабег па наезджанай у пасёлку марознай дарозе.

— Ты куды прычапіўся? Дай сюды пугу, Мікіта! — крыкнуў Васіль Андрэевіч, мусіць, захапляючыся нашчадкам, які прымасціўся быў ззаду на палазах.— Я цябе! Бяжы да маці, сукін сын!

Хлопчык саскочыў. Гняды прыбавіў інахадзі і, заёкаўшы, перайшоў на рысь.

У Крыжах, дзе стаяў дом Васіля Андрэевіча, было шэсць хат. Як толькі яны выехалі за апошнюю кавалёву хату, яны адразу ж заўважылі, што вецер значна мацнейшы, чым яны думалі. Дарогі ўжо амаль не відаць было. След палазоў адразу ж замятала, і дарогу можна было вызначыць толькі па тым, што яна была вышэй за астатняе месца. Па ўсім полі круціла завіруха, і не відаць было тае рыскі, дзе сыходзіцца зямля з небам. Цяляцінскі лес, які заўсёды быў добра відаць, толькі зрэдку цьмяна чарнеў праз снежны пыл. Вецер дзьмуў з левага боку, упарта збіваючы ў адзін бок грыву на крутой, наедзенай шыі Гнядога, і зварочваў набак ягоны простым вузлом падвязаны пушысты хвост. Доўгі каўнер Мікіты, які сядзеў з боку ветру, прыціскаўся да ягонага твару і носа.

— Бегу яму сапраўднага няма, снежна,— сказаў Васіль Андрэевіч, ён ганарыўся сваім добрым канём.— Я аднойчы ў Пашуціна ездзіў на ім, дык ён за паўгадзіны даставіў.

— Чаго? — спытаў, не пачуўшы праз каўнер, Мікіта.

— У Пашуціна, кажу, за паўгадзіны даехаў,— крыкнуў Васіль Андрэевіч.

— Што і казаць, конь добры! — сказаў Мікіта.

Яны памаўчалі. Аднак Васілю Андэевічу хацелася гаварыць.

— Што ж, гаспадыні я, здаецца, наказваў бондара не паіць? — загаварыў тым жа гучным голасам Васіль Андрэевіч, гэтак упэўнены ў тым, што Мікіту, мусіць, прыемна пагаварыць з такім важным і разумным чалавекам, як ён, і гэткі здаволены сваім жартам, што яму і ў галаву не прыходзіла, што гаворка гэта можа быць непрыемная для Мікіты.

Мікіта зноў не дачуў гаспадара,— ягоныя словы адносіла ветрам.

Васіль Андрэевіч паўтарыў гучным выразным голасам свой жарт пра бондара.

— Бог з імі, Васіль Андрэевіч, я не думаю пра гэтыя справы. Мне каб малога яна не крыўдзіла, а то бог з ёю.

— Гэта так,— сказаў Васіль Андрэевіч.— Ну, а каня будзеш купляць к вясне? — пачаў ён новую тэму размовы.

— Ды не абмінуць,— адказваў Мікіта, адкінуўшы каўнер кафтана і нахіліўшыся да гаспадара.

Цяпер ужо гаворка была цікавая для Мікіты, і ён хацеў усё чуць.

— Малы падрос, трэба самому араць, а то ўсё наймалі,— сказаў ён.

— Што ж, бярыце бескастрэчнага, дарага не запрашу! — крыкнуў Васіль Андрэевіч, адчуваючы сябе ўзбуджаным, і ў выніку выкіраваў на любімы занятак, які паглынаў усе яго разумовыя сілы,— гандлярства.

— А то рублікаў пятнаццаць дасцё, дык я конным куплю,— сказаў Мікіта, які ведаў, што найбольшая цана бескастрэчнаму, якога хоча яму збыць Васіль Андрэевіч, рублёў сем, і што Васіль Андрэевіч, аддаўшы яму гэтага каня, будзе лічыць яго рублёў у дваццаць пяць, і тады за паўгода не ўбачыш ад яго грошай.

— Конь добры. Я табе жадаю, як самому сабе. Шчыра кажу. Брахуноў ніводнага чалавека не пакрыўдзіць. Няхай маё гіне, а не тое каб як іншыя. Слова гонару,— крыкнуў ён тым сваім голасам, якім ён загаворваў зубы сваім прадаўцам і пакупнікам.— Конь сапраўдны!

— Як ёсць,— сказаў Мікіта, уздыхнуўшы.

і калі пераканаўся, што слухаць больш няма чаго, адпусціў каўнер, які адразу ж закрыў яму вуха і твар.

З паўгадзіны яны ехалі моўчкі. Вецер прадзімаў Мікіту бок і руку, дзе халат быў прадзёрты. Ён пацiскаў плячмі і дыхаў у каўнер, які закрываў яму рот, і яму ўсяму было не холадна.

— Што, як лічыш, на Карамышава паедзем ці проста? — спытаў Васіль Андрэевіч.

На Карамышава язда была па больш бойкай дарозе, пазначанай добрымі тычкамі ў два рады, аднак — далей. Проста было бліжэй, аднак дарога была мала наезджана і тычак не было або былі кепскія, занесеныя.

Мікіта крыху падумаў.

— На Карамышава хоць і далей, ды больш надзейна,— адказаў ён.

— Калі проста, дык толькі лагчыну праехаць не збіцца, а там лесам добра,— сказаў Васіль Андрэевіч, якому хацелася ехаць проста.

— Воля ваша,— сказаў Мікіта і зноў адпусціў каўнер.

Васіль Андрэевіч гэтак і зрабіў, ад'ехаў з паўвярсты і ля высокае дубовае галіны з сухім лісцем, якое матлялася ад ветру, звярнуў улева.

Вецер ад павароткі стаў ім амаль сустрэчны. І зверху пайшоў сняжок. Васіль Андрэевіч кіраваў, надзімаў шчокі і пускаў дух сабе знізу ў вусы. Мікіта драмаў.

Моўчкі гэтак яны праехалі хвілін з дзесяць. Раптам Васіль Андрэевіч загаварыў нешта.

— Чаго? — спытаў Мікіта, расплюшчваючы вочы.

Васіль Андрэевіч не адказваў і выгінаўся, пагляда́ючы назад і ўперад перад канём. Конь, які

закучаравіўся ад поту ў пахвінах і на шыі, ішоў ступою.

— Чаго ты, кажу? — паўтарыў Мікіта.

— Чаго, чаго! — перадражніў яго Васіль Андрэевіч злосна.— Тычак не відаць! Мабыць, збіліся!

— Тады стой, я дарогу пагляджу,— сказаў Мікіта і, лёгка саскочыўшы з саней і выцягнуўшы пугу з-пад саломы, падаўся ўлева і з таго боку, з якога сядзеў.

Снег сёлета быў неглыбокі, таму ўсюды была дарога, але ўсё ж там-сям ён быў па калена і засыпаўся Мікіту ў бот. Мікіта хадзіў, мацаў нагамі і пугаю, аднак дарогі нідзе не было.

— Ну што? — сказаў Васіль Андрэевіч, калі Мікіта падышоў да саней.

— З гэтага боку няма дарогі. Трэба ў той бок пайсці пахадзіць.

— Вунь наперадзе штосьці чарнее, ты туды ідзі паглядзі,— сказаў Васіль Андрэевіч.

Мікіта пайшоў і туды, падышоў да таго, што чарнела,— гэта чарнела зямля, якая насыпалася з аголенае азіміны на снег і пафарбавала снег чорным. Мікіта пахадзіў і справа, вярнуўся да саней, абабіў з сябе снег, вытрас яго з бота і сеў у сані.

— Управа ехаць трэба,— сказаў ён рашуча.— Вецер мне ў левы бок быў, а цяпер проста ў морду. Пайшоў управа! — рашуча сказаў ён.

Васіль Андрэевіч паслухаў яго і ўзяў управа. Аднак дарогі ўсё не было. Яны праехалі гэтак колькі часу. Вецер не сунімаўся, пайшоў сняжок.

— А мы, Васіль Андрэевіч, мусіць, зусім збіліся,— раптам сказаў Мікіта нібы з радасцю.— Гэта што? — сказаў ён, паказваючы на чорны бульбянік, які тырчаў з-пад снегу.

Васіль Андрэевіч спыніў потнага каня, які цяжка вадзіў крутымі бакамі.

— А што? — спытаў ён.

— А тое, што мы на захараўскім полі. Вунь куды заехалі!

— Маніш? — адгукнуўся Васіль Андрэевіч.

— Не маню я, Васіль Андрэевіч, праўду кажу,— сказаў Мікіта,— і па санях чутно — па бульбянішчы едзем; а вунь і кучы,— бульбянік звозілі. Захараўскае завадское поле.

— Бачыш ты, куды збіліся! — сказаў Васіль Андрэевіч.— Што ж рабіць?

— А трэба проста браць, вось і ўсё, куды-небудзь ды выедзем,— сказаў Мікіта.— Не ў Захараўку, дык на панскі хутар выедзем.

Васіль Андрэевіч паслухаўся і пусціў каня, як сказаў Мікіта. Яны ехалі гэтак даволі доўга. Часам яны ўзбіваліся на аголеную азіміну, і сані грукалі па камлыгах мёрзлае зямлі. Часам выязджалі на ржэўнік, то на азіміну, то на ярыну, на якіх тырчалі з-пад снегу і матляліся пад ветрам саломіны і палын; часам заязджалі ў глыбокі і ўсюды аднолькава белы роўны снег, зверху якога ўжо нічога не было відаць.

Снег ішоў зверху і часам узнімаўся знізу. Конь, відаць, стаміўся, увесь закучаравіўся і заінеў ад поту і ішоў ступою. Раптам ён абарваўся і сеў у вымаіну ці ў канаву. Васіль Андрэевіч хацеў спыніць, але Мікіта закрычаў на яго:

— Чаго трымаць! Заехалі — выбірацца трэба. Но, любы! но! но, родны! — закрычаў ён вясёлым голасам на каня, выскачыў з саней і сам праваліўся ў канаву.

Конь рвануў і адразу выбраўся на мерзлы насып. Мусіць, гэта была капаная канава.

— Дзе ж гэта мы? — сказаў Васіль Андрэевіч.

— А вось даведаемся! — адказваў Мікіта.— Руш, куды-небудзь выедзем.

— А гэта ж, відаць, Гарачкаўскі лес? — сказаў Васіль Андрэевіч, паказваючы на нешта чорнае, якое паявілася з-за снегу наперадзе іх.

— Вось пад'едзем, тады і ўбачым, які такі лес,— сказаў Мікіта.

Мікіта бачыў, што з боку нечага чорнага ляцела сухое доўгае лісце лазіны, і таму ведаў, што гэта не лес, а жытло, але не хацеў гаварыць. І сапраўды, не праехалі яны яшчэ і дзесяці сажняў пасля канавы, як перад імі зачарнелі, мусіць, дрэвы, і пачуўся нейкі новы панылы гук: гэта быў не лес, а шэраг высокіх лазін з рэштаю лістоты на іх. Лазіны, відаць, былі пасаджаны па канаве гумна. Як толькі яны пад'ехалі да лазін, якія паныла гулі пад ветрам, конь раптам узняўся пярэднімі нагамі вышэй саней, выбраўся і заднімі на ўзвышша, звярнуў улева і перастаў тануць у снезе па калена. Гэта была дарога.

— Вось і прыехалі,— сказаў Мікіта,— а невядома куды.

Конь, не збіваючыся, пайшоў па занесенай дарозе, і не праехалі яны па ёй і сарака сажняў, як зачарнела роўная паласа плятня току пад тоўста засыпанай снегам страхой, з якой не перастаючы сыпаў снег. Абмінуўшы ток, дарога павярнула за ветрам, і яны ўбіліся ў сумёт. Але наперадзе відаць быў правулак між дзвюма хатамі, таму, напэўна, сумёт намяло на дарозе, і трэба было пераехаць цераз яго. І сапраўды, пераехалі яны сумёт і заехалі ў вуліцу. У канцавога падворка на вяроўчыне шалёна матлялася пад ветрам развешаная замёрзлая бялізна: кашулі, адна чырвоная, адна белая, порткі, анучы і спадніца. Белая кашуля

асабліва моцна білася, размахваючы сваімі рукавамі.

— Бачыш, лянотная баба, а можа, памірае, бялізны к святу не сабрала,— сказаў Мікіта, пазіраючы на кашулі.

## III

У пачатку вуліцы яшчэ было ветрана, і дарога была занесена, а ў глыбіні вёскі было ціха, цёпла і весела. У адным падворку брахаў сабака, у другі аднекуль прыбегла баба, накрыўшыся галавою паддзёўкаю; зайшла ў дзверы хаты, спынілася ў парозе, каб паглядзець на незнаёмых. З глыбіні вёскі даляталі песні дзевак.

У вёсцы, здавалася, і ветру, і снегу, і марозу было меней.

— Дык гэта ж Грышкава,— сказаў Васіль Андрэевіч.

— Яно і ёсць,— адказваў Мікіта.

I сапраўды, гэта было Грышкава. Выходзіла так, што яны збіліся ўлева і праехалі вёрст восем не зусім у тым напрамку, у якім ім трэба было, але ўсё ж трымаліся патрэбнага кірунку. Да Гарачкава ад Грышкава было вёрст пяць.

У глыбіні вёскі яны напаткалі высокага чалавека, які ішоў сярэдзінаю вуліцы.

— Хто едзе? — крыкнуў гэты чалавек, прыпыняючы каня, і, адразу ж пазнаўшы Васіля Андрэевіча, ухапіўся за аглоблю і, перабіраючы па ёй рукамі, дайшоў да саней і сеў на козлы.

Гэта быў знаёмы Васілю Андрэевічу мужык Ісай, вядомы ў акрузе як першы канакрад.

— А! Васіль Андрэевіч! Куды ж гэта вас бог нясе? — сказаў Ісай, абдаючы Мікіту пахам выпітае гарэлкі.

— Ды мы ў Гарачкава.

— Вунь куды заехалі! Вам трэба было б на Малахава.

— Мала што трэба, ды не патрапілі,— сказаў Васіль Андрэевіч, прытрымліваючы каня.

— А конік добры,— сказаў Ісай, пазіраючы на каня і зацягваючы яму прывычным рухам пад самую макаўку аслабелы вузел завязанага густога хваста.

— Што ж, начаваць, ці як?

— Не, браток, абавязкова ехаць трэба.

— Трэба, відаць. А гэты чый? А! Мікіта Сцяпанавіч!

— А то як жа? — адказваў Мікіта.— А вось як бы, душа добрая, нам тут не збіцца зноў.

— Як тут збіцца! Заварочвай назад, па вуліцы проста, а там, як выедзеш, усё проста. Улева не бяры. Выедзеш на бальшак, а тады — управа.

— Заваротка з бальшака дзе? Па-летняму ці па-зімняму? — спытаў Мікіта.

— Па-зімняму. Зараз, як выедзеш, кусцікі, насупраць кусцікаў яшчэ тычка вялікая дубовая, кучаравая стаіць,— тут і ёсць.

Васіль Андрэевіч завярнуў каня назад і паехаў слабадою.

— А то начавалі б! — закрычаў ім ззаду Ісай.

Але Васіль Андрэевіч не адказаў яму і злёгку паганяў каня: пяць вёрст роўнай дарогі, з якіх дзве ішлі лесам, здавалася, лёгка праехаць, тым больш што вецер як быццам аціх і снег пераставаў.

Зноў праехалі вуліцаю па наезджанай дарозе, на якой там-сям чарнеў свежы гной, абмінулі падворак з бялізнаю, дзе белая кашуля ўжо сарвалася і вісела на адным мёрзлым рукаве і зноў апынуліся ў адкрытым полі. Мяцеліца не толькі не сціхала, але, здавалася, яшчэ больш разгулялася.

Дарога ўся была замецена, і можна было ведаць, што не збіўся, толькі па тычках. Але і тычкі наперадзе цяжка было разгледзець, таму што вецер быў сустрэчны.

Васіль Андрэевіч жмурыўся, нагінаў галаву і прыглядаўся да тычак, але больш пускаў каня, спадзеючыся на яго. І конь сапраўды ішоў не збіваючыся, заварочваў то ўправа, то ўлева па звілінах дарогі, якую ён адчуваў пад нагамі; таму, нягледзячы на тое, што снег зверху ўзмацніўся і ўзмацніўся вецер, тычкі па-ранейшаму былі відаць то справа, то злева.

Гэтак ехалі яны хвілін дзесяць, і раптам адразу перад канём паказалася штосьці чорнае, якое рухалася ў касой сетцы снежнае віхуры. Гэта былі спадарожнікі. Гняды дагнаў іх і пачаў стукаць нагамі аб крэслы саней, якія ехалі наперадзе.

— Аб'язджай... а-а-й... перадам! — крычалі з саней.

Васіль Андрэевіч стаў аб'язджаць. У санях сядзелі тры мужыкі і баба. Відаць, гэта ехалі госці са свята. Адзін з мужыкоў хвастаў дубцом засыпаны снегам зад коніка. Два другія, махаючы рукамі, штось крычалі ў перадку. Ухутаная баба, уся засыпаная снегам, натапыраная, моўчкі сядзела ззаду.

— Чые будзеце? — закрычаў Васіль Андрэевіч.

— А-а-а... скія! — толькі чуваць было.

— Чые, кажу?

— А-а-аскія! — з усяе сілы закрычаў адзін з мужыкоў, але і на гэты раз нельга было ўчуць, чые яны.

— Гані! Не здавай! — крычаў другі, не пераставаючы малаціць дубцом па коніку.

— Са свята, мусіць?

— Пайшоў, пайшоў! Гані, Сёмка! Аб'язджай! Гані!

Сані стукнуліся адны аб адны адбоямі, ледзь не счапіліся, расчапіліся, і мужыцкія сані пачалі адставаць.

Калматы, увесь зацярушаны снегам, брухаты конік, цяжка дыхаючы пад нізкаю дугою, і, відаць, з апошніх сіл марна намагаючыся ўцячы ад дубца, чыкільгаў сваімі кароткімі нагамі па глыбокім снезе, падкідваючы іх пад сябе. Морда, відаць маладая, з падцягнутаю, як у рыбы, ніжняю губою, з шырокімі ноздрамі і прытуленымі ад страху вушамі, патрымалася колькі імгненняў ля Мікітавага пляча, потым стала адставаць.

— Вось што робіць гарэлка,— сказаў Мікіта.— Да рэшты замучылі коніка. Азіяты як ёсць!

Нейкі час яшчэ чуваць было сапенне замучанага коніка і п'яны крык мужыкоў, потым сціхла сапенне, потым змоўк і крык. І наўкола зноў нічога не стала чуваць, апрача пранізлівага ветру і зрэдку слабага рыпу палазоў па здзьмутых мясцінах дарогі.

Сустрэча гэтая развесяліла і падбадзёрыла Васіля Андрэевіча, і ён смялей, не разбіраючы тычак, пагнаў каня, спадзеючыся на яго.

Мікіту рабіць было нечага, і, як заўжды, калі ён знаходзіўся ў такой паставе, ён драмаў, наганяючы шмат недаспанага часу. Раптам конь спыніўся, і Мікіта ледзь не паваліўся, клюнуўшы носам.

— Аднак мы зноў нядобра едзем,— сказаў Васіль Андрэевіч.

— А што?

— Ды не відаць тычак. Мусіць, зноў збіліся з дарогі.

— Калі збіліся з дарогі, пашукаць трэба,—

коратка сказаў Мікіта, устаў і зноў, лёгка ступаючы сваімі ўсярэдзіну выкручанымі ступнямі, пайшоў хадзіць па снезе.

Ён доўга хадзіў, знікаў з вачэй, зноў паяўляўся і зноў знікаў, нарэшце, вярнуўся.

— Няма тут дарогі, можа, наперадзе дзе,— сказаў ён і сеў у сані.

На зямлю пачынаў ужо ападаць прыцемак. Мяцеліца не набірала сілы, аднак і не сціхала.

— Хоць бы пачуць тых мужыкоў,— сказаў Васіль Андрэевіч.

— Бачыш, не дагналі, відаць, далёка збіліся. А можа, і яны збіліся,— сказаў Мікіта.

— Куды ж цяпер ехаць? — сказаў Васіль Андрэевіч.

— А трэба пусціць каня,— сказаў Мікіта.— Ён прывядзе. Давай лейцы.

Васіль Андрэевіч аддаў лейцы тым больш ахвотна, што рукі ягоныя ў цёплых пальчатках пачыналі мерзнуць.

Мікіта ўзяў лейцы і толькі трымаў іх, стараўся не варушыць імі, спадзяваўся на розум свайго ўлюбёнца. Сапраўды, разумны конік, круцячы то ў адзін, то ў другі бок, то адно, то другое вуха, стаў збочваць.

— Толькі не гаварыць,— казаў Мікіта.— Бачыш, што робіць! Ідзі, ідзі! Гэтак, гэтак.

Вецер стаў дзьмуць ззаду, зрабілася цяплей.

— І разумны ж,— не пераставаў захапляцца конікам Мікіта.— Кіргізёнак — той дужы, а дурны. А гэты, глядзі, што вушамі выробляе. Ніякага тэлеграфа не трэба, за вярсту чуе.

І не прайшло яшчэ і паўгадзіны, як наперадзе сапраўды зачарнела нешта: ці то лес, ці то вёска, і з правага боку зноў паказаліся тычкі. Відаць, яны зноў узбіліся на дарогу.

— А гэта ж зноў Грышкава,— раптам выгукнуў Мікіта.

Сапраўды, цяпер злева ад іх быў той жа самы ток, з якога сыпаў снег, далей тая ж самая вяроўчына з замёрзлаю бялізнаю, кашулямі і порткамі, якія ўсё гэтак жа шалёна матляліся пад ветрам.

Зноў яны заехалі ў вуліцу, зноў стала ціха, цёпла, весела, зноў была відаць наперадзе дарога з кучамі гною, зноў пачуліся галасы, песні, зноў забрахаў сабака. Ужо гэтак сцямнела, што ў некаторых вокнах засвяціліся агеньчыкі.

Пасярод вуліцы Васіль Андрэевіч завярнуў каня да вялікага, у дзве цагліны, дома і спыніў яго ля ганка.

Мікіта падышоў да занесенага снегам, асветленага акна, у святле якога паблісквалі лёгкія сняжынкі, і пастукаў пугаўём.

— Хто там? — пачуўся голас.

— З Крыжоў, Брахуновы, добры чалавек,— адказаў Мікіта.— Выйдзі на хвілінку!

Ад акна адышлі, і праз хвіліны дзве — чуваць было — адліплі дзверы ў сенцах, потым бразнула зашчапка на знадворных дзвярах, і, прытрымліваючы дзверы ад ветру, высунуўся высокі стары з белаю барадою мужык у накінутым паўкажушку паўзверх белай святочнай кашулі і за ім хлапец у чырвонай кашулі і скураных ботах.

— Ці не ты гэта, Андрэевіч? — сказаў стары.

— Ды вось заблудзілі, браток,— сказаў Васіль Андрэевіч,— хацелі ў Гарачкава, а трапілі да вас. Ад'ехалі, зноў заблудзілі.

— Трэба ж гэтак збіцца,— сказаў стары.— Пятрушка, ідзі адчыні вароты! — загадаў ён хлапцу ў чырвонай кашулі.

— Гэта можна,— адказаў хлапец вясёлым голасам і пабег у сенцы.

— Ды мы, браток, не начаваць,— сказаў Васіль Андрэевіч.

— Куды ехаць — ноч на вуліцы, начуй!

— І рады быў бы начаваць, але ехаць трэба. Справы, браток, нельга.

— Ну, тады хоць пагрэйся, адразу да самавара,— сказаў стары.

— Пагрэцца — гэта можна,— сказаў Васіль Андрэевіч,— цямней не будзе, а месяц узыдзе — пасвятлее. Зойдзем, ці што, Мікіта, пагрэемся?

— Ну, што ж, і пагрэцца можна,— сказаў Мікіта, які моцна перамерзнуў і страшэнна хацеў хоць крышку адагрэцца ў цяпле.

Васіль Андрэевіч пайшоў са старым ў хату, а Мікіта заехаў праз адчыненыя Пятрушкам вароты на падворак і, згодна з ягоным указаннем, паставіў каня пад паветку хлева. Вакол хлева было шмат гною, і высокая дуга зачапіла за жэрдку, на якой ужо паселі куры з пеўнем,— яны незадаволена заквакталі і заварушыліся на жэрдцы. Патрывожаныя авечкі, тупаючы капытамі па мёрзлым гнаі, кінуліся ўбок. Сабака, шалёна павіскваючы, спалохана і злосна па-шчанячы залівaўся-брахаў на чужога.

Мікіта пагаварыў з усімі: папрасіў прабачэння ў курэй, супакоіў іх, каб болей не патрывожыць, папракнуў авечак за тое, што яны палохаюцца, самі не ведаючы чаго і, не перастаючы сараманіў сабачку, у той час як прывязваў каня.

— Ну, вось цяпер усё добра,— сказаў ён, абтрасаючы з сябе снег.— Чаго заліваешся! — зноў павярнуўся ён да сабакі.— Ды ўжо хопіць табе! Хопіць, дурань, хопіць. Толькі сябе непакоіш,— казаў ён.— Не злодзеі, свае...

— А гэта, як кажуць, тры хатнія дарадчыкі,— сказаў хлопец, закідваючы дужаю рукою пад паветку санкі.

— Як гэта дарадчыкі? — спытаў Мікіта.

— А так у Пульсоне надрукавана: злодзей падкрадаецца да хаты, сабака брэша,— не зявай, значыць, глядзі. Певень спявае — значыць, уставай. Кот мыецца — значыць, дарагі госць, рыхтуйся пачаставаць яго,— сказаў хлапец, усміхаючыся.

Пятруха быў пісьменны і ведаў амаль на памяць кнігу Паульсона, адзіную, якая была ў яго; ён любіў, асабліва калі быў крышку пад чаркаю, як і сёння, прыводзіць з яе выслоўі, якія на яго думку найбольш падыходзілі да таго ці іншага выпадку.

— Гэта так,— сказаў Мікіта.

— Змерз, пэўна, дзядзечка? — дадаў Пятруха.

— Так, ёсць-такі,— сказаў Мікіта, і яны пайшлі праз двор і сенцы ў хату.

## IV

Двор, куды паехаў Васіль Андрэевіч, быў адзін з самых заможных у вёсцы. Сям'я трымала пяць надзелаў і наймала яшчэ зямлю на старане. Коней у двары было шасцёра, тры каровы, два падцёлкі, штук дваццаць авечак. Усіх сямейных у двары было дваццаць дзве душы: чатыры сыны жанатыя, шасцёра ўнукаў, з якіх адзін Пятруха быў жанаты, два праўнукі, трое сірат і чатыры нявесткі з малымі. Гэта была адна з рэдкіх гаспадарак, якія заставаліся яшчэ непадзеленыя; але і ў ёй ужо вяліся глухія ўнутраныя, як заўсёды пачатыя між бабамі, нелады, якія немінуча па-

вінны былі неўзабаве прывесці да падзелу. Два сыны жылі ў Маскве, былі вадавозы, адзін быў у салдатах. Дома цяпер былі стары, старая, другі сын — гаспадар і старэйшы сын, які прыехаў з Масквы на свята, і ўсе бабы і дзеці; апрача хатніх, быў яшчэ госць-сусед і кум.

Над сталом у хаце вісела з верхнім шчытком лямпа, якая ярка асвятляла пад сабой чайны посуд, пляшку з гарэлкаю, закусь і цагляныя сцены, на покуце ўвешаныя абразамі і па абодва бакі ад іх малюнкамі. На першым месцы за сталом сядзеў у адным чорным кажушку Васіль Андрэевіч, абсмоктваючы свае замёрзлыя вусы і аглядаючы вакол народ і хату сваімі пукатымі ястрабінымі вачыма. Апрача Васіля Андрэевіча, за сталом сядзеў лысы сівабароды стары гаспадар у белай саматканай кашулі; побач з ім, у тонкай паркалёвай кашулі, шырознай спіной і плячмі,— сын, які прыехаў з Масквы на свята, і яшчэ другі сын, шыракаплечы — старэйшы брат, які гаспадарыў у доме, і хударлявы рыжы мужык — сусед.

Мужыкі паспелі выпіць і закусіць і цяпер збіраліся піць чай, самавар ужо шумеў, стоячы на падлозе ля печкі. На палатках і на печцы відаць былі дзеці. На палку сядзела баба з калыскаю. Старая гаспадыня са спярэшчаным ва ўсіх напрамках дробнымі маршчынкамі, якія моршчылі нават яе губы, тварам, частавала Васіля Андрэевіча.

У той час як Мікіта заходзіў у хату, яна ўжо наліла ў шклянку з тоўстага шкла гарэлкі і падносіла яе госцю.

— Не крыўдуй, Васіль Андрэевіч, нельга, павіншаваць трэба,— казала яна.— Выпі, галубок.

Выгляд і пах гарэлкі, асабліва цяпер, калі ён

змерзнуў і стаміўся, моцна збянтэжылі Мікіту. Ён спахмурнеў і, скінуўшы з шапкі і кафтана снег, стаў насупраць абразоў і, нібы нікога не бачачы, тры разы перахрысціўся і пакланіўся абразам, потым, павярнуўшыся да гаспадара-старога, пакланіўся спярша яму, потым усім, хто быў за сталом, потым бабам, якія стаялі ля печы, і, сказаўшы: «Са святам»,— стаў распранацца, не пазіраючы на стол.

— Ну і заінеў жа ты, дзядзька,— сказаў старэйшы брат, пазіраючы на запушаны снегам твар, вочы і бараду Мікіты.

Мікіта зняў кафтан, яшчэ раз абтрэс яго, павесіў ля печы і падышоў да стала. Яму таксама прапанавалі гарэлкі. Была хвіліна пакутлівае барацьбы: ён ледзь не ўзяў шклянку і не перакуліў у рот духмяную светлую вільгаць; але ён зірнуў на Васіля Андрэевіча, успомніў пра зарок, успомніў прапітыя боты, успомніў бондара, успомніў малога, якому ён абяцаў к вясне купіць каня, уздыхнуў і адмовіўся.

— Не п'ю, шчыра дзякую,— сказаў ён, нахмурыўся і прысеў на лаўцы ля другога акна.

— Што ж гэта ты? — спытаў старэйшы брат.

— Не п'ю ды і ўсё тут,— сказаў Мікіта, не ўзнімаючы вачэй, касавурачыся на свае рэдкія вусы і бараду і вызваляючы іх ад ледзяшоў.

— Яму не выпадае,— сказаў Васіль Андрэевіч, закусваючы абаранкам выпітую шкляначку.

— Ну, дык чайку,— сказала ласкавая бабка.— Мусіць жа, змерзнуў, небарак. Што вы, бабы, з самаварам кешкаецеся?

— Гатовы,— адказвала маладзіца і, абмахнуўшы фіранкаю гарачы самавар, праз сілу данесла яго, падняла і паставіла на стол.

Тым часам Васіль Андрэевіч расказваў, як

яны збіліся, як два разы вярталіся ў тую ж вёску, як блудзілі, як сустрэлі п'яных. Гаспадары дзівіліся, тлумачылі, дзе і чаму яны збіліся і хто былі п'яныя, якіх яны сустрэлі, і вучылі, як трэба ехаць.

— Тут да Малчанаўкі малое дзіця даедзе, толькі патрапіць на заваротку з бальшака,— куст тут відаць. А вы не даехалі! — казаў сусед.

— А то начавалі б. Бабы пасцелюць,— угаворвала бабка.

— Ранічкаю паехалі б, найлепш было б,— пацвярджаў стары.

— Нельга, браток, справы! — сказаў Васіль Андрэевіч.— Гадзіну ўпусціш, годам не нагоніш,— дадаў ён, прыгадваючы дзялянку і купцоў, якія маглі б перахапіць у яго гэтую пакупку.— Неяк жа даедзем? — звярнуўся ён да Мікіты.

Мікіта доўга не адказваў, усё як быццам заклапочаны мокраю барадою і вусамі.

— Не збіцца б зноў,— сказаў ён змрочна.

Мікіта быў змрочны таму, што яму страшэнна хацелася гарэлкі, і адно, што магло прыглушыць гэтае жаданне быў чай, а чаю яму не прапанавалі.

— Нам бы толькі да завароткі даехаць, а там ужо не саб'емся; лесам да самага месца,— сказаў Васіль Андрэевіч.

— Справа ваша, Васіль Андрэевіч; ехаць дык ехаць,— сказаў Мікіта і ўзяў шклянку чаю, які яму падалі.

— Пап'ем чайку, ды і ў дарогу.

Мікіта нічога не адказаў, толькі паківаў галавою, асцярожна выліў чай на сподачак і стаў грэць над параю свае рукі з заўсёды прыпухлымі ад працы пальцамі. Потым адкусіў маленькі кавалачак цукру, пакланіўся гаспадарам і сказаў:

— Будзьце здаровы,— і пацягнуў у сябе гарачую вадкасць.

— Каб хто правёў да завароткі,— сказаў Васіль Андрэевіч.

— Што ж, гэта можна,— сказаў старэйшы сын.— Пятруха запражэ ды і правядзе да завароткі.

— Дык запрагай, браток. А я ўжо аддзякую.

— Што ты, што ты, галубок! — сказала гасцінная бабка.— Мы рады душою.

— Пятруха, ідзі запражы кабылу,— сказаў старэйшы брат.

— Гэта можна,— сказаў Пятруха, усміхаючыся, сарваў з цвіка шапку і пабег запрагаць.

Пакуль запрагалі каня, размова перайшла на тое, на чым яна спынілася ў той час, калі Васіль Андрэевіч пад'ехаў да акна. Стары скардзіўся суседу-старасце на трэцяга сына, які не прыслаў яму нічога к святу, а жонцы прыслаў французскую хустку.

— Адбіваецца народ малады ад рук,— гаварыў стары.

— І як адбіваецца,— сказаў кум-сусед,— рады няма! Дужа разумныя парабіліся. Вунь Дзёмачкін — бацьку руку зламаў. Усё праз вялікі розум, відаць.

Мікіта прыслухоўваўся, углядаўся ў твары і, відаць, хацеў таксама прыняць удзел у размове, але ўвесь быў захоплены чаем і толькі ўхвальна ківаў галавой. Ён піў шклянку за шклянкаю, і яму рабілася ўсё цяплей і цяплей і прыемна, прыемна. Размова вялася доўга і ўсё пра адно і тое ж, пра шкоднасць падзелаў; і гаворка, мусіць, была не абстрактная, а справа тычылася падзелу ў гэтым доме,— падзелу, якога патрабаваў другі сын, які сядзеў тут жа і панура маўчаў. Відаць, гэта

было балючае месца, і пытанне гэтае займала ўсіх дамашніх, але яны, каб захаваць прыстойнасць, пры чужых не разбіралі сваёй прыватнай справы. Але, нарэшце, стары не вытрымаў і са слязьмі ў голасе загаварыў пра тое, што дзяліцца ён не дасць, пакуль жывы, што хата ў яго дзякуй богу, а падзяліць — усе пойдуць з торбамі.

— Вось як Матвеевы,— сказаў сусед.— Была хата як хата, а падзялілі — ні ў кога нічога няма.

— Гэтак і ты хочаш,— звярнуўся стары да сына.

Сын нічога не адказаў, і запанавала цяжкое маўчанне. Маўчанне гэта перапыніў Пятруха, які запрэг ужо каня і за колькі хвілін перад гэтым вясёлы вярнуўся ў хату.

— Дык вось у Пульсона ёсць байка,— сказаў ён,— даў бацька сынам венік зламаць. Адразу не зламалі, а па прутку — лёгка. Гэтак і яно,— сказаў ён, усміхаючыся на ўвесь рот.— Гатова! — дадаў ён.

— Калі гатова, то паедзем,— сказаў Васіль Андрэевіч.— А наконт дзяліцьбы ты, дзядуля, не здавайся. Ты нажываў, ты і гаспадар. Міравому падай. Ён растлумачыць парадак.

— Гэтак фардыбачыць, гэтак фардыбачыць,— плаксівым голасам цягнуў сваё стары,— няма з ім ніякага ладу. Зусім ашалеў!

Мікіта тым часам дапіў пятую шклянку чаю, але ўсё роўна не перавярнуў яе дагары, а паклаў бокам, спадзеючыся, што яму нальюць яшчэ шостую. Аднак вады ў самавары ўжо не было, і гаспадыня болей не наліла яму, ды і Васіль Андрэевіч стаў апранацца. Рабіць не было чаго. Мікіта таксама ўстаў, паклаў назад у цукарніцу свой абкусаны з усіх бакоў кавалачак цукру, выцер

крысом мокры ад поту твар і пайшоў апранаць халат.

Апрануўшыся, ён цяжка ўздыхнуў, падзякаваў гаспадарам і, развітаўшыся з імі, выйшаў з цёплае святліцы ў цёмныя, халодныя, замеценыя снегам і дзіравыя сенцы, якія гулі ад шалёнага ветру, а адтуль — у цемру падворка.

Пятруха ў кажусе стаяў са сваім канём пасярод двара і дэкламаваў, усміхаючыся, вершы з Паульсона. Ён гаварыў: «Буря с мглою небо скроить, вихри снежные крутять, аж как зверь она завоить, аж заплачеть как дитё».

Мікола ўхвальна ківаў галавою і разбіраў лейцы.

Стары, праводзячы Васіля Андрэевіча, вынес ліхтар у сенцы і хацеў пасвяціць яму, але ліхтар адразу ж задзьмула. Нават на падворку было відаць, што мяцеліца разгулялася яшчэ мацней.

«Ну і надвор'е,— падумаў Васіль Андрэевіч,— бадай, і не даедзеш, аднак нельга, справы! Ды і сабраўся ўжо, і конь гаспадарскі запрэжаны. Даедзем, бог дасць!»

Стары гаспадар таксама думаў, што не варта ехаць, але ён ужо ўгаворваў астацца, яго не паслухалі. Болей прасіць нечага. «Можа, я ад старасці гэтак баюся, а яны даедуць,— думаў ён.— Ды і спаць хоць ляжам у час. Без клопату».

Пятруха ж і не думаў пра небяспеку: ён добра ведаў дарогу і ўсё наваколле, апрача таго, вершык пра тое, як «вихри снежные крутять», падбадзёрваў яго тым, што дакладна выяўляў тое, што адбывалася на вуліцы. Мікіта ж рашуча не хацеў ехаць, але ён ужо даўно прывык не мець свае волі і слухацца іншых, таму ніхто іх не затрымаў.

## V

Васіль Андрэевіч падышоў да саней, з цяжкасцю разбіраючы ў цемрыве, дзе яны, залез у іх і ўзяў лейцы.

— Пайшоў паперадзе! — крыкнуў ён.

Пятруха ўскочыў на развалкі, стаў на калені і пусціў свайго каня. Гняды, учуўшы наперадзе кабылу, заржаў, кінуўся за ёю, і яны выехалі на вуліцу. Зноў паехалі слабадою і той жа дарогай, міма таго ж падворка з развешанаю бялізнаю, якой цяпер ужо не відаць было; міма таго ж тока, які ўжо быў занесены амаль да страхі, і з якога сыпаў бясконцы снег; міма тых жа лазін, якія змрочна шумелі, свісталі і зноў апынуліся сярод снежнага, бурнага і ўверсе і ўнізе мора. Вецер быў такі моцны, што калі ён дзьмуў убок і седакі парусілі супраць яго, дык ён нахіляў набак сані і збіваў каня з дарогі. Пятруха ехаў развалістай рыссю сваёй добрай кабылы паперадзе і бадзёра пакрыкваў. Гняды рваўся за ёю.

Калі яны праехалі гэтак хвілін з дзесяць, Пятруха павярнуўся і нешта крыкнуў. Ні Васіль Андрэевіч, ні Мікіта не пачулі праз вецер, але здагадаліся, што яны прыехалі да завароткі. Сапраўды, Пятруха звярнуў направа, і вецер, які дзьмуў убок, зноў пачаў біць у твар, і справа, штосьь зачарнела. Гэта быў кусцік ля завароткі.

— Ну, з богам!

— Дзякуй, Пятруха!

— Буря небо мглою кроить,— пракрычаў Пятруха і знік.

— Бачыш, які вершатворац,— сказаў Васіль Андрэевіч і крануў лейцы.

— Так, хлапец добры, мужык сапраўдны,— сказаў Мікіта.

Паехалі далей.

Мікіта гэтак ухутаўся і ўцягнуў галаву ў плечы, што невялікая барада закрывала ягоную шыю; ён сядзеў моўчкі, стараючыся не страціць набранага ў хаце за чаем цяпла. Перад сабою ён бачыў роўныя лініі аглабель, якія ўвесь час ашуквалі яго і здаваліся яму наезджанай дарогай, хісткі зад каня са скасабочаным, завязаным вузлом, хвастом і далей, наперадзе, высокую дугу, галаву і шыю каня з доўгаю грываю. Зрэдку яму трапляліся на вочы тычкі, і ён ведаў, што едуць яны пакуль па дарозе і рабіць яму нечага.

Васіль Андрэевіч кіраваў, даючы каню самому трымацца дарогі. Аднак Гняды, нягледзячы на тое, што адпачыў у вёсцы, бег неахвотна і як быццам збочваў з дарогі, таму Васіль Андрэевіч колькі разоў папраўляў яго.

«Вось справа адна тычка, вось другая, вось і трэцяя,— лічыў Васіль Андрэевіч,— а вунь наперадзе і лес»,— падумаў ён, углядаючыся ў нешта чорнае наперадзе. Аднак тое, што здалося яму лесам, быў толькі куст. Куст абмінулі, праехалі яшчэ сажняў з дваццаць,— чацвёртай тычкі не было, і лесу не было. «Зараз павінен быць лес»,— думаў Васіль Андрэевіч і, падагрэты вінам і чаем, не спяшаючыся торгаў лейцы, і паслухмяная, добрая жывёліна то інахаддзю, то трушком бегла туды, куды яе пасылалі, хаця і ведала, што яе пасылаюць зусім не туды, куды трэба. Прайшло хвілін з дзесяць, а лесу ўсё не было.

— Здаецца, мы зноў збіліся! — сказаў Васіль Андрэевіч, спыняючы каня.

Мікіта моўчкі злез з саней і, прытрымліваючы свой халат, які то прыліпаў да цела пад ветрам, то расхрыстваўся, пайшоў лазіць па снезе; пайшоў у адзін бок, пайшоў у другі. Разы тры ён зусім

знікаў з вачэй. Нарэшце ён вярнуўся і ўзяў лейцы з рук Васіля Андрэевіча.

— Управа ехаць трэба,— сказаў ён строга і рашуча, заварочваючы каня.

— Ну, управа дык управа пайшоў,— сказаў Васіль Андрэевіч, аддаючы лейцы і засоўваючы адубелыя рукі ў рукавы.

Мікіта не адказваў.

— Ну, дружа, папрацуй,— крыкнуў ён на каня; аднак конь, нягледзячы на патрэсванне лейцаў, па-ранейшаму ішоў ступою.

Снег быў там-сям па калена, і сані торгаліся рыўкамі з кожным рухам каня.

Мікіта ўзяў пугу, якая вісела ў перадку, і хвастануў. Добры, непрывычны да пугі конь рвануў рыссю, але адразу ж перайшоў на інахадзь і зноў пайшоў ступою. Гэтак ехалі хвілін пяць. Было так цёмна і так мяло зверху і знізу, што іншы раз нават дугі не было відаць. Сані, здавалася часам, стаялі на месцы, і поле бегла назад.

Раптам конь рэзка спыніўся, мусіць, чуючы штосьці нядобрае перад сабою. Мікіта зноў спрытна саскочыў, кідаючы лейцы, і пайшоў перад канём, каб паглядзець, чаго ён спыніўся; аднак толькі ён быў сабраўся зрабіць крок перад канём, як ногі ягоныя паслізнуліся і ён паляцеў з нейкае кручы.

— Тпру, тпру, тпру,— казаў ён сабе, падаючы. Ён прыкладаў усе сілы, каб як затрымацца, але марна, і затрымаўся, толькі ўрэзаўшыся нагамі ў намецены ўнізе яра тоўсты пласт снегу.

Сумёт над кручаю, патрывожаны Мікітавым падзеннем, насыпаў яму за каўнер поўна снегу...

— Вось ты як! — з дакорам вымавіў Мікіта, звяртаючыся да сумёта і яра і вытрэсваючы снег з-за каўняра.

— Мікіта, Мікіта!— крычаў Васіль Андрэевіч.

Але Мікіта не адгукаўся.

Яму не было калі: ён абтрасаўся, потым шукаў пугу, якую ўпусціў, калі каціўся з кручы. Нарэшце ён знайшоў пугу і стаў караскацца ўгору, але ўсе яго намаганні былі марныя; ён скочваўся назад і ў рэшце рэшт вымушаны быў нізам ісці шукаць выхада з яра. Сажні за тры ад таго месца, дзе ён паляцеў уніз, ён з цяжкасцю выпаўз на карачках угору і падаўся краем яра да таго месца, дзе павінен быў стаяць конь. Каня і саней ён не бачыў; але паколькі ён ішоў на вецер, ён, перш чым убачыць іх, пачуў крык Васіля Андрэевіча і ржанне Гнядога, якія клікалі яго.

— Іду, іду, чаго гагочаш! — азваўся Мікіта.

І толькі калі зусім блізка падышоў да саней, ён убачыў каня і Васіля Андрэевіча, які выглядаў чамусьці незвычайна вялікім.

— Дзе цябе чэрці носяць? Назад трэба ехаць. Хоць да Грышкава як дабрацца,— злосным тонам кінуў гаспадар Мікіту.

— Добра было б вярнуцца, Васіль Андрэевіч, але куды ехаць? Тут гэтакі яр, што калі паляціш туды — толькі цябе і бачылі. Я туды грымнуўся так, што праз сілу выбраўся.

— Не стаяць жа нам тут. Трэба куды-небудзь ехаць,— сказаў Васіль Андрэевіч.

Мікіта нічога не адказваў. Ён сеў на сані спіною да ветру, скінуў боты, вытрас з іх снег, потым узяў крышку саломы і старанна заткнуў ёю з сярэдзіны дзірку ў левым боце.

Васіль Андрэевіч маўчаў, ён цяпер ужо, як здавалася, ва ўсім спадзяваўся толькі на Мікіту. Пераабуўшыся, Мікіта надзеў рукавіцы, узяў лейцы і завярнуў каня ўздоўж яра. Аднак не праехалі яны і ста крокаў, як конь зноў заўпарціўся. Перад ім зноў быў яр.

Мікіта зноў вылез і зноў пайшоў хадзіць па снезе. Даволі доўга ён хадзіў. Нарэшце паявіўся з процілеглага боку.

— Андрэевіч, жывы? — крыкнуў ён.

— Тут! — падаў голас Васіль Андрэевіч.— Ну, што?

— Нічога не відаць. Цёмна. Яры нейкія. Трэба зноў на вецер ехаць.

Зноў паехалі, зноў хадзіў Мікіта па снезе. Зноў садзіўся, зноў хадзіў і, нарэшце, задыхаўшыся, спыніўся ля саней.

— Ну, што? — спытаў Васіль Андрэевіч.

— Ды што, знясілеў я ўвесь! Ды і конь становіцца.

— Што ж рабіць?

— Ды вось, пачакай.

Мікіта зноў пайшоў і хутка вярнуўся.

— Трымайся мяне,— сказаў ён, заходзячы перад канём.

Васіль Андрэевіч ужо нічога не загадваў, а пакорна рабіў тое, што казаў яму Мікіта.

— Сюды, за мной! — закрычаў Мікіта, таропка адступаючы ўправа і хапаючы за ляйчыну Гнядога і выкіроўваючы яго кудысьці ўніз, у сумёт.

Конь спачатку заўпарціўся, але потым кінуўся наперад, спадзеючыся праскочыць сумёт, ды не адолеў і сеў у яго па хамут.

— Злазь! — закрычаў Мікіта на Васіля Андрэевіча, які ўсё яшчэ сядзеў на санях, і, падхапіўшы пад адну аглоблю, стаў пасоўваць сані на каня.— Цяжка, браток,— звярнуўся ён да Гнядога,— ды што зробіш, трэба паднатужыцца! Но, но, яшчэ крышку! — крыкнуў ён.

Конь рвануў раз, другі, але ўсё роўна не выбраўся і зноў сеў, нібы штось абдумваючы.

— Што ж, браток, так нядобра,— сарамаціў Мікіта Гнядога.— Ну, яшчэ!

Зноў Мікіта пацягнуў за аглоблю са свайго боку; Васіль Андрэевіч рабіў тое ж з другога. Конь крутнуў галавой і зноў рвануў.

— Но! можа, не патонеш! — крычаў Мікіта.

Скачок, другі, трэці, і, нарэшце, конь выбраўся з сумёта і спыніўся, цяжка дыхаючы і атрасаючыся. Мікіта хацеў быў весці далей, але Васіль Андрэевіч гэтак задыхаўся ў сваіх двух футрах, што не мог ісці і паваліўся на сані.

— Дай прадыхнуць,— сказаў ён, распускаючы хустку, якой яшчэ ў вёсцы завязаў каўнер.

— Тут ужо нічога, ты ляжы,— сказаў Мікіта,— я правяду,— і з Васілём Андрэевічам на санях правёў каня за аброць уніз крокаў з дзесяць, потым крыху ўгару і спыніўся.

Месца, на якім спыніўся Мікіта, было не ў лагчыне, дзе снег, змецены з пагоркаў, мог бы зусім засыпаць іх, але яно ўсё ж часткова было прыкрыта ад ветру краем яра. Былі хвіліны, калі вецер як быццам крышку аціхаў, аднак гэта працягвалася нядоўга, і нібы дзеля таго, каб нагнаць гэты адпачынак, бура налятала пасля гэтага з падзесяцяронаю сілаю, з яшчэ большаю лютасцю рвала і круціла. Такі парыў ветру ўдарыў у тую хвіліну, калі Васіль Андрэевіч, аддыхаўшыся, злез з саней і падышоў да Мікіты, каб параіцца, што рабіць. Абодва міжвольна прыгнуліся і пачакалі гаварыць, пакуль пройдзе лютасць парыву. Гняды таксама міжвольна прытуліў вушы і махаў галавою. Як толькі крыху суняўся парыў ветру, Мікіта зняў рукавіцы, заткнуў іх за папругу, падыхаў на рукі і стаў адвязваць з дугі павадок.

— Ты што гэта робіш? — спытаў Васіль Андрэевіч.

— Выпрагаю, што ж яшчэ? Сіл няма,— быццам просячы прабачэння, адказваў Мікіта.

— А хіба не выедзем куды?

— Не выедзем, толькі каня замучым. Ён жа, нябога, зусім знясілеў,— сказаў Мікіта, паказваючы на паслухмянага каня, які да ўсяго быў гатовы і цяжка дыхаў крутымі і мокрымі бакамі.— Начаваць трэба,— паўтарыў ён такім тонам, нібы збіраўся начаваць у заезным доме, і стаў развязваць супоню.

— А не замерзнем мы?

— Што ж? І замерзнеш — не адмовішся,— сказаў Мікіта.

## VI

Васілю Андрэевічу ў сваіх двух футрах было зусім цёпла, асабліва пасля таго, як пахадзіў па сумёце; але мароз прабег па яго скуры, калі ён зразумеў, што сапраўды давядзецца тут заначаваць. Каб супакоіцца, ён сеў у сані і стаў даставаць папяросы і запалкі.

Мікіта тым часам распрагаў каня. Ён развязаў падбрушнік, пасак, зняў гуж, вывернуў дугу і, не перастаючы размаўляць з канём, падбадзёрваў яго.

— Ну, выходзь, выходзь,— казаў ён, выводзячы яго з аглабель.— Ды вось прывяжам цябе тут. Саломкі падкіну ды раскілзаю,— казаў ён, робячы тое, што гаварыў.— Перакусіш, табе і весялей будзе.

Аднак Гнядога, відаць, не супакойвалі Мікітавы прамовы, ён трывожна пераступаў з нагі на нагу, хінуўся да саней, станавіўся задам на вецер і цёрся галавою аб Мікітаў рукаў.

Як быццам толькі дзеля таго, каб не адмовіць Мікіту ў ягоным пачастунку саломаю, якую Мікі-

та падсунуў яму пад храпу, Гняды схапіў пук саломы з саней, але адразу ж вырашыў, што цяпер не да саломы, кінуў яе, і вецер імгненна пашматаў салому, адкінуў убок і засыпаў снегам.

— Цяпер прыкмету зробім,— сказаў Мікіта, завярнуў сані перадам на вецер і, звязаўшы аглоблі паскам, ён падняў іх дагары і прыцягнуў да перадка.— Як толькі занясе нас, добрыя людзі па аглоблях убачаць, адкапаюць,— сказаў Мікіта, паляпваючы рукавіцамі і надзяваючы іх.— Гэтак дзяды вучылі.

Васіль Андрэевіч тым часам, распусціўшы футра і прыкрываючыся ягоным крыссем, цёр адну серную запалку за адной аб стальны карабок, але рукі ў яго дрыжалі, і запалкі адна за адною, то яшчэ не разгарэўшыся, то ў самую тую хвіліну, як ён падносіў яе да папяросы, задзімаліся ветрам. Нарэшце адна запалка ўся загарэлася і асвятліла на імгненне мех ягонага футра, ягоную руку з залатым пярсцёнкам на загнутым усярэдзіну ўказальным пальцы і зацярушаную снегам аўсяную салому, якая тырчала з-пад зрэб'я, і папяроска загарэлася. Разы са два ён прагна зацягнуўся, выпусціў праз вусы дым, хацеў быў яшчэ зацягнуцца, ды тытунь з агнём сарвала і панесла туды ж, куды і салому.

Але і гэтыя некалькі глыткоў тытунёвага дыму развесялілі Васіля Андрэевіча.

— Начаваць дык начаваць! — сказаў ён рашуча.

— Чакай жа ты, я яшчэ флаг зраблю,— сказаў ён, падымаючы хустку, якую кінуў быў у сані, і, зняўшы пальчаткі, стаў на сані і, выцягваючыся, каб дастаць да церассядзёлка, тугім вузлом прывязаў да яго хустку ля аглоблі.

Хустка адразу ж шалёна затрапятала, то прыліпаючы да аглоблі, то раптам надзімаючыся і ляскаючы.

— Бачыш, як спрытна,— сказаў Васіль Андрэевіч, захапляючыся сваёй працай і сядаючы ў сані.— Цяплей было б разам, але ўдвух не сядзем,— сказаў ён.

— Я месца знайду,— адказваў Мікіта,— толькі каня ўкрыць трэба, а то ўвесь мокры, нябога. Пусці,— дадаў ён і выцягнуў з-пад Васіля Андрэевіча зрэб'е.

Выцягнуў зрэб'е, склаў яго ўдвая, скінуў шляю, зняў падсядзёлак і ўкрыў Гнядога.

— Усё ж цяплей табе будзе, дурненькі,— казаў ён, надзяваючы зноў на каня паверх зрэб'я падсядзёлак і шляю.— А ці не спатрэбіцца вам дзяружка? Ды саломкі мне дайце,— сказаў Мікіта, як толькі скончыў з гэтай справай і зноў падышоў да саней.

Мікіта забраў з-пад Васіля Андрэевіча і тое і другое, зайшоў за спінку саней, выкапаў у снезе ямку, паклаў у яе саломы; потым насунуў шапку, ухутаўся кафтанам, зверху накрыўся дзяружкаю і сеў на салому, прыхіліўшыся да лубачнага задка саней, які прыкрываў яго ад ветру і снегу.

Васіль Андрэевіч няўхвальна паківаў галавою на тое, што рабіў Мікіта, але ён наогул не ўхваляў неадукаванасць і дурноту мужыцкую, і стаў уладкоўвацца на ноч.

Ён разраўнаваў рэшту саломы на санях, паклаў гусцей сабе пад бок і, засунуўшы рукі ў рукавы, прыладзіўся галавою ў кут саней, да перадка, які прыкрываў яго ад ветру.

Спаць яму не хацелася. Ён ляжаў і думаў: думаў усё аб адным, аб тым, што было галоўнай мэ-

тай, сэнсам, радасцю і гонарам ягонага жыцця,— аб тым, колькі ён нажыў і, можа, яшчэ нажыць грошай; колькі іншыя, яму вядомыя людзі, нажылі і маюць грошай, і як гэтыя іншыя нажывалі і нажываюць грошы, і як ён, гэтак жа як і яны, можа нажыць яшчэ многа грошай. Купля Гарачкаўскага лесу была для яго справаю вялізнай важнасці. Ён спадзяваўся на гэтым лесе пажывіцца адразу, магчыма, дзесяткамі тысяч. І ён стаў у думках ацэньваць бачаную ім увосень дзялянку, дзе ён на дзвюх дзесяцінах пералічыў усе дрэвы.

«Дуб на палазы пойдзе. Зрубы самі па сабе. Ды дроў сажняў трыццаць, і ўсё з аднае дзесяціны,— казаў ён сабе.— З дзесяціны ў горшым выпадку па дзвесце з чацвярным астанецца. Пяцьдзесят шэсць дзесяцін, пяцьдзесят шэсць соцень, ды пяцьдзесят шэсць соцень, ды пяцьдзесят шэсць дзесяткаў, ды яшчэ пяцьдзесят шэсць дзесяткаў, ды пяцьдзесят шэсць пяткоў». Ён бачыў, што выходзіць за дванаццаць тысяч, аднак без лічыльнікаў не мог уявіць, колькі будзе дакладна. «Дзесяці тысяч усё ж не дам, а тысяч восем, ды каб за вылікам палян. Каморніка падмажу — сотню, а то і паўтары; ён мне дзесяцін з пяць палян намерае. І за восем аддасць. Зараз тры тысячы ў зубы. Не можа быць, каб не адступіўся,— думаў ён, намацваючы перадплеччам рукі пулярэс у кішэні.— І як гэта не патрапілі на заваротку, бог яго ведае! Павінны ж тут быць лес і вартоўня. Сабак не чуваць. Не брэшуць, праклятыя, калі трэба». Ён адкінуў каўнер ад вуха і стаў прыслухоўвацца; чуваць быў усё той жа посвіст ветру, у аглоблях трапятанне і ляскат хусткі, шапаценне па лубку саней завірушнага снегу. Ён ухутаўся зноў.

«Каб ведаў, начаваць бы застаўся. Але нічога, даедзем і заўтра. Толькі дзень лішні. У гэткае

надвор'е і тыя не паедуць». І ён успомніў, што да дзевятага трэба атрымаць за маркачоў грошы ад мясніка. «Хацеў быў сам прыехаць; не застане мяне — жонка не зможа грошай узяць. Вельмі ж неадукаваная. Абыходжання сапраўднага не ведае»,— разважаў ён далей, прыгадваючы, як яна не ўмела абысціся са станавым, які быў учора на свяце ў яго ў гасцях. «Вядома — жанчына! Дзе яна што бачыла? За бацькамі які наш дом быў? Так сабе, вясковы мужык багаты: рушка ды заезны дом — і ўсё тое багацце. А я што за пятнаццаць гадоў зрабіў? Крама, два шынкі, млын, ссыпка, два маёнткі ў арэндзе, дом са свірнам пад жалезным дахам,— прыгадваў ён з гонарам.— Не тое, што за бацькам! Хто цяпер у акрузе грыміць? Брахуноў.

А чаму так? Таму што справу помню, стараюся, не так, як іншыя — лежні або глупствам займаюцца. А я начэй не сплю. Мяцеліца не мяцеліца — еду. Ну і справа робіцца. Яны думаюць, так, жартуючы грошыкі нажываюць. Не, ты папрацуй ды галаву паламай. Вось гэтак заначуй у полі ды ночы не спі. Нібы падушка ад думы ў галавах варочаецца,— разважаў ён з гонарам.— Думаюць, што ў людзі выходзяць праз шчаслівы выпадак. Вунь, Міронавы пры мільёнах зараз. А чаму? Працуй. Бог і дасць. Толькі б даў бог здароўя».

І думка пра тое, што і ён можа зрабіцца гэткім жа мільёншчыкам, як Міронаў, які пачаў з нічога, так усхвалявала Васіля Андрэевіча, што ён адчуў патрэбу пагаварыць з кім-небудзь. Але гаварыць не было з кім... Каб толькі даехаць да Гарачкава, там бы ён пагаварыў з памешчыкам, замазаў бы яму вочы.

«Глядзі ты, як дзьме! Занясе так, што і не ўстанеш раніцаю!» — падумаў ён, прыслухоўваю-

чыся да завывання ветру, які дзьмуў у перадок, нагінаючы яго, і сек ягоны лубок снегам. Ён прыўстаў і азірнуўся: у белым снежным мяльтошанні відаць была толькі цёмная галава Гнядога і ягоная спіна, пакрытая зрэб'ем, і густы завязаны хвост; вакол жа, з усіх бакоў, спераду, ззаду, усюды была адна і тая ж аднастайная белая хісткая цемра, якая часам нібыта крышку святлела, а часам яшчэ больш гусцела.

«І дарэмна паслухаў я Мікіту,— думаў ён.— Трэба было ехаць, выехалі б куды-небудзь. Хоць назад бы даехалі ў Грышкава, начавалі б у Тараса. А то вось сядзі ўсю ноч. Ды што, ты сказаў, добрага было? Так, што за турботы бог дае, а не гультаям, абібокам ці дурням. Ды і пакурыць трэба!» Ён сеў, дастаў папяросніцу, лёг жыватом уніз, прыкрываючы крысом ад ветру агеньчык, але вецер знаходзіў ход і тушыў запалкі адну за адной. Нарэшце ён ухітрыўся запаліць адну і закурыў. Тое, што ён дабіўся свайго, дужа ўзрадавала яго. Хоць папяроску выкурыў больш вецер, чым ён, ён усё ж зацягнуўся разы тры, і яму зноў стала весялей. Ён зноў прыхіліўся да задка, ухутаўся і зноў пачаў успамінаць, марыць і зусім нечакана раптам страціў прытомнасць і задрамаў.

Але раптам нібы штось штурхнула і разбудзіла яго. Ці то Гняды гэта пацягнуў з-пад яго салому, ці то гэта ўнутры штось ускалыхнула яго — толькі ён прачнуўся, і сэрца пачало стукаць гэтак шпарка і гэтак моцна, што яму здалося, што сані трасуцца пад ім. Ён расплюшчыў вочы. Вакол яго было ўсё тое ж, ды толькі здавалася крыху святлейшае. «Світае,— падумаў ён,— мусіць, і да раніцы блізка». Але адразу ж успомніў, што святлей зрабілася толькі таму, што ўзышоў месяц. Ён прыўстаў, зірнуў спачатку на каня. Гня-

ды па-ранейшаму стаяў задам на вецер і ўвесь калаціўся. Засыпанае снегам зрэб'е захінулася адным бокам, шляя з'ехала набак, і засыпаная снегам галава з ускамлычанай грывай былі цяпер лепш відаць. Васіль Андрэевіч схіліўся да задка і зазірнуў за яго. Мікіта сядзеў у той жа паставе, у якой ён сеў. Дзяружка, якой ён укрыўся, і ногі яго былі густа засыпаны снегам. «Не замёрз бы мужык; кепская вопратка на ім. Яшчэ адкажаш за яго. Да чаго ж народ бесталковы. Вось яна, цемната»,— падумаў Васіль Андрэевіч і хацеў было зняць з каня зрэб'е і ўкрыць Мікіту, але холадна было ўставаць і варочацца, ды і конь, баяўся, каб не застыў. «І навошта я яго ўзяў? Усё яе дурнота адна!» — падумаў Васіль Андрэевіч, прыгадваючы нялюбую жонку, і зноў пераваліўся на сваё ранейшае месца ля перадка саней. «Гэтак некалі дзядзька ўсю ноч праседзеў у снезе,— прыгадаў ён,— і нічога. Ну, а вось Севасцяна адкапалі,— адразу ўявіў ён другі выпадак,— дык той памёр, адубеў увесь, як туша марожаная.

Астаўся б у Грышкаве начаваць, нічога б не было». І старанна захінуўшыся, так каб цяпло футра нідзе не прападала марна, а ўсюды — і ў шыі, і ў каленях, і ў ступнях — грэла яго, ён заплюшчыў вочы і пастараўся зноў заснуць. Але колькі ён ні стараўся цяпер, ён не мог ужо забыцца, а, наадварот, адчуваў сябе вельмі бадзёра. Зноў ён пачаў падлічваць барышы, даўгі за людзьмі, зноў стаў выхваляцца сам перад сабою і радавацца за сябе і за сваё становішча,— але ўсё цяпер увесь час перабівалася прыхаваным страхам і прыкраю думкаю аб тым, чаго ён не астаўся начаваць у Грышкаве. «Сапраўды: ляжаў бы на лаве, цёпла». Ён колькі разоў варочаўся з боку на бок, усё стараўся знайсці больш

зручную і ціхую мясцінку, аднак усё яму здавалася няёмка; ён зноў прыпадымаўся, мяняў паставу, укрываў ногі, заплюшчваў вочы і сціхаў. Але ці то скурчаныя ногі ў моцных валеных ботах пачыналі ныць, ці то прадзімала дзе, ён праз колькі часу зноў з крыўдаю на сябе ўспамінаў пра тое, як бы ён цяпер мог спакойна ляжаць у цёплай хаце ў Грышкаве, і зноў уставаў, варочаўся, хутаўся, і зноў сціхаў.

Нейк Васілю Андрэевічу здалося, што ён чуе далёкі крык пеўняў. Ён узрадаваўся, адкінуў каўнер і стаў напружана слухаць, аднак колькі ён ні напружваў слых, нічога не чуваць было, апрача шуму ветру, які свістаў у аглоблях і матлашыў хустку, і шорхату снегу аб лубок саней.

Мікіта як сеў звечара, гэтак і сядзеў увесь час, не варушыўся і нават не адказваў Васілю Андрэевічу, які разы два гукаў яго. «Яму і гора ніякага, спіць, мабыць»,— з прыкрасцю падумаў Васіль Андрэевіч, пазіраючы цераз задок саней на густа засыпанага снегам Мікіту.

Васіль Андрэевіч уставаў і клаўся разоў дваццаць. Яму здавалася, што канца не будзе гэтай начы. «Цяпер ужо, відаць, блізка і раніца,— падумаў ён неяк, падняўшыся і азіраючыся на бакі.— Дай зірну на гадзіннік. Змерзнеш раскрывацца. Вось даведаюся, што хутка світанне, адразу весялей стане. Запрагаць пачнем».

Васіль Андрэевіч у глыбіні душы ведаў, што да світання яшчэ далёка, але ён усё больш і больш пачынаў хвалявацца і хацеў у адзін і той жа час і праверыць і ашукаць сябе. Ён асцярожна распусціў кручкі паўкажушка і, засунуўшы руку за пазуху, доўга корпаўся, пакуль дастаў да камізэлькі. Ледзь-ледзь выцягнуў ён свой сярэбраны

з эмалевымі кветкамі гадзіннік і стаў глядзець. Без агню нічога не відаць было. Ён зноў лёг ніцма на локці і на калені, гэтак жа, як калі закурваў, дастаў запалкі і стаў запальваць. Цяпер ён больш акуратна ўзяўся за справу і, намацаўшы пальцамі запалку з самай вялікай колькасцю фосфара, ён з першага разу запаліў яе. Падсунуўшы цыферблат пад святло, ён зірнуў і вачам сваім не верыў... Было ўсяго дзесяць хвілін на першую. Яшчэ ўся ноч была наперадзе.

«Ох, доўгая ноч!» — падумаў Васіль Андрэевіч і адчуў, як мароз прабег па ягонае спіне. Ён зашпіліў адзежу, зноў укрыўся і, прыхіліўшыся да саней, сабраўся цярпліва чакаць. Раптам праз аднастайны шум ветру ён выразна пачуў якісьці новы, жывы гук. Гук паступова ўзмацняўся, потым гэтак жа паступова пачаў сціхаць. Не было ніякага сумнення, што гэта быў воўк. І воўк гэты выў так недалёка, што нават чутно было, як ён, варочаючы сківіцамі, мяняў гукі свайго голасу. Васіль Андрэевіч адкінуў каўнер і ўважліва слухаў. Гняды таксама напружана слухаў, натапырыўшы вушы, і, калі воўк скончыў сваё калена, пераступіў з нагі на нагу і перасцерагальна пырхнуў. Пасля гэтага Васіль Андрэевіч ужо ніяк не мог не толькі заснуць, але і супакоіцца. Колькі ён ні стараўся думаць пра свае разлікі, справы і пра сваю славу, годнасць і багацце, страх усё больш і больш даймаў яго, і над усімі думкамі пераважала і да ўсіх думак прымешвалася думка аб тым, чаго ён не астаўся начаваць у Грышкаве.

«Бог з ім, з лесам, без яго спраў, дзякуй богу. Эх, начаваць бы! — казаў ён сабе.— Кажуць, п'яныя замярзаюць,— падумаў ён.— А я выпіў». І, прыслухоўваючыся да свайго адчування, ён улавіў, што пачынае калаціцца, сам не ведаючы, ча-

го ён калоціцца — ад холаду ці ад страху. Ён спрабаваў укрыцца і ляжаць як раней, але не мог гэтага зрабіць. Ён не мог аставацца на месцы, яму хацелася ўстаць, прадпрыняць што-небудзь, каб заглушыць страх, супраць якога ён адчуваў сябе бяссільным. Ён зноў дастаў папяросы і запалкі, але запалак аставалася толькі тры, і ўсе горшыя. Усе тры абцерліся і не запаліліся.

«Ах, каб цябе чэрці, праваліся ты!» — злаяў ён сам не ведаючы каго і шпурнуў змятую папяросу. Хацеў быў шпурнуць і запалачніцу, але спыніў рух рукі і сунуў яе ў кішэню. Яго апанаваў такі неспакой, што ён не мог аставацца на месцы. Ён злез з саней і, павярнуўшыся спіною на вецер, пачаў туга і нізка зноў перапяразвацца.

«Чаго ляжаць, смерці чакаць! Сесці верхам — ды і марш,— раптам прыйшло яму у галаву.— Верхам конь не стане. Яму,— падумаў ён пра Мікіту,— усё роўна паміраць. Якое ў яго жыццё! Яму і жыцця не шкада, а мне, дзякуй богу, ёсць чым пажыць...»

І ён, адвязаўшы каня, перакінуў яму павады на шыю і хацеў быў ускочыць на яго, але футра і боты былі такія цяжкія, што ён сарваўся. Тады ён залез на сані і хацеў з саней сесці. Але сані гайдануліся пад ягоным цяжарам, і ён зноў сарваўся. Нарэшце за трэцім разам ён падвёў каня да саней, асцярожна стаў на край іх і дабіўся-такі таго, што лёг жыватом упоперак конскае спіны. Паляжаў гэтак, потым пасунуўся наперад раз, два і, нарэшце, перакінуў нагу цераз спіну каня і сеў, упіраючыся ступнямі ног у шляю. Штуршок саней разбудзіў Мікіту, ён прыпадняўся, і Васілю Андрэевічу здалося, што ён нешта кажа.

— Слухай вас, дурняў! Выходзіць, прападай без дай прычыны? — крыкнуў Васіль Андрэевіч

і, засоўваючы пад калені крыссе футра, завярнуў каня і пагнаў яго прэч у тым напрамку, у якім ён меркаваў, што павінен быць лес і вартоўня.

## VII

Мікіта, з таго часу як сеў за задком саней, накрыўшыся дзяружкаю, сядзеў нерухома. Ён, як і ўсе людзі, якія жывуць сярод прыроды і ведаюць, што такое галеча, быў цярплівы і мог спакойна, без злосці, чакаць гадзіны, дні нават, не адчуваючы ніякае трывогі. Ён чуў, як гаспадар гукаў яго, але маўчаў, таму што не хацеў варушыцца і гаварыць. Хоць яму яшчэ было цёпла ад выпітага чаю і таму, што ён шмат рухаўся, лазячы па сумётах, ён ведаў, што цяпла гэтага хопіць ненадоўга. Ведаў Мікіта і тое, што сагравацца рухамі ён ужо не будзе мець сілы, бо адчуваў сябе гэткім жа мостомленым, як і конь, калі ён спыняецца і не можа, нягледзячы ні на якую пугу, ісці далей, і гаспадар бачыць, што трэба карміць, каб ён зноў мог працаваць. Адна нага яго ў дзіравым боце змерзла, і ён ужо не чуў на ёй вялікага пальца. І, апрача таго, цела ягонае рабілася ўсё халаднейшае і халаднейшае. Думка аб тым, што ён можа і хутчэй за ўсё памрэ гэтай ноччу, прыйшла яму ў галаву, аднак думка гэтая здалася яму ні асабліва непрыемная, ні асабліва страшная. Не асабліва непрыемная здалася таму, што ўсё ягонае жыццё не было сталым святам, а, наадварот, было бясконцай службай, ад якое ён пачынаў стамляцца. Не асабліва ж страшная была гэтая думка таму, што, апрача тых гаспадароў, як Васіль Андрэевіч, якім ён служыў тут, ён адчуваў сябе заўжды ў гэтым жыцці ў залежнасці ад галоўнага гаспадара, таго, які паслаў яго ў гэтае жыццё, і ведаў, што і

паміраючы ён астанецца ва ўладзе гэтага ж гаспадара і што гаспадар гэты не пакрыўдзіць. «Шкада кідаць абжытае, прывычнае? Але што рабіць, і да новага прывыкаць трэба».

«Грахі? — падумаў ён і прыгадаў сваё п'янства, прапітыя грошы, жончыны крыўды, лаянку, нехаджэнне ў царкву, незахаванне пастоў і ўсё тое, за што лаяў яго поп на споведзі.— Вядома, грахі. Але хіба я сам іх на сябе напусціў? Гэтакім, мусіць, мяне бог зрабіў. Куды ж дзенешся?»

Гэтак ён падумаў спачатку аб тым, што можа здарыцца з ім у гэтую ноч, і пасля ўжо не вяртаўся да тых думак і паглыбіўся ва ўспаміны, якія самі па сабе лезлі яму ў галаву. То ён успамінаў прыезд Марфы, і п'янства рабочых, і свае адмовы ад віна, то цяперашнюю паездку, і Тарасову хату, і размовы пра дзяліцьбу, то малога свайго, то Гнядога, які сагрэецца цяпер пад гунькаю, то гаспадара, які рыпіць цяпер санямі, варочаючыся ў іх. «Таксама я, няшчасны, не рад, што паехаў,— думаў ён.— Ад такога жыцця паміраць не хочацца. Не тое, што наш брат». І ўсе гэтыя ўспаміны сталі пераплятацца, блытацца ў ягонай галаве, і ён заснуў.

Калі ж Васіль Андрэевіч, сядаючы на каня, гайдануў сані, і задок, да якога прыхіліўся быў спіною Мікіта, моцна тарганула, і полазам яго стукнула ў спіну, ён прачнуўся і хочаш не хочаш вымушаны быў змяніць паставу. Праз сілу выпростваючы ногі і скідаючы з іх снег, ён падняўся, і ў тую ж хвіліну страшэнны холад працяў усё цела. Як толькі Мікіта зразумеў, што да чаго, ён крыкнуў Васілю Андрэевічу, каб той пакінуў яму непатрэбнае цяпер каню зрэб'е, каб укрыцца ім.

Але Васіль Андрэевіч не спыніўся і знік у снежным пыле.

Астаўшыся адзін, Мікіта на хвіліну задумаўся, што яму рабіць. Ісці шукаць жыллё ён адчуваў сябе не ў сілах. Сесці на старое месца ўжо нельга было — яно ўсё было засыпана снегам. І ў санях, ён адчуваў, што не сагрэецца, таму што яму не было чым накрыцца, ягоны ж кафтан і футра цяпер зусім не грэлі яго. Яму было так холадна, як быццам ён быў у адной кашулі. Яму стала страшна. «Бацюхны, айцец нябесны!» — сказаў ён, і ўсведамленне таго, што ён не адзін, і хтосьці чуе яго і не пакіне, супакоіла яго. Ён глыбока ўздыхнуў і, не здымаючы з галавы дзяружкі, залез у сані і лёг у іх на месца гаспадара.

Але і ў санях ён не мог сагрэцца. Спачатку ён калаціўся ўсім целам, потым калатнеча прайшла, і ён пакрысе стаў траціць прытомнасць. Паміраў ён ці засынаў — ён не ведаў, але адчуваў сябе аднолькава гатовым і да таго і да другога.

## VIII

Між тым Васіль Андрэевіч і нагамі і канцамі повада гнаў каня туды, дзе ён чамусьці меў на ўвазе лес і вартоўню. Снег сляпіў яму вочы, а вецер, здавалася, хацеў спыніць яго, але ён, сагнуўшыся ўперад і безупынна захінаючы футра і падгортваючы яго паміж сабой і халодным падсядзёлкам, які замінаў яму сядзець, не перастаючы гнаў каня. Конь хоць праз сілу, але паслухмяна ішоў інахаддзю туды, куды ён пасылаў яго.

Хвілін пяць ён ехаў, як яму здавалася, проста, нічога не бачачы, апрача конскае галавы і белае пустэльні, і нічога не чуючы, апрача свісту ветру ля вушэй каня і каўняра свайго футра.

Раптам перад ім зачарнела штосьці. Сэрца ра-

дасна забілася ў яго, і ён паехаў на гэтае чорнае і ўжо бачыў у ім сцены вясковых хат. Але гэтае чорнае было не нерухомае, а ўсё варушылася, і было не вёскаю, а высокім чарнобылем на мяжы, які тырчаў з-пад снегу і шалёна матляўся пад напорам завірушнага ветру і ўсё хіліўся на адзін бок. І чамусьці выгляд гэтага чарнобылю, якога мучыў неміласэрны вецер, прымусіў здрыгануцца Васіля Андрэевіча; ён стаў паганяць каня, не заўважаючы таго, што ля чарнобылю ён рэзка змяніў ранейшы напрамак і цяпер гнаў каня зусім ужо ў другі бок, па-ранейшаму ўяўляючы, што ён едзе ў той бок, дзе павінна была быць вартоўня. Але конь усё вярнуў управа, і таму ён увесь час скіроўваў яго ўлева.

Зноў наперадзе яго зачарнела нешта. Ён узрадаваўся, упэўнены, што цяпер гэта ўжо напэўна вёска. Аднак гэта была зноў мяжа, зарослая чарнобылем. Зноў гэтак жа шалёна матляўся сухі бур'ян, наганяючы чамусьці страх на Васіля Андрэевіча. Але мала таго, што гэта быў такі самы бур'ян,— ля яго ішоў конны след, які заносіла ветрам. Васіль Андрэевіч спыніўся, нагнуўся, прыгледзеўся: гэты быў злёгку занесены след і не мог быць нічый іншы, як яго ўласны. Ён, мусіць, кружыў, і на невялікай прасторы. «Загіну я так!» — падумаў ён, але, каб не паддавацца страху, ён яшчэ больш рашуча стаў паганяць каня, углядаючыся ў белы снежны морак, у якім яму мроіліся нейкія светлыя кропкі, якія адразу ж знікалі, як толькі ён прыглядаўся да іх. Яму нават здавалася, што ён чуе брэх сабак ці завыванне ваўкоў, але гукі гэтыя былі такія слабыя і няпэўныя, што ён не ведаў, ці чуе ён што, ці гэта толькі здаецца яму, і ён, прыпыніўшыся, стаў напружана прыслухоўвацца.

Раптам нейкі страшны, аглушальны крык пачуўся ля ягоных вушэй, і ўсё задрыжала і затрапятала пад ім. Васіль Андрэевіч ухапіўся за шыю каня, але і шыя каня ўся калацілася, і страшны крык стаў яшчэ больш жудасны. Нейкае імгненне Васіль Андрэевіч не мог ачомацца і зразумець, што здарылася. А здарылася толькі тое, што Гняды, ці то падбадзёрваючы сябе, ці то заклікаючы каго на дапамогу, заржаў сваім зычным, залівістым голасам. «Тфу, згінь ты! напалохаў як, пракляты!» — сказаў сабе Васіль Андрэевіч. Аднак і зразумеўшы сапраўдную прычыну страху, ён не мог ужо адагнаць яго.

«Трэба абдумацца, супакоіцца»,— казаў ён сабе і разам з тым не мог стрымацца і ўсё гнаў каня, не заўважаючы таго, што ён ужо ехаў цяпер па ветру, а не супраць яго. Ягонае цела, асабліва калі ехаў ступою, дзе яно было адкрыта і даранала падсядзёлка, мерзла і балела, рукі і ногі яго дрыжалі, дыханне было перарывістае. Ён бачыць, што гіне сярод гэтае жудаснае снежнае пустэльні, і не бачыць ніякага сродку ўратавання.

Раптам конь кудысьці грымнуў пад ім і, праваліўшыся ў сумёт, стаў біцца і падаць на бок. Васіль Андрэевіч саскочыў з яго, на хаду скінуў набак шляю, на якую абапіралася ягоная нага, і сарваў падсядзёлак, за які трымаўся, калі саскокваў. Як толькі Васіль Андрэевіч саскочыў з яго, конь справіўся, рвануў уперад, зрабіў скачок, другі, зноў заржаў і, пацягнуўшы за сабою зрэб'е і шляю, знік з вачэй, пакінуўшы Васіля Андрэевіча аднаго ў сумёце. Васіль Андрэевіч кінуўся за ім, але снег быў такі глыбокі і футры на ім такія цяжкія, што, вязнучы кожнай нагой вышэй калена, ён зрабіў не больш дваццаці крокаў, задыхаўся і спыніўся. «Дзялянка, маркачы, арэнда, кра-

ма, шынкі, бляхаю крыты дом і свіран, нашчадак,— падумаў ён,— як жа гэта ўсё астанецца? Што ж гэта? Не можа быць!» — мільганула ў ягонае галаве. І чамусьці ён прыгадаў разматлашаны ветрам чарнобыль, міма якога ён праязджаў двойчы, і яго апанаваў такі жах, што ён не верыў у сапраўднасць таго, што з ім было. Ён падумаў: «Ці не сніцца ўсё гэта?» — і хацеў прачнуцца, але прачынацца некуды было. Гэта быў сапраўдны снег, які хвастаў яму ў твар, засыпаў яго і студзіў яго правую руку, з якой ён згубіў пальчатку, і гэта была сапраўдная пустэльня, тая, дзе ён цяпер аставаўся адзін, нібы той чарнобыль, і чакаў хуткай, непазбежнай і недарэчнай смерці.

«Царыца нябесная, свяціцелю ойча Мікалае, устрымання настаўніку»,— прыгадаў ён учарашнія малебны і абраз з чорным аблічам у залатой рызе і свечкі, якія ён прадаваў для гэтага абраза і якія адразу ж прыносілі яму назад і якія ён крышку абгарэлыя хаваў у скрыню. І ён стаў прасіць гэтага самага Мікалая-цудатворца, каб ён выратаваў яго, абяцаў яму малебен і свечкі. Але тут жа ён добра, несумненна зразумеў, што гэтае абліčча, рыза, свечкі, святар, малебны — усё гэта было вельмі важна і патрэбна там, у царкве, але што тут яны нічога не маглі зрабіць яму, што між гэтымі свечкамі і малебнамі і яго бядотным цяперашнім становішчам няма і не можа быць ніякае сувязі. «Трэба не журыцца,— падумаў ён.— Трэба ісці па слядах каня, а то і тыя занясе,— прыйшло яму у галаву.— Ён выведзе, а можа, і злаўлю. Толькі не спяшацца, а то яшчэ горш будзе». Аднак, нягледзячы на намер ісці ціха, ён кінуўся ўперад і бег, увесь час падаў, падхопліваўся і зноў падаў. След каня ўжо быў ледзь прыкметны ў тых мясцінах, дзе снег быў неглыбо-

кі. «Загінуў я,— падумаў Васіль Андрэевіч,— згублю след, і каня не даганю». Але ў тую ж хвіліну, зірнуўшы наперад, ён угледзеў штосьці чорнае. Гэта быў Гняды і не толькі Гняды, але і сані і аглоблі з хусткаю. Гняды, са збітай набак шляёй і зрэб'ем, стаяў цяпер не на ранейшым месцы, а бліжэй да аглобляў і матаў галавой, якую перакручаны повад цягнуў уніз. Выявілася, што засеў Васіль Андрэевіч у той самай лагчыне, у якой яны заселі яшчэ з Мікітам, што конь вёз яго назад да саней і што саскочыў з яго не больш як за пяцьдзесят крокаў ад таго месца, дзе былі сані.

## IX

Даклыпаўшы да саней, Васіль Андрэевіч ухапіўся за іх і доўга стаяў так нерухома, стараўся супакоіцца і аддыхацца. На ранейшым месцы Мікіты не было, але на санях ляжала штосьці, занесенае ўжо снегам, і Васіль Андрэевіч здагадаўся, што гэта быў Мікіта. Васіля Андрэевіча цяпер ужо зусім пакінуў страх, і калі ён баяўся чаго, дык толькі таго жудаснага стану, які ён перажыў на кані, і асабліва тады, калі адзін астаўся ў сумёце. Трэба было чаго б гэта ні каштавала не падпусціць да сябе гэтага страху, а каб не падпусціць яго, трэба было рабіць што-небудзь, чым-небудзь заняцца. І таму першае, што ён зрабіў, было тое, што ён, павярнуўшыся спіною на вецер, распусціў футра. Потым, як толькі ён крышку аддыхаўся, ён вытрас снег з ботаў, з левай пальчаткі, правая была безнадзейна згублена і, мусіць, ужо дзе-небудзь на дзве чвэрці пад снегам; потым ён зноў туга і нізка, як ён падпяразваўся, калі выходзіў з крамы купляць з вазоў хлеб у мужыкоў, зацягнуўся папругаю і падрыхтаваўся што-небудзь ра-

біць. Першае, што ён вырашыў, гэта выпрастаць нагу каню. Васіль Андрэевіч і зрабіў гэта і, вызваліўшы повад, прывязаў Гнядога зноў да жалезнае дужкі ля перадка і стаў заходзіць ззаду каня, каб паравіць шляю, падсядзёлак і зрэб'е; але ў гэты час убачыў, што на санях нешта заварушылася і з-пад снегу, якім яна была засыпана, паднялася Мікітава галава. Відаць, з вялікім намаганнем Мікіта прыўзняўся і сеў і неяк дзіўна, быццам адганяючы мух, стаў махаць перад носам рукою. Ён махаў рукою і казаў нешта, як здалося Васілю Андрэевічу, зваў яго. Васіль Андрэевіч пакінуў зрэб'е, не паправіўшы яго, і падышоў да саней.

— Чаго ты? — спытаў ён.— Што кажаш?

— Памі-мі-міраю я, вось што,— праз сілу, перарывістым голасам вымавіў Мікіта.— Нажытае малому аддай ці бабе, усё роўна.

— А чаго, ці змерз? — спытаў Васіль Андрэевіч.

— Чую, смерць мая... даруй, богам прашу...— сказаў Мікіта плаксівым голасам і ўсё працягваў, нібы адганяў мух, махаць перад тварам рукамі.

Васіль Андрэевіч з паўхвіліны пастаяў моўчкі і нерухома, потым раптам з той жа рашучасцю, з якою ён удараў па руках пры выгаднай пакупцы, ён адступіў крок назад, закасаў рукавы футра і абедзвюма рукамі пачаў выграбаць снег з Мікіты і з саней. Як толькі выграб снег, Васіль Андрэевіч хуценька расперазаўся, расправіў футра і, штурхнуўшы Мікіту, лёг на яго, закрываючы яго не толькі сваім футрам, а і ўсім сваім цёплым, разгарачаным целам. Заправіўшы рукамі крыссе футра між лубком саней і Мікітам і каленьмі ног прыхапіўшы яго падол, Васіль Андрэевіч ляжаў гэтак ніцма, упершыся галавою ў лубок перадка,

і цяпер ужо не чуў ні руху каня, ні свісту завірухі, а толькі прыслухоўваўся да Мікітавага дыхання. Мікіта спачатку доўга ляжаў нерухома, потым шумна ўздыхнуў і паварушыўся.

— Вось бачыш, а ты кажаш — паміраю. Ляжы, грэйся, мы вось як...— пачаў быў Васіль Андрэевіч.

Але далей ён, на сваё вялікае здзіўленне, не мог гаварыць, таму што слёзы наплылі на вочы і затрымцела ніжняя сківаца. Ён перастаў гаварыць і толькі глытаў тое, што падступала яму да горла. «Напалохаўся я, мусіць, знясілеў зусім»,— падумаў ён пра сябе. Аднак ягоная кволасць гэтая не толькі не была яму непрыемная, але прыносіла яму нейкую асаблівую радасць, якой ён яшчэ ні разу не зведаў.

«Мы вось як»,— казаў ён сабе, адчуваючы нейкае асаблівае ўрачыстае замілаванне. Даволі доўга ён ляжаў гэтак моўчкі, выціраючы вочы аб мех футра і падбіраючы пад калені правае крысо футра, якое ўвесь час адкідвала ветрам.

Але яму дужа хацелася сказаць каму-небудзь пра свой радасны настрой.

— Мікіта! — сказаў ён.

— Добра, цёпла,— пачуўся голас знізу.

— Так, так, браток, ледзьве не загінуў я. І ты б замерз, і я...

Ды тут зноў затрымцелі ў яго скулы, і вочы зноў напіліся слязьмі, і ён не мог гаварыць.

«Ну, нічога,— падумаў ён.— Я сам пра сябе ведаю, штó ведаю».

І ён змоўк. Гэтак ён ляжаў доўга.

Яму было цёпла знізу ад Мікіты, цёпла і зверху ад футра; толькі рукі, якімі ён прытрымліваў крыссе футра на Мікітавых баках, і ногі, з якіх вецер увесь час адкідаў футра, пачыналі мерз-

нуць. Асабліва мерзла правая рука без пальчаткі. Але ён не думаў ні пра свае ногі, ні пра рукі, а думаў толькі пра тое, як бы адагрэць мужыка, які ляжаў пад ім.

Некалькі разоў ён кідаў вокам на каня і бачыў, што спіна ў яго раскрыта і зрэб'е са шляёю ляжыць на снезе, што трэба было б накрыць каня, але ён не мог ні на хвіліну пакінуць Мікіты і парушыць таго радаснага стану, у якім ён знаходзіўся. Страху ён цяпер не адчуваў ніякага.

«Тут ужо не выкруціцца»,— казаў ён сам сабе аб тым, што ён адагрэе мужыка, казаў з тым жа самахвальствам, з якім ён звычайна расказваў пра свае пакупкі і продажы.

Гэтак праляжаў Васіль Андрэевіч гадзіну, другую і трэцюю, але ён не заўважаў, як бег час. Спачатку ў яго ўяўленні насіліся ўражанні завірухі, аглобляў і каня пад дугою, успаміны пра Мікіту, які ляжаў пад ім; потым сталі прымешвацца ўспаміны пра свята, жонку, станавога, скрыню для свечак і зноў пра Мікіту, які ляжаў пад гэтай скрыняй; потым сталі мроіцца мужыкі, якія штосьці прадавалі і куплялі, белыя сцены, дамы, крытыя жалезам, пад якімі ляжаў Мікіта; потым усё гэта змяшалася, адно з адным, і, як колеры вясёлкі зліваліся ў адзін белы колер, гэтак розныя ўражанні зліліся ў адно нішто, і ён заснуў. Ён спаў доўга, без сноў, але перад світаннем ізноў паявіліся сны. Уявілася яму, што ён нібыта стаіць ля скрыні для свечак і Ціханава баба патрабуе ў яго пяцікапеечную свечку к святу, і ён хоча ўзяць свечку і даць ёй, але рукі не падымаюцца, астаюцца ў кішэнях. Хоча ён абысці скрыню, а ногі ні з месца, і галёшы, новыя, чыстыя, прыраслі да каменнае падлогі, і іх не адарваць і

не зняць. І раптам скрыня для свечак ператвараецца ў пасцель, і Васіль Андрэевіч бачыць сябе на гэтае скрыні, гэта значыць на сваёй пасцелі, у сваім доме. І ляжыць ён на пасцелі і не можа ўстаць, а ўстаць яму трэба, таму што зараз зойдзе па яго Іван Мацвеевіч, станавы, і з Іванам Мацвеевічам трэба ісці ці таргаваць дзялянку, ці папраўляць шляю на Гнядым. І пытаецца ён у жонкі: «Што, Мікалаеўна, не прыходзіў?» — «Не, кажа, не прыходзіў». І чуе ён, што пад'язджае нехта да ганка. Мусіць, ён. Не — міма. «Мікалаеўна, чуеш, Мікалаеўна, што ж гэта, усё няма?» — «Няма». І ён ляжыць на пасцелі і ўсё не можа ўстаць, і ўсё чакае, і чаканне гэта і страшнае і радаснае. І раптам вось яна, радасць: прыходзіць той, каго ён чакаў, і гэта ўжо не Іван Мацвеевіч, станавы, а нехта іншы, але той самы, каго ён чакае. Ён прыйшоў і заве яго, і гэты, хто заве яго, той самы, які гукнуў яго і загадаў яму легчы на Мікіту. І Васіль Андрэевіч рады, што гэты нехта прыйшоў па яго. «Іду!» — крычыць ён радасна, і крык гэты будзіць яго. І ён прачынаецца, але прачынаецца зусім ужо не тым, якім ён заснуў. Ён хоча ўстаць — і не можа, хоча паварушыць рукой — не можа, нагой — таксама не можа. Хоча павярнуць галаву — і гэтага не можа. І ён здзіўляецца; але ніколечкі не засмучаецца гэтым. Ён разумее, што гэта смерць, і ніколечкі не засмучаецца і гэтым. І ён прыгадвае, што Мікіта ляжыць пад ім і што ён сагрэўся і жывы, і яму здаецца, што ён — Мікіта, а Мікіта — ён, і што жыццё ягонае не ў ім самім, а ў Мікіце. Ён напружвае слых і чуе дыханне, нават ціхі Мікітаў храп. «Жывы Мікіта, значыць жывы і я»,— з радасцю кажа ён сабе.

І ён прыгадвае грошы, краму, дом, пакупкі, продажы і мільёны Міронавых; яму цяжка зразу-

мець, навошта гэты чалавек, якога звалі Васілём Брахуновым, займаўся ўсім тым, чым ён займаўся. «Ну што, ён жа не ведаў, што да чаго,— думае ён пра Васіля Брахунова.— Не ведаў, дык цяпер ведаю. Цяпер ужо без памылкі. *Цяпер ведаю*». І зноў чуе ён голас таго, хто ўжо гукаў яго. «Іду, іду!» — радасна, з замілаваннем кажа ўся ягоная істота. І ён адчувае, што ён вольны і нішто ўжо болей яго не трымае.

І больш ужо нічога не бачыў і не чуў і не адчуваў на гэтым свеце Васіль Андрэевіч.

Вакол усё гэтак жа мяло. Тыя ж снежныя віхуры круцілі, засыпалі футра мёртвага Васіля Андрэевіча, і ўсяго Гнядога, які калаціўся пад ветрам, і ледзь прыкметныя ўжо сані, і ў глыбіні іх Мікіту, які, добра ўгрэўшыся, ляжаў пад мёртвым ужо гаспадаром.

## X

На світанні прачнуўся Мікіта. Разбудзіў яго зноў холад, які пачаў праймаць ягоную спіну. Прыснілася яму, што ён едзе з млына на возе з гаспадарскаю мукою і, пераязджаючы цераз ручай, скіраваў міма моста і заграз з возам. І бачыць ён, што ён падлез пад воз і падымае яго, выпростваючы спіну. Але дзіўная справа! Воз ні з месца, прыліпнуў да ягонае спіны, і ён не можа ні падняць воза, ні скінуць яго з сябе. Усю паясніцу раздушыла. Ды і халодны ж! Мусіць, выбірацца трэба. «Хопіць ужо,— кажа ён некаму, хто душыць яго возам.— Здымай мяхі!» Але халодны воз усё мацней душыць яго. Раптам штосьці моцна стукае, і ён канчаткова прачынаецца і ўсё ўспамінае. Халодны воз — гэта мёртвы гаспадар, які ляжыць на ім. А стукнуў моцна Гняды, выцяўшы двойчы капытом сані.

— Андрэевіч, чуеш, Андрэевіч! — асцярожна, прадчуваючы ўжо няшчасце, падаў голас Мікіта і напружыў спіну.

Аднак Андрэевіч не адгукаецца, і жывот яго і ногі — моцныя і халодныя і цяжкія, як гіры.

«Сканаў, мусіць. Царства нябеснае!» — думае Мікіта.

Ён паварочвае галаву, адграбае перад сабою снег рукой і расплюшчвае вочы. Светла; гэтак жа свішча вецер у аглоблях, і гэтак жа сыпле снег, з той толькі розніцай, што ўжо не сячэ па лубку сані, а бязгучна засыпае сані і каня ўсё вышэй і вышэй, і ні руху, ні дыхання каня не чуваць болей. «Замерз, відаць, і ён»,— думае Мікіта пра Гнядога. І сапраўды, тыя ўдары капытоў па санях, якія разбудзілі Мікіту, былі перадсмяротныя намаганні ўтрымацца на нагах ужо зусім застылага Гнядога.

«Божачка, бацюхна, напэўна і мяне завеш,— кажа сабе Мікіта.— Твая святая воля. А жудасна. Ну, але дзвюм смярцям не быць, а адной не мінуць. Толькі б хутчэй...» І ён зноў хавае руку, заплюшчвае вочы і забываецца, амаль упэўнены, што цяпер ён ужо, мусіць, і зусім памірае.

Ужо ў абед на наступны дзень мужыкі адкапалі Васіля Андрэевіча і Мікіту за трыццаць сажняў ад дарогі і за паўвярсты ад вёскі.

Снегу намяло вышэй саней, але аглоблі і хустка на іх былі яшчэ відаць. Гняды па бруха ў снезе, са скінутай шляёй і зрэб'ем, стаяў увесь белы, прыцісну ўшы мёртвую галаву да закасцянелага кадыка; ноздры абмерзлі ледзяшамі, вочы заінелі і таксама абмерзлі нібыта слязьмі. Ён схуднеў за адну ноч гэтак, што асталіся на ім толькі косці ды скура. Васіль Андрэевіч застыў, як марожаная туша, і як былі ў яго расстаўлены ногі, гэтак, раз-

гіракаю, яго і адкінулі ад Мікіты. Ястрабіныя лупатыя вочы яго абмерзлі, і разяўлены рот ягоны пад кароткімі вусамі быў повен снегу. Мікіта ж быў яшчэ жывы, хаця і ўвесь абмарожаны. Калі Мікіту разбудзілі, ён быў упэўнены, што цяпер ён ужо памёр, і што тое, што з ім цяпер робіцца, адбываецца ўжо не на гэтым, а на тым свеце. Аднак калі ён пачуў галасы мужыкоў, якія адкапвалі яго і скідалі з яго адубелага Васіля Андрэевіча, ён спачатку здзівіўся, што на тым свеце гэтак жа крычаць мужыкі і гэткае ж цела, але калі зразумеў, што ён яшчэ тут, на гэтым свеце, ён хутчэй засмуціўся, чым узрадаваўся, асабліва калі адчуў, што ў яго пальцы на абедзвюх нагах адмарожаны.

Праляжаў Мікіта ў бальніцы два месяцы. Тры пальцы яму аднялі, астатнія загаіліся і ён мог працаваць, і яшчэ дваццаць гадоў жыў — спачатку парабкаваў, а потым, пад старасць працаваў вартаўніком. Памёр ён толькі сёлета дома, як і хацеў, пад абразамі і з запаленай васковай свечкай у руках. Перад смерцю ён прасіў сваю старую, каб яна даравала яму і дараваў ёй за бондара; развітаўся і з малым і з унукамі і памёр, шчыра радуючыся, што пазбаўляе сваёю смерцю сына і нявестку ад клопату лішняга хлеба і сам ужо пасапраўднаму пераходзіць з гэтага абрыдлага яму жыцця ў тое іншае жыццё, якое з кожным годам і днём рабілася ўсё больш зразумелае і прывабнае. Лепш ці горш яму там, дзе ён, пасля гэтае сапраўднае смерці, прачнуўся? ці расчараваўся ён, ці знайшоў там тое самае, чаго чакаў? — мы ўсе хутка даведаемся.